

На Мінскім тонкасуконным камбінаце за званне калектыву камуністычнай працы спаборнічае брыгада прадзільшчыц, якую ўзначальвае вопытны памочнік майстра Сяргей Лучкін. За поспехі ў рабоце брыгадзе Лучкіна трэці раз прысуджаны пераходны Чырвоны сцяг Беларускага Саўнаргаса і Мінскага ГК ЛКСМБ. На здымку: Сяргей Лучкін і прадзільшчыцы-камсамолкі Ларыса Міхалёва, Марыя Гаўронава і Віталія Белянкова.

Фота А. Дзітлава,

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

4 (74)

Красавік.

1959.

Год выдання VII.

У НУМАРЫ:



Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

«Молодость»
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы 70×108 1/16. Друк. арк. 10. Вуч.-выд. арк. 12. Тыраж 12 000 экз. Цана 4 руб.
АТ 02759. Здадзена ў набор 1. III. 59 г. Падпісана да друку 30. III. 59 г. Зак. 165.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Павел **ВОРАНАЎ**

# ПОМНІК ЛЕНІНУ Ў КАШЫНЕ



Трымцяць ля стрэх
Праменняў ніці,
І, як праменні, праўды...
Стаіць на сонечным граніце
На люднай плошчы праўадыр.

Над ім—бялюткія аблокі,
Прад ім—сям'я бяроз-сясцёр.
Ад плоту клён стары, высокі,
Як сябру,
Рукі распрасцёр.

Гамоніць Кашына садамі,
А ляжа морак на палі,
Успыхнуць вуліцы агнямі,
Ажно прыжмурыцца Ільіч.

Здаецца, ступіць ён
І пойдзе
У клуб калгасны да сяброў,
Каб зноў пагутарыць на сходзе,
Паслухаць кашынцаў ізноў.

Пагаманіць,
Што мае вёска
І не хапае ёй чаго...
...А з боку цягнецца бярозка,
Каб прыхінуцца да яго.



**У флігелі, які стаяў на двары гэтага дома, нарадзіўся У. І. Ленін. Зараз тут размяшчаецца абласная дзіцячая бібліятэка, якая носіць імя правадыра.**

У. МАЯРОВІЧ

# АГНІ НАД ВОЛГАЙ

Цягнік сцішаў ход. Злёгку ўздрыгвалі колы. Пасажыры прыпалі да шыбаў, і іх позірку адкрыўся цудоўны малюнак: электрычныя агні суцэльнымі залатымі ніткамі заткалі вячэрняе неба над горадам.

— Горад Ульянаўск, — аб'явіў праваднік, і пасажыры ланцужком накіраваліся да выхаду. Кожнаму хацелася хутчэй убачыць гэты славуты горад, яго вуліцы і плошчы, пазнаёміцца з дарагімі мясцінамі, дзе жыў, вучыўся і працаваў вялікі правадыр і настаўнік Уладзімір Ільіч Ленін.

Новага чалавека, які трапляе сюды, ульянаўцы страчаюць гасціннa. Кожны, у каго ні спытаеш, ахвотна пакажа вам домік, дзе нарадзіўся Уладзімір Ільіч, колішнюю гімназію, у якой ён вучыўся, укажа на маляўнічы Вянец, куды часта хадзіў Валодзя са сваімі аднагодкамі палюбавацца волжскімі прасторамі... З хваляваннем слухаеш задушэўныя, шчырыя і цікавыя расказы пра Леніна, пра далёкае мінулае Сімбірска, пра яркія ленінскія агні, якія загарэліся сёння над бяскрайнімі прасторамі Волгі.

Волга!.. Вякамі нясе гэтая руская рака свае магутныя воды ў марскія плёсы і, здаецца, ніколі не стамляецца. Бясконца чэрпае яна са сваіх глыбінь усё новыя і новыя сілы, цешачы чалавека сваім хараством і багаццем. Прывабны яе бярозавыя і дубовыя гаі, аксамітныя сенажаці, яркія электрычныя агні, якімі зіхацяць увесь працяг яе бязмежных прастораў.

Шмат пабачыла на сваім вяку матухна-Волга. На яе берагах доўгія гады гучалі журботныя песні бурлакоў. Гэтыя песні слухалі і Ганчароў, і Карамзін, і Языкаў. Кожнага з гэтых славутых сімбірцаў па-свойму звязваў лёс з магутнай ракой, якая прыносіла і радасць, і гора, наводзіла на глыбокі чалавечы роздум.

Інакшым быў у той час Сімбірск. На перавале паміж Волгай і Свіягай бярэ свой пачатак Казанскі гасцінец — паўночныя вароты горада. Цяпер



ён мае назву гасцінца Нарыманава — героя-змагара за свабоду працоўных. У даўнія часы па ім не раз уязджалі ў Сімбірск пад царкоўны звон розныя багацеі, князі, губернатары. Іх урачыста сустракалі дваране, багатыя купцы.

Па гэтай жа дарозе спяшаўся аднойчы ў калясцы смуглявы чалавек з бакенбардамі — Аляксандр Пушкін. Ён ехаў збіраць матэрыялы для сваёй «Гісторыі Пугачоўскага бунту». (Емельян Пугачоў у Сімбірску быў двойчы.) Вялікага паэта не сустракалі ў горадзе ні звонам, ні ўрачыстымі воклічамі...

Кожнае лета грукаталі па гасцінцу абозы — з Казані везлі скуры, дзёгаць. А начамі з перасыльнай турмы, што стаяла пры гасцінцы, чуліся стогны і праклёны. Панура звінелі кайданы катаржан...

Пра ўсё гэта нам усхвалявана расказвала ветлівая, глыбока адукаваная жанчына, супрацоўнік музея У. І. Леніна — Ганна Мікалаеўна Молева.

Разам з Ганнай Мікалаеўнай мы пераносімся ў думках на вуліцу Ульянава, дзе стаіць двухпавярховы домік з выразанымі ліштвамі на вокнах. На двары — старэнькі флігель, куды спачатку пасялілася сям'я Ульянавых, прыехаўшы з Ніжняга Ноўгарада ў Сімбірск, і дзе 22 красавіка 1870 года нарадзіўся Валодзя.

Флігель быў знесены яшчэ да рэвалюцыі, але домік, аб якім упамінаецца вышэй, захаваўся. Цяпер у ім размяшчаецца абласная дзіцячая бібліятэка імя У. І. Леніна. Увесь дзень дзверы гэтага невялікага доміка гасцінна расчынены для вясёлай, цікаўнай дзетвары. Школьнікі, юныя ленінцы з пачуццём вялікай пашаны пераступаюць парог бібліятэкі.

Усё тут напамінае аб жыцці Валодзі Ульянава. На сценах размешчаны кніжныя выстаўкі, плакаты, якія расказваюць аб жыццёвым шляху Уладзіміра Ільіча, а побач за столікам, на якім знаходзіцца картатэка кніг аб Леніне, на чырвоным аксаміце — скульптура трохгадовага Валодзі. У чытальнях ціха і ўтульна. За столікамі над кнігамі схілілася некалькі хлопчыкаў. У іх разгорнуты кніжкі «Юнацтва Леніна», «Маладыя гады У. І. Леніна», «Шэсць гадоў з Леніным» і іншыя.

Юныя ульянаўцы горача любяць Ільіча, ганарацца тым, што





**Помнік заснавальніку савецкай дзяржавы на плошчы імя Леніна ў Ульянаўску.**

з'яўляюцца землякамі вялікага правадыра, і хочуць ведаць аб яго слаўным жыццёвым шляху літаральна ўсё. Ім, як і кожнаму старажылу, добра знаёмы двухпавярховы вялікі будынак па Савецкай вуліцы, 12. На ім залатыя літары мемарыяльнай дошкі: «Тут вучыўся Уладзімір Ульянаў— Ленін 1879—1887 гг.»

Амаль 80 гадоў назад Уладзімір Ульянаў упершыню пераступіў парог Сімбірскай гімназіі. За сем гадоў вучобы ён не ведаў іншай адзнакі, апрача выдатнай.

Цяпер, як і ў тыя гады, калі вучыўся Уладзімір Ільіч, у памяшканні былой гімназіі заліваецца школьны званок. Тут знаходзіцца 1-я сярэдняя школа імя У. І. Леніна.

Шырокая чыгунная лесвіца вядзе на другі паверх. Калі школьнікі падымаюцца па ёй, на іх з вялікага партрэта глядзіць Ленін-гімназіст. Побач надпіс: «У 1887 годзе закончыў гімназію з залатым медалем Ульянаў Уладзімір».

А вось і актавая зала, у якой Валодзя разам са сваімі аднагодкамі пісаў сачыненні, клас, у якім ён вучыўся. У тры рады стаяць класныя парты. У трэцім радзе ад дзвярэй на апошняй парце сядзеў выпускнік гімназіі Уладзімір Ульянаў.

У класе захавалася ўсё так, як было ў час вучобы Леніна: класная дошка, кафедра. Ва ўсім тут адчуваецца вялікая любоў і павага да гэтага незабыўнага месца. На вялікім століку беражліва захоўваюцца падарункі, зробленыя рукамі школьнікаў і наведвальнікаў. Вось невялікае пано «Дом-музей Леніна», вышытае вучаніцай дзесятага класа Лідай Сергіенка, партрэт маладога Леніна — работа школьніка Валодзі Южнага. Прыгожа аформлены прывітальны адрас ад студэнтаў сельскагаспадарчага інстытута, былых выпускнікоў першай школы. А вось яшчэ адзін падарунак: кніга «Албанія на шляху да сацыялізма». Яе падарылі афіцэры Албанскай арміі. На адвароце вокладкі надпіс: «Няма большага шчасця, чым быць вучнем школы, дзе вучыўся вялікі Ленін, любімы правадыр працоўных».

Школа свята шануе памяць аб любімым правадыру. Штогод у дзень нараджэння Леніна лепшыя вучні ўрачыста прымаюцца ў камсамол.



**Дом-музей У. І. Леніна ў Ульянаўску часта наведваюць працоўныя, моладзь, юныя піянеры.**



Вучні, якія заканчваюць школу з залатым медалем, навечна заносяцца на Дошку гонару.

... Заглянем у домік, дзе жыў Валодзя і адкуль ён кожную раніцу разам са сваімі сябрамі хадзіў у гімназію. Домік рэканструяваны, але ў пакоях захавалася ўсё, што было пры жыцці Ільіча. Наведвальнік у нерашучасці спыняецца, прачытаўшы словы: «Пакой Уладзіміра Ільіча». У ім Уладзімір Ільіч пражыў з васьмі да семнаццаці гадоў. На століку ляжаць сшыткі, у зашклёнай рамцы — старонка класнага журнала з адзнакамі, пахвальныя лісты, якімі ўзнагароджваўся Валодзя пры пераходзе з класа ў клас, залаты медаль, які ён атрымаў пры заканчэнні Сімбірскай гімназіі ў 1887 годзе.



**На адным са сквераў Ульянаўска ўстаноўлен помнік Ілью Мікалаевічу Ульянаву—бацьку Леніна.**

У адным з пакояў — гадзіннік, куплены бацькам Валодзі Ільём Мікалаевічам Ульянавым за першую сваю зарплату, прыбор «тэлурый», сканструяваны ім жа для вызначэння пары года.

Часта, сабраўшыся за сталом, Аляксандр, Дзмітрый, Анна, Марыя і Валодзя падоўгу гутарылі са сваімі бацькамі, якія вучылі дзяцей прастаце, шчырасці, сумленнасці, расказвалі ім пра несправядлівасць царскага рэжыму. Здавалася, у гэтым доме чулі і звон ланцугоў закаваных катаржан, і песні, што спявалі бурлакі. Ці не таму Валодзя ўсё часцей і часцей прыносіў у гімназію разам з падручнікамі марксісцкую літаратуру, чытаў сваім сябрам забароненыя кніжкі. Усё бачанае і пачутае глыбока западала ў душу Валодзі Ульянава, абуджала мары і надзеі, якім, на вялікае шчасце гісторыі, суджана было збыцца.

Ішлі гады. Рускую зямлю ўскалыхнулі найвялікшыя гістарычныя падзеі. Рэвалюцыя пераарала волжскія прасторы. Пачалося вялікае пераўтварэнне жыцця пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі.

З таго часу і Волга, здаецца, папаўнела, памаладзела. Ды як ёй не маладзець, калі столькі агнёў загарэлася над яе хвалямі, столькі радасных, бадзёрых песень загучала на яе берагах!

Так, многа перамен адбылося на Волзе — добрых, вялікіх перамен! Там, дзе былі лугі і вядомыя рыбакам ды паляўнічым азёры з характэрнымі назвамі — Светлае, Акунёвае, Сцюдзёнае, цяпер разлілося мора. Як вокам акінуць, разлеглася панарама Куйбышаўскага мора. Крыху вышэй Ульянаўска шырыня яго дасягае звыш трыццаці пяці кіламетраў.

Яшчэ не так даўно над Ульянаўскам стаяў нязмоўчны гул землснарадаў, бульдозераў, магутных экскаватараў, цягачоў, трактараў. Воляй партыі, рукамі і розумам савецкіх людзей стваралася магутнае вадасховішча для Куйбышаўскага гідратэхнічнага вузла — буйнейшай гідраэлектрастанцыі свету. І вось яна, перамога! Праз палі і лясы, праз гарады і вёскі закрочылі сталёвыя мачты высакавольтнай лініі, па якой пайшоў волжскі ток да сэрца нашай Радзімы — Масквы.

Рубільнік першай турбіны Куйбышаўскай электрастанцыі быў уключаны ў студзені 1956 года. Цяпер воды новага Куйбышаўскага мора круцяць дванаццаць гідраагрэгатаў буйнейшай станцыі свету, магутнасцю ў 1 мільён 260 тысяч кілават. А як вядома, у першыя гады савецкай

улады энергетычным гігантам лічылася Волхаўская ГЭС. Сёння яе энергіі хапіла б толькі для таго, каб сілкаваць тэлевізары Масквы і прыгарадаў. А Куйбышаўская ГЭС пасылае электраэнергію не толькі ў Маскву, але і забяспечвае Ульянаўск з яго буйнымі прадпрыемствамі.

Ток атрымлівае і порт. Дарэчы, гэтае слова замяніла ранейшае, звыклае ва ўжытку гараджан — «прыстань». Ульянаўскі рачны порт і набярэжная, пасажырскія і грузавыя прычалы — навейшыя новабудоўлі горада. Калі мора і Волга ачышчаюцца ад лёду і адкрываецца навігацыя, порт шумна ажыўляецца. Ні днём, ні ноччу не змаўкае рознагалосы гул: грукочуць пад'ёмныя краны, праносяцца імклівыя кацеры, пераклікаюцца гудкамі параходы...

Праз порт ідуць незлічоныя грузы: баскунчацкая соль, камскі дуб, перавальваецца «з колаў на ваду» уральскі метал. Караваны баржаў дастаўляюць у порт пясок, гравій, шчэбень з Сенгалея, Шылаўкі, Камы для новабудоўляў Ульянаўска.

Як толькі наступае раніца, Ульянаўск абуджаецца гудкамі фабрык і заводаў. Заводзяць сваю бадзёрую песню станкі і машыны. Заглянем на аўтамабільны завод, які раскінуўся на ўскраіне горада. Ён узнік нядаўна, але яго прадукцыя ўжо добра вядома краіне. Заводскі калектыў няспынна ўдасканальвае вытворчасць, імкнецца выпускаць прадукцыю толькі высокай якасці. Інакш нельга. Ульянаўцы моцна трымаюць гонар свайго гістарычнага горада.

А вось другое дзецішча ульянаўцаў — завод малалітражных рухавікоў. Разнастайная і складаная яго прадукцыя. Старанныя і таленавітыя яго працаўнікі. У адным з цэхаў мы сустрэліся з групай юнакоў і дзяўчат. Усе яны — члены брыгады, якая змагаецца за званне калектыву камуністычнай працы. Аб гэтым сведчаць іх неўтаймаванасць, гарачае імкненне да новага, жаданне абагнаць час, датэрмінова выканаць заданне сямігодкі. Кіраўнік брыгады камсамолка Кацярына Багаткава сціпла паведамляе аб першых поспехах ударнай камуністычнай працы, расказвае аб вялікіх задумах сяброў.

Такіх прадпрыемстваў, такіх выдатных людзей нашага часу — наследнікаў вялікіх ленінскіх традыцый — у гэтым слаўным горадзе многа. Гэта іх рукамі вырабляюцца і ідуць ва ўсе куткі краіны аўтаматычныя лініі, рухавікі, аўтамабілі, металаапрацоўчыя станкі, дажджавальныя ўстаноўкі, запасныя часткі для сельскагаспадарчых машын, розная тканіна, абутак і г. д.



**У будынку гімназіі, дзе вучыўся У. І. Ленін, зараз знаходзіцца сярэдняя школа. Тут абсталяваны клас-музей. Кожнаму хочацца пасядзець за гістарычнай партай.**

Папрыгажэў, памаладзеў Ульянаўск! Яго шырокія плошчы і вуліцы, абапал якіх узвышаюцца шматпавярховыя камяніцы, — яшчэ адно сведчанне здзейсненых ленінскіх мараў. Пры шляху, па якім калісьці ішлі ў Сібір закаваныя катаржане, сёння раскінуўся светлы, чысты, добраўпарадкаваны горад. Абапал гасцініцы роўнымі радамі выстраіліся прыгожыя жылыя дамы, клубы, палац культуры, школы, дзіцячыя сады. Заканчваецца будаўніцтва тэлецэнтра. Хутка ў гэты канец горада пойдзе трамвай.



І так — усюды, на кожным кроку. Ці маглі марыць колішнія сімбірцы, што іх гарадок стане ў будучым адным з культурных і навуковых цэнтраў Сярэдняга Паволжжа! А сёння... Сёння кожную раніцу не тысячы, а дзесяткі тысяч юнакоў і дзяўчат запаўняюць светлыя аўдыторыі педагагічнага, сельскагаспадарчага інстытутаў, механічнага, радыётэхнічнага, будаўнічага, ветэрынарнага, аўтамеханічнага тэхнікумаў і многіх іншых навучальных устаноў.

...Далёка відны залатыя агні над Волгай — сімвал здзяйснення ленінскай мары аб шчасці на зямлі. Землякі любімага Ільіча, жыхары горада, які даў свету вялікага правадыра, натхнёна здзяйсняюць ленінскія запаветы.



**Ульянаўск за гады савецкай улады ператварыўся ў буйны прамысловы цэнтр краіны. І тут разгарнулася спаборніцтва за званне брыгад камуністычнай працы. У гэта спаборніцтва ўключылася і брыгада Кацярыны Багаткавай на заводзе малалітражных рухавікоў.**

Фота Г. Ляонцева.

**В. ДЗЯМІДАЎ,**
**сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі**

# КРОЧАЦЬ РАЗВЕДЧЫКІ БУДУЧЫНІ

Мінула ўжо больш двух месяцаў, як закончыў сваю работу XXI з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза — з'езд будаўнікоў камунізма. Усюды — на прадпрыемствах, будоўлях, у калгасах, саўгасах і РТС, у навуковых установах — абмяркоўваліся рашэнні з'езда. Ад усяго сэрца ўхвалілі іх усе савецкія людзі. Разам са сваімі старэйшымі таварышамі камуністамі камсамольцы і моладзь выпрацавалі канкрэтныя меры хутчэйшага здзяйснення кантрольных лічбаў сямігадовага плана.

IV Пленум ЦК ВЛКСМ, які адбыўся ў лютым, вызначыў задачы камсамольскіх арганізацый па выкананню рашэнняў XXI з'езда партыі. У новым сямігоддзі яшчэ больш узрасце роля Ленінскага камсамола ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве.

Вялікая і напружаная работа чакае і камсамол Беларусі. За гады сямігодкі яшчэ больш пераўтворыцца Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. Валавы аб'ём прамысловай прадукцыі павялічыцца ў 1,8 раза. Значна ўзрасце вытворчасць трактароў, аўтамабіляў, металарэжучых станкоў. У рэспубліцы будзе створана новая галіна — нафтаперапрацоўчая прамысловасць. Пятую частку ўсіх калійных угнаенняў, якія будзе здабываць краіна, паставіць Беларусь. У 1965 годзе ў параўнанні з 1958 годам вытворчасць збожжа ў рэспубліцы павялічыцца ў 2,3—2,6 раза, бульбы — прыкладна ў 2,1 раза, малака — у 1,9—2 разы, мяса — у 2 разы, ільновалакна — у 1,3 раза, цукровых буракоў—у 3,2—3,6 раза. Плошча пад садамі павінна павялічыцца за сямігоддзе ўдвая.

Намячаюцца новыя буйныя мерапрыемствы па павышэнню дабрабыту працоўных, развіццю народнай адукацыі, навукі і культуры. Ва ўсіх гэтых справах актыўны ўдзел прымуць камсамольцы, усе юнакі і дзяўчаты. Пяты пленум ЦК камсамола Беларусі, які адбыўся нядаўна, запэўніў Цэнтральны Камітэт партыі, што камсамольцы і моладзь рэспублікі не пашкадуюць сіл і ведаў для таго, каб унесці свой дастойны ўклад у агульнанародную барацьбу за камунізм.



Маладыя рабочыя, калгаснікі, інжынеры, тэхнікі, аграномы і заатэхнікі, навуковыя работнікі будуць змагацца за тое, каб выканаць сямігадовае заданне па росту прадукцыйнасці працы ўжо ў 1963 годзе.

Камсамол Беларусі ўзяў шэфства над многімі будоўлямі сямігодкі ў рэспубліцы. Моладзь рэспублікі па камсамольскіх пуцёўках паедзе на важнейшыя новабудоўлі краіны. Толькі сёлета ў раёны Казахстана і Заходняй Сібіры выедзе звыш шасці тысяч беларускіх патрыётаў.

У паход за эканомію і беражлівасць рушаць новыя тысячы юнакоў і дзяўчат. У гэтым годзе нам належыць сабраць для народнай гаспадаркі 60 тысяч тон металалому. Ужо зараз моладзь рэспублікі сэканоміла і зберагла металу, электраэнергіі, разнастайнай сыравіны і паліва амаль на 380 мільёнаў рублёў. К канцу 1960 года ў беларускай камсамольскай скарбонцы збярэцца каля мільярда рублёў.

Вялікая работа чакае камсамольцаў і моладзь вёскі. Трэба будзе ў бліжэйшыя гады давесці ўраджайнасць збожжавых да 15—16 цэнтнераў з гектара, значна павялічыць ураджайнасць бульбы і тэхнічных культур. Як і раней, галоўным напрамкам у дзейнасці сельскіх камсамольцаў будзе развіццё жывёлагадоўлі, стварэнне кармавой базы для яе. Камсамольскія арганізацыі Беларусі абавязаліся накіраваць у гэтым годзе на працу ў жывёлагадоўлю 15—16 тысяч юнакоў і дзяўчат; выгадаваць у асабістых гаспадарках і прадаць калгасам 1 мільён цялят; выгадаваць 5,5 мільёна галоў птушкі, каля 3 мільёнаў трусоў. Маладзёжныя звенні будуць змагацца за атрыманне з гектара 500 цэнтнераў зялёнай масы і пачаткаў кукурузы на плошчы 120 тысяч гектараў. Восем тысяч гектараў кукурузы будзе апрацоўвацца механізаваным спосабам, для чаго ствараюцца камсамольска-маладзёжныя агрэгаты.

Колькі трэба творчай энергіі, сіл, ведаў і кемлівасці, каб стрымаць сваё слова перад партыяй! І ўсё гэта ёсць у моладзі нашай рэспублікі.

За гады сямігодкі ў нашай краіне будзе створана матэрыяльна-тэхнічная база камуністычнага грамадства, і камунізм стане недалёкай будучыняй. Нашаму маладому пакаленню прадстаіць не толькі будаваць камунізм, але і жыць пры ім. Таму баявой задачай усіх камсамольскіх арганізацый ужо зараз з'яўляецца выхаванне маладога чалавека камуністычнага грамадства. Толькі той, хто не ўяўляе свайго жыцця без самаадданай творчай працы на карысць народа, дастойны жыць пры камунізме. Фарміраванне чалавека камуністычнага грамадства павінна стаць у цэнтры нашай практычнай дзейнасці.

Партыя заўсёды праяўляла клопаты аб камсамоле, перадавала падрастаючаму пакаленню свой вопыт, выхоўвала яго на традыцыях рэвалюцыйнай барацьбы. Асабліва вялікія перамены ў жыцці Ленінскага камсамола і ўсёй савецкай моладзі адбыліся ў апошнія гады, калі XX з'езд і наступныя пленумы ЦК КПСС вызначылі ў сваіх рашэннях шляхі далейшага магутнага ўздыму эканомікі нашай краіны, указалі канкрэтныя шляхі будаўніцтва камуністычнага грамадства. Ударныя камсамольскія будоўлі шахт і домнаў, асваенне цалінных зямель Казахстана, Алтая і Сібіры, паход камсамольцаў і моладзі на работу ў жывёлагадоўлю, за атрыманне высокіх ураджаяў кукурузы, спаборніцтва моладзі за эканомію і беражлівасць — усе гэтыя і іншыя слаўныя справы камсамола захапілі сваёй рамантыкай мільёны юнакоў і дзяўчат.

У дні ўсенароднага абмеркавання тэзісаў даклада М. С. Хрушчова на XXI з'ездзе КПСС у нашай краіне зарадзіўся новы патрыятычны рух передавых савецкіх людзей, якія вырашылі працаваць, жыць і вучыцца па-камуністычнаму. Першымі зачынальнікамі спаборніцтва за званне брыгад камуністычнай працы з'явіліся камсамольцы, наша слаўная моладзь.

Брыгады камуністычнай працы — гэта працяг усіх ранейшых слаўных спраў савецкага народа, Ленінскага камсамола. Разведчыкамі камунізма назваў народ пачынальнікаў слаўнага руху, тых, хто заваяваў для сваёй брыгады, участка, фермы права насіць высокае званне калектыву камуністычнай працы, і тых, хто ў гарачым спаборніцтве, у працы і творчасці дамагаецца гэтага.

У нашай рэспубліцы ініцыятарамі новага спаборніцтва з'явіліся комплексная камсамольска-маладзёжная брыгада будаўнікоў трэста № 4 (г. Мінск) і камсамольцы жывёлагадоўчай фермы калгаса імя Сталіна Уздзенскага раёна. Услед за імі ў новае спаборніцтва ўключыліся многія рабочыя трактарнага і аўтамабільнага заводаў, радыёзавода і завода аўтаматычных ліній у Мінску, «Гомсельмаша», будаўнікі Полацкага нафтаперапрацоўчага завода, шматлікія працаўнікі сельскай гаспадаркі.

Цяпер у рэспубліцы звыш двух з паловай тысяч брыгад, участкаў, змен, ферм і звенняў спаборнічаюць за права называцца калектывамі камуністычнай працы. Тысячы юнакоў і дзяўчат вядуць змаганне за права называцца ўдарнікамі камуністычнай працы.

Працаваць, жыць і вучыцца па-камуністычнаму; сёння працаваць лепш, чым учора, а заўтра — лепш, чым сёння; сёння ведаць больш, чым учора, а заўтра — больш, чым сёння. Нараджэнне гэтых прынцыпаў, само ўзнікненне брыгад камуністычнай працы — гэта рэалізацыя на практыцы ленінскага запавету: фарміраваць новага чалавека ў працы і барацьбе за перамогу камунізма.

Мінула пяць месяцаў, як запаліліся першыя агні спаборніцтва камсамольска-маладзёжных брыгад за званне калектываў камуністычнай працы. Ужо можна падвесці і некаторыя вынікі. А яны перш за ўсё гавораць аб жыццёвасці знамянальнага пачатку, аб дабратворным уплыве яго на моладзь.

На Мінскім радыёзаводзе працуе брыгада настройкі прыёмніка «Мінск-58». Узначальвае яе камуніст В. Гузман. У гэтым калектыве — 26 чалавек, сярод іх 3 камуністы і 22 камсамольцы. Вырашыўшы працаваць і жыць па-камуністычнаму, яны ўзялі абавязацельства: зменнае заданне выконваць за 7 гадзін, няспынна павышаючы прадукцыйнасць працы; выпускаць прадукцыю толькі выдатнай якасці; заваяваць права мець «асабістае кляймо» і абыходзіцца без кантралёраў АТК; кожнаму рабочаму стаць рацыяналізатарам; на працягу 5—6 год усім членам брыгады атрымаць сярэднюю тэхнічную адукацыю; паводзіць сябе ў быту і грамадскім жыцці па-камуністычнаму.

Узятыя абавязацельствы брыгада выконвае з гонарам. За студзень месяц выпушчана звыш плана 400 радыёпрыёмнікаў, з канвеера сыходзіць толькі выдатная прадукцыя, у выніку колькасць кантралёраў скарацілася на 4 чалавекі. Рацыяналізатарскія прапановы, унесеныя членамі брыгады камсамольцамі Пагарэльскім, Матро і Звёздкіным, далі эканоміі на 5 тысяч рублёў. За апошні час 8 чалавек авалодалі трыма сумежнымі прафесіямі, усе астатнія павышаюць свае тэхнічныя веды.

Камсамольцы трымаюць сваё слова і ў выкананні другой запаведзі — вучыцца па-камуністычнаму. Дзесяць чалавек займаецца ў ВНУ, дзесяць — у тэхнікумах, чатыры — на падрыхтоўчых курсах па паступленню ў ВНУ, адзін — заканчвае вячэрнюю школу. У час зімовай экзаменацыйнай сесіі маладыя рабочыя паспяхова здалі экзамены і залікі.

У брыгадзе добра арганізавана ўзаемадапамога і ўзаемападтрымка. Рэгулярна праводзяцца камсамольскія сходы, наладжваюцца дыспуты, лекцыі; камсамольцы актыўна ўдзельнічаюць у мастацкай самадзейнасці, займаюцца спортам.

Разам з Беларускай дзяржаўнай філармоніяй камітэт камсамола завода арганізаваў для членаў брыгад, якія змагаюцца за званне



калектываў камуністычнай працы, цыкл лекцый і канцэртаў на тэмы: «Як разумець музыку». Іх актыўна наведваюць і члены брыгады В. Гузмана.

Радыёзаводцы наладзілі цесную сувязь са студэнтамі энергетычнага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута. Студэнты дапамагаюць рабочым у іх вучобе, а рабочыя ў сваю чаргу навучаюць студэнтаў вытворчым спецыяльнасцям.

Ужо некалькі год на Беларускай чыгунцы славіцца сваімі працоўнымі справамі брыгада паравоза ЭР-17 75001 на станцыі Брэст-Цэнтральны. Уступіўшы ў новае спаборніцтва, калектыў паравоза ўзяў абавязацельства да дня адкрыцця XXI з'езда партыі правесці 63 цяжкавагавых паязды і перавезці звыш плана 40 тысяч тон народнагаспадарчых грузаў. Свае абавязацельствы брыгада значна перавыканала, заняўшы сярод камсамольска-маладзёжных брыгад чыгункі першае месца. Выхаванец камсамола старшы машыніст Фёдар Рыгоравіч Фадзееў быў выбраны дэлегатам XXI з'езда КПСС. Паравозная брыгада Фёдара Фадзеева з гонарам праносіць па стальных магістралях Беларусі заваяванае ёю ганаровае званне брыгады камуністычнай працы.

Брыгады камуністычнай працы — першыя зярняты нашай будучыні. Тут адбываецца перакоўка людзей, гартаванне актыўных, свядомых будаўнікоў камунізма. Задача камсамольскіх арганізацый — заўсёды трымаць у полі зроку іх дзейнасць, аператыўна кіраваць іх спаборніцтвам.

Правільна паступілі Брэсцкі абком, Віцебскі гарком і некаторыя іншыя камітэты камсамола, правёўшы злёты брыгадзіраў і членаў брыгад, якія спаборнічаюць за званне калектываў камуністычнай працы. Удзельнікі злётаў абмяняліся думкамі, параіліся між сабой, пазнаёміліся і пасябравалі. Добрая дружба зарадзілася на брэсцкім абласным злёце паміж маладымі жывёлаводамі двух калгасаў. Дэлегат злёту сакратар камсамольскай арганізацыі на жывёлагадоўчай ферме калгаса імя Сталіна Пінскага раёна Таіса Скрэбень расказала, што яна ў мінулым годзе надаіла па 4 734 кілаграмы малака ад кожнай каровы і абавязалася сёлета надаіць па 6 тысяч кілаграмаў. На ферме разам з ёю 18 камсамолак-даярак. Ад імя іх Таіса выклікала на спаборніцтва маладых жывёлаводаў калгаса імя Сталіна Іванаўскага раёна, дзе на ферме працуюць даяркамі камсамолкі. Іх важак дэлегат злёту Тамара Чэрнік прыняла выклік пінчан. Так пачалося гэтае спаборніцтва, якое, безумоўна, прынясе багаты плён.

Маладыя рабочыя і калгаснікі, уступіўшы ў сацыялістычнае спаборніцтва за званне калектываў і ўдарнікаў камуністычнай працы, на першым часе адчуваюць некаторыя цяжкасці. Важна ўжо зараз арганізаваць ім дапамогу, асабліва па пытаннях вучобы, арганізацыі быту, павышэння культурнага развіцця.

Заслугоўвае ўхвалы ініцыятыва Баранавіцкага гаркома ЛКСМБ, які арганізаваў падрыхтоўчыя курсы для паступлення на завочнае аддзяленне тэкстыльнага інстытута, а таксама пачын камсамольцаў Беларускага політэхнічнага інстытута па аказанню дапамогі ў вучобе і рацыяналізацыі вытворчым брыгадам на прадпрыемствах сталіцы рэспублікі. Шырокую падтрымку павінна атрымаць ініцыятыва маладых акцёраў Беларускага тэатра юнага гледача, якія ўзялі шэфства над рабочымі Мінскага паліграфічнага камбіната імя Я. Коласа.

Камітэты камсамола павінны дамагацца, каб члены брыгад, што ўступілі ў новае спаборніцтва, глыбока ўсвядомілі ўсю адказнасць, якая кладзецца на іх. Гэта яны павінны быць сапраўднымі прапагандыстамі новых адносін да працы, змагацца за выхаванне новага, савецкага чалавека.

У нас ёсць яшчэ цяжкасці ў арганізацыі працы і быту моладзі, і галоўнае тут — не спыніцца, не спасаваць перад імі. Мно-

гія чулі аб добрым працоўным калектыве брыгады тынкоўшчыц Галіны Сяргун на Нафтабудзе. Гэтай зімой на будоўлі склаліся некаторыя цяжкасці з работай па іх спецыяльнасці, давялося перавучваць асобных рабочых. Аднак і тут не абышлося без кур'ёзу. Маладым тынкоўшчыкам прадаставілі для «практыкі» невялікі пакой, дзе яны па ўказанню майстра спачатку тынкавалі сцены, а потым здымалі гэтую тынкоўку. Знізіліся заработкі. Замест таго, каб абурыцца самаўпраўствам майстра, члены брыгады павесілі насы, а некаторыя нават хацелі пакінуць будоўлю. А каб гэтым сур'ёзна заняліся ў камітэце камсамола, пагаварылі з кіраўніцтвам будоўлі, такі непажаданы настрой можна было папярэдзіць.

Член калектыву камуністычнай працы павінен быць арганізатарам культурнага быту і адпачынку моладзі, ініцыятарам гарачых спрэчак: якую лепш прачытаць кнігу, калі і які спектакль прагледзець разам са сваімі сябрамі, як лепш навесці парадак у сваім пакоі і іншае. Захоўваючы нормы сацыялістычнага агульнажыцця і камуністычнай маралі, ён павінен патрабаваць гэтага ад другіх, змагацца з абывацельскай абыякавасцю, якую часам выражаюць формулай: «Гэта мяне не датычыць».

Барацьбу за фарміраванне камуністычнай маралі партыя заўсёды звязвала з ростам палітычнай свядомасці мас. Таму камсамольскія арганізацыі павінны яшчэ больш займацца пытаннямі палітычнай асветы камсамольцаў і моладзі, больш арганізоўваць лекцый, дакладаў і гутарак для іх, дапамагаць моладзі авалодваць марксісцка-ленінскай тэорыяй, змагацца з рэлігійнымі перажыткамі і фактамі разбэшчанасці ў быту.

Кожны крок практычнай дзейнасці пярвічных арганізацый і камсамольскіх груп неабходна звязваць з пастаяннымі клопатамі аб вытворчым росце, навучанні і культурным развіцці маладога чалавека.

Велічныя перспектывы адкрывае сямігодка перад нашай моладдзю. У нас у рэспубліцы будуць узведзены Полацкі нафтаперапрацоўчы завод, Старобінскі калійны камбінат, Бярозаўская ДРЭС, дзесяткі іншых прамысловых прадпрыемстваў, рэзка ўзрасце вытворчасць прадуктаў жывёлагадоўлі, збожжа і тэхнічных культур. І ў дасягненні ўсяго гэтага актыўны ўдзел прыме моладзь.

У гераічнай барацьбе савецкага народа за здзяйсненне сямігадовага плана будзе шырыцца рух калектываў і ўдарнікаў камуністычнай працы. У шарэнгі брыгад камуністычнай працы, на сцягах якіх напісана: «Працаваць і жыць па-камуністычнаму!», з кожным днём становяцца ўсё новыя і новыя атрады моладзі. Яны — першыя, хто крочыць у наш заўтрашні дзень, у светлую будучыню камунізма.

## *Дарогамі сямігодкі*



**Уладзімір Бадзік забіваў першы колік на будоўлі. І зараз у яго — майстра палігону зборнага жалезабетону — шмат клопатаў. Трэба ў час паспець, каб даць чарговае ўказанне экскаватаршчыку камсамольцу Івану Гацілаву.**

Фота А. Дзітлава.

**Васіль ХОРСУН**

# РАСЦЕ БУДОЎЛЯ Ў ГАРАДЗЕІ

Ішоў камсамольскі сход. Сяргей Банько, сакратар камсамольскага камітэта, толькі падняў руку, каб штосьці сказаць, як побач з ім, ускочыўшы на сцэну, стаў камлюкаваты хлопец — Сяргей Макаль.

— Будуем, а як наша будоўля завецца — і не ведаем! — горача пачаў камсамолец. — Старобінцы і нафтабудаўцы ведаюць, што іх будоўлі камсамольскія. А наша? У нас жа таксама амаль усе камсамольцы, моладзь...

Пракаціўся гул адабрэння. Ён, Сяргей Банько, прызнацца, і сам думаў пра гэта, думаў яшчэ тады, калі толькі прыехаў сюды са Скідзельскага цукровага завода. Але ж не так усё лёгка было зрабіць, як здавалася. Спачатку трэба было згуртаваць моладзь. Цяпер, калі людзі здружыліся, сталі ў агульны строй, настаў час запаліць факел камсамольскай будоўлі.

— Камсамольская будоўля — гэта гучыць горда, таварышы! — сказаў Сяргей. — А ці зможам мы працаваць так, як належыць ударнікам?

Быццам пошум ветру, загаманіла моладзь. Многія хацелі гаварыць. А тыя, хто выступаў, запэўнялі, што званне гэтае будзе чыстым і святым. У пратаколе сходу так і запісалі: лічыць будаўніцтва 2-га цукровага завода камсамольскай будоўляй.

І над Гарадзеяй запаліўся факел камсамольскага энтузіязму. Сёння на кожным участку будоўлі, усюды, дзе працуюць юнакі і дзяўчаты, разгараецца полымя сацыялістычнага спаборніцтва. Сем камсамольска-маладзёжных брыгад горача змагаюцца за права называцца калектывамі камуністычнай працы.

Шырыцца, расце камсамольская будоўля!

* * *

Адсюль, амаль з трыццаціметровай вышыні, Сяргею Дранчуку відно ўсё — і двухпавярховыя дамы пасёлка, што выраслі зусім нядаўна, і сіняватыя зарніцы электразваркі на пляцоўцы, і вялізныя металічныя бакі, на якіх бегаюць жвавыя сонечныя зайчыкі. Уся будоўля на вачах — сюды-туды снуюць аўтамашыны з цэглай, растворам, узнімаюць і апускаюць вострыя насы краны-асілкі, і ўсюды людзі, людзі, такія руплівыя, заклапочаныя.

А калі выпадзе ясны дзянёк, такі, як сёння, і Сярожа кіне позірк у далячынь, туды, на пагорак, то каб не лес, дык убачыў бы і сваю родную Петухоўшчыну. Адтуль больш як год таму назад і праклаў ён сваю сцежку да вялікай будоўлі, да сталага майстэрства муляра. А колькі такіх вёсак навокал, і амаль з кожнай прышлі ў Гарадзею нястомныя хлопцы і дзяўчаты, прышлі з адным намерам — пабудаваць у першым годзе сямігодкі другі ў рэспубліцы гігант цукраварэння.

— Сцеражыся, брыгадзір. Заснуў, ці што? — крычыць кранаўшчык высунуўшыся з будкі. Магутны кран лёгка паставіў на памост побач з Сярожам кантэйнер з цэглай.

— Хто гэта заснуў? Сярожа табе засне?.. — замахаў кельмай Раман Гладкі. — Ты, браток, глядзі! Такімі жартачкамі не раскідвайся!..

Кранаўшчык засмяяўся, махнуў шапкаю і схаваўся ў сваёй будцы.

Абсівераныя вусны Сяргея кранула лёгкая ўсмешка — звычайныя хлапечыя жарты. Ніхто, вядома, яшчэ не сказаў і, напэўна, не скажа, што яго, Сяргеева брыгада муляраў дрэмле... Хто ж, як не яго хлопцы і дзяўчаты, паказалі такія тэмпы, такі спрыт і ўменне на будаўніцтве трох насосных станцый, канторы, склада для насення! А лабараторыя! Амаль за тыдзень пабудавалі яе. І цяпер тут, на будаўніцтве галоўнага корпуса, яны трымаюць першынство. Інакш нельга — яго камсамольска-маладзёжная брыгада змагаецца за права называцца брыгадай камуністычнай працы. Тут драмаць няма калі!

Сяргей яшчэ здалёк заўважыў, як наверх, лёгка ступаючы па лесвіцах, падымаецца падсобніца Надзя Русецкая. Яна нешта крычыць яму, але Сяргей нічога не можа разабраць.

— Падмога нам ідзе! — аддыхаўшыся, паведаміла Надзя. — Цэлая брыгада.

— Якая брыгада? Навошта?

— На прарыў, кажуць. Я чула, як сам начальнік гаварыў — маўляў, адным нам не справіцца.

Муляры загаманілі наперабой.

— Значыць, недавер... Чаму?

— Адным словам, адстаўка!

— Супакойцеся, хлопцы! — сказаў брыгадзір. — Схаджу ў кантору, даведаюся, — і куляй паляцеў па лесвіцах уніз.

Зміцер Ігнатавіч Віннікаў, начальнік будаўнічага ўпраўлення з выгляду суровы, строгі. Здаецца, ніколі ў жыцці ён не ўсміхаецца. Заўважыўшы Сяргея, Зміцер Ігнатавіч кіўнуў на крэсла.

— От, добра, што зайшоў. Тут такая справа — трэба тэрмінова канчаць галоўны корпус. Дадзім вам у падмогу яшчэ адну брыгаду. Дзён на чатыры. Не больш. Людзі нам усюды вунь як патрэбны!..

— Калі так, дык не давайце, абыйдземся, — параіў Сяргей. — Мы ж амаль усё зрабілі самі, дык хацелася б ужо і закончыць уласнымі рукамі.

— Паглядзіце, таварыш Дранчук, у акно, — кіўнуў Зміцер Ігнатавіч. — Вунь колькі абсталявання на двары. Праз тыдзень трэба мантаж пачынаць, а над галавой — неба...

— Калі трэба здаць корпус?

— Дзён праз шэсць.

— За пяць зробім самі, сваёй брыгадай, — упэўнена сказаў Сяргей, гледзячы ў вочы начальніку. — Сумняваецеся? Дарэмна. Выцягнем!

Зміцер Ігнатавіч бачыў, як у сініх, жывых Сяргеевых вачах загарэліся задорныя агеньчыкі. Ён ведаў гэтага хлопца, сціплага, сумленнага, працавітага, ведаў, што і яго брыгада можа зрабіць многае, але ж тут... Менш чым за тыдзень трэба ўкласці каля ста тысяч цаглін. Ці змогуць?

За сваіх сяброў Сяргей не баяўся, ведаў, што яны не падвядуць. Яго хвалявала другое: як наладзіць кантакт з рабочымі бетонарастворнага вузла і кранаўшчыкамі. Муляру што трэба? Падаць своечасова раствор



**Сяргей Банько — патрабавальны брыгадзір. Але не скупы і на пахвалу, асабліва калі гэта датычыць дзяўчат яго брыгады.**



— Эх, каб не лес, дык убачыў бы і сваю родную Петухоўшчыну...— гаворыць брыгадзір муляраў Сяргей Дранчук.

і цэглу, а астатняе ўжо ад яго залежыць. А то бывае іншы раз так: раствору няма — стой, кранаўшчык зазяваўся з апорнымі калонамі — зноў стой.

З кранаўшчыком Сяргей дамовіўся хутка. Той яшчэ з вечара зробіць запас цэглы. А наконт раствору цяжэй. Трэба забяспечыць і фронт тынкоўкі жылых дамоў, і іншыя пляцоўкі — школу, дзіцячыя яслі і яшчэ добры дзесятак аб'ектаў. Але брыгадзір бетонарастворнага вузла Сяргей Банько, паслухаўшы свайго цёзку, абнадзеіў:

— Добра, браток, пастараемся...

* * *

Бетонарастворны вузел — сэрца будоўлі. Затрымай хоць на хвіліну матэрыял, і заціхне будоўля. Рытмічна працуе вузел. Уся будоўля дыхае адным зладжаным рытмам.

Сяргей Банько, брыгадзір камсамольска-маладзёжнай брыгады вузла, хутка прабег вачыма заяўку. Так, дзень будзе гарачы. Сёння належала даць больш пяцідзесяці кубаметраў раствору і дзесяць — жалезабетону. Як ніколі! У два разы больш, чым звычайна, запрасілі раствору з галоўнага корпуса муляры Сяргея Дранчука. Яно і вядома: хлопцы ўзялі новы, ударны тэмп. Трэба дапамагчы ім.

Брыгадзір абдумвае, каго і куды сёння паставіць, як зрабіць, каб не трацілася дарэмна ні адна хвіліна, каб раствор і бетон ішлі патокам.

І вось у невялічкім пакойчыку сабраліся на кароткую лятучку бетоншчыкі. Амаль усе яны нядаўнія дзесяцікласнікі, энтузіясты камсамольскай будоўлі. Слухаюць брыгадзіра ўважліва, нібы байцы свайго камандзіра. Адчуваецца, што іх захапіла прапанова Сяргея.

— Давядзецца папрацаваць, дзяўчаткі, — заключыў брыгадзір. — Увесь тыдзень будзе гарачы, а можа і ўвесь час. Самі ж разумееце — ударная камсамольская!..

— Вядома, мы не супраць, — бліснула вясёлымі вачамі Ніна Кузьміч. — Але ты, брыгадзір, не ўлічыў, што на прасеве будзе няўпраўка. Трэба будзе чалавекі два падкінуць. Ты ж бачыў, які пясок? Глыбкі, іх спачатку разбіваць трэба, а потым сеяць.

— Як жа не ўлічыў? Ужо дамоўлена — туды пойдуць матарысткі Ніна Кійко і Рэня Жарко,—сказаў брыгадзір і, паглядзеўшы ў той бок, дзе сядзеў муж Рэні, дадаў: — Вось Іван вам паможа.

Іван — слесар вузла, спакойны, працавіты хлопец. Заўсёды, калі спраўна ідуць усе агрэгаты, ён падыходзіць да дзяўчат і назірае маўкліва, як ідзе работа, потым не стрымаецца, падыдзе да Рэні:

— Дай я кіну раз-другі...

А Рэня ў адказ:

— Я табе, Іван, дома жонка. Там мне і памагай. А тут мы ўсе аднолькавыя. Бяры вунь свабодную рыдлёўку і дзейнічай!

...Гудуць агрэгаты. Бяжыць і бяжыць угору стужка транспарцёра, дробненькі пясок сыплецца і сыплецца ў коўш. Вось ён ужо з ваганеткі, нагрэты, паступае ў грушу бетонамяшалкі. Цурчыць вада. Матарысткі Люба Курза і Ніна Брушко — на сваім пасту. Яшчэ хвіліна-другая, і з бетонамяшалкі ў бункер ляціць шэрае, ліпкае месіва — раствор.



— Хутчэй падганяй машыну! — крычыць шаферу Сяргей Банько. — Чаго там спіш?

Брыгадзір увесь час у напружанні, ён, здаецца, ніводнай хвілінкі не пабудзе на адным месцы. Толькі гаварыў з матарысткамі, а глядзіш — ужо ля дазіроўшчыц. Як там з бетонам? Сяргею карціць самому праверыць. Бетон — не раствор. Трэба ведаць, якую частку даць цэменту, вапны, каб не знізіць якасці. На тварах дазіроўшчыц — дробныя гарошынкі поту-расы, густа прыпудраныя пяском і цэментам. Нават спачатку цяжка адрозніць, хто з іх тут Алеся, а хто Маруся.

— Вапна канчаецца, брыгадзір,— сустрэлі Сяргея дзяўчаты.

— Зараз падкінем, дзяўчаткі, зараз, — сказаў брыгадзір.

Кіпіць, спорыцца работа. Сюды-туды снуюць грузавікі, парыпваючы тармазамі. Раствор ідзе!

Сяргей Банько ўрупіўся ў блакноцік, пастаяў крыху, а потым пляснуў рукамі па стале.

— Цудоўна!

— Што з табой? — здзіўлена ўскінуў вочы на сябра Іван Жарко.

— Як што? Ды паглядзі, дзівак! — трыццаць два кубаметры ўжо ёсць, а да канца змены яшчэ столькі ж дадзім.

— Ого, рванулі!

Падыходзяць і адыходзяць аўтамашыны. Шафёр Анатоль Несцяровіч сёння проста герой. Здаецца, толькі што ад'ехаў ад вузла, а глядзі — ужо зноў тут, зноў чуцён яго басавіты голас:

— Варушыся, дзяўчаткі, хутчэй!

Яму Сяргей Банько кінуў услед:

— Давай, Толік, на галоўны корпус падкінь! У Дранчука горача.

* * *

На вышыні галоўнага корпуса гуляе вясновы вецер — густы, парывісты. Унізе, здаецца, ціха, а тут глядзі, што і кельму можа з рук вырваць. Але рукі ў Дранчука ўчэпістыя, кельма ходзіць у іх спрытна. Яны не стынуць, не дубянеюць — хлопец гарачы.

Узмах кельмай — і раствор расплыўся па сцяне роўным тонкім слоем. Цагліна да цагліны, і расце сцяна. Сяргей кідае вокам на Рамана Гладкага, на Івана Багдзевіча, што стаяць поруч, захапляецца. Ну, і хлопцы — героі! Завіхаюцца, як ніколі. Толькі чуваць, як пераклікаюцца кельмы, як скрыгочуць цагліны ды свішча над галавой шумлівы вецер.

Брыгадзір назірае, як вядзе кладку Адам Аліноўскі, яшчэ вучань. Талковы хлопец, кемлівы. Толькі другі ме-



— Хутчэй, хутчэй... Будоўля не чакае,—гэтыя словы не сыходзяць з вуснаў шафёра Анатоля Несцяровіча, які падвозіць на будоўлю раствор і цэглу.



Адам Аліноўскі (злева) не меў прэфесіі. Але старэйшыя таварышы, і ў першую чаргу аднавясковец Мікалай Сцяпанаў, зрабілі з яго добрага муляра.

сяц, як узяў у рукі кельму, а глядзі, ужо нішто муляр! Хутка чацвёрты разрад атрымае. І ў Сяргея ўзнікае думка — паставіць хлопца на самастойную кладку.

— Адам! — кліча брыгадзір і махае рукой.

Адам тут як тут. Стаіць навыцяжку, быццам перад камандзірам. Поўныя шчокі расчырванеліся, у вачах — яшчэ дзіцячая цікаўнасць.

— Бяры кельму і станавіся побач.

— Самастойна?

— А ты думаў, як? — усміхнуўся Сяргей. — Час ужо.

Дрыжаць чамусьці рукі ў Адама. Хаця б брыгадзір не заўважыў... Здаецца, усё не так. А Сяргей час-ад-часу падыйдзе да хлопца, кіне вокам на сцяну — роўная. Потым скажа, як трэба рабіць, і ў яго словах такая цёплая лагоднасць.

— Смялей, муляр, смялей, раствор раўней кладзі, вось так, — і пакажа Адаму...

А кран падае і падае на рыштаванні цэглу, раствор. Сігналіст Ядвіга Швідоўская ўзмахвае флажком, указваючы кранаўшчыку, куды трэба падаваць. І куды б яго ні падалі, — на ўчастак, дзе працуюць Міхась Мастоўскі і Антон Ажгірэвіч, ці да муляраў Івана Багдзевіча і Рамана Гладкага — праз некалькі хвілін няма ўжо ні цэглы, ні раствору.

На трэці дзень хваляванне, якое не пакідала ўвесь час Сяргея Дранчука, неяк адразу знікла. Начальнік участка Іван Балдоўскі пакруціў у руках чарцёж, паглядзеў на вымураваныя сцены і сказаў:

— Твая, брыгадзір, праўда. За дзень-два скончыце. Не чакаў, хлопцы, ад вас такога!..

— А мы тут, Іван Іосіфавіч, інакш рашылі, — адказаў за брыгадзіра Міхась Мастоўскі. — Заўтра думаем здаць работу. Не верыце?

— Чаму? Вам можна паверыць. Я, хлопцы, першы цукровы ў Скідзелі будаваў. Усялякіх людзей бачыў, і добрых, і дрэнных. А вось з такімі, як вы, працаваць не даводзілася. Адным словам, ударнікі!

Настаў апошні, чацвёрты дзень рашучага змагання за вышыню, за гонар брыгады. І зноў непакой ахапіў брыгадзіра. Сяргей бачыў, што хваляваліся многія, і радаваўся гэтаму. Значыць, настрой у брыгадзе ранейшы — штурмаваць да канца. Ён яшчэ раз прыкінуў, прадумаў — можа змяніць што-небудзь, пераставіць па-інакшаму людзей? Не, няхай кожны застаецца на сваім месцы!

У гэты дзень усе працавалі моўчкі, толькі часта, вельмі часта сустракаліся позіркамі — то радаснымі, то трывожнымі. Ніводнага лішняга руху, зрэдку перакідваліся скупымі словамі. Перапынак на абед



быў кароткі. Абедалі тут жа — на гары, на ветры. Даставалі з кішэняў, што ў каго было, і дзяліліся. Муляры рыхтаваліся да апошняга рыўка наперад, угору.

А калі заканчвалі верхні рад і прышоў час пакласці апошнюю цагліну, гэта даручылі самаму малодшаму члену брыгады — Адаму Аліноўскаму.

— Няхай яна будзе тваёй не апошняй, — пажадаў брыгадзір і падаў Адаму цагліну. Адам беражліва ўзяў яе і ўмураваў у сцяну.

І не было гарачых віншаванняў, хлопцы не ціснулі адзін другому рукі, не абдымаліся, як гэта часта бывае ў такіх выпадках. Толькі ва ўсіх на абветраных тварах доўга свяціліся ўсмешкі радасці.

— Дзякуй вам, браткі, — неяк урачыста ціха сказаў брыгадзір.

— Табе, Сяргей, таксама дзякуй, — прамовіў хтосьці гэтак жа ціха і ўрачыста.

* * *

З раніцы над Гарадзеяй — рокат матораў, кароткія рэзкія гудкі, успышкі электразваркі. Цяжка пыхкае паравоз, цягнучы па новых рэйках са станцыі абсталяванне, ідуць аўтамашыны з арматурнай сталлю, бутавым каменем, плітамі...

Настаў новы дзень на вялікай будоўлі.

Будуць новыя подзвігі, новыя героі. Няхай і не паставяць помніка гэтым сціплым юнакам і дзяўчатам, што закладваюць муры Цукрабуда, не назавуць іх імёнамі шырокія, яшчэ безымянныя вуліцы, што прастуюць у розныя бакі. Нічога! Цудоўным помнікам будуць ім гэтыя гмахі карпусоў, гэтыя маладыя таполі, што пасаджаны іх рукамі, і зарыва, што ўспыхне над Гарадзеяй з першай песняй заводскіх машын.



На вялікую вышыню забраўся электразваршчык Алесь Петушкоў.



**Рыгор БАРАДУЛІН**

## ВЯСНА Ў БРЭСЦКАЙ КРЭПАСЦІ



Застылі ў нерухомасці фарты
З прабітым цемем нізкага скляпення,
І амбразураў чорныя раты
Перакасіла страшным утрапеннем.
Бо тут нядаўна сеяў смерць свінец,
Стагналі бамбавозы ў чорных хмарах,
Глытаў снарады мутны Мухавец,
З усіх бакоў ляцела цэгла жарам.
Здавалася, расчэпіцца зямля,
Ды гэта пекла вытрымалі людзі.
Цяпер чарэмхі квеценню пыляць
І першы гром у лузе краскі будзіць.
А ў гнёздах-гамаках на ўсе лады
Гарластыя гракі крычаць без сцерпу,
Вярба стаіць сагнутай, як тады,
Калі баец ваду пілоткай чэрпаў.
Для тых, хто гронку бэзу не кране,
Каму не зазірне матуля ў вочы, —
Сюды вясна спяшаецца раней
І гэтую зямлю кідаць не хоча,
Зязюля рэха клікае ў бары,
На досвітку няма ўгамону птушкам,
Вясёлка сяміцветная гарыць
Над крэпасцю,
як ордэнская стужка.

## МАЛАДЗІК НАД СТЭПАМ



Цыгаркі круцяць трактарысты.
Глядзіць на фары суслік слепа.
А маладзік, крамяны, чысты,
Растком прарэзаўся над стэпам.

А недзе там, на Беларусі,
Павіс над борам задумёным,
І за сялом ён чуе, мусіць,
Як пара шэпчацца пад клёнам.

Каб закаханых не бянтэжыць —
Хутчэй хаваецца за хмары.
А луг мурожны ў росах свежых
І салаўі на ўсім абшары!

А недзе там, на Беларусі,
Глядзіць азёрам прама ў вочы.
Тут на адной нaзе, як бусел,
Стаіць пагрузчык і траскоча.

Ліецца шумная пшаніца,
Праворна шоргаюць лапаты.
На сон і лірыку забыцца
Нам сёння трэба — спраў багата.

Тут і яму не да забавы,
Дармо, што так высока ў небе,—
Маладзіку хапае справы:
Ён тут, як сонца, нам патрэбен.

Над стэпам маладзік бяссонны,
Над стэпам маладзік праменны,
Працуе ўпоплеч шчыра сёння
Ён з намі у начную змену.

* * *



Хмары —
горы,
горы—
хмары...
Дзе адны, а дзе другія?
Неаглядныя абшары
Ды арлы, як вартавыя.

Ды далёка птушка енчыць,
Буркаю туман спаўзае...
Абарвецца ўніз каменьчык—
Подскакам імчыць, як заяц.

Сцежка ўецца, цягне ўгору,
А спыніцца тут не змусіш...
Ад духмянага чабору
Ёее роднай Беларуссю.

А плячыстыя асілкі—
Валуны ў імшанай медзі—
Праз жарсцвяныя цадзілкі
Сырадой патокаў цэдзяць.

Што вышэй бялее гэта?
То зіма на ўмовах льготных
Арандуе плац у лета —
Беліць снежныя палотны.

Тут сякуць завеі шротам,
Хмары кланяюцца скалам,
Тут арлы бяруць узлёты.,
Нараджаюцца абвалы.

## ГУРАЛКА



Між абвалаў,
Стромых скалаў
Сцежка пакручастая.
А ў далінах
Па галінах
Дзікі вецер шастае.

А ў гуралкі
Позірк палкі,
Ўсмешка са спакусаю.
Маладая.
З плеч спадаюць
Два патокі русыя.

Б'юць вясёлкі
На асколкі
Вадаспады горныя.
Звіруюць,
Зачаруюць
Вочы, вочы чорныя.

Уцякае
Ды гукае.
Пікі гор тумачацца...
З праваднічай
Заблудзіцца
Я гатоў да раніцы...



Нарадзіўся я ў 1928 годзе ў вёсцы Бабаевічы Клецкага раёна ў сям'і селяніна-бедняка.

Улетку пасвіў кароў, а зімою наведваў польскую школу.

Па сапраўднаму вучыцца пачаў толькі пасля Айчыннай вайны. У 1948 годзе скончыў Клецкую сярэднюю школу і паступіў у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна.

Пасля быў настаўнікам, дырэктарам школы, а цяпер працую загадчыкам Берастовіцкага Райана.

Павел Мамчыц.

Павел **МАМЧЫЦ**

# СВЯТА Ў ХАЦЕ КАРАЖАНА

**Апавяданне**

Мал. Б. Льдокава.

Пад саламянымі стрэхамі Баевіч жыў я да верасня трыццаць дзевятага года. З таго часу з Лані, на беразе якой размясцілася наша вёска, сплыло шмат вады, а з маёй памяці — яшчэ больш знаёмых малюнкаў і вобразаў.

І сёння, атрымаўшы пісьмо з дому, прышлося паварочаць мазгамі, успомніць пражытае, былое.

«... Каражана, — піша маці, — выбралі старшынёй сельсавета. Ты яго, сынок, павінен ведаць. Хата іх пры паляках, калі ты яшчэ дома быў, стаяла побач з нашым дваром...»

Ведаю... Памятаю і Каражана, і яго жонку Ганну, і тую іх хату, што стаяла па суседству з нашай...

Не помню, каб Каражан насіў вопратку з доўгімі рукавамі. Заўсёды добрая палавіна рук вылазіла з адзежыны і грэлася на сонцы ці мерзла на холадзе. Многія з нас думалі, што цётка Ганна, жонка Каражана, не ўмее шыць сапраўднай вопраткі.

— А чаму ж ёй нясуць шытво з Навіч і Планавіч? — пярэчылі другія.

І сапраўды, людзі з-за свету прыходзілі і пыталі, дзе жывуць Каражаны. Здаралася і мне паказваць, нават весці жанчын на бераг Лані, дзе не стаяла, а хутчэй ляжала, выцягнуўшыся ва ўсе бакі, хата Каражана, бы падрыхтаваўшыся ссунуцца ў рэчку, як безнадзейна хворы ў магілу.

Перамагалі ў спрэчках тыя, хто прытрымліваўся думкі, што Ганна — скупая жанчына.

— Хутчэй за ўсё, шкадуе палатна, — глыбокадумна заключаў мой сябрук Павел і, невядома да каго звяртаючыся, ужо ўпэўнена гаварыў:— Калі б яна не была скупой, то, думаеце, не выбег бы іх Колік з лустай хлеба на вуліцу, як Дземчыкаў ці Трахімчыкаў? Хлеб жа ў іх, мабыць, ёсць!

Не пускала Ганна Колю з хлебам на вуліцу, павучаючы:

— Можаш і дома. Крошка якая застанецца ў хаце. Яно і гэта спатрэбіцца ў гаспадарцы. Вунь курыца ходзіць, духі падцягнуўшы. Пажывіцца хоць, смагу ўтрэ...

І не выходзіў Коля на вуліцу з хлебам.

Цётку Ганну мы ведалі добра: часта сустракаліся, часам нават пападала нам ад яе, калі насы ўтыкалі не ў свае справы.

Загадкай для нас быў сам Каражан. Пайшоў аднойчы, ведаеце, у Кнёцк і боты купіў. Вось жа смеху было з тых ботаў!

У нашай вёсцы Баевічы, як і ў іншых вёсках тагачаснай Заходняй Беларусі, не было моды на боты. Абувалі іх рэдка, бадай толькі калі жаніліся. І то часцей за ўсё пазычалі на гэтую ўрачыстасць у Дземчыка ці Трахімчыка. Рабіў так і мой бацька, рабілі і нашы суседзі.



— Навошта ж Каражан купіў боты? Калі б была ў іх патрэба, то не віселі б яны над печчу? — губляліся мы ў здагадках.

Каражан нарабіў клопату з тымі ботамі не толькі нам, а і сабе. Калі на вуліцы паказваўся войт з солтысам, боты як вадой змывала. Знікалі яны на некалькі дзён. Каражан заўсёды быў у даўгу ў панскай дзяржавы, хоць і не пазычаў у яе нічога. Аддаваў падаткі ў канцы года, і то не заўсёды добраахвотна. Часцей за ўсё забіралі што-небудзь. Калі пападаў спаганятым пад рукі лён, цётка Ганна плакала, праклінаючы паноў



і Каражана, які не змог своечасова знайсці таму ільну месца. Ходзячы за войтам, яна ў такіх выпадках гаварыла, паказваючы кіўком галавы на аднаго з сыноў:

— Можа ўзялі б гэтых дармаедаў, а лён пакінулі б?..

Але адказу не атрымоўвала і сціхала. Сціхала надоўга, быццам бы не было жанчыне пра што гаварыць. Затое ў нас галовы трашчалі ад думак:

— Лён забралі! Цікава, з чаго ж яна палатно будзе ткаць? Відаць, рукавы ў Каражана будуць яшчэ карацейшыя...

— Ужо лепш бы забралі боты, — бурчэў Павел, як бы гэтыя боты былі не раз у яго на нагах і пакінулі не адзін крывавы мазоль.

Аднойчы мы ўбачылі боты за плячыма ў Каражана, які выбраўся ў Кнёцк.

— Мабыць, панёс прадаваць! — парашылі мы і намерыліся прасачыць. Гурбой, як гусі, крочылі мы за Каражанам. Ён, не звяртаючы на нас увагі, ішоў шпарка, перабіраючы босымі нагамі па цёпламу пяску і думаючы пра штосьці вядомае толькі яму аднаму. Калі выйшаў за вёску, яшчэ смялей і часцей пачаў выкідваць уперад то адну, то другую нагу. І правай раптам урэзаў аб камень. Каражан неяк смешна падскочыў, войкнуў і прысеў на зямлю. У чырвоны колер афарбаваліся і нага, і пясок, і камень. Твар Каражана пакрыўся потам. Здавалася, што чалавек вось-вось заплача, гледзячы на пакалечаныя пальцы. Раптам яго вочы спыніліся на ботах, што ляжалі побач. Невыразная ўсмешка з'явілася на твары. І мы гатовы былі засмяяцца, але раптам пачулі.

— Во шчасце, што не надзеў боты. Ушчэнт разляцеліся б. А сабраць на другія цяжка. Ой, цяжка...

Знікла ўсмешка з яго твару, не хацелася смяяцца і нам. Закруціўшы насавой хустачкай нагу, Каражан апусціў галаву і, накульгваючы, пайшоў далей, а мы пакрочылі дадому: блізіўся час выганяць на пашу кароў. Па дарозе мы яшчэ доўга гаварылі пра тое, што Каражан панёс прадаваць боты. Але нашаму здзіўленню не было канца, калі ў наступную нядзелю мы ўбачылі іх на нагах гаспадара.



Гэтая нядзеля запомнілася мне на ўсё жыццё. Яна выдалася на дзіва цёплай, сонечнай. Сонца, здавалася, паднялося крыху раней і грэла не па-асенняму цёпла. Промні яго пралазілі ў самыя маленькія шчылінкі дзвярэй і клікалі на вуліцу. Спаць не хацелася. У гэты ранак я сам падняўся выганяць карову з хлява. На вуліцы было шмат людзей. Каражан, без шапкі, у ботах, з узнятай галавой, крочыў па вуліцы. З хат высыпалі мужчыны і жанчыны. За вёскай, куды яны беглі, чуўся незнаёмы гул і шум. Убачыўшы Паўла, я кінуўся да яго:

— Мабыць свята сёння вялікае? Бачыш, Каражан у тых ботах пайшоў, а за ім усе рынуліся? Нават Ганна і тая пайшла. А калі ты яе бачыў на вуліцы? Бяжым і мы...

Праз хвілін колькі мы ўжо былі ў гурце аднавяскоўцаў, якія акружылі незнаёмых хлопцаў з чырвонымі зоркамі на шапках. Каражан стаяў на машыне і гаварыў:

— Таварышы! Нарэшце сонца заглянула да нас. Нашы браты прынеслі ў Баевічы радасць. Свята сёння ў маёй хаце, свята і ў кожным доме. Дзякуй вам, родныя...

Вераснёвы ветрык нёс гэтыя словы ад вёскі да вёскі. Здавалася, што іх чулі і ў Навічах, і Планавічах, і ва ўсёй Заходняй Беларусі.



Раман Тармола нарадзіўся ў 1936 годзе ў мястэчку Мір Гродзенскай вобласці.

Цяпер вучыцца на гісторыка-філалагічным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага.

Вершы яго друкаваліся ў «Чырвонай змене», «Настаўніцкай газеце», у часопісе «Работніца і сялянка».

**Раман ТАРМОЛА**

## ПІСЬМО



Аб пісьме пыталі зноў і зноўку,
Шмат разоў чыталі ўсе гуртом
І прасілі ў радаснай сяброўкі:
— З ім цяпер і нас ты пазнаём.
Піша што? Якія ў іх навіны? —
Гэткая цікавасць нездарма:
Малады хлапец, студэнт з Пекіна —
Аўтар незвычайнага пісьма.
Хлопцы спахмурнелі, што ж тут хлусіць,
Бойкіх сябраў не пазнаць маіх:
Захацелі і яны ўжо, мусіць,
Каб чыталі так лісты ад іх.
Эх, каб ведаў хлопец той з Кітая,
Што у нас ён проста нарасхват,
Што сяброўку не адну ўжо мае,
А пятнаццаць прыгажунь-дзяўчат!

## ПРЫКМЕТА



Да месца ехаць засталося мала,
І раптам дождж, нібы са шчылін, хлынуў.
Зямля ваду ўбіраць не паспявала,
І стэп гудзеў да раніцы няспынна.

А жыхары назаўтра ў сваіх хатах
З тае прычыны і казалі, мусіць,

Што маладыя хлопцы і дзяўчаты
З сабой дажджы прывезлі з Беларусі.

Відаць, дажджоў тут, як і нас, чакалі.
Чакалі днямі буднімі, ў нядзелю...
І вось цяпер пад сонцам травы ззялі,
А самі людзі на'т памаладзелі.

Ці жыхары нас вельмі паважалі,
Ці сапраўды паверылі ў прыкмету,
Ды толькі зноў прыехаць запрашалі
З дажджамі разам на другое лета.

* * *



Здаецца, што вясны чаруюць пахі,
Чуваць у скверы ўжо дзіцячы смех...
Калі з палону вызваляюцца дахі,
Дадолу скінуць пачарнелы снег.
Плыве туман густою белай парай,
Нібы дыханне скованай ракі,
А тут штодзень ужо на тратуарах
Вішчаць, скрыгочуць раніцай скрабкі.
І для машын няма даўно спакою:
Адвозяць снег, кускі ільду, як шкло.
Для поўнай перамогі над зімою
Хутчэй бы сонца больш дапамагло.
І хоць прыход вясны яшчэ не блізка,
І нават скверы з паркамі у сне,
А ўжо цяпер па-веснавому ў Мінску:
Прыём наладжан загадзя вясне!



Эдуард Карпачоў нарадзіўся ў 1937 годзе ў горадзе Рагачове ў сям'і настаўніка. Закончыўшы сярэднюю школу, паступіў на аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна, дзе займаецца і цяпер.
Эдуард Карпачоў піша на рускай мове. Першы твор надрукаваў у 1956 годзе ў часопісе «Советская Отчизна». З таго часу і выступае з апавяданнямі ў рэспубліканскіх газетах і часопісе «Советская Отчизна».
«Ідзі, чалавек...» — новае апавяданне маладога празаіка.

Эдуард **КАРПАЧОЎ**

# ІДЗІ, ЧАЛАВЕК...

## Апавяданне

Мал. П. Калініна.

Зямля, напэўна, збяднела б, калі б па ёй раптам перасталі хадзіць людзі. Гэтак часта гаворыць хірург Рыгор Кузьміч Бурмінскі, і Віцька Вальшын не можа не верыць яму, не можа з тае пары, як адолела яго хваравітае паўзабыццё...

Зямлю хуталі снягі, сцябалі дажджы, сушыла сонца,— цэлы год!— а Віцька ўсё ляжаў адзін у палаце і не мог ніяк даткнуцца нагамі да зямлі, адчуць яе цудадзейную цвёрдасць. Ён гараваў, што яму было пакінута цяпер зусім нямнога: чытаць кніжкі, бачыць сны, успамінаць. Памяць у Віцькі была глыбокая, бяздонная...

Віцька бачыць сябе ў тыя часы, калі ён рухаўся па зямлі ў самаробнай калясачцы на падшыпніках, якія надакучліва скрыгаталі; калі ён глядзеў на зямлю зусім зблізку, не так, як другія, што хадзілі хутка і шпарка; калі ён датыкаўся да яе моцнымі і нервознымі рукамі, каб адштурхнуцца. Віцька бачыць і той дзень у летняй смузе, калі па яго travel соннай вулачцы прайшоў хірург Рыгор Кузьміч Бурмінскі. Заўважыўшы калясачку, Рыгор Кузьміч падышоў да яе, нагнуўся і, гледзячы на Віцьку разумнымі праніклівымі вачыма, спытаў, што ў яго з нагамі.

— З маленства... — зачырванеўся Віцька, гаворачы якраз тое, што не раз казала маці людзям, і павярнуўся да веснiц, якія, насцярожана

ляпнуўшы, змусілі яго ўздрыгнуць. Гэта выйшла з хаты маці, здзівіўшыся, што нейкі мужчына так клапатліва аглядаў яе сына. А ўрач мацаў вялыя і доўгія Віцькавы ногі, нібыта чытаў штосьці навобмацак, пасля падняўся і сказаў да маці:

— Прывязіце заўтра ў бальніцу. Лячыць будзем...

Віцька не зразумеў спачатку, нашто прывезлі яго ў бальніцу, паклалі ў адзіночную палату, ухуталі ў белыя прасціны, адгарадзілі ад звыклага свету, пакінулі ў пакутлівай цішыні. Пасля заходзілі людзі ў белым, уважлівыя, і гаварылі неяк зусім незразумела.

Яны хадзілі па палаце цэлы дзень, хадзілі многа і доўга; здавалася, падлога выпросталася толькі к начы, выпросталася, стогнучы і з крэктам. І ведаў ужо Віцька, што хвароба яго называецца «алье», што яна рэдкая і цяжкая, што замест касцяной тканкі развілася храстковая, і што яго намерваюцца паставіць на ногі. Усё гэта не мінала вострага вуха Віцькі. Ён не верыў гэтаму, так як не паверыў спачатку Бурмінскаму. А хірург доўга праседжваў ля яго, і Віцька ніяк не мог зразумець, чаму таго так зацікавілі яго кволыя ногі.

Бурмінскі быў ссутулены і худы; глядзеў на Віцьку па-свойску і смела гаварыў пра тое, што Віцька выцерпіць аперацыю, таму што ён любіць жыццё. А што Віцька любіць жыццё, дык гэта праўда, бо няма ў яго пры такой хваробе прыкмет знявечанага чалавека: ні вымучанага дрыготкага смеху, ні сумнага твару. І яшчэ хірург гаварыў, што Віцька будзе крочыць па пыльнай зямлі і што яшчэ аж надакучыць яму гэта, а Віцька ўпарта думаў адно: «Казкі гэта...» Але ўсё ж глядзеў на хірурга з прытоеным замілаваннем.

Ледзь прыкметна ўсміхаўся Віцька ў тыя хвіліны, калі ля яго ложка збіраліся людзі ў белым і спрачаліся між сабой, як вярнуць хлопцу ногі. Яму хацелася слухаць іх бясконцыя спрэчкі, але неяк было сорамна, што яго скалечаныя ногі прыносяць столькі клопатаў такім добрым людзям. І разам з тым ён баяўся заўважыць сярод людзей, што прыйшлі яму памагчы, таго, хто б непрыязна аднёсся да ягонай хваробы. Зрэдку з'яўляліся прыдуманыя ім самім сякія-такія надзеі, але хутка знікалі. І тады зноў ён сумаваў па-ранейшаму, што ляжыць у далёкай ад свету палаце, якую знарок хтось усыпаў белізною.

Людзей у халатах Віцька звычайна праводзіў вачыма да самых дзвярэй, пасля прыўзнімаўся на локці, услухоўваўся. Людзі ў халатах не вельмі хаваліся ад Віцькі, і ён праз дзверы чуў усе сумненні і меркаванні ўрачоў, што пачыналі спрачацца ледзь толькі пераступалі парог палаты. У гэтых спрэчках Віцькаў слых вылучаў двух — Бурмінскага і Князева, чарнавусага і таксама высокага. Віцьку непакоіла, што гэтыя два ўрачы па-рознаму гаварылі пра ягоныя ногі. Так непакоіла, што ён аднойчы, не стрываўшы, закрычаў у спалоху:

— Пусціце мяне дамоў! Я не хачу тут...

А пасля чырванеў перад Бурмінскім, які з гадзіну сядзеў на яго ложку і апавядаў многа новага для Віцькі, цікавага: зямля нібы маладзее, калі больш людзей жыве і ходзіць па ёй. Нават расказаў пра міфічнага Антэя, якому зямля давала сілу, варта было толькі дакрануцца да яе.

— Вось так і ты, Віцька, паздаравееш, набярэшся сілы ад хадзьбы па зямлі,— гаварыў, паціскаючы яго локаць, Бурмінскі.— А пакуль трывай...

Пасля гэтых слоў Віцька думаў многа-многа...





І праўда, ці быў калі-небудзь у той сівой даўнечы магутны Антэй? Мо' гэта толькі выдумкі і казкі пра дабрату зямлі?

Спрэчкі за дзвярыма надараліся даволі часта, і хутка Віцька ўжо ведаў: урачы дамаўляюцца, як лепш зрабіць аперацыю. Князеў некага запэўніваў, што прыдзецца выняць каленныя суставы. Чуючы гэта, Віцька падхопліваўся на ложку і заміраў, бы захлёбваўся. І не дыхаў датуль, пакуль Бурмінскі не выказваў сваіх довадаў:

— Калі выняць каленныя суставы, ногі будуць не ногі, а слупы. Я выму толькі кавалачкі бедраных касцей. Я хачу, каб Вальшын мог пайсці...

І Віцька, падаючы ў душэўнай зняможе на падушку, згаджаўся з Бурмінскім: «Толькі так! Слупы — гэта не тое... Трэба так, каб змагчы пайсці...»

Другі раз ён падслухаў яшчэ адну размову. Князеў зноў стаяў на сваім:

— Адломы касцей змацуем цвіком Штэйна.

«Ці можна так?» — нецярпліва падняўся Віцька, чакаючы, што ж скажа Бурмінскі.

— Змацуем медыцынскім дротам... Ён жа разыйдзецца праз год у арганізме, — счакаўшы, сказаў Бурмінскі, і яны паспяшалі некуды па калідоры. Галасоў іх Віцька ўжо не мог разабраць. Чуваць былі толькі крокі.

Крокі... Цяпер Віцька ўжо верыў, што смелыя дактары паставяць яго на ногі. Неяк па-новаму і з зайздрасцю сачыў ён за людзьмі, што мітусіліся на вуліцы. Асабліва прыцягнуў яго ўвагу маленькі хлопчык, які толькі што пачынаў хадзіць. Хлопчык гуляў каля бальніцы штодзень, і аднойчы Віцька паклікаў яго праз акно пальцам. Малы падбег, узабраўся на прызбу і прыліп брудненькімі далонямі да шыбіны.

— Ну, бяжы! — закрычаў Віцька. — Бяжы!

Малы пастаяў яшчэ, паказаў Віцьку язык і скокнуў з прызбы.

Праз акно Віцька бачыў жыццё на вуліцы: седзячы, назіраў, як вечарамі ў адным акне згасаў заходні край неба, а ў другім нараджаўся няпоўны яшчэ месяц, як пярэста мітусіліся пад ветрам кветкі, як трымцела лістота.

І вось наступіў дзень, калі павінна было пачацца тое, чаго так чакаў

«Маладосць» № 4 за 1959 г.

і чаго так баяўся Віцька. У той дзень ён глядзеў і глядзеў за акно, дзе бялеўся ўжо снег, і чамусьці запамінаў, запамінаў белую роўнядзь.

Нават здалося, што нешта аж закалола пад павекамі. Гэта ранішнія зыркія промні казыталі твар. Віцька зганяе з сябе сон, і тады знікае яго тое доўгае паўзабыццё.

У радасці глядзіць ён на неба і думае пра тое, што сёння яго апошні дзень у бальніцы. Віцьку не церпіцца хутчэй даткнуцца нагамі да халоднай падлогі. Ён ступае і доўга ходзіць і ходзіць, і падлога рыпіць пра нешта неразборліва ў яго пад нагамі, як і ва ўсіх людзей.

Нахадзіўшыся, Віцька залазіць зноў пад прасціну і здзіўляецца, чаму так упарта нахлынулі на яго ўспаміны. Ці не таму, што сёння застаецца ўжо ззаду гэты цяжкі для яго год?.. Усміхаючыся, Віцька заплюшчвае вочы, але павекі яго ўздрыгваюць: ён не спіць, і да яго зноў вяртаецца ранейшае...

Як мінуў той дзень аперацыі — Віцька не памятае. Помніцца толькі белы да слепаты снег за акном і тупы, нясцерпны боль. Нават цяпер кідае ў дрыжыкі, калі ўявіць, як апускалася на яго белая столь, як карабацілася і круцілася яна над галавою. Не, лепш не ўспамінаць пра гэта.

Віцька тады не мог трываць і аж крычаў ад болю. Гледзячы на яго, нават плакалі дзяжурныя сёстры. А пасля... Пасля ён залез з галавой пад падушку і заснуў моцна і надоўга. А калі прачнуўся ўжо, дык убачыў у акне хвост Млечнага шляху і спакойныя зоркі, якія гаслі якраз перад світаннем. Ля свайго ложка Віцька заўважыў сілуэт Рыгора Кузьміча Бурмінскага, які нерухома сядзеў на табурэтцы. Віцька хацеў закрычаць ад радасці, але з грудзей выврваўся нейкі хрып. Мяккія доўгія пальцы Бурмінскага адразу пачалі мацаць перавязаныя ногі.

— Баліць?

Віцька адвярнуўся.

— А тут? — урач лёгенька паціснуў Віцьку бядро.

Віцька пакруціў галавой.

— Ну, добра, — супакоіўся Бурмінскі і пачаў падымацца. — Гэта добра, што тут не баліць, гэта самае галоўнае. Ну, спі, спі, хлопча...

Бурмінскі ціха пакрочыў да дзвярэй, а Віцьку хацелася закрычаць: «І вы... і вы таксама спіце...», але не змог і толькі прастагнаў.

Віцька памятае яшчэ і тую ноч, калі ад шалёнага ветру пырхнула фортка, заскрыпелі, расчыняючыся насцеж, дзверы і ў калідоры паказалася постаць Бурмінскага. Ён, мусіць, задрамаў там на табурэтцы, бо, усхапіўшыся, убег у палату і стаў, мармычучы, зашчапляць фортку.

Ночы... Яны былі даўжэйшыя за дні... Сон не браў зусім, замест яго плылі думкі — думкі пра ногі. І тады, калі Бурмінскі прымацаваў да іх тутары, і тады, калі прымусіў Віцьку рабіць фіззарадку, каб мацнелі мускулы.

... Палата напаўняецца нейкім стукам. Што гэта? Ці не зноў прыгадалася тая ветраная ноч?.. Віцька падхопліваецца... Не, гэта не ноч, а ўжо раніца і, відаць, позняя. І не вецер стукае ў шыбіны, а ўвайшоў Рыгор Кузьміч. Ён узбуджаны і вясёлы, халат яго расхлістваецца ад хады.

— Добрай раніцы! — паціскае ён тонкую Віцькаву руку. — Сёння выганяю цябе з бальніцы. Ты мне больш не патрэбен...

І хоць Віцька ведае ўжо пра гэта, але адчувае, як калоціцца яго сэрца, і не можа ні заплакаць, ні засмяяцца.



— Толькі пачакай крыху. У мяне цяпер абход, ды хворага новага прывезлі...

Калі ён выходзіць, Віцька, адкінуўшыся на падушку, толькі і думае: «А правільна, што выганяе... Вось зараз я пакрочу дадому... Сам!..»

І тут міжволі ўспамінаецца самае цяжкае за ўвесь час у бальніцы — першыя крокі...

Віцька не мог дачакацца таго дня, але як толькі зайшлі ў палату ўрачы, разгубіўся, скруціўся ў камячок. І гэта тады моцнымі і лагоднымі рукамі Бурмінскі падняў яго і паставіў побач на падлогу.

— Ідзі!

Віцька не варухнуўся, глядзеў толькі на падлогу, па якой трэба было ступаць: такі загад...

— Ідзі, Віцька, — і Бурмінскі злёгку падштурхнуў яго рукамі.

Віцька ступіў нясмела і — упаў. Тыя ж моцныя рукі лёгка паднялі яго. Загад быў ранейшы.

Віцька, кульгаючы, рушыў да белай сцяны, наблізіўся, абапёрся аб яе рукамі і стаяў так, перамагаючы нейкі горкі камячок у горле, які спадцішка падступіў якраз цяпер. Перачакаў і, павярнуўшыся, затупаў да Бурмінскага. Упаў бы, каб не ўхапіўся за яго плечы. Усеназіралі за гэтымі мужчынскімі абдымкамі, а Бурмінскі аж усклікнуў:



— Ага, пайшоў! Пайшоў наш хлопча!..

Віцька і цяпер адчувае моцныя і гарачыя рукі хірурга і помніць яго спрэчку з тым жа Князевым.

— Ну і што, калі Вальшын устаў на ногі, — даносіцца з-за дзвярэй прыглушаны голас Князева.—Лічыце мяне кім хочаце, аднак чалавек ён усё ж непаўнацэнны...

Ціха-ціха, а пасля чуваць словы Бурмінскага:

— Няпраўда. Хлопцу шаснаццаць год. І ён будзе працаваць разам з усімі...

... І цяпер Віцька чамусьці саромеецца тых слоў Князева і хаваецца, нацягваючы прасціну аж на галаву. Але тут жа зрывае яе і глядзіць у празрыстае акно, успамінаючы словы Бурмінскага: «Ён будзе працаваць разам з усімі...»

Віцька саскоквае на падлогу, апранаецца. Заглядае ў акно. Там яшчэ лета, жнівеньская цяплынь...

«З гэтае пары буду хадзіць у кіно, на стадыён, або проста спяшацца па вуліцы, абганяючы другіх!..»

Пакуль не прышоў Бурмінскі, можна нават тут напісаць заяву, якая так даўно абдумана да кропелькі: «Дырэктару вячэрняй школы рабочай моладзі ад Вальшына Віктара...»

Палата зноў напоўнілася людзьмі ў белым, і пры іх ужо Віцька склаў свае рэчы, неяк сарамліва агледзеў прысутных, правёў вачыма па сценах. За ім назіраў Бурмінскі.

— А маці недзе і не верыць, што ты сам прыдзеш...

«Во-о... Яна здзівіцца, узрадуецца!» — падумаў Віцька. Аж на ганак праводзілі Віцьку. Трымаючы руку на яго плячы, Бурмінскі гаварыў:

— Асабліва, Вальшын, не думай пра свае ногі. Адчувай сябе цвёрда на зямлі. Зразумеў?

— Я разумею... — удзячна засмяяўся Віцька і пакрочыў, спыняючыся і азіраючыся.

На ганку былі ўсе: урачы, сёстры. Толькі Князева не было сярод іх.

Радней за ўсіх сачыў за Вальшыным Бурмінскі і доўга думаў, відаць, хацеў яшчэ штосьці сказаць, але ўжо не Віцьку, не...

Зямля, пачуй, што хоча табе сказаць хірург Бурмінскі: ты дай адчуць Вальшыну сваю моц, ты надары яго сілай, як і ўсякага народжанага чалавека...

*Пераклад з рускай мовы.*





Нэла Тулупава нарадзілася ў 1938 годзе ў Рэчыцкім раёне Гомельскай вобласці ў сям'і настаўніка.
У 1955 годзе яна скончыла Гомельскае медыцынскае вучылішча і цяпер працуе фельчаркай у Аршанскім раёне.
Першыя вершы Тулупавай былі надрукаваны ў Аршанскай раённай газеце.
У рэспубліканскім друку творы яе змяшчаюцца ўпершыню.

**Нэла ТУЛУПАВА**

## ПРОМНІ



Трапяткія, ясныя праменні
Ўпалі на яліны і бярозы,
Долу слізганулі праз імгненне
І засерабрыліся на лозах.

Праз акно знадворку зазірнулі,
Трапілі ў калыску да дзіцяці,
Першым словам, казкаю матулі
Засталіся жыць яны у хаце.

Азарылі круглы бохан хлеба,
На скарынцы золатам заззялі...
Падалі і падалі ўсё з неба,
Песцілі жыты і прэлі хвалі.

Ластаўкай ці бэзавым суквеццем,
Ці каханнем промні, можа, сталі?..
Песняю плылі яны па свеце,
Цеплынёю сэрцы напаўнялі.

## ЛІПЫ



Сёстры-ліпы расквітнелі разам,
Загудзеў ля іх пчаліны рой..
Хмары, іх убачыўшы, адразу
Абступілі цеснаю сцяной.

Вецер замуціў крыніцы срэбра,
Заяршыў чароты, крыху сціх...

Пачарнела, згорбілася неба,
Трэснула ў галінах векавых!

Высякаючы зарніцы мечам,
Перуны абстрэл з гармат вядуць...
Вецер ліпы гне, трасе за плечы,
Рве сухвецце, кідае ў ваду.

Не скарыў ні лівень іх, ні вецер,
Зноў ля іх гудзе пчаліны рой...
Мёдам перапоўненую квецень
З гонарам трымаюць над
зямлёй!

* * *



У жытнёвым прасторы бясконцым,
Падпаліўшы крупінкі расы,
Шчодра промні рассыпала сонца,
Сон страсаюць з вусоў каласы.

Хвалі коцяцца ўдаль залатыя,
Сонца грэе і песціць палі.
Каласы, нібы з бронзы літыя,
Адбіваюць паклоны зямлі.



Міхась ДАНІЛЕНКА

# ЭДЭЛЬВЕЙС

Апавяданне

Мал. Л. Дубара.

Хто мог думаць, што ў той момант так ускалыхнецца мая душа?

На сцэне нашага раённага Дома культуры, пагрукваючы чаравікамі на тоўстых падэшвах, узмахваючы доўгімі пёркамі на капелюшах, пазаліхвацку выстуквалі сякеркамі мелодыю танца ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці. Гэты танец прывёз ім з маскоўскага фестывалю Міша Зайчык, наш баяніст. Ён пратрубіў усім вушы пра танец, разы два сварыўся з загадчыкам раённага аддзела культуры, бо той не хацеў адпускаць сродкі, каб набыць касцюмы танцорам.

— Якія яшчэ вам скураныя трусы?..— злаваўся загадчык.— Калі ўжо так прыспічыла, танцуйце ў звычайных...

Толькі Міша Зайчык быў не з тых, хто лёгка адступае ад задуманага...

Гляджу цяпер на цыбатага, як жураўель, Мішу Зайчыка (ён таксама танцуе) і не веру сваім вачам: не, то не наш баяніст,— гэта з далёкіх гор добра вядомай мне краіны прыехаў высокі лесаруб у кароткіх штоніках з сякеркай.

— Г-гэх! Г-гэх!— быццам аднымі грудзьмі, выдыхаюць танцоры, і сякеркі срабрыстымі маланкамі бліскаюць у іх руках.

Аднекуль з-за куліс, нібы з лесу, да лесарубаў выбягаюць дзяўчаты. Не, гэта не нашы лоеўскія дзяўчаты, гэта — цірольскія пастушкі...

— Г-гэх! Г-гэх! — размахваюць сякеркамі лесарубы.

І дзяўчаты дораць ім звычайныя белыя кветачкі — горныя рамонкі.

За вокнамі Дома культуры сінее ліпеньскі вечар, буйныя зоры падаюць у лугі за Дняпро. Дзесьці там у гэтую ноч стракочуць неўгамоны-конікі. І раптам усплываюць успаміны. Не летні сіні вечар бачу я за вокнамі Дома культуры, а цёмны тунель у аўстрыйскіх гарах. Мяне, юнака, прывезлі туды з канцлагера. Страшны то быў лагер. Кожную раніцу нас выстройвалі на выбрукаваным двары і камендант — таўсценны ў акулярах немец — прыдзірліва аглядаў кожнага. Здавалася, ён баяўся, што за ноч каго падмянілі. Ці можа не спадзяваўся ўжо ўбачыць нас жывымі?

Мы і сапраўды былі ледзь жывыя.

— Добры наглядны дапаможнік,— сумна жартаваў з мяне, пералічваючы рэбры на худым целе, мой сябар, былы студэнт медінстытута масквіч Пётр Салаўёў.

Тоўсты фельдфебель павольна крочыў паўз нас. Абапал яго ступалі два маладыя салдаты. Вось каменданту па невядомай прычыне не спадабаўся які-небудзь палонны. Трах! Удар па твары быў такі моцны, што рэдка хто мог устаяць. А калі бядак падаў, да яго, як ганчакі, кідаліся салдаты і білі падкаванымі абцасамі чаравікаў.

Вырваўшыся з гэтага праклятага лагера, я ўздыхнуў крыху вальней. Што ні кажы, а чалавек заўсёды спадзяецца на лепшае.

— Нічога, Максімка, выжывем,— гаварыў мне ў набітым людзьмі вагоне Пётр Салаўёў.

Ён зваў мяне Максімкам. Можа і пасябравалі мы таму, што абодва былі нядаўнімі студэнтамі. А можа мая душа цягнулася да гэтага высахлага, як тычка на фасольнай градцы, Пятра таму, што ён ніколі не падаў духам?..

І вось мы з Пятром Салаўёвым апынуліся ў глыбокім падзямеллі, у самай сярэдзіне гары. Немцы тут будавалі электрастанцыю.

У вузкім тунелі тугімі струменямі свістала халодная, як лёд, вада, гулялі скразнякі, а мы з Пятром Салаўёвым кацілі ваганетку з рошчынай бетону па вузкіх рэйках, падсвечваючы сабе дарогу карбіднымі лямпамі. Здавалася, я ўвесь з галавы да ног прапах гэтым праклятым карбідам.

Памятаю, калі мы ў першы дзень спусціліся ў тунель і я, здзіўлены, не мог здагадацца, чаму ў іржавых трубах увесь час чуцен раўнамерны свіст, да нас падышоў дзесятнік, або, як тут яго звалі, капо Франц. Ён загадаў, каб кожны з нас, закасаўшы рукаў, сагнуў правую руку.

— О, дрэнна...— пакруціў ён галавой, абмацаўшы мае вялыя пучкі мускулаў.

Баючыся, каб нас не разлучылі з Пятром, я горача пачаў даводзіць капо, што я — малады і ад працы толькі разаўю мускулы.

Але не вельмі-то я іх развіў і неўзабаве ледзь валачыў ногі, ідучы за ваганеткай. Хіба можна было перасіліць голад той малюсенькай пайкай сурагатнага хлеба?..

— Няважныя справы, Максімка,— аднойчы сказаў мне Салаўёў.— Трэба ўцякаць адсюль, а то падохнем.

У апошнія дні Пятро стаў нейкім маўклівым і задуменным. Толькі ў чорных яго вачах гарэлі трывожныя агеньчыкі.



Я і сам задумваўся, каб як-небудзь вырвацца з гэтага пекла. Толькі куды ты пойдзеш у гарах? Хіба зможам мы, знясіленыя голадам, паднящца да перавалу?

— Не ведаю, як ты, а я праклінаю і сябе, і свае рукі, калі яны грузяць кожную ваганетку,— прадаўжаў Салаўёў.— Не, няхай яны задушацца гэтым бетонам!.. Не магу я так далей жыць...

І дзіўна: я стаяў, моўчкі пазіраў на зарослага чорнай шчацінай сябра, на яго заляпаную бетонам брызентавую куртку і адчуваў, што нейкая невядомая сіла бударажыць і мяне. Сапраўды, няўжо мы будзем да скону хадзіць, спатыкаючыся аб шпалы, за ваганеткай? Не, лепш смерць ад кулі дзе-небудзь у гарах, чым ся гэтае гібенне пад струменямі вады, сярод раздробленых дынамітам скал.



Нечакана абставіны змяніліся: мяне перавялі працаваць наверх, на кухню. Тое, што нас з Салаўёвым разлучылі, ускладняла задуманую справу, але затое з кухні я мог хутчэй узяць што-небудзь на дарогу. Ды і Салаўёву можна было перадаць якую лішнюю порцыю: няхай хлопец акрыяе хоць трохі.

І тут з'явілася яна — дачка суседняга бауэра, дом якога стаяў у другім канцы даліны. Маленькая, бялявая Аня пачала прыязджаць на кані да кухні забіраць лупіны. Першы раз, калі яна папрасіла, каб я памог паставіць на воз кош з лупінамі, я глянуў ёй у вочы і аслупянеў: яны былі спакойныя і сінія, як азёрная вада.

— Чаго ж ты стаіш? — усміхнулася яна.— Памажы.

Я сустракаў яе кожны дзень. А калі яна не прыязджала, сумаваў, работа валілася з рук і дзень здаваўся бясконца доўгім.

Нейк, пасабляючы Ані, я ненарокам дакрануўся да яе рукі. Маленькія далоні былі шурпатымі ад мазалёў.

— Многа прыходзіцца працаваць...— уздыхнула яна.

Мне падабалася ў ёй усё. І тое, што імя яе было рускае, і прывычка насмешліва хмурыць бровы, і манера гаварыць, і шчырыя, сяброўскія адносіны да ўсіх нас, што працавалі на кухні.

Аднойчы Аня прыехала вечарам. Сіні змрок ахутваў даліну, скрадваючы абрысы прадметаў; дзесьці ў гарах ракатала вада. Дзяўчына была ў нейкім асаблівым задуменні. Я ўжо ведаў, што бацька ў яе стары чалавек, інвалід, а ў Ані яшчэ дзве меншыя сястрычкі. Вось і прыходзіцца ёй, семнаццацігадовай дзяўчыне, многа працаваць.

— Можа што дома здарылася? — трывожна спытаў я.

— Не, Максім, дома ўсё ў парадку,— сказала Аня.— Толькі наша маленькая Эльза нешта прыхварэла. Ды нічога, яна паправіцца...

Я стаяў ля Ані. Нейк здарылася, што я моцна прыхінуў яе да сябе. На нейкі момант мы замёрлі. Потым дзяўчына адштурхнула мяне, ускочыла на воз і пагнала каня...

Пасля таго яна не прыязджала з тыдзень, і шэф кухні загадаў звальваць лупіны ў спецыяльна выкапаную яму.

Потым Аня пачала ездзіць зноў. Яна была такая ж шчырая і простая. Аднойчы я папрасіў яе дастаць мне карту. Дзяўчына трохі падумала і адказала:

— Добра.

Праз тры дні яна прынесла згорнутую ў трубачку карту, пра якую мы з Салаўёвым столькі марылі.

— Заўтра я прыеду апошні раз,— сумна сказала яна.— Пажадаю табе шчаслівай дарогі ў тваю Расію...

Яна прыехала вечарам. У высокім небе трапяталі незнаёмыя, чужыя зоры, непадалёк парыпвалі махавічкі пад'ёмнай канатнай дарогі. Прыціхлыя стаялі і лес і горы, праз якія нам трэба было прайсці.

— Сталінград,— паціснуўшы мне руку, паведаміла Аня.— Каля Сталінграда разбілі нямецкую армію.

— Дык гэта, значыць, праўда?..— адчуваючы, як расце ў душы пачуццё радасці, запытаўся я.— Значыць, праўду сказаў Франц нашым хлопцам у штольні?

Аня падала мне маленькую кветачку — альпійскі рамонак.



— Гэта табе на шчасце... эдэльвейс...— шапнула яна, сарамліва апусціўшы вочы.

І зноў паехала, стоячы каля кашоў, а я шаптаў:

— Эдэльвейс... Бывай, альпійскі рамонак! Дзякуй табе за ўсё. Перад намі — нялёгкі шлях, ды мы яго ўсёроўна пройдзем.

...І вось я зноў бачу, як абходзяць цірольскія пастушкі лесарубаў і дораць ім белыя кветкі. На шчасце.

Дзе ж ты цяпер, мой маленькі эдэльвейс, мой незабыўны светлы рамонак?

Ці не твая сястра танцавала гэты танец пад прасторным, як акіян, маскоўскім небам на Манежнай плошчы? І ці не на яе танец зачаравана глядзеў, забыўшыся на ўсё на свеце, Міша Зайчык?..



**Уладзімір ПАЎЛАЎ**

## НА ПАВАРОЦЕ



Баян замоўк на развітальнай ноце
Ў канцы сяла, каля чужых варот.
І вось ужо ў асенняй пазалоце
Відаць за вёскай першы паварот.

Сюды заўжды каханыя выходзяць,
Каб з любымі пабыць яшчэ хоць міг.
Мяне ж дзяўчаты сёння не праводзяць,
Бо не праводзіў я да хаты іх.

Глядзіць мой бацька і вачам не верыць,
І яшчэ больш, здаецца, пасівеў:
Як гэта ён за сынам-кавалерам
На гэтым «фронце» так не дагледзеў.

Шафёр сігналам кліча мяне зноўку,
Дрыжыць рабіна воддалі адна,
А недзе ўжо ў салдацкую сталоўку
Залічыць мяне хутка старшына.

Дазволь жа, бацька, мне паціснуць рукі
І не крыўдуй на сына ў гэты час...
Рукам тваім насіць малых унукаў
Яшчэ таксама прыдзецца не раз.



* * *



Я з табою не меў
Ні сустрэч,
Ні спатканняў —
Ні ў вясновыя дні,
Ні ў асеннія
Ночы...
Дык чаму ж пры сустрэчы
Раненька-рана
Сарамліва уніз
Апусціла ты
Вочы?..

Можа гэта ад сонца,
Што бліснула ярка
Перад тым, як схавацца
За шэрую хмару,
Можа гэта ад ветру,
Прабегшага шпарка,
Ці ад грому, што недзе
За лесам ударыў.

Толькі тыя вятры
Заляцелі далёка,
Перуны адгрымелі
І змоўклі за Сожам.
Пад акном тваім
Кліча,
Гукае салоўка
І ніяк мяне ў госці
Дазвацца не можа.

Вось закончыцца лета
І ў шлях я збяруся,
Адшукаць назаўжды
Сваё шчасце
Хачу я...
А другога?—
Другога кахання
Баюся.
Ды і першае мне
Не даруе.



Яўген Каршукоў нарадзіўся ў 1932 годзе на Палессі ў сям'і настаўніка. У 1951 годзе пасля дзесяцігодкі ён паступіў на аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна, якое закончыў у 1956 годзе. Я. Каршукоў працуе на Гомельшчыне ў веткаўскай раённай газеце «Пад Ленінскім сцягам».

Апавяданні яго і гумарэскі друкуюцца ў рэспубліканскіх часопісах.

«У дарогу» — новае апавяданне маладога празаіка.

**Яўген КАРШУКОЎ**

# У ДАРОГУ

**Апавяданне**

Мал. В. Рамейкі.

Вечарэе. У пакой сеецца шэры змрок. Толькі ля акна, дзе я сяджу з кніжкай, яшчэ светла. Там, дзе зайшло сонца, з кожнай мінутай блекне ружовая палоска.

Чытаць не хочацца, і я гляджу ў акно, гляджу і думаю, што заўтра, мабыць, будзе ветрана. А мне — у дарогу. Дамоў я заехаў зусім выпадкова: быў у камандзіроўцы ды адлучыўся на які дзень наведаць маці.

Ціха адчыняюцца дзверы пакоя, чуюцца асцярожныя крокі.

— Можа, павячэраеш, Толік?

— Яшчэ рана, мама...

Маці садзіцца на канапу.

— Ох і стамілася я за дзень, Толік! Ох і стамілася! А нічога, здаецца, і не рабіла... Пакуль з гаспадаркай управілася ды грубку распаліла, і час непрыкметна прайшоў... А мароз бярэцца. Паставіла ў сенцах вядро з вадой, не паспела адвярнуцца — ураз замёрзла! Як ты заўтра да горада дабярэшся?..

Я гляджу на маці, на яе старэчы твар і, здаецца, бачу такой упершыню... Пастарэла, моцна пастарэла мама... Асабліва за гэты год, як памёр бацька. Прыбавілася маршчын на твары, сівізны ў валасах... Стала нейкай задумлівай, ціхай. Міжвольна кідаю позірк на сцяну, дзе вісяць у рамках два партрэты: бацькі і маці. Маці, маладая, весела глядзіць з фатаграфіі на мяне. І зусім, зусім не падобна на яе гэтая задумлівая жанчына, якая сядзіць зараз перада мной.



— Старэю, сынок,— нібы ўгадваючы мае думкі, нечакана гаворыць маці.— Хутка бягуць гады... Вось і ты ўжо вырас, працаваць стаў. Дачакацца б мне тваіх дзетак — тады і паміраць можна...

— Можа лямпу запаліць, мама? — пытаюся я, каб перабіць яе невясёлыя думкі.

— Запалі, запалі, сынок. А можна і так пасядзець. Як хочаш...

Я саджуся побач з маці на канапу. У пакоі ўжо зусім цёмна. Ад грубкі цягне прыемным цяплом. Гаркавата пахнуць асінавыя дровы. Недзе пад печчу абзываецца цвіркун. Усё напамінае пра маё маленства. І бясконца хочацца сядзець побач з маці, слухаць яе ласкавы, ціхі голас.

— Вось забылася табе расказаць... Федзька ажаніўся нядаўна... Мяне запрашалі на вяселле... а як жа! Хацела адмовіцца, прыхварэла тады крыху, ды дзе там! Сама маладая з Федзькам прыходзіла. Добрая дзяўчына, культурная такая, далікатная... Хадземце, кажа, а то як будзе ваш сын жаніцца, дык і мы да яго на вяселле не прыдзем. Што было рабіць? Пайшла. Бага-а-тае вяселле было! А колькі гасцей запрасілі... Сам старшыня калгаса за свата быў. Пятро і цяпер ніяк не нахваліцца нявесткай. Ёсць, кажа, у мяне пяць нявестак, а толькі Федзьку лепш за ўсіх пашанцавала.

Федзька — мой стрыечны брат. Я слухаю маці, і мне смешна: успа-



мінаецца Федзька-школьнік, нязграбны, тоўсты, з недаверлівым, панурым позіркам. «Мядзведзь!» — дражнілі яго дзяўчаты, і ён на іх за гэта не крыўдзіўся. А цяпер Федзька жанаты чалавек, ветфельчар калгаса!

— Ну, а ў Івана Цыганка ўжо сын нарадзіўся...

Яшчэ доўга расказвае маці пра маіх равеснікаў, якія пажаніліся, у якіх ужо ёсць дзеці. Потым раптам сумна ўздыхае, глядзіць на мяне, і я лаўлю ў яе вачах нямое пытанне... Я разумею, пра што яна хоча спытаць. Разумею, чаму яна ўстае з канапы і зноў кажа:

— Старэю я, сынок. Не ведаю, колькі і жыцця таго засталося. Ох, нешта спіна мая разбалелася... А трэба яшчэ да Сямёніхі схадзіць — сіта ў яе брала. Можа б ты аднёс, сынок? А то ж Марыйку сваю яна таксама ў дарогу збірае... Аднясі, сынок, зрабі ласку.

— Добра, мама, аднясу.

Я хутка накідваю на плечы свой кажушок. Мне зразумела матчына маленькая хітрасць. Ведаю, падабаецца ёй шустрая Марыйка, суседчына дачка. А мне? Гэтага я і сам яшчэ не магу сказаць...

— Дык я пайшоў, мама!

— Ідзі, ідзі, сынок!

Дамоў я вяртаюся позна. Маці ўжо спіць на цёплай ляжанцы. Я кладуся ў ложак, але яшчэ доўга не магу заснуць. Мы былі з Марыйкай у кіно. Потым хадзілі па заснежаных вуліцах вёскі, успаміналі школу, гаварылі пра сваю работу. Падаў рэдкі снег. Пушыстыя сняжынкі садзіліся на рукі, на твар. Марыйка лавіла іх і смяялася. Мне хацелася хадзіць так бясконца доўга, заглядваць у чорныя пад заснежанымі вейкамі Марыйчыны вочы.

Калі развітваліся ля яе хаты, я ледзь не шэптам спытаў:

— Будзеш адказваць на мае лісты, Марыйка? Я першы напішу...

Яна нічога не адказала...

Назаўтра я прачынаюся рана. У няшчыльна завешаныя вокны пранікае святло. За перагародкай, у кухні, асцярожна тупае маці, чуецца ціхая гаворка. Па голасу пазнаю суседку.

— Спіць яшчэ твой? — весела гаворыць яна.— І мая толькі паднялася... Дамоў жа а першай гадзіне прышла!.. Пытаюся, дзе была так позна? У дарогу, кажу, табе раніцою, а ты гуляеш усю ноч... У кіно, кажа, была, а сама адвярнулася і ўсміхаецца... А цяпер усё расказала: з тваім гуляла.



— Ды ну?— чую я радасны і нейкі здзіўлены шэпт маці, нібы яна і ў думках ніколі не дапускала гэтага.

На момант у хаце настае цішыня. Чутно толькі, як трашчаць дровы ў печы ды сквірчыць на скавародзе сала. Потым Сямёніха зноў пачынае нешта расказваць маці, але так ціха, што я не магу разабраць яе слоў.

— Ой, што ж гэта мы з табой, суседачка, разгаварыліся, — раптам чуецца яе спалоханы голас. — На аўтобус нашы спазніцца могуць! Пабягу збіраць хутчэй Марыйку. Ды і ты свайго будзі — час!

Праз гадзіну мы з Марыйкай выходзім за вёску. Ісці да шашы, дзе спыняецца аўтобус, з кіламетр. Сняжок, што выпаў за ноч, пераліваецца рознакаляровымі іскрынкамі. Прыжмурыўшыся, я яшчэ раз азіраюся назад і бачу каля крайняй хаты дзве постаці. Гэта — цётка Сямёніха і мая маці.

Вадзім ЗЫБЛЕЎ

# ЗНОЎ ВЯСНА



Зноў вясна рассунула завалы,
Размятала снежныя клубкі;
Ручаёў з іх столькі насукала,
Што нідзе не пройдзеш напрамкі.

Назакол расчынены ўсе шлюзы,—
Крыгалом даносіцца з ракі.
А на бальшаках па самы кузаў
У гразі сядзяць грузавікі.

Хоць вясне й не хочацца пярэчыць,
Але ў сэрцы столькі ўжо надзей,
Што сама міжволі ў гэты вечар
Песня вырываецца з грудзей.

Васіль ТУРКЕВІЧ

## ШУМЕЛІ СОСНЫ



Закрылі сонца хмары,
Віхрыўся сівер злосны—
Па ворагах ударыць
Тады прасілі сосны.

Як грозна партызаны
Ішлі змярканнем росным
На ворагаў паганых,
Іх скрозь віталі сосны.

Запомніў назаўсёды:
Як восень ткала кросны,
Ішлі палкі з Усходу
Пад спеў палескіх соснаў.

Пра мірныя паходы,
Пра нашы зімы, вёсны
Спяваць будуць заўсёды
Майго Палесся сосны.



Эдуард ВАЛАСЕВІЧ

# ПА ЗАКЛІКУ СЭРЦА

**Драматычны эцюд**

Дзеючыя асобы:

Света — выпускніца дзесяцігодкі.
Любка — муляр.
Ева — былая калгасніца.
Пятрок — брыгадзір маладзёжнай брыгады муляраў.
Дзяніс Архіпавіч — былы муляр, вартаўнік.

Будаўнічая пляцоўка. У глыбіні яе — дом у рыштаваннях. Паяўляюцца Ева і Света з насілкамі.

Света *(у роспачы)*. Я не магу больш. Сэрца так стукае, так стукае... Здаецца, вось-вось разарвецца. Хоць крышку давай адпачнем. *(Выцірае рукавом пот з ілба.)*

Ева *(незадаволена)*. Ізноў праз цябе нічога не зраблю. Няма сілы — дык чаго ішла на будоўлю? З цэглай — гэта табе не з лялькамі каля мамчынай спадніцы скакаць! То ж мне напарніцу далі... Паненачка... У туфельках з'явілася. Сукеначка крэпдэшын. Ха-ха!.. Што табе тут — вечарынка?

Света. І да чаго ж ты буркатлівая, Ева... Чэпішся і чэпішся. Што я табе дрэннае зрабіла?

Е в а. А тое, што ішла б ты лепш працаваць у якую-небудзь кантору, паперкі з месца на месца перакладваць. Гэта толькі тваімі далікатнымі пальчыкамі і рабіць. Ці не іграеш ты на скрыпцы яшчэ?

С в е т а. Іграю, толькі не на скрыпцы, а на піяніна.

Е в а. Во-во... Якраз у канторы за машыністку падышла б. Перабірала б клавішы, як на тым піяніна. Што, не хочаш?

С в е т а. Я не магу больш... Не магу кожны дзень такія кпіны зносіць. Ева, якая ты злосная!.. За што? *(Хавае рукамі твар і адварочваецца.)*

Е в а. Злосная і мо' некультурная? Так? О, я не канчала дзесяці класаў, я проста з калгаса, па вярбоўцы, я шукала лёгкага хлеба, доўгага рубля... Думала, што тут гарадскія дарма грошы грабуць, а толькі мы, вясковыя, пуп ірвем, але ўбачыла, што ў горадзе таксама рабіць трэба. І як яшчэ рабіць! Вось адбуду свой тэрмін па дагавору і — дахаты.

С в е т а. А я па камсамольскай пуцёўцы прыехала на гэту будоўлю. Калі б я хацела стаць канторскім работнікам — знайшла б месца і ў райцэнтры, не ехала б у Мінск.

Е в а. Значыцца, я на заробкі, а ты за славай? Эх ты! *(Выцягвае з кішэні камбінезона вялікі кавалак хлеба і сала.)* Ідзі сюды. На, еш. Сілы прыбавіцца.

С в е т а. Не хачу. То лаеш, то шкадуеш...

Е в а. Глядзі ты, пакрыўдзілася... Тут часам і не гэта можна пачуць. Прывыкай, даражэнькая! Еш, кажу. Чуеш? І не злуюся я. Шкада мне цябе. Надта кволенькая ты. Мабыць, ніколі не працавала, і раптам — цягаць цэглу... Я — іншая справа. Прызвычаілася з маленства.

С в е т а. І я прызвычаюся. Раз парашыла — не адступлюся.

Е в а. Вось гэта мне да спадобы. Ну, хадзі сюды. Давай мірыцца. Ну-ну!.. Давай абдымемся. *(Света падыходзіць. Абдымаюцца.)* Вось і добра. Ах, да чаго ж ты прыгожая! Як ластаўка. Аж зайздрасць бярэ. А калі і злуюся я на цябе, дык з-за Петрака. Раўную. Як прышла ты да нас, ён зусім не тым стаў.

С в е т а. Глупства якое...

*(З'яўляецца Пятрок.)*

П я т р о к. Во, бач ты на іх! Дзякуй богу, здружыліся. Ну, доўга вы будзеце мілавацца? А хто цэглу стане падносіць? Я?

Е в а. Не падарваўся б. Не вялікі начальнік. Падумаеш, брыгадзір! Пэр-сона! Не дасць дух перавесці... Што я, машына? Машыне і то трэба заправіцца, а мы ж людзі.

П я т р о к. Ну, забарабаніла! Так і сыпле...

Е в а. А ты не «нукай», не запрог... Не бачыш, дзяўчына стамілася. Вось перакусім і зноў закруцімся.

П я т р о к. Зноў будзеш шумець, што мала зарабіла...

Е в а. Не твой клопат. Калі трэба, і пашумлю. Зразумеў?

С в е т а. Я адпачнула. Пойдзем, Ева.

Е в а. Ты, ластаўка, не бойся гэтага яфрэйтара. Прывык у арміі горла драць...

П я т р о к. Ну, і язык у цябе, Ева... Як брытва. Ды я і ў арміі яшчэ не служыў.

Е в а. Яно і відаць. Там бы цябе навучылі, як з дзяўчатамі абыходзіцца.

П я т р о к. Што ты сёння разышлася. З левай нагі ўстала? Ці мо' цыбулі аб'елася, га, Ева? *(Да Светы.)* А ты, калі што якое,— да мяне звяртайся — памагу. Вазьму, так сказаць, шэфства над табой.



С в е т а. Дзякую. Добра.

Е в а. Мы і без тваёй апекі абыйдземся. *(Да Светы.)* А ты таксама «цаца». *(Перадражнівае.)* «Дзякую», «добра». За што дзякуеш? За тое, што такі брыгадзір, не хоча нас вучыць на муляраў?..

*(У гэты час раздаюцца ўдары ў рэйку.)*

П я т р о к. Вось і канец работы. Дагаварыліся, сарокі...

*(Паяўляецца Дзяніс Архіпавіч.)*

Д з я н і с А р х і п а в і ч. Здаровечка, дачушкі! Здаровечка, Пятрок! У цябе няма запалак? Кончыліся мае, ліха на іх!

П я т р о к. Няма. Не куру, дык і запалак не нашу.

Д з я н і с А р х і п а в і ч. І правільна, сынку, робіш. Атрута... Цяжкая хвароба гэта, як яго, нікацін. Ды і жыццё зараз не такое, каб курыць або піць. А вось мы ў твае гады, сынок, і пілі і курылі. Не з раскошы, а з бяды, з нястачы. Вып'еш, і забываеш на час сваё гора. Есці захочаш — закурыш, глядзіш і перабіў апетыт. Вось я цяпер піць не п'ю, а курыць не магу кінуць. Бо гадоў пяцьдзесят куру...

Е в а. Дзяніс Архіпавіч, нешта вы сёння рана прышлі на вахту? Вам жа к ночы трэба.

Д з я н і с А р х і п а в і ч. Э, галубка, не сядзіцца ў хаце. Прывык за свой век быць увесь час сярод людзей і цягне да іх, не пераношу адзіноты... Чаго, здаецца, табе трэба? Пашана — ёсць! Пенсія — добрая! Свой дом — ёсць! Адпачывай сабе на здароўе. Дык не! Самота не дае спакою. Вось прыду сюды, падыхаю знаёмым паветрам ад сасновых дошак, гліны і фарбы гэтай і нібы цудоўныя лекі прыму. А яшчэ больш адыходзіць душа, калі перакінуся словам вось з такімі козамі, як вы...

С в е т а і Е в а *(наперабой)*. А вы часцей заходзьце да нас. Мо' мулярамі нас зробіце...

П я т р о к. Ідэя! Ай, дзяўчаткі, малайцы! Дайце я вас пацалую. *(Накіроўваецца да Светы.)*

Е в а. Ну-ну!.. Апячэшся...

П я т р о к *(адступіўшыся)*. Ідэя, Дзяніс Архіпавіч! На камсамольскім сходзе мы паставім пытанне, каб стварыць курсы муляраў. Вы ў нас будзеце за выкладчыка. Згодны?

Д з я н і с А р х і п а в і ч. Вось такіх коз вучыць? А як жа!

*(Паяўляецца Любка.)*

Л ю б к а. А вось і я. Прымаеце ў сваю кампанію? *(Вітаецца з усімі за руку.)*

Е в а. А-а! Знатная суперніца!..

С в е т а *(ціха)*. Добры дзень. *(Падае руку.)*

П я т р о к. Любачка. Як дарэчы. Як ты мне патрэбна... *(папраўляецца.)* нам... мы... Ну, ведаеш...

Е в а. Любка, ты яму заўсёды дарэчы, але я не пагляджу, што ты знатны муляр і сакратар камсамольскага бюро. Петрака не ўступлю... Чуеш?!.

Л ю б к а *(жартаўліва)*. А гэта хто яшчэ перацягне. *(Да Петрака.)* Каго ты любіш?

П я т р о к. Ева, кінь свае бязглуздыя жарты...

Е в а. Вось як?! *(Спявае)*.

Меня не любишь, но люблю я.
Так берегись любви моей!

Усе *(захоплена)*. Брава! Біс! Бач, які голас! Вось дзе талент! І адкуль гэта ў цябе?

Ева. А вы думалі, што я з калгаса, дык і голасу няма? Я ў самадзейнасці прымала ўдзел...

Света. А я раіла б табе — на вакальнае аддзяленне.

Пятрок. Так, так. У цябе, Ева, надзвычайны голас. Табе ў артыстклі трэба.

Ева. Ха-ха! Голас... у артыстклі... А я хачу быць будаўніцай. Я хачу вучыцца, стаць тэхнікам.

Любка. І ўсё? А Пятрок?

Ева. А Пятрок ад мяне нікуды не дзенецца. Ці не так?

Пятрок. Там будзе бачна...

Света *(спачатку нясмела, а потым задорна і натхнёна)*. А я хачу стаць мантажніцай-верхалазам. Звярваць каркасы высотных будынкаў, эстакады... Мяне так і цягне сіняе неба і... і... і далёкія зоркі... Здаецца, вырастаюць крылы... *(Збянтэжыўшыся.)* Вось і ўсё.

Ева. Эх ты, ластаўка! Сапраўды ластаўка!

Пятрок. Люба, мы тут гаварылі з Дзянісам Архіпавічам пра курсы муляраў. Ён згадзіўся...

Люба. Пайшлі, дарогай пагаворым, а заўтра абмяркуем на сходзе.

Ева і Света. Да пабачэння, Люба!

Ева. Пятрок, глядзі дужа не хініся да сакратара, а то падам заяву на бюро...

Пятрок *(смяецца)*. Ой, Ева, бяда з табой!

*(Усе выходзяць. Застаецца адзін Дзяніс Архіпавіч.)*

Дзяніс Архіпавіч *(хвіліну сядзіць моўчкі, потым уздыхае)*. Эх, шкада, што стары! А так хочацца памарыць, як гэтая ластаўка Света, якую цягне вышыня і сіняе неба. Памарыць, як гэтая задзірыстая і ўпэўненая ў сваёй сіле, прамая і душэўная Ева. Не, Дзяніс, рана ты пайшоў у вартаўнікі і сумуеш начамі, а днём не знаходзіш месца. Трэба жыць. А жыць, значыць, штосьці рабіць карыснае людзям. Сіл няма? Але ёсць вопыт, ёсць уменне. Вось і аддай гэта моцным і смелым юнакам і дзяўчатам, якія будуюць гарады, электрастанцыі, ствараюць будучыню свету!

Заслона.

Марк СМАГАРОВІЧ

# САВЕЦКІ ЧАЛАВЕК



Для мірных мэт спатрэбім атам
У наш дваццаты грозны век!
Для ўсіх на свеце стане братам
Савецкі просты чалавек.
Ён хутка здзейсніць мару гэту,
Бо дасягнуў таго ў жыцці,
Што ўжо на іншую планету
З візітам дружбы паляціць.
Калі хто з нашае планеты
Спытае:—Ты куды, Іван?..
Адказ пачуецца з ракеты:
— У госці я да марсіян!



# ЗАЎСЁДЫ З ПАРТЫЯЙ, З НАРОДАМ

Малазямелле рана выправіла Ілью Гурскага з вёскі Замосце на Уздзеншчыне спачатку да пана ў пастухі, а потым — у далёкі Петраград. Тут пятнаццацігадовы падлетак прыладзіўся ў булачнай, а праз год яму ўдалося паступіць на Абухаўскі завод.

Вядомы сваімі рэвалюцыйна-вызваленчымі справамі рабочы калектыў абухаўцаў з'явіўся тым «універсітэтам», дзе Ілья Гурскі атрымаў першую навуку жыцця. Ён працаваў качагарам, потым памочнікам машыніста на пад'ёмным кране і, нарэшце, машыністам. У гушчы піцерскага пралетарыята, які пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў рыхтаваў у той час узброенае паўстанне супраць царскага самадзяржаўя, сталеў характар будучага пісьменніка. Знайшлася справа і для беларускага юнака — расклеіць лістоўкі, склікаць камуністаў на патаемны сход, даставіць зброю... Так у практычных справах гартаваліся сілы, мужнела воля, крышталізавалася рэвалюцыйная свядомасць сялянскага хлопца, які ў векапомныя кастрычніцкія дні выходзіў на прасторы новага жыцця.

У чэрвені 1919 года Ілья Данілавіч Гурскі ўступіў у шэрагі Камуністычнай партыі, і вось ужо сорак гадоў ён крочыць разам з ёй, прымаючы самы чынны ўдзел у яе вялікіх і малых справах — спачатку чырвонаармейцам на франтах грамадзянскай вайны, потым студэнтам рабфака, універсітэта і інстытута аспірантуры пры Беларускай акадэміі навук, пасля ў Наркамасвеце адным з арганізатараў будаўніцтва беларускай сацыялістычнай культуры, рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва», байцом франтавога і партызанскага друку ў гады Вялікай Айчыннай вайны і, нарэшце, вось ужо пятнаццаць гадоў галоўным рэдактарам часопіса «Беларусь».

Пачатак літаратурнай творчасці Ільі Данілавіча Гурскага прыпадае на дваццатыя гады: у 1928 годзе была надрукавана яго п'еса «Новай дарогай». Сучаснікі першай пяцігодкі добра памятаюць п'есу «Качагары», у якой І. Гурскі стварыў хвалюючыя вобразы ўдарнікаў сацыялістычнага будаўніцтва. Велізарны жыццёвы вопыт — невычэрпная крыніца, з якой пісьменніцкі талент Ільі Данілавіча



бярэ надзённыя тэмы. Кожны твор — п'есы, апавяданні, раманы—з'яўляецца адлюстраваннем жывых спраў народа, на верным шляху служэння якому пісьменнік знаходзіцца з першых дзён сваёй творчай дзейнасці.

Высокім палітычным запалам вызначаюцца творы І. Гурскага, у якіх ён заўсёды адгукаецца мастацкім словам на самыя хвалюючыя пытанні грамадскага жыцця. Героі яго шматлікіх апавяданняў, сабраных у кнігах «Зары насустрач», «Неспакойныя характары», «У вялікай дарозе», — нашы сучаснікі, змагары за свабоду і незалежнасць Савецкай Радзімы, сціплыя працаўнікі горада і вёскі. Асаблівую папулярнасць сярод чытачоў мае яго раман «У агні» — шырокае палатно аб бяспрыкладным па свайму гераізму подзвігу беларускага народа ў змаганні з фашысцкімі прыблудамі.

Ужо не аднойчы звяртаўся пісьменнік да тэмы рэвалюцыі, да адлюстравання вобраза яе вялікага правадыра У. І. Леніна. У апавяданні «Перад бурай», якое стала хрэстаматыйным, І. Гурскаму ўдалося паказаць правадыра рэвалюцыі «самым чалавечным» на зямлі чалавекам.

Даўно выношваў пісьменнік-камуніст Ілья Гурскі задуму ўзнавіць мастацкімі сродкамі тыя векапомныя дні, калі ў полымі рэвалюцыі нараджалася сацыялістычная дзяржаўнасць беларускага народа. Свой слаўны юбілей пісьменнік сустрэў завяршэннем работы над раманам «Мір хацінам»—першай кнігай задуманага ім шырокага палатна. Гэты твор апублікаваны ў часопісе «Полымя».

Калі мы завіталі ў рабочы кабінет да Ільі Данілавіча, пісьменнік працаваў над матэрыяламі для наступных кніг, але ахвотна падзяліўся сваімі творчымі планамі.

— Пісьменнікаў многіх пакаленняў, — сказаў ён, — заўсёды хвалявалі і будуць хваляваць грандыёзныя падзеі 1917 года. У мяне яны асабліва жывыя ў памяці, вось чаму я і ўзяўся за здзяйсненне гэтай вялікаснай тэмы. Сапраўдныя падзеі і факты, пачынаючы ад лютаўскай рэвалюцыі ў Петраградзе і на Заходнім фронце і да Кастрычніцкіх дзён 1917 года, да абвяшчэння Беларускай ССР у 1919 годзе, пакладзены ў аснову майго рамана, які я мяркую напісаць у трох кнігах. Першая кніга «Мір хацінам» ужо напісана, другую — «Улада Саветам» і трэцюю — «Барацьбой народжаныя» мяркую закончыць у бліжэйшы час.

У нястомнай творчай працы, у актыўнай грамадскай дзейнасці (жыхары беларускай сталіцы тройчы раз выбралі пісьменніка ў Мінскі гарадскі Савет дэпутатаў працоўных) сустракае Ілья Данілавіч Гурскі сваё шасцідзесяцігоддзе, якое спаўняецца 27 красавіка. Хай жа да тых шматлікіх віншаванняў, якія атрымае пісьменнік у светлы дзень свайго нараджэння, далучацца самыя шчырыя пажаданні яму ад чытачоў «Маладосці» доўгіх год жыцця і плённай творчай працы на карысць свайго народа.



**Цылій ЛАЧАЎ**

# СЕЛЬСКІ АНЁЛ

**Апавяданне**

Мал. Б. Аракчэева.

Іёска Беларэцкі, сельскі каменацёс, працаваў недалёка ад могільніка, пад цяністым дрэвам. Перад ім ледзь не па калені ў траве стаяў высокі белы анёл са складзенымі крыламі, з узнятай у неба рукой.

Майстар Іёска, бацька шматлікага патомства, маўкліва і з гонарам пакручваў у руках долата: гэты анёл быў яму заказаны самім мясцовым свяшчэннікам, айцом Ізідарам.

У тую нядзелю, пасля ранішняга багаслужэння, падабраўшы крыссё рызы, на могільнік заявіўся і сам айцец — танклявы, згорблены. Майстар Іёска яшчэ здаля з пашанай паздароўкаўся з ім, выцер рукою лоб і прапыхкаў:

— Цёпла, ойча.

— Цёпла, — згадзіўся айцец Ізідар і, перш чым сесці, правёў пальцам па лаўцы.

Дацвітала вясна. Вецер даносіў ад лугоў мядовы пах. Паміж старымі, спарахнелымі крыжамі паблісквала рэчка. Астраўкі быццам плылі ў марыве ранішняй спёкі.



Айцец Ізідар сеў на лаўку, а Іёска стаў, бы дзяцел, дзяўбсці долатам. Камень быў белы і мяккі, як авечы сыр. Айцец агледзеў анёла і, уздыхнуўшы, уявіў у думках рымскія храмы і статуі... Якія анёлы ёсць там, мадонна! Бялейшыя за месяц. Дарэмна Іёска стараецца і любоўна дакранаецца да статуі, быццам бы ў ёй б'ецца сэрца. Дарэмна пацее і лезе са скуры... Айцец Ізідар адчуваў незадаволенасць. Анёл нагадваў Іёскаву маладзіцу, калі яна гандлюе на рынку... Урэшце свяшчэннік не стрываў:

— У яго твары нешта ёсць... — ласкава пачаў ён.

— Нічога такога ў яго твары няма, — дзелавіта адказаў Іёска і абцёр рукі. Яны былі ў белым пыле, бы ў млынара. Айцец Ізідар змаўчаў, але падумаў: «Бач ты яго, мужык мужыком! Дзе ён бачыў тых анёлаў... Ды і ногі ў гэтага, як у дзеўкі, што бульбу капае. Мужычка з крыллямі — вось што атрымалася па яго ласцы...»

Айцец дастаў свой ружанец, адхінуўся назад і заплюшчыў вочы. Перад ім паплылі залатыя кругі, у вушах глуха зашумела... Гэта вясна загушкала яго, утапіла ў сваіх зялёных хвалях. Цяжкая стома скавала яго сухое цела, і нярадасныя думкі накіраваліся па свайму пратаптанаму шляху. Вось ужо некалькі дзён сельскія вулачкі, дамы і платы былі аблеплены свежымі плакатамі. Яны заклікалі сялян паспяшацца з акучваннем і полівам, сіласаваннем і сенакашэннем. На набажэнствы, на літургіі і малітвы, вядома, у іх няма часу. І толькі адзін анёл, які ўзнімаў руку ў неба, быццам напамінаў тым, хто забыў пра бога, што ніхто не вечны на гэтай зямлі... Выставіць гэтага анёла ля ўваходу ў царкву, ён будзе адказам айца Ізідара на грозныя і нахабныя плакаты, якія нават трапілі і на царкоўныя вароты.

— Ойча, — пачуў ён голас і стрыманы кашаль Іёскі, — у мяне ёсць адно пытанне да вас.

Айцец Ізідар уздрыгнуў.

— Гавары!

Іёска высмаркаўся, дастаў табакерку і дрыжачымі пальцамі скруціў цыгарку. Па яго збянтэжанаму твару, па косых, вострых позірках, якія ён кідаў раз-по-раз, айцец Ізідар зразумеў, што каменацёса нешта трывожыць.

— Тут, ойча, на добры лад, дрэнная работа, — прамармытаў Іёска.— Людзі смяюцца. Вунь наша Селвінка вырасла, нявестай стала... Усміхнулася ёй шчасце... добры хлопец...

Каменацёс спыніўся, перавёў дух.

— Чый жа гэта хлопец? — насцярожыўся айцец Ізідар, а яго пальцы пачалі неспакойна перабіраць ружанец.

Іёска, нізкі і каржакаваты, абапёрся на анёла, быццам хочучы набрацца ад яго сілы.

— Выдатны хлопец, ойча... Хрыстакі, сын перасяленца. Ведаеш яго — аўчаром ён у кааператыве.

Вочы айца Ізідара заблішчэлі, твар стаў васкова-бледным, на ілбе ўспухлі вены і пачалі кратацца, як жывыя. Бы агністы віхор, яго ахапіла злосць. Ён узняў сваю прышчаватую руку, паклаў яе на вялікую лысую галаву каменацёса і, усведамляючы, што з'яўляецца прадстаўніком бога, спытаў нізкім, хрыплым голасам:

— Ці ведаеш ты, нягоднік, што азначае такая жаніцьба? Адлучэнне ад святой царквы і вечны агонь, у якім будзеш гарэць ты і ўвесь твой род.

— Што вы, ойча, — спалохана прыжмурыўся каменацёс. — Які ж з гэтага толк? Я супраць, не па душы мне ўсё гэта. Хіба можа сапраўдная дзяўчына звязацца з такім басяком... Але вось — згаварыліся. Працавіты ён хлопец, ойча. Зноў жа, абое — маладыя людзі. Не пытаюцца.

— На тое я і існую ў гэтым сяле, — абурыўся айцец, — каб мяне пыталіся. Не згодзен я на такі шлюб. Не буду я яго бласлаўляць. А жаніцьба без благаслаўлення — гэта справа д'ябла... Скажы Селвінцы: маўляў, бацька даў цвёрдае слова, што ты прыдзеш і пакаешся.

Іёска цяжка апусціўся на камень і бездапаможна азірнуўся навокал. Высечаны анёл хітра прыслухоўваўся, быццам бы збіраўся вось-вось махнуць крылламі і ўзляцець, каб затым расказаць усім пра пачутае. Айцец Ізідар адвёў позірк ад яго шырокага, сялянскага твару і літасціва падаў Іёску сваю дзясніцу. Каменацёс крануўся вуснамі яго двух пальцаў з хваляваннем і адчаем, як багамолец, якому дазволілі дастуліцца да святых мошчаў... Айцец Ізідар строга глянуў на Іёску і прамовіў:

— Не радніся з д'яблам, Іосіфе! Дапусцішся да гэтага — мор нападзе на тваіх авечак, маланка спаліць дом твой... Падумай!

Айцец Ізідар закрочыў па беразе рэчкі задумёны і ўстрывожаны. Па спіне яго бегалі дрыжыкі, нязведаны да гэтага страх ахапіў касцістай рукой яго сэрца. Аб гэтым яшчэ даведаюцца, святая дзева, аб гэтым яшчэ ў горадзе пачуюць. Яшчэ пачуюць і прыдуць у жах: як жа ты, божы пасланнік, пасеш статак свой? Кожная авечка дарага небу, а блудная — тым больш. Пойдзеш па каменнях цераз пустыні, крывёю акропіш свой шлях, але яе вернеш. Сцеражы яе, не дай ваўкам адлучыць яе ад стада. А Хрыстакі былі ваўкамі, гэта айцец добра ведаў. Яны прыехалі два гады таму назад з Дэліярмана, высокія людзі ў футравых шапках і кажухах. Гаварылі горда, ва ўсё ўмешваліся, працавалі адзін за пяцярых — і людзі паступова пачалі да іх прыглядацца... Стары паставіў дом пасярэдзіне сяла і глыбока, бы стогадовы дуб, пусціў карэнні. Асталяваліся — і пачалі пускаць едкія прымаўкі па адрасу айца. А людзі з грэшнымі душамі смяяліся потым яму ў вочы... Цяпер сын яго квапіцца на Селвіну, самую лепшую і прыгожую дзяўчыну, якая і ў царкву ходзіць, і царкоўныя вінаграднікі даглядае... Не, не будзе так, не будзе-е...

Айцец Ізідар уявіў сабе Селвіну — кругленькую і смуглявую, як ягадка бузіны. Даўно ён прыкмеціў яе пакорлівасць і паслухмянасць сярод іншых дзяўчат. Да таго ж, ён марыў убачыць яе паслушніцай манастыра: у Іёскі было шасцёра дзяцей, яшчэ павінен быў бы яму дзякаваць і рукі цалаваць. І раптам такая навіна! Яна яго кінула ў пот, раззлавала, абудзіла ў ім затоеныя сілы. Не, ён не ануча, каб вышла не па-ягонаму.

Чорным віхрам уляцеў айцец Ізідар у маленькае памяшканне, якое тулілася за царкоўнай сцяной. У кухні, ля вялізнай печы, сядзеў дзяк Лаўрэнка. Ён неахвотна падняўся. Твар у яго быў сумны і задумлівы. Лаўрэнка галадаў, бо айцец трымаў пад замком усе прадукты, да крошкі. Са двара адзываліся ягняты, і іх тонкае бляянне нажом пранізвала дзякаў пусты страўнік. Калісьці багамольцы ішлі ў царкву дружна, як на сход, з адтапыранымі торбамі і поўнымі плеценымі бутэлькамі, а цяпер і косткі не падкінуць. Вось пра былую веліч гэтай прыгожай і багатай царквы і шкадаваў дзяк, седзячы ля халоднай печкі.

Айцец Ізідар сеў на краі драўлянай лаўкі, скрыжаваў рукі і зморшчыў лоб. Лаўрэнка вылупіў вочы: тое, што айцец Ізідар сядзеў у маленькай куханьцы, бы прасіцель, і не ўзнімаў галавы, сведчыла аб тым, што нешта здарылася...



— Лаўрэнка, — схіліўся айцец, — ці ведаеш ты Селвінку, дачку каменацёса?

— Ведаю, ойча, чаму ж не ведаю, — адказаў Лаўрэнка. — Відная дзяўчына, сумленная, не прапускае ніводнага багаслужэння.

— Аб гэтым я цябе не пытаю, — зморшчыўся айцец Ізідар. — Настаў добра вушы ды слухай. Калісьці Селвіна была ў горадзе на нейкіх курсах. (Іншага не мог нічога прыдумаць, паганец!) Так гэта ці не, а па сялу папаўзлі розныя плёткі: мела нейкага хлопца, была ў іх справа...

Лаўрэнка ўзняў галаву і раскрыў рот. Не чуў нешта такога! Як жанчына, прыслухоўваўся ён да людскіх плётак, але аб Селвінцы нічога не чуў...

— Так было, так!— настойваў айцец Ізідар і праніклівым позіркам глядзеў на яго. Лаўрэнка вымушаны быў успомніць.

— Помню, а як жа!— са злосцю ўсклікнуў ён і сплюнуў.— Такія справы вадзіліся за ёю, бессаромнай... Уф, вось хітрая гадзіна!

Айцец Ізідар махнуў незадаволена рукой і перапыніў яго мармытанне. Ён глянуў на Лаўрэнку і пачаў гаварыць ціха і павучальна:

— Справа ў тым, што гэтая Селвінка ў наступную нядзелю выходзіць замуж за Хрыстакі, сына таго бязбожніка, перасяленца.

— Ну, — абыякава адгукнуўся Лаўрэнка. Ён чакаў больш страшнай навіны (няхай жэняцца, няхай плодзяцца — хіба не дзеля гэтага існуюць айцец і дзяк!). Але бачачы, што айцец сочыць за ім вострым позіркам, Лаўрэнка зрабіў выгляд, што вельмі здзівіўся.

— Ой-ёй-ей! Бач ты нявернага! Хоча абысціся без яго прападобія, больш таго: жэрці і піць без божага благаслаўлення...

Лаўрэнка падаўся ўперад. Ён уявіў сабе доўгую вясельную бяседу, нават чуў звон шклянак. Усюды ляжаць караваі — высокія, упрыгожаныя півонямі. Дзякавы вочы сквапна заблішчэлі, быццам у яго адабралі нешта самае мілае...

— Не можа быць!..— усклікнуў Лаўрэнка, поўны шчырага гневу.

— Слухай! — перапыніў яго айцец Ізідар. — Дарога на ферму ідзе міма царквы, так?

— Ідзе! — вытрашчыў у адказ вочы Лаўрэнка.

— Так. Заўтра раніцай схаваешся ля варот і будзеш чакаць гэтага воўка Хрыстакі. Убачыш яго — кліч мяне.

Пасля той размовы Лаўрэнка кожную раніцу каравуліў, сморкаючыся, кашляючы, мокнучы пад ранішнім дажджом. Аднойчы ён прагрукаў па лесвіцы і пастукаў у дзверы:

— Прыбывае, ойча...

— Хто? — усхапіўся айцец, расхрыстаны і ўскудлачаны. — Ці не Хрыстакі?

— Не Хрыстакі, ойча. Анёл. Вязуць яго на фурманцы.

Анёла ўстанавілі ля царкоўных варот, а Лаўрэнка працягваў каравуліць, схаваўшыся за яго вялікімі каменнымі крылламі... Толькі на пяты дзень ён заўважыў магутную каржакаватую постаць аўчара. Хрыстакі крочыў спакойна, перакінуўшы цераз плячо кажух, шырока расставіўшы локці. Лаўрэнкава сэрца гнеўна забілася: бач ты, крочыць, быццам усё сяло, жывёла, дамы — усё гэта яго... Дзяк прыгорбіўся і шмыгнуў у прачыненыя царкоўныя вароты.



Крыху пазней адтуль паважна выйшаў айцец Ізідар. Далоні яго рук былі схаваны ў доўгіх рукавах рызы.

— Гэй, малады чалавек, — паклікаў ён далікатна.

Хрыстакі павярнуўся, азірнуўся навокал, але больш нікога на вуліцы не было. Ён нерашуча затупаў на месцы. Сухарлявы і змрочны айцец Ізідар у прыцемку здаваўся яму поснікам, які адпраўляецца на той свет. Хрыстакі недаверліва прыблізіўся.

— Я хачу сказаць табе нешта, сыне мой, — ласкава прамовіў свяшчэннік. — Зайдзі на хвілінку.

Аўчар замахаў галавой:

— Няма часу, ойча. Другім разам... Цяпер авечкі чакаюць.

— Не! — уладарна, бы чараўнік, узмахнуў рукой айцец Ізідар. — Другім разам ужо будзе позна...

Хрыстакі азірнуўся, шукаючы кагось вачыма, але вулічка таяла ў сіняватым змроку. Бы ў сне, ён пераступіў праз падваротню і пайшоў наперад па гразкай сцяжынцы. Айцец Ізідар крочыў ззаду.

— Сюды! — і яны павярнулі да маленькай царкоўнай прыбудовы.

Айцец Ізідар адчыніў дзверы павольна і ўрачыста, быццам яны вялі да алтара. Яны зайшлі ў пусты пакойчык і селі на крэслы з высокімі і цвёрдымі спінкамі. На сценах віселі пучкі сухіх васількоў. Айцец Ізідар моўчкі агледзеў аўчара і ледзь схаваў сваю нянавісць. Хрыстакі сядзеў, расставіўшы ногі, весела ссунуўшы набакір сваю футравую шапку, быццам ён быў у хляве, а не ў божым храме. Ад яго так і пыхала здароўем і пахам сырнай закваскі. У яго былі адпушчаны маленькія вусікі, а светлыя валасы кучараваліся, як у баранчыка. І як баранчык, пазіраў ён знізу ўверх, напорыста... Айцец Ізідар адвёў вочы ад яго прыгожага, валявога твару і прыкінуў у галаве: не кіне яго Селвінка, не кіне. І ў пекла пойдзе за ім...

Высока над іх галовамі загудзелі званы, слязьмі закапалі ўніз гучныя зыкі. Хрыстакі занепакоіўся.

— Пачакай, — спыніў яго айцец Ізідар. — На сяле гавораць, што ты жэнішся... Ці праўда гэта, сынок?

Аўчар не адмаўляў, ён толькі пачаў азірацца, быццам трапіўшы ў пастку. Айцец Ізідар глыбока ўздыхнуў і паківаў галавой: навошта ж хаваць ад яго свае думкі...



— Я табе дабра жадаю, — мядовым голасам працягваў ён і ласкава нахіліўся да яго, — і таму падрыхтаваў табе невялічкі падарунак, паколькі ты бярэш нашу дзяўчыну...

Ён узняў рызу і палез у глыбокую кішэню. Адтуль дастаў кашалёк з чырвонай скуры і паклаў яго на стол. Хрыстакі пацёр свае потныя далоні і сарамліва, адным пальцам, дакрануўся да яго...

— Бяры, бяры, — падбадзёрыў яго айцец Ізідар і скрывіў вусны ў прагнай усмешцы: — Гэта яшчэ не ўсё... Калі вы павянчаецеся ў нашай царкве, як гэта і належыць, дык яшчэ падарунак атрымаеш. Глядзіце там, пагаварыце з Селвінкай. Скажы ёй: так айцец хоча.

Хрыстакі не адказваў, не ўзнімаў вачэй. Потым адхапіў руку ад кашалька, як ад гарачага вугалю. Айцец Ізідар сядзеў спакойна, перабіраў ружанец і з-пад апушчаных павек уважліва назіраў за аўчаром.

— Значыць, жэнішся? — працягваў дабрадушна ён. — Добра гэта, сыне, нават вельмі добра... Няхай святая дзева ахоўвае дом ваш... А як вы думаеце правесці гэтую справу?

— Аніяк! Як усе, — паціснуў плячыма Хрыстакі. — Распішамся ў Савеце і ўсё... без выдаткаў...

— Так, без выдаткаў, — прамовіў свяшчэннік, — і без нябеснага благаслаўлення, напэўна...

— Эх! — Хрыстакі схаваў усмешку і абыякава махнуў рукой. — Добрая воля і згода, напэўна, больш варты, чым благаслаўленне.

Айцец Ізідар так сціснуў далоні, што аж пальцы пачалі пахрустваць: пераконвай яго, святая дзева, калі галава ў таго цвёрдая, як скала. Айцец сядзеў знямелы і ашаломлены, а па спіне яго забегалі агідныя мурашкі...

— Твая гэта справа, — сказаў ён пасля кароткага маўчання. — Калі чалавек сам лезе ў бяду, ніхто не можа яму памагчы. Я пра іншае хачу табе сказаць... Ты ведаеш, якую дзяўчыну бярэш: ці добрая яна, ці сумленная, ці можа гэта надгрызенае яблыка?..

Хрыстакі ўздрыгнуў і першы раз паглядзеў айцу Ізідару проста ў вочы. Вусны яго пабялелі і звіліся ў крывой здзіўленай усмешцы... Айцец Ізідар апамятаўся і смела працягваў:

— Неба загадала мне расказаць табе пра некаторыя справы, сыне мой.—Айцец насупіў бровы: цяжка і прыкра было яму паганіць язык.— Людскі погалас — як бурлівая рака, сыне мой, ніхто не можа яго спыніць. Гавораць на сяле, Селвінка не была бездакорнай... Жыла з нейкім у горадзе, але той яе пакінуў... Цяпер усе яе шкадуюць... Язык, кажуць, такая ж магутная сіла, як буралом.

Айцец Ізідар дакорліва, як бацька, глянуў на Хрыстакі. Аўчар засунуў пальцы за каўнер сваёй кашулі, быццам нешта яго душыла...

— Не было такога, ойча, — прамармытаў ён.

— Было, было, сыне... Цябе яшчэ не было ў сяле.

— Не, ойча, — настойліва і ўпэўнена паўтарыў аўчар, а лоб яго заблішчэў ад поту, — ніхто не кранаў маёй нявесты.

— Што я табе ілгу, сыне?..— развёў рукамі айцец Ізідар. Цяпер ён супыняў радаснае, моцнае біццё свайго сэрца: вось, на! На табе вяселле, на табе сельсавет! — Я дзеля твайго дабра...

Хрыстакі ўстаў і, як сляпы, тыцнуўся ў стол.

— Пачакай! — пераможна вымавіў айцец Ізідар. — Вазьмі сабе кашалёк... Вазьмі яго, ён твой... Няхай будзе на памяць ад мяне.

Хрыстакі павярнуўся і коса, быццам на дзядовую шышку, што прычапілася да кажуха, глянуў на айца. Вочы яго гарэлі, барада трэслася, бы ў ліхаманцы.

— Слухай, ойча, — працадзіў ён, а рукі яго ўсё сціскаліся ў кулакі, — я яшчэ разбяруся ў гэтай справе, і калі ты схлусіў — незайздросны твой лёс.

Свяшчэннік глянуў на жалезныя рукі аўчара — і асеў. Яму здавалася, што яны ўжо душаць яго за горла. Хрыстакі вылецеў, як віхор, і пасля гэтага насцеж адчыненыя дзверы яшчэ доўга хадзілі на завесах. Айцец Ізідар застаўся адзін, ногі яго дрыжалі і не слухаліся. Урэшце, ён супакоіўся і, згорбіўшыся, паклыпаў дамоў. Спыніўся перад каменным анёлам і размашыста перахрысціўся.

Праз два дні, калі спякотна паліла сонца, айцец Ізідар прачнуўся ад рэзкіх гукаў кларнета. Ён здзіўлена і недаверліва прыслухаўся, усхапіўся як быў, у бялізне, і высунуў галаву праз акно. Шумлівая, пярэстая чарада якраз мінала царкоўныя вароты. Іскрыліся маністы на жаночых шыях, полымем развявалася над іх галовамі чырвонае пер'е. Скрыпелі вазы, засланыя стракатымі дыванамі. Клыпалі мулы, упрыгожаныя, бы дзяўчаты, што спяваюць песні перад вербнай нядзеляй. Вяселле! Айцец Ізідар уздрыгнуў і прыжмурыў вочы, асляплены гэтым яркім шэсцем, аглушаны бубнамі і меднымі трубамі. Ён перагнуўся праз падаконнік і ўбачыў асветленага ўсмешкай, ва ўпрыгожанай кветкамі футравай шапцы маладога. Побач з ім ішла нявеста — круглатварая, са стройнай фігурай і высокімі грудзьмі. Толькі цяпер Хрыстакі ўзняў позірк, убачыў айца і пагразіў яму здаровым, як гарбуз, кулаком. Айцец Ізідар адхінуўся ад акна, бледны, пачарнелы, быццам у яго пярун ударыў. Ён абяссілена прыхіліўся да рамы і толькі цяпер прыкмеціў Лаўрэнку. Дзяк бег з подскакам ззаду, сярод дзяцей, узняўшы крыссё сваёй падранай рызы... Яго выгляд працверазіў айца, разагнаў страх і раз'ятрыў... Дрыжачымі рукамі ён нацягнуў рызу і па-хатняму, расхрыстаны, выбег на двор. Прабег яго і рэзка, бы чалавек, які душыцца, крыкнуў ад варот:

— Лаўрэнка! Вяртайся ў гэтую ж хвіліну, бязбожнік...

Яму адказаў глухі тупат ды дробны смех бубнаў.

Ахоплены шаленствам і нянавісцю, айцец Ізідар азірнуўся навокал. Непадалёку, цвёрда апіраючыся на здаравенныя ногі, на яго моўчкі глядзеў каменны анёл. Яго твар, белы і круглы, як вясковы праснак, расплываўся ў хітрай і самазадаволенай усмешцы, быццам ён сам падстроіў усю гэтую гісторыю... Айцец Ізідар нахіліўся да зямлі, намацаў камень і запусціў яго ў твар анёла.



Потым, стомлены і абяссілены, накіраваўся ў царкву.

*Пераклаў з балгарскай мовы*
*Адам МАЛЬДЗІС.*



Пісьменнік Сцяпан Александровіч закончыў працу над кнігай «Незабыўнымі сцежкамі», у якую ўвайшлі апавяданні пра дзяцінства і юнацтва П. Багрыма, Цёткі, Я. Купалы, а таксама нарысы пра мясціны, звязаныя з жыццём і творчасцю В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, М. Багдановіча, Я. Коласа і польскага паэта А. Міцкевіча. Кніга выходзіць сёлета ў Вучэбна-педагагічным выдавецтве БССР.

Ніжэй мы друкуем раздзел з гэтай кнігі.

**Сцяпан АЛЕКСАНДРОВІЧ**

# ПЕРАД ВЯЛІКАЙ ДАРОГАЙ

Мал. І. Рамаnоўскага.

Удзень капала са стрэх, у зацішку зусім па-веснавому прыгравала сонца, пачыналі спяваць першыя жаўрукі. Праўда, уночы мароз яшчэ трымаўся, часам нават церушыў сняжок, але неяк увачавідкі аселі і пачарнелі гурбы, неба стала вышэйшым, і ў паветры запахла вясною.

Вось такою парою прадвесня на хутары ў Вязынцы з'явіўся Дамінік Луцэвіч.

Было гэта якраз у нядзелю надвячоркам. Браты Дамініка Міхал і Юльян толькі вярнуліся з Радашковіч. Санная дарога трымалася апошнія дні, і яны ездзілі на кірмаш купіць тое-сёе на дамашні абыхо-

дак. Раскідаецца дарога, тады ні ў санях, ні ў калёсах нікуды не дабярэшся.

Міхал тупаў ля саней, дастаючы з каша пакункі і гасцінцы дзецям, а Юльян распрагаў каня, калі раптоўна на панадворак уз'ехаў размаляваны панскі вазок, запрэжаны парай стаеннікаў. Гэта быў Дамінік, які служыў дзесьці каля Ракава ў пана Здзяхоўскага. Ён лёгка саскочыў з вазка, накінуў лейцы на шула, прывітаўся з братамі.

— Што ж гэта, чалавеча, цябе не відаць? — запытаў Міхал.

— Дый што казаць: жанаты, нібы да кала прыпяты, — уставіў слова Юльян.

— Не ў гэтым справа, — усміхнуўся Дамінік і пагладзіў рыжаватую бародку.— Служба не пускае. Наняўся — лічы — прадаўся. Вось надаела пану ў Ракаве гуляць у карты, загадаў прывезці яго ў Дуброву. Тут, кажуць, завадовыя карцёжнікі збіраюцца. Ну, завёз яго, а сам адпрасіўся да вас заглянуць.

— Ну, дык пайшлі ў хату. Пагрэемся з дарогі.

За сталом гаворка пайшла весялей. Падышлі яшчэ два браты — Адам з Антосем. Сабраліся жанкі. Іх найбольш цікавіла, як там Бянігда — Дамінікава жонка — маецца. Кожная жартам набівалася ў кумы.

Звычайна гаваркі і вясёлы, Дамінік на гэты раз нават і пасля пачастунку заставаўся сур'ёзным і заклапочаным. Міхал адразу заўважыў гэта і, паклаўшы руку на плячо госцю, сказаў:

— Выкладай, браце, з чым прыехаў... Ад мяне не схаваеш...

Дамінік памаўчаў, падумаў, паглядзеў на жанок, якія заняліся сваёю гаворкаю, і прамовіў:

— Прыехаў я не проста ў отведы... Хачу прасіцца ў ваш хаўрус, у запашнікі... * Пан Здзяхоўскі прадае свой маёнтак Памотчына, дык трэба шукаць нейкага прыстанку...

— Што ж, пераязджай, — адказаў старэйшы брат. — Неяк ужо разам будзем гараваць.

— Толькі папярэджваю адразу, — звярнуўся Дамінік да братоў. — Конь у мяне ёсць, рукі таксама, а насення няма. Увосень з мае дзелі адлічыце...

Так Дамінік Луцэвіч трапіў у Вязынку. Пасяліўся ён у хаце, што стаяла ля ракі, перавёз свой небагаты набытак і пачаў працаваць разам з братамі.

На наступны год 7 ліпеня 1882 года ў сям'і нарадзіўся сын, якога назвалі Янкам.

Працаваць на «запашках» было нясоладка. Акрамя таго, Дамінік адчуваў сябе няёмка перад братамі. Тыя падзялілі ўраджай памяркоўна, але Адамава жонка — крыклівая Зося — аднойчы ў сварцы кінула ў вочы Бянігдзе:

— Прыехалі, галадранцы, на наш хлеб!

Дайшло гэта да Дамініка. Некалькі дзён ён хадзіў пануры, а пасля паехаў на агледзіны ў Юзэфава — маёнтак пана Францішка Багдановіча, якому патрэбен быў аканом.

Юзэфава — была мясціна глухая, на палавіне дарогі з Лагойска ў Смалявічы. Зямля там пясчаная, людзі жылі бедна, але Луцэвіч згадзіўся на службу. Дзе дзенешся? Усё ж такі нейкі свой кавалак хлеба.

* Запашкі — від арэнды, калі арандатар аддаваў пану за зямлю і насенне палову сабранага ўраджаю.



Пан Францішак Багдановіч меў два маёнткі — Юзэфава і Косіна, а таксама вялікі бровар. Гаспадаркай ён цікавіўся мала, жыў у Мінску і бываў у маёнтках толькі наездам. Здаралася гэта часцей улетку, калі пачыналіся сенакос і жніво.

Гаспадарка ў Юзэфаве была запушчана, будынкі не дагледжаны. Работы Дамініку Луцэвічу хапала па горла. З раніцы да вечара тупаў ён па маёнтку, наводзячы лад і парадак.

Позна ўвечары прыходзіў ён дамоў, садзіўся на ўслончык, браў на рукі сына.

— Што гэта ты, Дамінік, так спрыяеш пану? — пытала жонка. — Дня табе мала.

— Не так спрыяю, як сумленна хлеб зарабляю, — адказваў Дамінік і звяртаўся да сына: — Падрастай, Ясю, будзеш памагаць бацьку.

Вясной, як адсеяліся, у Юзэфава заглянуў пан Багдановіч.

К таму часу ён ужо згалеў, спіўся і хадзіў у памятым капелюшы і старым шэрым касцюме ў клетку.

Агледзеўшы гаспадарку, пан застаўся задаволены.

— Ну, Дамінік, хвалю за парадак... Даўно ў Юзэфаве не было добрай гаспадарскай рукі... Прыдзецца цябе забраць у Косіна.

Неўзабаве сапраўды прышлося Луцэвічам пераязджаць у косінскі двор. Было гэта восенню 1876 года.

Янка падрастаў, дапамагаў маці калыхаць малую Ганначку.

У Косіне яму было весялей, чым у Юзэфаве. Часам бацька браў яго з сабою, калі ішоў на бровар. Хлопчык з цікавасцю разглядаў вялікія чаны і кадушкі, спалохана туліўся да бацькі, калі яны заходзілі ў качагарку, дзе замурзаныя ў сажу людзі падкідалі дровы ў вогненную зяпу.

Аднойчы бацька сказаў:

— Як ты глядзіш, Бянігда, можа пара нашаму Ясю за навуку брацца?

— Ды яно чаму ж? Няхай бы вучыўся, але дзе настаўніка возьмеш? Хіба дарэктара * якога...

— У мяне на прыкмеце ёсць адзін хлапчына. Ты павінна ведаць сына Патаповіча, што канторшчыкам у двары. Ён вучыцца ў Вільні, у польскай гімназіі, а цяпер будзе ўсё лета дома. Трэба папрасіць яго, няхай пазаймаецца з нашым Ясем...

Назаўтра бацька прывёз кнігі, а яшчэ праз пару дзён Янка сядзеў над польскім букваром. Навука ішла тугавата, бо Янка не разумеў значэння многіх польскіх слоў. Людвік Патаповіч, які вучыў хлопчыка польскай грамаце, смяяўся з Янкі, а гэта зусім адбівала ахвоту да навукі.

— Хадзем пагуляем у пікара, — казаў Янка.

— Пайшлі, — ахвотна згаджаўся Людвік, якому таксама не сядзелася ў хаце.

Падганяць да навукі не было вельмі каму: бацька быў у полі, а маці палола грады. І хлопцы забывалі пра кнігу.

З Косіна выехалі на досвітку.

Яшчэ з вечара на хутарок, дзе жыў Дамінік Луцэвіч з сям'ёю, сабраліся фурманкі. Прыехалі сваякі з Рубяжэвіч, Вязынкі і Гайны. У пустой хаце, дзе ўсё было падрыхтавана да ад'езду, стала неяк нязвыкла людна і шумна.

* Дарэктар — вандроўны настаўнік, часцей за ўсё падлетак, які скончыў пачатковую школу і вучыў вясковых дзяцей грамаце.



За вячэрай дзядзька Гіляры ўпікнуў гаспадара:

— Што гэта ты, браце Дамінік, неяк не можаш аседзецца на адным месцы. Сюдэма-тудэма павернешся, ды зноў паехаў, як той цыган. Трэба пільнавацца і трымацца нечага аднаго. Часам можа і падладзіцца да пана. Думаеш, у Сенніцы табе манна нагатавана?

— Не, падладжвацца я не ўмею, — адказаў Дамінік. — А шчасце шукаў і шукаць буду. Не знайду я, сын мой знойдзе....

...Ехалі ў Сенніцу цэлы дзень. Дамінік Луцэвіч быў на пярэднім возе. Час-ад-часу ён спыняўся, прапускаў астатнія падводы, глядзеў, каб не развязаўся дзе пастронак, не зваліласа атоса.

За Астрашыцкім Гарадком насунуліся хмары, і перагонамі налятаў дождж. Маці ўкрыла дзяцей коўдрай, і яны хутка заснулі, закалыханыя дарогай. Толькі Янка пазіраў навокал. Пералескі змяняліся палеткамі іржышча і зелянінай азіміны. Часам траплялі вазы балаголаў *, што везлі нешта ў мяхах і скрынях у Лагойск, Плешчаніцы, Даўгінава.

* Балаголы — людзі, якія займаліся перавозкай грузу.



Ужо вечарэла, калі пад'ехалі да Мінска. Але Янка, зmoраны дарогай, заснуў.

Прачнуўся ён толькі тады, калі прыехалі ў Сенніцу і бабка Кацярына ўзяла яго на рукі і ўнесла ў хату.

— А калі ж той Мінск? — запытаў хлопчык.

— Праехалі ўжо, унучак.

Хата іхняя стаяла блізка ад дарогі, што вяла са Слуцка ў Мінск. Дзень і ноч тарахцелі сялянскія падводы, шляхецкія брычкі і панскія фаэтоны.

Янка цэлымі днямі гуляў на вуліцы, а калі раздажджылася, сядзеў у акне і назіраў за дарогай, якая заўсёды была поўна руху. Раніцай і ўпоўдзень ён бачыў, як у школу і са школы ішлі хлапчукі з кнігамі.

— Мама, калі ж я пайду ў школу? — запытаў аднойчы Янка ў маці, якая ўходжвалася каля печы.

— Пойдзеш, сынку! Вось толькі крыху абжывемся на новым месцы.

Пакуль бацькі абжываліся і асталёўваліся ў Сенніцы, Янка ў чаканні, калі прыдзе час ісці ў школу, перачытваў старыя польскія кнігі. Асабліва любіў чытаць ён каляндар, у якім былі казкі, загадкі, каляровыя малюнкі. Гэты каляндар хлопчык перагортваў некалькі разоў ад пачатку да канца. Толькі на адвароце першай старонкі ён не мог прачытаць двух слоў. Прыйшлося звярнуцца за дапамогай да бабкі Кацярыны.

Бабка начапіла старыя акуляры з ніткамі замест аглобелек, узяла кнігу ў рукі:

— Гэта, мой саколік, па-руску напісана: «Дозволено цензурой». Ну, давай будзем вучыцца. Першая літара «дэ», другую ты ведаеш, гэта «о», а далей «зэ»...

— А што гэта значыць «цэнзурай»? — зацікавіўся Янка.

— Бог яго ведае, што, — адказала бабка Кацярына. — Мусіць, начальнік нейкі... Давай хіба я табе ўсе літары па-руску і па-польску напішу, а ты вывучы іх...

Назаўтра Янка ўжо мог чытаць па-руску паасобныя словы, якія пісала бабка Кацярына на грыфельнай дошцы. За гэтым заняткам застала іх суседка Даміцэля Ланеўская, якая прыйшла да Луцэвічаў з кудзеляй на попрадкі.

— Скоч, мой Ясік, да нас, — сказала суседка. — Няхай Піліпка пашукае сваю кнігу, па якой летась вучыўся. Яна, здаецца, за камінком ляжыць, дзе тытунь сохне.

Гэта была нейкая старая чытанка без пачатку і канца. За яе старанна і засеў хлопчык.

Бачачы цягу сына да навукі, Дамінік Луцэвіч аднойчы сустрэў настаўніцу Сонцаву — шчупленькую дзяўчынку, што не так даўно прыехала ў Сенніцу, і пачаў прасіць:

— Дарагая панечка, як гэта запісаць у школу майго Яську?

— Якая я панечка? Называйце Алімпіяда Васільеўна. А колькі год вашаму сыну?

— Восьмы пайшоў...

— Пазнавата ў гэтым годзе, — сказала, падумаўшы, настаўніца. — Мае навічкі ўжо чытаюць...

— А Ясь таксама чытаць умее,— прамовіў Луцэвіч і дадаў:— Увесь дзень седзьма сядзіць над кнігай, усё чытае...

— Ну, калі так, то няхай пасля «каляд» прыходзіць.

— Вялікае дзякуй вам, Алімпіяда Васільеўна,— пакланіўся Луцэвіч.

У вялікім цемнаватым пакоі на сцяне вісела аблезлая дошка, у два рады стаялі парты, а збоку — нязграбная печ. Тут змяшчалася каля васьмідзесяці вучняў. Наперадзе сядзелі першакі, а на апошніх партах — дзябёлыя дзецюкі.

Навічка Івана Луцэвіча, які тыдні два таму назад прышоў у школу, настаўніца пасадзіла на першай парце, каля свайго стала. Няхай будзе на відавоку, можна хутчэй даведацца, якая патрэбна яму дапамога. Алімпіядзе Васільеўне падабаўся гэты жвавы хлопчык, які разумнымі вачанятамі пазіраў на дошку, лавіў кожнае слова тлумачэння.

Сонцава паглядзела на дзяцей, выбіраючы, каго выклікаць да дошкі. «Навічок не рашаў яшчэ задачкі», — падумала яна і сказала:

— А цяпер пойдзе рашыць задачу Ваня Луцэвіч.

Хлопчык крыху хваляваўся. Як-ні-як усе тут незнаёмыя, падымуць на смех, калі што не так, сорамна будзе і перад настаўніцай. Але задача была простая, і Янка рашыў яе хутка.

— Малайчына, Ваня, — сказала настаўніца. — Вось толькі з пісьмом трэба падцягнуцца...

На другім уроку Алімпіяда Васільеўна дала першаму класу заданне напісаць старонку, а са старэйшымі пачала чытаць паэму Някрасава «Чыгунка». Спачатку настаўніца расказала пра жыццё паэта, а потым нараспеў, з нейкай асабліва задушэўнай інтанацыяй пачала чытаць паэму.

Янка прыслухаўся і непрыкметна для самога сябе паклаў ручку. Алімпіяда Васільеўна чытала:

Труд этот, Ваня, был страшно громаден —
Не по плечу одному!
В мире есть царь: этот царь беспощаден,
Голод названье ему.

— Гэта пра цябе, Ваня? — штурхануў пад бок сусед па парце.

У класе стала ціха, нават чуваць было, як у некага скрыпела пяро. А настаўніца працягвала:

Видишь, стоит, измождён лихорадкою,
Высокорослый больной белорус:
Губы бескровные, веки упавшие,
Язвы на тощих руках,
Вечно в воде по колено стоявшие
Ноги опухли; колтун в волосах;
Ямою грудь, что на заступ старательно
Изо дня в день налегала весь век...
Ты приглядись к нему, Ваня, внимательно:
Трудно свой хлеб добывал человек!

Не ўсё зразумела было Янку ў гэтым творы, але словы паэта дайшлі да яго сэрца.

Калі хлопчык вяртаўся дамоў са школы, ён сустрэў нейкага згорбленага старога, які, абапіраючыся на кіёк, ішоў з мяшэчкам за плячыма. У яго вачах, ва ўсім выразе твару было столькі смутку і гора, што Янку само сабою прышлі словы:

Ты приглядись к нему, Ваня, внимательно:
Трудно свой хлеб добывал человек!

Сырое голле ядлоўцу разгаралася паволі. Спачатку белаваты дымок падняўся ўгару, памалу сталі патрэскваць шыпулькі.



Янка стаў на каленкі і пачаў дзьмухаць туды, дзе прабіваўся кволы агеньчык. Бліснуў язычок полымя і весела пабег па галінках. Тады з трэскам загарэўся ядловец, шуганула зыркае вогнішча, разганяючы цемру, і пакрысе сталі вырысоўвацца сілуэты дрэў, якія, здавалася, шчыльным кругам абступілі палянку.

Неўзабаве да вогнішча падышоў Пясляк — рухавы высокі мужчына гадоў пад трыццаць пяць — і палажыў аброць.

— О, малайчына, Ясь! — сказаў ён і прысеў на разасланую світку.— Аганёк у цябе ўдаўся на славу, самы раз сала пячы...

— А мы зараз, дзядзька, і будзем пячы, — прамовіў Янка, дастаючы торбачку з харчамі.

Прайшло пяць гадоў з таго часу, як хлопчык хадзіў у Сенніцкую школу. За гэты час ён падрос і многае пабачыў сваімі вачыма...

Сям'я Луцэвічаў за гэтыя гады пабывала ў новых мясцінах. Пасля Сенніцы бацька быў фурманам у Мінску. Жылі яны тады недалёка ад Ніжняга рынку, каля моста цераз Свіслач. Янка запомніў толькі гразкія вулачкі з безліччу крам і крамак, людскую мітусню ў нядзелю і святочныя дні.

Бацька часта прыходзіў хмуры і нездаволены, садзіўся ля стала і курыў цыгарку за цыгаркай. Маці ведала, што ён сёння не зарабіў сваёй працай нават на корм каню, і суцяшала:

— Нічога, Дамінік, не падай духам!

— Не, Бянігда, — адказаў аднойчы бацька. — Не магу я ў горадзе жыць... Гэта не жыццё, калі не ведаеш, што табе дзень прынясе... Іншая справа — на гаспадарцы. Там нейкі пэўняк ёсць...

— Дык трэба апытваць месца прыдатнае, — прамовіла маці, гатовая да пераезду.

У хуткім часе Луцэвічы пераехалі ў фальварак Прудзішча — уласнасць пані Жаброўскай. Бацька з вялікім стараннем узяўся за працу, не было яму спакою ні днём, ні ноччу. Але справы ішлі так, што хваліцца не было вельмі чым. Зямля ў Прудзішчах была пясчаная, камяністая, ураджай малы, ладзіць з паняй было цяжка. Сям'я расла, але рабочых рук было мала.

Таму аднойчы ў іхняй хаце з'явіўся новы чалавек, які стаў першым памочнікам бацькі і лепшым сябрам Янкі.

Здарылася гэта так.

Заехаў аднойчы ў Прудзішча да Луцэвічаў Пранцысь Стацкевіч. Стацкевіч паглядзеў на сямейку гаспадара, патупаў на панадворку і сказаў Дамініку Луцэвічу:

— Табе, Дамінік, трэба памочнік... Ёсць у мяне на прыкмеце добры чалавек. Пясляк яго прозвішча. Ён працавіты, майстар на ўсе рукі. Праўда, крыху дзівак, любіць музыку, песні, расказвае казкі і мала дбае пра сябе... Вазьмі яго! Каяцца не будзеш.. Ён у нас, у Аўгустове, ад хаты да хаты ходзіць... Я скажу яму, няхай прыедзе з табой пагаварыць...

Пясляк адразу з галавою ўвайшоў у гаспадарку, а вольны час забаўляўся з дзецьмі. У яго быў невычэрпны запас розных песень, казак, гульняў. Не дзіва, што дзеці хутка палюбілі яго, асабліва Янка. Хлопчык не адставаў ад Песляка ні на крок: хадзіў за ім на поле, у лес, напрошваўся разам ездзіць на начлег. Бацька спачатку не згаджаўся, а пасля махнуў рукой: няхай хлопец прывыкае да гаспадаркі...

...Спечанае на ражэнчыку сала намнога смачнейшае, чым смажанае на скавародзе. Так, звычайна, гаворыць Пясляк.

Янка сёння перакanaўся ў гэтым. Скрылёк сала, які падгарэў з краёчкаў, а каля ражэнчыка быў сыры, прыемна духмяніў смажанінай, дымком.

Пасля вячэры Янка звярнуўся да Песляка:

— Дзядзька, а дзядзька, раскажыце тую казку, што ўчора абяцалі.

— Казку? — перапытаў Пясляк і задумаўся.

Цёплая летняя ноч стаяла над соннай зямлёй. Ціха патрэсквалі галінкі, недзе за балотам крычаў драч, працяглая песня даносілася з Прудзішчаў.

— Што ж, слухай,— прамовіў Пясляк, пазіраючы кудысьці далёка-далёка. — Гэта будзе казка пра папараць-кветку і людское шчасце... Жыў-быў у адной вёсцы дзяцюк, якога, як і цябе, называлі Яська. Гэта быў хлопец цікаўны, усё хацеў сваімі вачыма пабачыць, усё пачуць, усё ведаць... Пачуў ён аднойчы, што ў купальскую ноч зацвітае кветка папараці, а хто яе сарве, той будзе мець усё, што пажадае. Захочаш самую найцудоўнейшую рэч — мігам з'явіцца перад табою. Яська задумаў: «Няхай невядома што станецца, а кветку папараці я знайду». З вялікім нецярпеннем чакаў ён тае ночы, калі ўсе высыпалі з вёскі паліць агонь, пускаць вянкі, спяваць песні. А Яська памыўся, адзеў чыстую кашулю, новыя лапці і, як толькі змеркла, шмыгануў у лес. Ведаў ён добра дарогу ў глыб лесу, але як толькі ступіў некалькі крокаў, ніяк не мог пазнаць знаёмых мясцін. Усё было нейкім страшэнна вычварным: камлі тоўстымі, пні велізарнымі, кусты густымі і калючымі. Нечые агністыя вочы пазіралі на яго з усіх бакоў. Але Яська смела ішоў наперад, мінаў калоды, якія ляжалі на дарозе, прабіраўся праз гушчар і балота. Раптам бачыць: вунь велізарны куст папараці, як стары дуб, а на адной яго галінцы свеціцца кветачка. Мае яна пяць залатых пялёстачак, а ў сярэдзіне бліскучае вочка. Закалацілася сэрца ў Яські ад радасці, працягнуў ён руку і ўжо хацеў схапіць кветку, як недзе заспяваў певень. Кветачка бліснула вочкам і — патухла. А ў Яські зашумела ў галаве, ногі падкасіліся, і ён зваліўся на зямлю... Праз год ізноў сабраўся смелы хлопец шукаць кветку папараці. На гэты раз лес выглядаў па-іншаму: дрэвы ў ім стаялі далёка адно ад аднаго, усюды пад ногі траплялі камені. Ішоўішоў ён доўга, нарэшце ўбачыў кветачку, але ізноў праспяваў певень, і ўсё прапала. «На трэці раз ты ад мяне не ўцячэш!»—рашуча крыкнуў Яська. Прайшоў год, і ён ізноў пабег у лес, у якім на гэты раз не было ніякіх цудаў. Доўга хадзіў ён па лесе, але папараць знікла. Хацеў ён ужо вярнуцца дамоў, ажно пад нагамі ўбачыў кветачку, якая мела пяць залатых пялёстачкаў, а ў сярэдзіне бліскучае вочка...

Пясляк змоўк.

Янка пазіраў на вогнішча, якое перагарэла і толькі тлела вуголлем. Ён падсунуў галавешкі, і аганёк зноў весела ўзняўся ўгору і асвяціў твар дзядзькі Песляка.

— ...Смелы хлапец працягнуў руку, сарваў кветку папараці. Чароўная кветка ўвачавідкі вырасла і так засвяціла, што Яська аж вочы прыжмурыў. У гэты час пачуўся голас: «Памятай, што шчасце толькі табе аднаму дадзена. Падзелішся з кім — усё страціш...» З вялікай радасці ў Яся закружылася галава, і ён не звярнуў асаблівай увагі на гэтыя словы: «Ат, абы мне добра было!»—падумаў ён і палажыў кветку за пазуху. Напяваючы песню, з шапкай набакір, вяртаўся Ясь дамоў. Выйшаў на



перАлесак, а там стаіць карэта, запрэжаная шасцёркай стаеннікаў. Глянуў на сябе і яшчэ больш здзівіўся: на ім было багатае адзенне. Не знаў хлапец, што рабіць, але тут пад'ехала карэта бліжэй, расчыніліся дзверцы, і прыслужнік падаў яму руку і пасадзіў на мяккае сядзенне. Мігам шасцёрка прымчала ў палац. Усё там было багатае і пышнае, толькі ніхто са знаёмых не трапляўся на вочы. Ясь добра пад'еў, пераспаў ноч і пайшоў аглядаць палац. У агародзе раслі прыгожыя кветкі, у скляпах было незлічонае багацце. Дзе не ішоў — усюды яму кланяліся прыслужнікі. Прайшоў некаторы час, і Ясю стала маркотна ў палацы. «Як жа там маці і бацька маюцца, што новае ў вёсцы?—падумаў ён.—Трэба было б якую жменю грошай паслаць бацькам, каб зямлі прыкупілі і каня лепшага». Але потым прышла іншая думка: «А чаму мне трэба пра іх клапаціцца? Няхай самі шукаюць кветку і сваё шчасце...» Часам сумна было яму і без працы: хацелася ўзяць касу ў рукі і выйсці на сенажаць. Хутка ўсе прысмакі надаелі, і Ясю захацелася блінцоў, бульбы ў мундзірах. Але больш за ўсё карцела пабачыць маці. Так прайшло некалькі гадоў, і аднойчы ён не вытрымаў і паехаў у сваю вёску. Коні ляцелі, як вецер, і Ясь не агледзеўся, як апынуўся каля свае хаты. Усё тут было такім, як некалі: гнілы жолаб каля студні, крывыя весніцы, старэнькая хата. Насустрач выйшла прыгорбленая жанчына і баязліва паглядала, не пазнаючы сына. «Мама! — крыкнуў ён. — Гэта я, ваш Яська». Старая паківала галавой і заплакала: «Дрэнныя жарты, ясны пане! Няма майго сыночка ў жывых! Хіба ж ён не ўспомніў бы пра нас, калі б жыў у такім дастатку, як вы?!» Задрыжэла сэрца ў Яся, апусціў ён вочы. Захацелася яму ўсыпаць маці ў фартух жменю грошай, але ўспомніў, што можа ўсё страціць. Таму не сказаў ён ні слова і хуткім крокам пайшоў назад і загадаў ехаць у лес. Але на сэрцы не было спакою. Словы маці гучалі ў яго вушах, як праклянце. Праз год ізноў паехаў Ясь у сваю вёску. На парозе хаты паказаўся малодшы брат. «Дзе маці?» — запытаў Ясь. «Хворая», — адказаў брат і заплакаў. «А бацька?». «Тыдзень, як пахавалі». Сэрца ў Яся разрывалася, ён хацеў даць золата, але глянуў на сваю карэту, і яго агарнуў страх страціць усё багацце. Прыехаў ён у свой палац, замкнуўся ў пакоі і заплакаў. Каб заглушыць боль сэрца, загадаў музыкам граць вясёлыя мелодыі, назаўтра ездзіў на паляванне, піў, гуляў, але нічога не дапамагала. Смутак душыў яго сэрца, у вачах стаялі словы маці. Не было яму спакою ні днём, ні ноччу. «Няма шчасця для чалавека, калі ён не можа падзяліцца ім з іншымі!» — прышоў да думкі Яська і, узяўшы многа грошай, паехаў ізноў у родную вёску. Падбег да дзвярэй, а яны колам падпёрты, глянуў у акно, а ў хаце пуста. Жабрак, які стаяў ля плота, сказаў Яську: «Каго вы шукаеце, ясны пане? Усе з гэтай хаты памерлі з голаду». «Я, я вінаваты ў іх смерці! — крыкнуў Яська і схапіўся за галаву. — Што я нарабіў?! Прападзі ты пропадам такое шчасце!» — Ледзь толькі прамовіў ён гэтыя словы, як бліснула маланка, ляснуў пярун, расступілася зямля, і не стала Яські...

Пясляк змоўк і стаў укладвацца спаць. А Янка сядзеў каля тлеючага вогнішча, і яму здавалася, што вось там, на ўзлеску, дзе расце папаратнік, зараз бліснe цудоўная кветка, што прынесла багацце і гора беднаму Яську...

— Ну, хлопча, будзем класціся,— прамовіў Пясляк.

Янка ўмасціўся побач і яшчэ доўга не мог заснуць...

А на ўсходзе палавела ўжо неба, і на яго фоне пачалі выступаць верхавінкі дрэў...

З Селішч, куды ў хуткім часе пераехала сям'я Луцэвічаў, лясной сцяжынкай можна было трапіць у маёнтак пана Сігізмунда Чаховіча — Малыя Бясяды. Трэба толькі перайсці хвойнік, мінуць балотца, і пакажацца старасвецкі парк з высокімі прысадамі ліп і клёнаў. Мажныя дрэвы з разгалістымі галінамі прыкрываюць ад дарогі панскі двор суцэльнай зелянінай, і відаць толькі фарбаваны дах палаца.

Янка любіў стаяць пад гэтымі дрэвамі і слухаць, як на ўсе галасы заліваюцца птушкі. Гузаватая і парэпаная кара ліп і клёнаў, відаць, была надзейным прытулкам для рознага птаства.

Паказаў сюды, у маёнтак, дарогу Янку бацька, які сустрэў аднойчы пана ў лесе. Стары Сігізмунд заблудзіўся ля самага двара і не мог выбрацца на дарогу. Асіплым голасам ён клікаў:

— Людцы, памажыце!

Дамінік Луцэвіч злез з воза і прыслухаўся. Недзе блізка шамацелі кусты, і зноў чуўся голас, які клікаў на паратунак. Прышлося прывязаць каня да хваіны і заглянуць у гушчар. Сівы дзядок, які, відаць, зусім выбіўся з сіл, не мог падняцца з пеньчука. Дамінік падсадзіў яго на воз і прывёз у двор. Калі пад'ехалі да палаца, стары замахаў рукамі і пачаў гаварыць:

— Не, толькі не сюды, дзе мая ведзьма жыве, а вунь туды, пад лістоўніцу.

Там, куды паказваў стары, відаць быў высокі драўляны будынак невыразнай архітэктуры.

Дамінік ужо здагадаўся, што нямоглы стары — гэта дзівак-пан, пра якога яму даводзілася чуць многа гаворак яшчэ ў Прудзішчы.

У маладосці пан Чаховіч прымаў удзел у паўстанні 1863 года, дваццаць гадоў адседзеў у Сібіры і хворым вярнуўся ў свой маёнтак. Жонка яго ўжо даўно прыбрала ўсю гаспадарку ў свае рукі, не лічылася са здароўем мужа. Стары памкнуўся быў знайсці ўправу на жонку ў Мінску, але яму сказалі, што яго месца не ў Бясядах, а там, адкуль ён вярнуўся. Хапіўся ён за дакументы, каб паказаць, што яго адпусцілі па царскай амністыі, а ў кашальку пуста. Жонка і тут навяла «парадак». Пасля гэтага, казалі людзі, Чаховіч перабраўся ў дом, дзе была бібліятэка, і жыў у адзіноце са сваімі кнігамі.

Луцэвіч дапамог старому злезці з воза і завёў яго ў пакой, дзе стаялі паліцы з кнігамі, стол з непрыбранымі аб'едкамі і мяккае зялёнае крэсла, якое, відаць, служыла гаспадару і за ложак.

— Дзякуй, вялікае дзякуй,— гаварыў стары.— Што вам даць за тое, што мяне з бяды выбавілі?

Бацька адказаў:

— Нічога, пане, не трэба! Вось толькі ў мяне сынок ёсць, вельмі ж любіць кнігі чытаць... Можа б вы далі яму што-небудзь пачытаць?

Стары падышоў да запыленай паліцы, узяў некалькі кніг і даў Луцэвічу:

— Прачытае гэтыя, няхай прыходзіць яшчэ...

Так адкрыліся перад Янкам дзверы ў бібліятэку Сігізмунда Чаховіча. Каб не трапіць на вочы пані, якая заўсёды сярдзіта пазірала на Янку, ён ішоў прысадамі, а пасля пералазіў цераз плот каля самай бібліятэкі. Стары з радасцю сустракаў хлопца і ківаў здзіўлена галавою:

— Такую таміну Крашэўскага за дзень прачытаў?



— Усе палеглі спаць, а я каля лучыны ледзь не да дня праседзеў, — адказваў Янка.

— Чытай, мой хлопчык... — пачынаў свае павучанні стары. — Кнігі многа даюць, яны вучаць, як трэба жыць на свеце. О, каб не кнігі, я даўно памёр бы. Толькі кнігамі і жыву, яны мне ўся ўцеха і радасць...

Стары паступова з размовы пра кнігі пераходзіў да ўспамінаў аб паўстанні 1863 года, сваім жыцці ў Сібіры, і перад Янкам адкрываўся новы, нязнаны свет, поўны дзіўных прыгод і здарэнняў.

— Эх, напісаць бы пра ўсё гэта, — часам уздыхаў стары. — Няхай бы пачыталі людзі, што пабачыў Сігізмунд Чаховіч...

— А чаму вы не напішаце? — пытаў Янка.

— Не, мой хлопчык, няма ўжо ў мяне сілы напісаць, дый памяць не тая...

Кнігі Янка чытаў запоем. Не было яму ўпынку ні днём, ні ноччу.

— Э, сынку, дрэнны з цябе выйдзе гаспадар, калі так любіш заглядаць у кнігу, — не раз уздыхаў бацька.

— Няхай чытае, — казала маці. — Можа лягчэйшы хлеб мецьме...

— Не лёгкі, а зусім не мецьме, — са злосцю гаварыў бывала бацька.

Восенню 1897 года Янку ўсё ж такі ўдалося ўгаварыць бацьку, каб дазволіў хадзіць у Бяларуцкую трохкласную школу.

— Што ж, ідзі, не адчэпішся ад цябе. Такія хлопцы, пане мой, у людзей памочнікі ўжо, а з цябе ніякага толку...

Калі ж Янка закончыў школу і асцярожна пачынаў размову аб далейшай навуцы, бацька і слухаць не хацеў.

— Хопіць тае навукі, аж залішне!.. Трэба за розум ужо брацца!

Хочаш не хочаш, а на Янку лажыўся ўвесь клопат па гаспадарцы, бо бацьку ўсё часцей і часцей нездаровілася. Кнігі ўлетку прыходзілася чытаць вечарам ці на начлезе, затое зімой было раздолле... Янка перачытаў не толькі Міцкевіча, Славацкага, Канапніцкую, Ажэшку, але і рускіх класікаў — Пушкіна, Лермантава, Някрасава, Кальцова...

Аднойчы Янка, выбіраючы кнігі ў бібліятэцы Чаховіча, натрапіў у падшыўцы польскага часопіса «Край» на скрутак пажоўклых маленькіх брашурак, якія былі перавязаны палінялай стужкай. Ён развязаў вузельчык, і ў вочы кінулася, што гэта замежныя выданні: кракаўскія, лонданскія, парыжскія... Нічога не кажучы старому пра знаходку, Янка некалькі вечароў праседзеў над гэтымі брашурамі, у якіх апісваліся падзеі 1863 года.

Сярод польскіх кніг была адна на беларускай мове. Мела яна дзіўную назву «Дзядзька Антон, або гутарка аб усім чыста, што баліць, а чаму баліць — не ведаем...» Чытаў Янка гэтую кнігу і яшчэ больш дзівіўся, столькі было тут цікавых рэчаў: «За грошы нашы цар п'ецъ, весяліцца, за нашы грошы жывуць паны і чыноўнікі, купцы багацеюць; за нашы грошы трымаюць з нашых братоў і сыноў войска, каб за наша дабро магчы біць нас і нашай кроўю абліваць. Ой, доля ж наша, доля цяжкая!.. Але вечна так не будзе, прыдзе час, народ наш абудзіцца, скіне з плеч гэтыя піяўкі, што нашу кроў ссуць, і зачнем жыць шчасліва».

Некалькі дзён хадзіў Янка пад уражаннем гэтай кнігі, якая многае адкрыла яму аб грамадскім ладзе і паказала, што на роднай мове можна пісаць пра жыццё мужыка...

Бацька занядужаў і некалькі тыдняў не ўставаў з ложка. Ён змяніўся з твару, неяк асунуўся, пастарэў, зусім страціў апетыт і толькі піў соду. Янка не раз заўважаў, як маці крадком выцірала слязу і цяжка ўздыхала. У хаце Луцэвіча стала неяк ціха і сумна.

Янка ўходжваўся адзін ля гаспадаркі. Карміў каня, кароў, рэзаў сечку, насіў ваду.

Аднойчы зранку, калі яшчэ ўся сямейка моўчкі сядзела за сталом, бацька сказаў:

— Бянігда, а дзе гэта наша кантычка, у якой напісана, калі хто радзіўся...

Маці ўстала з-за стала і пайшла ў святліцу, дзе за абразамі ляжала кніга ў скураным пераплёце. Падаючы кнігу Даметыку, яна сказала:

— Паглядзі добра, мне здаецца, што сёння ці заўтра наша Леакадзія імяніннiца...

— Імяніннік з'еў мякіннік! — штурхануў пад бок сястру Казік.

— Так, сёння Лёдзя імяніннiца,— прамовіў бацька.— Трэба, Бянігда, спячы што-небудзь і дзецям цукерак купіць...

— Што ж, няхай сама імяніннiца і сходзіць у краму, — сказала маці.

Пасля Янка пачуў, як бацька гаварыў маці:

— Эт, не скупіся, Бянігда! Няхай павесяляцца дзеці, і мне будзе весялей...

Пад вечар маці напякла салодкіх пернікаў, паставіла на стол вяндліну і паўкварты мёду. Сеў разам з усімі за стол і бацька.

— Эх, музыкі нехапае! — шкадаваў ён.

У хаце Луцэвічаў стала весела і шумна. Прышлі суседскія дзеці і прывялі скрыпача Антоніка, які яшчэ ў сенцах урэзаў полечку. Усе пусціліся танцаваць, толькі сама імяніннiца сядзела насупіўшыся, не ведаючы, што рабіць: весяліцца з усімі ці быць сур'ёзнай гаспадыняй. Янка пазіраў на збянтэжаную сястру, потым усміхнуўся і пайшоў у запечак, дзе гарэла газоўка. Бавіўся ён там доўга, і бацька запытаў:

— А дзе ж гэта Янка дзеўся?

— Я тут, тата! — адказаў сын.

У гэты час маці павяла Антоніка частаваць на кухню, а дзеці паселі каля печкі, дзе жвава патрэсквалі дровы. Янка выйшаў на сярэдзіну святліцы і голасна прамовіў:

— Зараз я прачытаю верш «Да панны Леакадзіі. Віншаванне».

У гэтым творы было жартаўлівае апісанне таго, як сястра хадзіла да крамніка, рыхтавалася пячы пернікі, а цяпер сядзіць і не весяліцца.

Леакадзія пачырванела, а пасля падбегла да брата і выхапіла лісток з вершам. Янка кінуўся за сястрою, але тая, не бачачы іншага ратунку, скамечыла лісток і кінула ў печ. Увачавідкі агонь схапіў паперу і... так загінуў першы верш Янкі Купалы, які быў напісаны на польскай мове.

Неўзабаве Янка напісаў і свой першы верш на беларускай мове. Здарылася гэта наступным чынам.

Праз тыдняў два ці тры пасля імянін сястры Янка сабраўся ў Мінск па лекі для хворага бацькі. У дарогу пусціўся ён пехатою. Маці і бацька настойвалі, каб Янка запрог каня, але ён не захацеў: магчыма прыдзецца забавіцца ў горадзе не на адзін дзень у пошуках лякарства, а сёння ў Мінску кірмаш, быць не можа — хто-небудзь падвязе.



Янка надзеў бацькавы боты і, закінуўшы торбачку за плечы, пайшоў напрасткі праз Бяларучы, той самай дарогай, якой некалі хадзіў у школу.

Прыгравала сонейка, і на дрэвах, што раслі на могілках каля вёскі Гаяны, крычалі гракі, а у паветры дзесьці ў вышыні заліваліся жаўрукі. Янка спыніўся і пачаў узірацца, каб убачыць птушачку, што так хораша пяяла песню вясне. «Ідзе вясна, а што будзе з бацькам?»— падумаў ён.

— Гэ-э-й! Сцеражыся! — пачуўся голас.

Янка азірнуўся. Ехаў іх сусед Сямён Бялькевіч з жонкай Агатай. Янка на хаду ўскочыў у сані.

— Куды гэта вы? — запытаў ён, умошчваючыся ля цёткі Агаты.

— Ды вось у Бяларучы на хрэсьбіны...

Пасля Бяларуч Янка выйшаў на стары гасцінец і паджгаў далей. Зрэдку яго абганялі фурманкі, але знаёмых не траплялася. Праўда, перад Астрашыцкім Гарадком яго абагнала карэта, запрэжаная тройкай гнядых. Наперадзе сядзеў барадаты фурман, а праз акенца пазіралі Чаховічавы пляменніцы — панна Альдона і Марыя, якіх ён не раз сустракаў у Бясядах. Яны махалі Янку рукамі, нешта крычалі, але той не стаў прасіць іх ласкі, каб падвезлі. Карэта панеслася далей і схавалася за ўзгоркам.

Прайшоў Янка яшчэ вёрст пяць і бачыць: фаэтон Чаховічавых пляменніц ляжыць на баку са зламанай аглобляю, а Альдона і Марыя стаяць у пакамечаных уборах і пацепваюць плечкамі ад холаду.

— Пайшлі пехатой! — гукнуў ім Янка. — Так пэўней будзе.

Пляменніцы нічога не адказалі.

Вярнуўшыся дамоў, Янка напісаў жартаўлівы верш пра тое, як дзве паненкі спяшаліся ў горад, а па дарозе іх напаткала няўдача...

У тым жа годзе ў сям'і Луцэвічаў здарылася вялікае няшчасце: вясною, калі ў поле выйшлі першыя аратыя, памёр бацька.

Увесь цяжар гаспадаркі лёг на плечы маладому Янку. Упершыню яму давялося самому разлічвацца з аканомам пана Высоцкага за арандаваную зямлю ў Селішчах, камбінаваць так, каб засталося збожжа на насенне і на харч жывёле і сёе-тое прадаць на абыходак. Прыходзілася па гаспадарчых справах часта бываць у Гайне, Лагойску. Вольнага часу было мала, але Янка знаходзіў хвілінку, каб пісаць вершы, якія самі прасіліся на паперу. Складаліся яны на хаду: у полі за плугам, у гумне за малацьбою, на возе, калі ён ехаў куды-небудзь на кірмаш. Маркотна і сумна было на сэрцы, таму і творы нараджаліся невясёлыя:

Хацеў бы вас, песні,
Зрачыся, пакінуць, —
Сілачкі ж мне мала,
Буду ўжо так гінуць.
Выплакаў вас сэрцам,
Выснiў вас душою,
Б'ючыся з нядоляй,
Б'ючыся з бядою.

У такія хвіліны Янку хацелася сустрэцца з нейкім вельмі разумным чалавекам, які сваім словам развеяў бы гора, нуду, даў бы сілу і энергію для змагання. Такога чалавека яму хутка давялося сустрэць.

Неяк перад «калядамі» ехаў Янка з Лагойска. Мокры снег ляпіў у вочы, і ён, наставіўшы каўнер кажушка, сядзеў унурыўшыся і не заўважаў, як нейкі дзядзька ішоў побач і ўзіраўся ў яго твар. Янка падумаў, што чалавек хоча пад'ехаць і не адважваецца сесці.

— Сядайце, дзядзька, падвязу, — прапанаваў Янка.

— Луцэўчык! Яська! — крыкнуў чалавек і кінуўся абдымаць хлопца.

— Дзядзька Пясляк! — узрадаваўся Янка.

— А я пазнаю і не пазнаю... Іду вось назіркам за табою... Добра, што не пагнаў каня...

Пясляк сеў побач з Янкам і пачаў распытваць навіны.

— Многа, дзядзька, расказваць... Едзьма да нас, маці будзе так рада вас бачыць...

— Чаму маці? А дзе бацька?

— Няма бацькі. Вясной пахавалі. А нядаўна пахавалі і Казіка. Помніце, пры вас нарадзіўся ў Прудзішчах? Памерлі Сабіна і Гэля... Вы іх не ведаеце, нарадзіліся ўжо ў Селішчы... Мне так іх шкада, дзядзька!.. Я думаў, што памру з гора... Не магу ніяк забыць Гэлі... Была яна, бедная, такая харошанькая, разумная...

— Не тужы, Янка, — суцяшаў Пясляк. — Такая ўжо доля іх. А тваё жыццё ўсё наперадзе, і трэба ісці яму насустрач рашуча і смела. Тады ніякія цяжкасці не будуць страшныя, і ты падтопчаш іх пад ногі... Я разумею твае перажыванні, але няхай яны загартуюць тваё сэрца, адкрыюць вочы...

Доўга гаварыў былы казачнік Янку пра жыццё, навучаў бачыць несправядлівасць, змагацца з ёю.

— А як у цябе з навукай? — запытаў пасля Пясляк.

— Зіму хадзіў у Бяларуцкую школу, — адказаў Янка. — Рыхтаваўся паступіць у рэальнае вучылішча, але бацька перадумаў... Цяпер кнігі чытаю, многа там для мяне цікавага і новага.

Расказаў Янка Песляку пра старога дзівака пана Чаховіча, пра яго бібліятэку, пра беларускую кнігу, дзе адкрыта пісалася пра царскія парадкі.

— Гэта добра, што ты такія кнігі чытаеш, — пахваліў Пясляк. — Даў бы я табе пачытаць нешта падобнае, але якраз не ўзяў з сабою.

На развітанне дзядзька Пясляк сказаў:

— Будзе якая пільная патрэба, прыходзь да мяне ў Сёмкава. Я там на бровары цяпер працую. Ну, бывай здароў, браце!

Праз год пасля смерці бацькі Янка кінуў работу на гаспадарцы і падаўся ў людзі.

Спачатку ён стаў дарэктарам і два месяцы вучыў дзяцей на хутары ў нейкага шляхціца. Дзеці былі пераросткі і вельмі тупыя. Старэйшы Анцік меў ужо дванаццаць год, але ніяк не мог навучыцца лічыць да дваццаці.

Некаторы час Луцэвіч перапісваў паперы ў судовага следчага ў Радашковічах, пасля ездзіў у Талачын, у маёнтак пана Славіцкага, дзе меўся атрымаць пасаду ў лясніцтве. У яго было рэкамендацыйнае пісьмо ад аднаго бацькавага знаёмага да тамтэйшага ляснічага. Ляснічы сустрэў Янку ветліва, пачаставаў чаем і доўга распытваў пра знаёмага, які даў ліст, але на работу не прыняў.



Прыйшлося ні з чым вярнуцца назад у Селішча. Назаўтра маці паехала зноў за парадай да бацькавага знаёмага. Той напісаў ліст да свайго стрыечнага брата — аканома маёнтка Беліца, каля Сянно, і запэўніў, што там абавязкова Янка атрымае пасаду.

Без асаблівай надзеі збіраўся Янка ў дарогу. Прызнацца, яму і не вельмі хацелася ехаць так далёка ад дому. Маці настойвала, і Янка ў снежні 1903 года накіраваўся шукаць шчасця. Аканом пана Свяцкага прыняў Янку на працу ў кантору. Работа была нецікавая. Ад раніцы да вечара трэба было падшываць розныя рахункі і распіскі, падлічваць, хто колькі вінаваты пану. Так усю зіму праседзеў Луцэвіч у канторы, а вечарамі чытаў кнігі і пісаў вершы...

Надышла вясна, і Янка атрымаў новую пасаду, яго прызначылі малодшым прыказчыкам. Трэба было разам з парабкамі ехаць раненька ў поле і сачыць за іх працай, а калі што не так, дык падганяць іх. Але малады прыказчык хутка здружыўся з парабкамі і нікога не даваў у крыўду. Гэта заўважыў аканом і стаў выгаворваць:

— Што ж гэта ты, Луцэвіч, так за панібрата з мужыкамі... Ты павінен падганяць лайдакоў, а ён — на табе! — у іх дудку іграе... Глядзі ты ў мяне, а то...

Крыўдзіць парабкаў, каб дагадзіць аканому, Янка не мог і стаў думаць аб новым месцы. Кінуць службу не было яшчэ такой прычыны, але і заставацца далей не хацелася. І вось надарылася непрадбачаная выпадковасць. З дому прыйшла дэпеша, што захварэла маці. Янка разлічыўся, сабраў свае манаткі і прыехаў у Селішча.

Восенню 1904 года маці паправілася, але прыйшла іншая бяда: канчаўся тэрмін на арэнду зямлі. Паехаў Янка прасіць у пана Высоцкага, каб працягнуць тэрмін кантракту, але той і гаварыць не даўся.

Прыйшлося Луцэвічам зноў падымацца з месца. На гэты раз рушылі бліжэй к Мінску, на хутар Бараўцы.

— Няма ліха без дабра, — гаварыла маці. — Можа наш Янка работу ў горадзе знойдзе...

А Янка вечарамі сляпіў вочы над кнігай і нешта пісаў, пісаў... Маці пазірала на яго, ківала галавою і выцірала краёчкам хусткі няпрошаную слязу.

Аднойчы Янка сказаў маці:

— Схаджу ў Сёмкава. Там дзядзька Пясляк на бровары працуе. Хачу пагутарыць з ім...

На бровары Песляка Янка не застаў. Некалькі тыдняў таму назад яго забрала паліцыя. Прыехалі з Мінска,ператрэслі ўсё на кватэры, надзелі наручнікі і павялі. Аб гэтым Янку расказаў рабочы Булат, у якога кватараваў Пясляк. Булат спачатку неахвотна гаварыў з Янкам. Але калі даведаўся, што ён Луцэвіч з Селішча, адразу змяніў тон:

— Ведаю цябе, чалавеча... Пясляк не раз успамінаў вашу сям'ю... А што ты хацеў?

— Хацелася з дзядзькам Песляком пагаварыць. Работы я шукаю...

— Хоць яно ў нас не соладка, — сказаў Булат, — але давай на бровар. Цяпер якраз рабочыя патрэбны.

Булат гаварыў з Янкам доўга і на розныя тэмы. Асабліва ў памяці засталіся яго словы пра сілу народа:

— Усе пагарджаюць простым чалавекам, але ён жыў і жыць будзе! Прыйдзе час, і мужык скажа: годзе! Папомніш маё слова!

Вяртаўся Янка з Сёмкава, і на душы быў у яго нейкі незвычайна бадзёры настрой. Хацелася хутчэй сесці за стол і напісаць верш пра мужыка, пра яго цяжкую долю і вялікую сілу, і самі сабой у галаве нараджаліся радкі:

Што я мужык, усе тут знаюць,
І як ёсць гэты свет вялік,
З мяне смяюцца, пагарджаюць,—
Бо я мужык, дурны мужык...

Радкі плылі за радкамі, і акрэслівалася канцоўка верша:

І кожны, хто мяне спытае,
Пачуе толькі адзін крык:
Што хоць мной кожны пагарджае,
Я буду жыць! — бо я мужык!



# СУСТРАКАЙ, ЗЯМЛЯ ЦАЛІННАЯ

«Перадавыя савецкія людзі едуць у аддаленыя краі не дзеля «залатога цяльца», не дзеля асабістага абагачэння, а для таго, каб будаваць новыя заводы і фабрыкі, узорваць палі, узводзіць новыя гарады для ўсяго грамадства, для нашых дзяцей, для будучыні, у імя перамогі камунізма».
З даклада таварыша
М. С. Хрушчова
на XXI з'ездзе КПСС.



**У дні, калі на партыйным з'ездзе гучала гэта высокая ацэнка спраў нашай моладзі, па краіне разгарнуўся новы патрыятычны рух — тысячы савецкіх дзяўчат парашылі выехаць на сталую работу ў раёны асваення цалінных і абложных зямель. Гэты рух знайшоў шырокую падтрымку і ў Беларусі.**

**На працягу лютага і сакавіка ў камітэты камсамола Мінска і Гродна, Баранавіч і Маладзечна, Віцебска і Магілёва, Оршы і Барысава паступілі сотні заяў ад дзяўчат, якія працуюць на прадпрыемствах, будоўлях, у калгасах і саўгасах, ва ўстановах і на прадпрыемствах бытавога абслугоўвання. У кожнай заяве было адно — згода ехаць туды, дзе больш за ўсё патрэбны маладыя рукі.**

**Даўно пасябравалі гэтыя дзяўчаты, якіх вы бачыце на здымку. Люда Захарчанка і Надзя Александровіч разам вучыліся ў сярэдняй школе. Пасля сёмага класа Люда паступіла працаваць у сталовую падшыпнікавага завода, а Надзя пайшла на аўтамабільны, дзе навучылася такарнай справе.**

**Люда ўжо амаль кухар. Умее гатаваць страву і токар Надзя, к таму яна яшчэ і добрая краўчыха.**

**— Едзем, — кажуць дзяўчаты. — Што-небудзь з таго, што мы ўмеем рабіць, спатрэбіцца на цаліне.**

**Іх жаданне падтрымалі ў Сталінскім райкоме камсамола г. Мінска.**

**Камітэты камсамола правялі дасканалы адбор, бо цалінным землям патрэбны ініцыятыўныя, вальявыя, пісьменныя дзяўчаты, каб змагацца за высокія ўраджаі, наладжваць на новых месцах добры быт.**

**І вось першыя эшалоны беларускіх патрыётак ужо рушылі на ўсход — у Акмолінскую вобласць.**

**Сустракай, зямля цалінная, слаўных дзяўчат з Беларусі!**



**А. Шаўчэнка. «Горад абнаўляецца».** (З выстаўкі, прысвечанай 40-годдзю КПБ і Беларускай ССР).



**В. Савіцкі. «Завочніца».** (З выстаўкі, прысвечанай 40-годдзю КПБ і Беларускай ССР).



У лабараторыі масавых аналізаў глебы Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР. Навуковы супрацоўнік Вадзім Сталяроў расказвае групе маладых калгаснікаў аб навейшай методыцы даследаванняў. У гутарцы прымае ўдзел прэзідэнт акадэміі І. С. Лупіновіч. (Гл. рэпартаж «Вечар у Курасоўшчыне» стар. 98).

Фота А. Дзітлава.



Скульптура народнага мастака БССР А. Глебава «Сустрэча У. І. Леніна ля Фінляндскага вакзала».

Фота І. Салавейчыка.

### С. КУХАРАУ

# НАПРАДВЕСНІ

**Нарыс**

Міне сямігоддзе. Радзіма наша, яе лепшыя сыны — камуністы і іх маладыя, нястомныя памочнікі камсамольцы — здзівяць свет новымі нечуванымі справамі. Зашуміць, закаласуе зямля багатым плёнам чалавечай працы. Аглядаючы свае здабыткі, людзі здзівяцца той настойлівасці, якую яны праявілі, збіраючыся ў вялікую і нялёгкую дарогу разведвання далячынь. І тады з яшчэ большай веліччу і яснасцю паўстане перад светам праца тых, хто сееў першыя зярняты ранняй вясною, хто ішоў у шэрагах вялікага, імклівага паходу.

Не сатрэцца з памяці вясна 1959 года — першая, ударная вясна вялікаснай сямігодкі.

## 1

Настуля вярнулася з праўлення ўвечары, калі ўжо добра сцямнела. «Маці, напэўна, управілася, бо святло патушыла», — падумала яна, лёгка скочыла на высокі ганак у сенцы і ўвайшла ў святліцу. Павярнула выключальнік і, жмурачыся ад яркага святла, падышла да стала, зазірнула ў люстэрка і сама сабе шчасліва ўсміхнулася. Пры мяккім, лагодным святле шчокі яе прывабліва ружавеліся, а вялікія карыя вочы свяціліся, як два зіхатлівыя вугольчыкі. Настуля была ў надзвычай добрым настроі. Узбуджанасць дачкі адразу ж прыкмеціла маці, якая хуценька падхапілася з ляжанкі, каб падаць дачцы вячэру.

— Што сёння там у канторы было? — па звычцы адразу ж запыталася маці, ставячы на стол гарачыя салонікі. — Можа кіно якое цікавае паказвалі, што так забавілася?

— Эх, матуля родная мая! — ласкава прытулілася Настуля да матчынага пляча і звонка зашчабятала: — Што тое кіно! У нас нешта цікавейшае было... Сёння Мікалай Дзяменцевіч, наш парторг, пра партыйны з'езд, што ў Маскве адбыўся, расказваў. Ды так хораша, так цікава ўсё гаварыў, аж у ладкі ўсе пляскалі. Мы з Верою Леўчуковых, пляскаючы, аж рукі паадбівалі. — Настуля працягнула





У адзін з сакавіцкіх дзён сабраліся члены звяна Настулі Мартысевіч (крайняя злева), каб яшчэ раз удакладніць план веснавых работ.
Фота В. Германа (БЕЛТА).

перад сабою маленькія лодачкі-далоні, каб паказаць, як яна пляскала імі. Потым нейкім таямнічым жэстам паклікала маці да сябе і амаль шэптам прамовіла: — Мама, а ведаеце, мяне прызначылі за звеннявую!..

— Мабыць, усё з гэтай кукурузай?

— Так, мама, звеннявой па кукурузе! — звонка загаварыла Настуля, птушкай лятаючы па святліцы. — У нашым звяне будуць і дзяўчаты, і пажылыя кабеты. І трактар нам выдзелілі. Будзем сеяць не адну кукурузу. Звяно комплекснае: гэта значыць, будзем вырошчваць і буракі, і табаку... Вядома, мне будзе нялёгка, бо я першы год, але нічога. Думаю, што здужаю, не падвяду камсамольцаў, не дам у крыўду нашу смольніцкую брыгаду. Як вы думаеце, мама, спраўлюся я ці не?

— Глядзі, донька, табе лепш відаць, — ціха гаворыць сухарлявая Мартысевічыха, прыемна збянтэжаная, а сэрца лагодніць наплыўшыя адразу ж думкі-мары: «Дальбог, малайчына Настулька!.. І з твару паглядная, і да працы здатная. Бачыш, і людзі яе ўжо заўважылі, не абмінулі, на звяно паставілі».

Схамянуўшыся, Мартысевічыха раптам пашкандыбала ў мыцельнік пашукаць чаго-небудзь смачнейшага для дачкі. Ёй чамусьці падумалася, што пра сваю меншанькую ў апошні час яна мала турбуецца. Паставіўшы на стол спадачак з нарэзанай пахучай вяндлінай, Мартысевічыха загаварыла:

— Кажаш, звеннявой падахвоціла. Можа гэта і на добрае. Звеннявым цяпер вунь якая пашана — я ж кожны дзень чую, як радыё кажа: звеннявым і прэміі розныя, іх і ў Маскву на выстаўкі ды на розныя з'езды запрашаюць, і ў дэпутаты выбіраюць. Гэта ж, кажуць, і ад нашага краю Ганна Бялявец у Маскву на з'езд партыі дэлегатам ездзіла. Во ўжо свету жанчына пабачыла! Можа і не вучылася, як і я... Вядома, дзе нам пры панах была тая навука... Таўклася дзень пры дні, не маючы спачыну, як у тым пекле...

Мартысевічыха ўздыхнула, ражком бялюткага з пеўнікамі фартуха выцерла вочы. Дачка, заўважыўшы матчына засмучэнне, адразу ж падхапілася:

— Што вы, мама, хіба не задаволены? Вось пабачыце, будзе ўсё добра. Калі хочаце, і вас можна будзе ўзяць у звяно. Праўда, ужо спіс складзены, але я пагава-

ру з аграномам, з брыгадзірам і яны згодзяцца. Ну як, пойдзеце?..

— Пойдзеце, пойдзеце!.. — з прытворнай крыўдай передражніла Мартысевічыха.— Няўжо ж я сваёй дачцы вораг. Памагу, калі трэба будзе. Хоць і не маладая ўжо я, гады выйшлі. Але не пра гэта гаворка, донечка,— Мартысевічыха блізка нахілілася да Настулі і шэптам прагаварыла: — Няхай бы ты, донька, лепей не вытыкалася.

— Чаму, матулечка мая?—ускінула тонкія падкоўкі-бровы Настуля.

— Не ведаеш хіба?— бурклівa кінула Мартысевічыха.— Пакрыўдзіцца ж тая Алена Дубовікавых. Цябе ж, пэўна, на яе месца паставілі. Нягожа гэта, яна ж суседка, пакрыўдзіцца...

— Няхай крыўдуе, калі ёй хочацца...— Настуля ўстала з-за стала, пачала перабіраць газеты, што стусікам ляжалі на покуце. Разглядаючы і прабягаючы вачамі газетныя радкі, дадала:— Правільна, што яе знялі. Хіба гэта звеннявая, што выйшла замуж за аднаасобніка... Ды яшчэ і ў царкве абвянчалася!..

— Няможна так, донечка. Што ж тут благога, што абвянчалася? Ты ж не ўпэўнена, а можа і ёсць яшчэ бог...

— Ат, кінце вы, мама, са сваім богам!— адказала Настуля.— Вы заўсёды так: будзеце гаварыць, гаварыць і абавязкова дагаворыцеся да свайго бога. А мне гэта зусім не цікава, ніколечкі!..

— Донька, не наклікай на сябе грэх.

Бразнула клямка, і з клубамі марознай свежасці ў хату ўвайшоў Настульчын бацька — Васіль Рыгоравіч, невысокі, рухавы чалавек у доўгім цёплым кажуху і ў шапцы-вушанцы, завязанай, як заўсёды зімою, пад бараду. Васіль Рыгоравіч працуе вартаўніком на брыгадным двары. Натупаўшыся там, ён рашыў зайсці на гадзінку ў хату і заадно паслухаць апошнія навіны. З таго часу, як правялі радыё, ён ні разу не мінаў выпадку, каб не паслухаць, што дзеецца на белым свеце. І цяпер Васіль Рыгоравіч ішоў з такім намерам, ды якраз і агонь у вокнах засвяціўся. Значыць, дачка прышла са сходу. А з ёю бацька любіў пагутарыць, паспрачацца, як некалі з сынамі, якія цяпер паразляталіся па свеце, нібы тыя птахі з гнязда.

Скінуўшы вушанку, Васіль Рыгоравіч, не распранаючыся, прысеў на лаву і пацягнуўся рукой да рэпрадуктара. Музыка імклівым вірам скаланула цішыню, якая кволілася ў хаце.

— А мяне звеннявой паставілі! — радасна ўсклікнула Настуля, заціснуўшы ў правай руцэ газету.— Дваццаць чалавек будзе ў звяне...

— Віншую цябе, дачка,— сказаў Мартысевіч, і цёплая ўсмешка асвятліла яго абсівераны маршчыністы твар.— Не падводзіш нашай сям'і...

Дзядзька Мартысевіч, не хаваючы свайго задавальнення ад таго, што яго дачка адразу ж пасля школьнай парты зрабіла правільны крок у самастойнае жыццё, прыгадаў і сваіх сыноў, якія выйшлі ў людзі — адзін электраманцёрам працуе ў Камянцы, другі машыністам у Брэсце. А яшчэ двое — шахцёры, па пуцёўках камсамола выконваюць свой патрыятычны абавязак. Дрэнна толькі, што ніводнага з іх няма блізка ля дому. Няхай хоць дачка будзе на бацькавым котлішчы, весялей і старым жыць. Праўда, Васіль Рыгоравіч ведае, што дачка — не сын, гэта, як кажуць, адрэзаная скіба... Але цяпер не стары рэжым, не за панамі-палякамі, калі ні табе, ні дзецям тваім не было ніякай дарогі.

Дядзька Мартысевіч папагнуў спіну на паноў ды падпанкаў, седзячы на трох гектарах. А гектары тыя — адно званне: нi ўдобіца, лысыя пагоркі-пясчанікі, на якіх не тое што збожжа, саломы не збярэш. Бывала, пасееш дзве меры і нажнеш дзве капы. А з тых коп дзве асміны не выходзіць.

Неяк непрыкметна, сама сабой, у дзядзькі Мартысевіча мільганула думка: «А што, каб не Саветы, не калгас, як бы можна было падзяліць між чатырма сынамі тыя пясчанікі-шнуры, на якіх ніяк нельга было размінуцца з суседам? Ды што размінуцца! Колькі разоў сходзіліся між сабою суседзі-смолаўцы, не падзяліўшы тых быльніковых межаў! Даходзіла нават да забойстваў. Канешне, дагэтуль не дацягнуў бы на сваім загоне бядняк Мартысевіч, паехаў бы і ён куды-небудзь за акіян шукаць долі, як ездзілі яго ж аднавяскоўцы і суседзі з тых жа Дымнікаў, з Кукальчыц. Давялося б Мартысевічу, як і яго цесцю, ісці ў каменацёсы ці на бровар. А цяпер глядзі — і дзеці жывуць палюдску, і самому пашана ад улады. Той жа брыгадзір ці старшыня з табой за руку вітаецца, парады просяць у Мартысевіча, адным словам, у сваім доме ты — гаспадар, у сваім сяле — чалавек...»

— Тата, чаго вы так задумаліся?— не вытрымала Настулька і раптам зусім па-дзіцячаму абхапіла за шыю бацьку.—Можа і вы, як маці, не ўхваляеце майго кроку?..

— Не, чаму не ўхваляю... Задача ў цябе, дзяўчына, нялёгкая. Летась выгадавалі добрую кукурузу, але сёлета трэба, каб была яшчэ лепшая. Калі ўжо ўзялася, дык ірвіся наперад, няхай людзі бачаць, якая ты ёсць!

У хаце Мартысевічаў у той зорны вечар напрадвесні доўга свяціліся вокны. Сусед-конюх, якога Мартысевіч папрасіў папільнаваць хвілінку, ужо заждаўся, а вартаўніка ўсё не было. Бацька не мог адкласці тыя думкі, што ў яго ўзніклі ў сувязі з такой падзеяй, як вылучэнне дачкі звеннявой.

Дзядзька Мартысевіч развакаў: «Канешне, некаторыя будуць упірацца, не захочуць аддаць соткі пад кукурузу, але дарэмна, дзівакі!.. Там вунь пад Кукальчыцамі, на пагорачку, бульба парасце, хоць на выстаўку вязі. А кукурузе якраз на загуменні самае месца, па 1 000 цэнтнераў з гектара можна атрымаць. Пабажуся, што можна! А можа і больш. Калі летась нарэзалі па 805 цэнтнераў, дык сёлета меней нельга... Як жа мы свае вялікія планы выканаем, калі базу не падвядзем? А кукуруза разам з лубінам і сырадэляй і ёсць наша моцная база на заўтрашні дзень. Трэба будзе не паскупіцца наконт гною — даць поўную норму. Варта на гэтае падбіць і суседзяў, каб лішкі аддалі калгасу. Канешне, іншы пашкадуе, а я дам першы. Дам гэтак фур з дзесяць. Дадуць і другія. Ну, а калі ўжо хто занатурыцца — сам пайду з брыгадзірам, з камсамольцамі, прысаромлю катарага...»

А Настуля сядзела за сталом і ўсё пісала сабе ў школьны сшытак, абдумваючы кожнае слова, якое ёй раіў бацька. Да поўначы праседзела яна, забыўшыся на сон і матчына ўпрошванне, каб клалася спаць, бо заўтра на досвітку трэба ўзяцца перабіраць бульбу.

Дзяўчыне вельмі ўжо запалі ў галаву словы калгаснага камсорга Алёшкі Жука, якія ён кінуў, калі яна брала на тым сходзе свае абавязацельствы: «Таварыш Мартысевіч, вы ж такая баявая дзяўчына і — не камсамолка!»

— Абавязкова напішу заяву,— сказала сама сабе Настуля.— Вось як выйдзем у поле — напішу!..

## 2

Госці ў вёску Рэчыцу завіталі амаль што неспадзявана. Праўда, парторг Мікалай Дзяменцевіч Жук паспеў папярэдзіць таго-сяго з брыгадзіраў, што павінна быць не сёння-заўтра камісія па праверцы гатоўнасці да выезду ў поле, але ўсіх брыгадзіраў аж дзевяць,— калгас размешчаны ў трынаццаці вёсках,— так што некаторыя брыгадзіры не ведалі пра гэты візіт і таму не маглі што-небудзь падрыхтаваць.

Якраз старшыня Пятро Міхайлавіч Лесавец, як на тое ліха, крыху занядужаў, і ўсе клопаты

ляглі на плечы парторга. Старшынёў шафёр Ваня з самым шчырым выглядам выконваў усе Міколавы патрабаванні, прапанаваўшы яму месца побач з сабой.

— Ды не можу я іздзіць за начальства,— усміхнуўся доўгі, танклявы Мікола, блытаючыся ў сваім цяжкім кажуху, і палез у кузаў.

Ля шафёра ахвотна ўсеўся таварыш Іваноў — прадстаўнік з райкома, які ўзначальваў камісію, чыста паголены, маладжавы мужчына. Гэта была першая група, якая ўзяла сабе тры брыгады. Дзве другія ўзначалілі старшыні калгасаў: Раманчук — са «Светлага шляху», з якім вось ужо каторы год спаборнічаюць калгаснікі рэчыцкага калгаса, і Рамановіч — старшыня арцелі «Рассвет» Жабінкаўскага раёна са сваім брыгадзірам Іванам Мінам.

Рашылі пабыць у кожнай брыгадзе, агледзець фермы, палі.

Пачаўся агляд гаспадаркі, каб потым на адкрытым партыйным сходзе, пра які ўжо былі апавешчаны дваццаць камуністаў, пяцьдзесят камсамольцаў і ўсе калгаснікі, абмеркаваць уражанні гасцей, падвесці вынікі спаборніцтва напярэдадні веснавога паходу за ўраджай, за здзяйсненне планаў ударнай сямігодкі.

Не ўпершыню ў Рэчыцы робіцца такая ўзаемаправерка. Пасля кожнага этапу работ калгасы-суседзі наязджаюць адзін да другога, уважліва, па-гаспадарску ацэньваюць зробленае, выяўляюць промахі і скрытыя рэзервы і раяцца, як адолець новыя вышыні, што намячае родная партыя. Звычайна, праверка заканчваецца вечарам, дзе зноў прадаўжаецца тое ж спаборніцтва, але ўжо на самадзейнай сцэне, дзе мераюцца танцамі і спевамі тыя ж звеннявыя, даяркі, трактарысты...

На гэты раз госці крыху збянтэжыліся, што старшыні-гаспадара не будзе на праверцы, але нехта з гурту кінуў: «Нічога, Лесавец крытыку любіць!»,— і ўсе павесялелі, ажывіліся.

Таварыш Іваноў ужо з «газіка», адчыніўшы бліщчастыя дзверцы, яшчэ раз сказаў ад'язджаючым:

— Глядзіце ж, хлопцы, вясна сёлета незвычайная, так што каб праверка была па ўсёй строгасці!..

Перад гэтым, даючы ўдзельнікам праверкі свой інструктаж, Іваноў гаварыў, каб усюды пацікавіліся, ці адведзены ўчасткі пад яравыя, асабліва пад кукурузу, як жывёла забяспечана кармамі, ці вытрымліваецца рацыён кармлення, у якім стане насенныя фонды, як вывозяцца ўгнаенні...

Ён і сам віхрам насіўся па кароўніках, заглядваў у кармушкі, браў у рукі кукурузны сілас, нават паспрабаваў на смак пахучы, заквашаны кукурузны пачатак. Гутарыў з даяркамі, конюхамі, хваліў ці ўпікаў каго з іх і ўсё паўтараў:

— Вясна сёлета незвычайная — першая вясна сямігодкі. Памятайце гэта, таварышы!

У адной з брыгад, заехаўшы на ферму, госці любаваліся каровамі бура-латвійскай пароды, якіх даглядае перадавая даярка Марыя Лук'янаўна Дзмітрук.

— Колькі надойваеце цяпер?— пытаюцца госці, спыняючыся ля ўкормленых прыгажуняў і чытаючы надпісы-клічкі на таблічках.

— Каторыя пацяліліся, дык даюць не блага,— сціпла адказвае Марыя Лук'янаўна.— Літраў па дваццаць надойваю, а ад каторых і болей...

На пытанне, колькі ж узялася надаіць Марыя Лук'янаўна ў гэтым годзе, яна ўпэўнена адказала:

— За мінулы год надаіла па 2 800 літраў, а сёлета ўзялася — па 3 100 літраў.— і, акінуўшы цёплым позіркам гасцей, запытала сама: — Як вы думаеце, ці надаю столькі?

— Калі будзеце ўволю паіць кароў,— жартуе нехта, здаецца, чарнявая кукурузаводка са «Светлага шляху», — то надоіце...

— Не смейцеся, надаю! — сур'ёзна гаворыць Марыя Лук'янаўна і паказвае рукой у бок вялікага жолаба, напакаванага сакавітым кукурузным сіласам. — Гэтая каралева — нам памочніца. І гэты кароль — таксама добра нам паможа.— Пасля гэтых слоў даярка прапануе пацікавіцца, якім смачным кормам з'яўляецца засіласаванае бацвінне салодкага лубіну.

— Упершыню лубін пасеялі ў вёсцы Дымнікі, дзе вельмі неўрадлівыя, пясчаныя землі, — расказваў парторг Мікалай Дзяменцевіч Жук. — Там людзі здаўна турбаваліся аб тым, каб як-небудзь павысіць урадлівасць зямлі. Але пры панскім ладзе, жывучы на вузкіх палосках-загончыках, было гэта ім зусім не пад сілу. Так і жылі Дымнікі са славай пабірах. Бывала, каб якнебудзь апраўдаць сваю галечу, дымнікаўцы ездзілі па вёсках з абсмаленымі аглоблямі: маўляў, мы — пагарэльцы...

Толькі дачакаўшыся волі, пры савецкай уладзе, дымнікаўскія сяляне адразу сталі на шлях новага жыцця. У Дымніках раней, чым ва ўсім наваколлі, пасля вайны арганізаваўся калгас, які быў аднадушна названы «Ленінскім шляхам». Спачатку ў ім было 23 гаспадаркі, але ўжо ў тыя першыя гады станаўлення дымнікаўцы невялікай сям'ёй дружна ўзяліся за ўздым культуры земляробства. Так у Дымніках з'явіліся ініцыятары лубіну і сырадэлі, а ў апошнія гады — кукурузы; яны і дапамаглі калгасу моцна стаць на ногі.

І цяпер, калі калгас «Ленінскі шлях» аб'ядноўвае трынаццаць такіх вёсак, як Дымнікі, людзі змаглі па-сапраўднаму ажыццяўляць вялікія планы абнаўлення зямлі.

Расказваючы гасцям аб новых сацыялістычных абавязацельствах калгаса на бягучы год, аб калгаснай сямігодцы, Мікалай Дзяменцевіч прывёў вельмі цікавыя лічбы. Яны красамоўней, чым самыя прыгожыя словы, адлюстроўваюць перспектывы развіцця грамадскай гаспадаркі. Ужо ў 1959 годзе калгаснікі ўзяліся павялічыць ураджай збожжа больш як у два разы; давесці статак буйнай рагатай жывёлы да 640 галоў, свіней — 520, авечак — 440.

— Ці не замнога гэта ў нашых умовах? — кінуў нехта з калгаснікаў.

— Якраз па нашай сіле! — сказаў брыгадзір, — малады камуніст Пятро Рэкуць і паказаў на крыніцы, якія забяспечаць такому статку добрую кармавую базу: — Салодкага лубіну пасеем 600 гектараў — амаль у чатыры разы больш, чым сеялі ў мінулым годзе; сырадэлі — 200 гектараў, кукурузы — 135 гектараў: таксама ў два разы супраць мінулагодняга. Так што не толькі жывёлагадоўля ў нас пойдзе ўгору, але і будаўніцтва шырэй разгорнецца!..

— Я магу яшчэ дадаць, — сказаў парторг, — што ў бліжэйшыя гады намечана пабудаваць новыя аборы, свіран, цялятнік, гараж, майстэрню...

— А за клуб калі возьмемся? — пачуўся звонкі дзявочы голас.

— Клуб будзе ўжо ў 1959 годзе — з бібліятэкай і кінаўстаноўкай. А ў бліжэйшыя сем год — яшчэ тры брыгадныя клубы пабудуем і дзіцячы сад...

... І ў час паездкі па брыгадах, і асабліва на сходзе члены камісіі заўзята абмяркоўвалі ўсё, што зроблена да сяўбы ў «Ленінскім шляху», паказвалі на яшчэ скрытыя рэзервы і магчымасці.

— У вас, таварышы, вывезена ўгнаенняў, напэўна, крыху больш, чым у нашым калгасе, — заўважыў брыгадзір з калгаса «Светлы шлях» Павел Смалюк. Але ж у вас зусім не вывозіца гной і торф пад такія культуры, як бульба, ячмень...

— І для кукурузы мы не так ужо многа вывезлі. Дарэмна вы нас хваліце! — падала голас з грамады танклявая дзяўчына і змоўкла, уткнуўшыся тварам у

плячо суседкі, нібы спалохаўшыся таго, што сказала.

— Не саромейся, Настуля, гавары, — падбадзёрыў дзяўчыну парторг. — Ідзі бліжэй, да стала, — ён шапнуў на вуха таварышу Іванову, які сядзеў з парторгам побач: — Гэта наша новая звеннявая па кукурузе. Першая вясна ў яе на самастойнай дарозе, разумееш!..

— І скажу, — Настуля ступіла крокаў колькі і, апынуўшыся ля стала, стала тварам да землякоў, чамусьці шумна ўздыхнула, а потым, пераадолеўшы хваляванне, загаварыла роўна і спакойна: — Я скажу, што мала ў нас вывезена гною і торфу. Узяць, скажам, нашу трэцюю брыгаду. Заштабелявана ўсяго два бурты. Хіба гэта работа, таварыш наш паважаны брыгадзір?..

Брыгадзір трэцяй, смольніцкай брыгады Мікалай Раманавіч Ніжнік, маленькі, востраплечы чалавек у зашмальцаванай аблавушцы, пачуўшы сваё прозвішча, аж падскочыў ад нечаканасці. Ён сёння спакойна сядзеў, паглыбіўшыся ў свае думкі, а можа проста драмаў, падпёршы рукою няголеную шчаку. Яго брыгада не перадавая і не апошняя. Заўсёды, калі хто з прыезджых прадстаўнікоў пытае ў Ніжніка, як ягоная брыгада ідзе, ён адказвае: «У сяржантах хаджу...»

Седзячы воддаль на лаўцы, Ніжнік і цяпер думаў, што яго не зачэпяць, тым больш, што да яго, у Смольнікі, камісія не паспела зазірнуць — ужо звечарэла. І раптам гэтае дзяўчо! Яшчэ сама не ведае, як і што, а ўжо голас падае. Вось табе і Настуля — яшчэ ўчора нічога не ведала, апрача сваіх кніжак...

А Настуля гаварыла, не зважаючы, што збоку яе свідруе калючымі вачыма брыгадзір.

— Мы хочам дабіцца ўраджаю, — звінеў у густым, настоеным тытунём паветры Настульчын голас. — А хіба яго даб'ешся, калі так будуць кампаставаць гной і торф, як у нашай брыгадзе? Вунь паглядзіце, як складзены за гародамі тыя штабялі — падзьме вецер, і гной ляціць ва ўсе бакі, сохне, выветрываецца...

— За ўсім не дагледзіш, калі і тое трэба, і гэтае, — падаў быў голас Ніжнік, але чамусьці закашляўся і змоўк. Крыўда напаўняла яго сэрца. Крыўда не за тое, што гэта няпраўда, а за тое, што ўпікае яго не гаспадар які-небудзь, а ўчарашняя школьніца — дзяўчо зялёнае. Але ж як падумаеш, дык праўда яе...

Як толькі Настуля скончыла, Ніжнік папрасіў слова. Адкашляўшыся, ён паабяцаў выправіць недахопы, падтрымаў думку маладой звеннявой наконт таго, каб больш накапіць угнаенняў.

Выступалі на гэтым сходзе актыўна і госці, і гаспадары. Параіўшыся, людзі ўпэўніліся, што яны паспеюць зрабіць яшчэ многа, ідучы насустрач ранняй вясне.

## 3

У Рэчыцы цяпер, напэўна, ужо распукнуліся стройныя гонкія вольхі і купаюць свае густыя пасмы-косы ў празрыстай рачулцы, якая срэбранай змейкай уецца між узгоркаў і пералескаў. Збоч вёскі, ля калгаснай канторы, прыгрэты шчодрым цяплом, запаліў свае дзівосныя свечкі купчасты саснячок.

У высокім, бяздонным блакіце — з ранку да вечара — пераліваюцца срэбныя званочкі-жаваранкі.

Развінуліся, нібы папрасторнелі палі, агаласіўшыся гулам-гоманам машын, галасамі людзей, вясёлай, дружнай песняй.

Дарэмна набожныя бабулі прадракалі: на «стрэчанне» была завіруха — то і вясна спозніцца, не расшчодрыцца...

Пад Белавежам, як і ўсюды ў нашай краіне, сёлета ранняя, дружная вясна, шчодрая на святло і цяпло.

Вясна, радасць абнаўлення — не толькі ў прыродзе. Вясна — у сэрцах савецкіх людзей: партыя дала ім крыллі для новага, высокага ўзлёту.



Яшчэ напрадвесні паляводчыя брыгады атрымалі планы-заданні, праўленне расставіла сілы, тэхніку. Як і заўсёды, на важныя, рашаючыя ўчасткі веснавога наступлення сталі камуністы і камсамольцы — ударная, штурмавая сіла калектыву.

Камсамольцы, хоць іх яшчэ мала ў рэчыцкім калгасе, старанна папрацавалі зімою, рыхтуючыся да сяўбы. Моладзь узялася за такія адказныя работы, як вывазка ўгнаенняў на палі, ачыстка насення, збор попелу.

Пад свой кантроль камуністы і камсамольцы ўзялі вырошчванне салодкага лубіну і кукурузы. Сёлета калгас узяў курс на тое, каб атрымаць і зялёную масу і пачаткі. (Калгаснікі ўжо навучыліся вырошчваць выдатную кукурузу на сілас.) З гэтай мэтай у звенні вылучаны новыя людзі, якія здольны выканаць волю калектыву, якія любяць сваю справу.

Камсамольская арганізацыя стварыла кантрольныя пасты. Камсамольскія кантралёры — гэта тыя ж камсамольцы, што працуюць у звеннях, на трактарах і сеялках, яны будуць самі старацца ўсё зрабіць, як патрабуе агратэхніка, і сачыць, каб так рабілі і ўсе, хто з імі побач.

Звеннявыя-навічкі, — а гэта маладыя дзяўчаты, такія, як нядаўняя сямікласніца Настуля Мартысевіч, — з незвычайным запалам узяліся за новую адказную справу. Але ў іх няма навыкаў, няма практыкі. Камсамольцы парупіліся для навічкоў арганізаваць вучобу: іх пасылалі ў суседнія калгасы знаёміцца з майстрамі-кукурузаводамі, пераймаць у іх вопыт. Ёсць і на месцы свае добрыя практыкі. Звеннявая Вольга Шаваяліля ўжо каторы год атрымлівае больш як па 1 000 цэнтнераў зялёнай масы з гектара на сваім участку. Вольга Фёдараўна была ў Маскве на сельскагаспадарчай выстаўцы. Яе вопыт з ахвотай пераймае моладзь.



**Моладзь сельскагаспадарчай арцелі «Ленінскі шлях» у клубе на чарговай рэпетыцыі калгаснага хору.**

— Хто мяне сёлета, дзяўчаты, перагоніць? — сказала перадавая звеннявая, падпісваючы ўмову на спаборніцтва. — Так таму і быць, сама куплю чырвоную хусцінку і ўручу яе пераможцы.

— Не трэба вам, Фёдараўна, турбавацца, не спатрэбіцца вам раскашэльвацца на тыя хусцінкі, — перахапіў яе жарт сакратар партарганізацыі Мікалай Дзяменцевіч Жук. — Сёлета будзе пераходны сцяжок «Лепшаму звяну па кукурузе». Яго будзем уручаць звяну-перадавіку пасля кожнага этапу барацьбы за ўраджай.

— Вось гэта правільна! — усклікнула Настуля Мартысевіч з гарачым бляскам у вачах.

... Можа ў гэты час кукурузаводы, стараючыся звяно перад звяном, ужо завіхаюцца на полі, самі, не давяраючы аграному, вымяраюць цеплыню глебы, каб хутчэй пасеяць залацістыя зярняты. Можа камсамольскі сакратар Лёшка Жук на сваім веласіпедзе ўсюдыходзе не раз абкалясіў далёкія брыгады і выпусціў не адзін нумар камсамольскай насценгазеты на сяўбе, і ўжо, вядома, адзначаны і першыя маладыя ўдарнікі камуністычнай працы, і тыя, хто

яшчэ не захапіўся агульным, бадзёрым рытмам, хто не разагрэўся, як мае быць, на свежым, красавіцкім ветрыку...

Можа, сярод першых кандыдатаў на той невялічкі агністы сцяжок-вымпел, пра які напрадвесні гаварыў калгасны парторг, будзе кучаравая гарэзніца Настуля Мартысевіч, якая ўпершыню адчула цудоўную радасць ад сваёй працы. Хочацца пажадаць Настулі, каб сёлетняй ранняй вясною яна здзейсніла сваё запаветнае жаданне — паклала каля самага сэрца чырвоную кніжачку з сілуэтам дарагога Ільіча на вокладцы.

Прыгажуня-вясна крочыць па абмытай свежымі дажджамі зямлі. Высока ў небе купаецца маладое, прамяністае сонца, і ўсё навокал увачавідкі зелянее, наліваецца сокамі жыцця.

На неабсяжных вольных палетках узыходзяць буйныя, дужыя парасткі. Парасткі нашай недалёкай будучыні...

**Калгас «Ленінскі шлях» Камянецкага раёна.**

---

**П. БЕРАЗНЯК**

# ЭКЗАМЕН НА СТАЛАСЦЬ

Сход старшакласнікаў зацягнуўся. Аня Шульга, якая старшынствавала на сходзе, з цяжкасцю падтрымлівала парадак. Разгараліся спрэчкі. На першы погляд асаблівага повада для іх не было. Абмяркоўвалася пытанне аб стварэнні вучнёўскай вытворчай брыгады. Здавалася б, вырашыць яго можна вельмі лёгка: запісаць прозвішчы тых, хто жадае працаваць на калгасным полі, выбраць звеннявых — і ўсё. Але справа ў тым, што не ўсіх прымалі ў брыгаду. Слаба вучышся — у брыгадзе табе не месца! Дрэнна паводзіш сябе ў школе ці дома — таксама тваю кандыдатуру адхіляць. Тут патрэбны старанныя, працавітыя, дысцыплінаваныя вучні.

У Пагосцкай сярэдняй школе Старобінскага раёна Мінскай вобласці вытворчая брыгада ствараецца не ўпершыню. Была яна тут і ў мінулым годзе. Вучні заваявалі сабе працоўную славу. Па выніках работы яны занялі другое месца ў вобласці. Вучні вырошчвалі розныя сельскагаспадарчыя культуры ў калгасах імя Чкалава і «Новае жыццё» на плошчы ў 61 гектар. Атрымалі з кожнага гектара па 360 цэнтнераў зялёнай масы кукурузы, 220 цэнтнераў бульбы, 22 цэнтнеры ячменю. Яшчэ большы ўраджай юныя працаўнікі задумалі вырасціць сёлета. Вось чаму так патрабавальна адносіліся яны да ўсіх, хто пажадаў запісацца ў брыгаду.

... Падняўся Міхаіл Карака і папрасіў залічыць яго ў брыгаду.

— Нават двоечнікі прэтэндуюць! — зазначыў нейчы насмешлівы голас.

— Чэснае слова, спраўлюся. — Карака разгублена акінуў позіркам залу. — Ніводнай двойкі не будзе.

— Прыняць Караку, — падтрымаў яго лепшы працаўнік мінулагодняй брыгады Фёдар Прыгодзіч.

Тут у размову ўмяшалася адразу некалькі рабят.

— Правільна, прыняць...

— Раз хлопец абяцае, значыць, разлічвае на сябе.

Слова папрасіў дзесяцікласнік Леанід Трухан, які ўзначальваў школьную брыгаду летась.

— Я памятаю, што Карака не адзін раз абяцаў таварышам падцягнуцца ў вучобе. Але ці памятае хто-небудзь, каб ён стрымаў слова? Я разумею, чаму Міхаіл так хоча ў брыгаду. Да чужой славы прымазваецца... Ведае, што кожнаму члену брыгады летась выдалі прэміі, усе паважаюць вучняў, якія працуюць. Сумняваюся, што ён здолее заслужыць такую павагу.

— Правільна гаворыць Леанід, — падтрымала Марыя Пратасіна. — Нельга прымаць Караку ў брыгаду. Пачнецца гарачы час, кожная пара рук дарагая, а ён пачне ўхіляцца ад работы. Толькі разлад унясе ў наш калектыў...

Настаўнік Мікалай Максімавіч Дубоўскі, сакратар партыйнай арганізацыі калгаса, якому дырэкцыя школы даручыла кіраваць работай вытворчай брыгады, уважліва слухаў вучняў і задаволена ўсміхаўся. Малайцы рабяты! Правільна разумеюць усю важнасць даручанай ім справы. Год назад не было такіх спрэчак. А цяпер гэтыя яшчэ зусім юныя хлопцы і дзяўчаты з такім запалам змагаюцца за чысціню свайго калектыву, за яго гонар.

На гэтым сходзе і была ўкамплектавана брыгада, «працоўная гвардыя» школы, як назвалі яе самі вучні. Сюды ўвайшлі і тыя, хто працаваў на палях роднага калгаса мінулым летам, запісаліся і навічкі. Самых актыўных выбралі звеннявымі. Гэта Марыя Пратасіна, Аня Прыгодзіч, Фёдар Прыгодзіч, Ліда Пратасіна, Віктар Бяліцкі, Міхаіл Сяўрук.



Да вясны было яшчэ далёка. Але без справы члены брыгады не сядзелі. Перш за ўсё ў праўленні калгаса імя Чкалава ўдакладнілі, дзе ім працаваць. Параіліся між сабой і парашылі, што смела могуць апрацаваць 50 гектараў. А што сеяць на гэтым участку? Паколькі калгаснікі ўзялі абавязацельства ў параўнанні з мінулым годам падвоіць вытворчасць прадуктаў жывёлагадоўлі, школьнікі вырашылі павялічыць плошчу пад кукурузу. Гэтаю культурай увесну яны засеюць не восем гектараў, як раней, а 15. Бульбы дамовіліся пасадзіць 20 гектараў, пасеяць ячменю — 10.

Упершыню калгаснікі ўзяліся вырошчваць на сваіх палях цукровыя буракі на плошчы 10 гектараў. Тры з іх будзе апрацоўваць вучнёўская брыгада.

Калі многія сельскагаспадарчыя культуры вырошчваліся дагэтуль на прышкольным доследным участку, дык з цукровымі буракамі прыдзецца мець справу ўпершыню. Якім спосабам іх сеяць, як апрацоўваць глебу, якія ўносіць угнаенні, як даглядаць пасевы?.. Гэтыя і яшчэ многія пытанні хвалявалі юных працаўнікоў.

Вырашылі арганізаваць «школу сельскагаспадарчых ведаў». Узначаліў яе аграном калгаса Віктар Іванавіч Бандаравец. Вечарамі члены брыгады збіраліся ў калгаснай агралабараторыі. Тут юныя энтузіясты распачалі свой вялікі паход за высокія ўраджаі першага года сямігодкі.

Яшчэ дзьмуў суровы сівер, зямлю тоўстым пластам пакрываў снег, а на ўчастак, запланаваны пад кукурузу, прышла брыгадная разведка: брыгадзір Аня Шульга, звеннявыя Фёдар Прыгодзіч, Ліда Пратасіна, Міхаіл Сяўрук. Распланавалі, дзе зручней складваць бурты гною. А ўгнаенняў трэба было вывезці нямала. Калі ўлічыць, што на кожны гектар трэба ўнесці не менш 40 тон, дык на ўсю плошчу спатрэбіцца 600 тон. Гэта дзесяткі соцень рэйсаў. Але ж члены брыгады вучацца ў

школе. Неабходна было так размеркаваць час, каб работа не перашкаджала вучобе. Дамовіліся. Адразу пасля заняткаў палавіна вучняў ішла працаваць, астатнія — рыхтавалі хатнія заданні. Праз некаторы час мяняліся. Работа працягвалася і з надыходам цемнаты, тым больш, што калгасныя кароўнікі электрыфікаваны...

У канцы лютага здарылася неспадзяванае. Наступіла адліга, снег пачаў таяць, поле пабілася на бурыя лапіны. Санная дарога разладзілася, а на кукурузны ўчастак яшчэ не вывезена каля трэці ўгнаення... Што рабіць? Чакаць, пакуль зменіцца надвор'е і выпадзе снег? Але прагнозы бюро надвор'я нічога суцяшальнага не абяцалі.

— Трэба прасіць праўленне, каб трактар далі, — прапанавала брыгадзір Аня Шульга.

Узрадаваліся хлопцы: ёсць выхад! А тут новае расчараванне. Аказваецца, спраўныя трактары занятыя, а адзін разабраны на капітальны рамонт. Па разліках, рамонт закончыцца прыкладна праз месяц. Спахмурнелі школьнікі: усе планы рушацца.

Старшыня калгаса Анатоль Ігнатавіч Дубоўскі паглядзеў на разгубленых вучняў, падбадзёрыў:

— Без панікі, сябры... Я думаю, нашы механізатары паскораць рамонт. Лічы, што праз тыдзень трактар будзе на хаду.

І праўда — праз шэсць дзён школьная брыгада аднавіла вывазку ўгнаенняў на трактары. Гэты выпадак не прамінулі выкарыстаць Фёдар Прыгодзіч, Аляксей і Міхаіл Крыж — яны пачалі вучыцца кіраваць трактарам. Матэрыяльную частку машыны вывучылі яшчэ раней, чакалі толькі вясны, каб распачаць трэніроўку па ваджэнню. Такім чынам, сёлета школьная брыгада будзе мець і сваіх механізатараў...

Міналі дні, работы ў брыгадзе ўсё прыбаўлялася. Закончылі вазіць угнаенні пад кукурузу, трэба вазіць гной пад бульбу. А там ачыстка насення, праверка на ўсходжасць, адбор насення цукровых буракоў. Праўда, памочнікаў у брыгадзе — хоць адбаўляй. Піянеры і нават акцябраты настойліва прапаноўвалі свае паслугі.

Вытворчая школьная брыгада, як і калгасныя брыгады, будзе комплекснай. Акрамя палявых работ, вучні будуць займацца і жывёлагадоўляй: трымаць шэфства над калгаснай фермай, вучыцца складаць правільны рацыён кармлення жывёлы, даглядаць маладняк.

Ужо цяпер у школе ёсць 15 трусоў. Даглядаюць іх пакуль што Валя Гурыновіч і Валя Кавалеўская. Трусіны статак будзе павялічаны. Да канца лета ён павінен вырасці да ста галоў. У сталярнай майстэрні піянеры майструюць клеткі. Абсталёўваецца спецыяльнае памяшканне пад трусятнік.

Праз вёску Пагост працякае рэчка. Невялікая яна, але для качак — добрая выгода. Вось і задумалі вучні стварыць яшчэ адну школьную ферму — птушыную. Хутка арганізуюць збор качыных яек, потым адвязуць іх у інкубатар. Мяркуюць выгадаваць 150—200 качак. Такім чынам, школьнікі перададуць роднаму калгасу імя Чкалава каля дзесятка цэнтнераў качынага і трусінага мяса.

Красавік дыхае водарам яблыневай кары і набухаючых пупышак. Вясновыя разлівы рakі ўсё больш і больш агаляюць прыбярэжныя паплавы. На сонечных сугрэвах упарта імкнецца ўгору трава. Вось-вось настане гарачая пара веснавой сяўбы. Члены вучнёўскай вытворчай брыгады даўно гатовы да вялікага наступу за высокі ўраджай. Яшчэ са школьных год яны пачалі трымаць нялёгкі экзамен на працоўную сталасць. І трэба прызнаць: трымаюць гэты экзамен паспяхова, рыхтуюць сябе добрымі памочнікамі сваім бацькам, старэйшым братам і сёстрам.

*Гары, камсамольскі агеньчык!*

# СПРАВА КОЖНАМУ ЗНОЙДЗЕЦЦА

Сакратару камсамольскага камітэта Мінскай абутковай фабрыкі імя Калініна пазванілі з райкома камсамола.

— Слухай, Павел, заўтра да цябе зойдзе адзін хлопец... Венскі яго прозвішча. Пастарайся, каб яго прынялі на работу. Праўда, характар у гэтага хлопца цяжкі... Але трэба ж некаму ўзяцца за яго, чалавекам зрабіць...

Павел Русальскі хацеў быў запярэчыць: сваіх такіх хлопцаў на фабрыцы хапае, але змоўчаў. Сказаў толькі:

— Добра, няхай прыходзіць.

У апошнія гады жыццё Анатоля Венскага пайшло неяк нясkладна. Школу кінуў. Звязаўся з кампаніяй хуліганаў, «пазнаёміўся» з міліцыяй. Бацькі ўжо гатовы былі махнуць рукой на сына-лайдака, але потым вырашылі паспрабаваць яшчэ адзін сродак: наслаць яго на вытворчасць. «Можа там дадуць хлопцу якую раду», — падумалі яны і звярнуліся ў райком камсамола з просьбай дапамагчы знайсці Анатолю работу.

Анатоля Венскага прынялі на фабрыку і накіравалі вучнем у цэх, на зацяжку абутку. Першыя дні хлопец дзічыўся, глядзеў на ўсіх скоса, недаверліва. Калі хто спрабаваў загаварыць з ім, ён адказваў злосна і тут жа адварочваўся. Адвярнуўся ён і ад Ані Салтыковай, камсорга змены, калі тая падышла, пазнаёмілася і папрасіла расказаць, як справы.

— Добрыя справы. Яшчэ пытанні будуць?

— Будуць. Ты, хлопча, не ў лес прышоў, а да людзей. Чаму ж ты воўкам на ўсіх глядзіш? У нашым цэху усе дружна, адной сям'ёй жыць прывыклі.

Анатоль нічога не адказаў.

Назаўтра Аня зноў падышла, але ўжо не адна, а з майстрам Тамарай Парадзісавай. Пагаварылі аб справе, а потым прапанавалі Анатолю пайсці разам з камсамольцамі цэха ў тэатр. Той памаўчаў, падумаў, а потым сказаў:

— А ці вядома вам, што я не камсамолец?

— Вядома.

— Тады чаму ж клічаце?

— З намі і не камсамольцы ходзяць, — адказала Аня і рашуча дадала: — І наогул, час табе да калектыву далучацца!.. Дык што, запісваць?

— Ну, запісвай.

Спачатку Анатоль злаваў на Аню: чаго яна прычапілася? Але пастунова прывык і ахвотна вёў з дзяўчынаю размову.

— Чаму ты дагэтуль не ўступіў у камсамол? — неяк пацікавілася Аня.

Анатоль і сам не ведаў, чаму. Сказаў першае, што прышло ў галаву:

— Мяне ніхто не запрашаў туды...

— А калі мы прапануем уступіць?

— Падумаю.

Прайшло некалькі месяцаў. Анатоль добра асвоіў даручаную яму аперацыю, перастаў цурацца таварышаў па рабоце. У кастрычніку, перад 40-годдзем ВЛКСМ, ён падаў Ані акуратна складзены аркушык паперы.

— Вось мая заява. Прымеце?

Яго прынялі ў камсамол.

Аднойчы перад канцом змены Аня сказала Анатолю:

— Сёння вечар у клубе, наш цэх нясе адказнасць за парадак. Можа падзяжурыш?

— Падзяжуру... Калі выйдзе што...

Гэта было яго першае даручэнне. Непрыкметна для сябе Анатоль усё больш уваходзіў у жыццё арганізацыі. Таварышы дапамаглі яму хутчэй асвоіць прафесію, запрашалі ў кіно, прызначылі дзяжурным паста па ахове чысціні.

Нядаўна Анатоля Венскага выбралі членам камісіі па ўнутрыкамсамольскай рабоце пры фабрычным камітэце ЛКСМБ. Камсамольцы ўпэўнены, што іх пасланец не запляміць добрай рэпутацыі чацвёртага цэха.

Выхаваць ініцыятыўнасць у камсамольцаў — справа нялёгкая. Без ініцыятывы нельга чаго-небудзь дасягнуць. Няхай у камсорга будуць самыя вялікія арганізатарскія здольнасці, няхай усе члены бюро будуць як на падбор, — усёроўна ім самім усяго не адолець, да ўсяго не дадумацца. Аня пераканалася ў гэтым на сваім вопыце. І яна не шкадуе сіл для выхавання ініцыятывы ў членаў сваёй арганізацыі. Як яна гэта робіць, паказвае прыклад з Анатолем Венскім, які стаў адным з лепшых майстроў па зацяжцы абутку ў цэху, на вачах таварышаў вырас у актыўнага, ініцыятыўнага камсамольца.

А ў змене 65 членаў ВЛКСМ. І кожны стараецца ўнесці ў работу камсамольскай арганізацыі сваю энергію, выдумку, свой энтузіязм. Вось чаму тут крынічыць жыццё. Першы клопат — вытворчасць, праца. Клапоцячыся аб тым, каб выконваўся план, эканомна выдаткоўвалася сыравіна, павышалася культура вытворчасці, камсамольцы стварылі рэйдавую брыгаду, атрад «лёгкай кавалерыі», устанавілі пост па ахове чысціні, арганізавалі выпуск сатырычнай камсамольскай насценгазеты, аформілі Дошку гонару. А колькі бурных камсамольскіх сходаў прайшло ў цэху! Колькі цікавых, надзённых пытанняў абмеркавана! І спытайце ў начальніка цэха Свірыдовіча, хто яго лепшы памочнік, — ён адкажа: «Камсамольцы!»

Ініцыятывы ў іх хапае не толькі на цэхавыя справы. Камсамольцы возьмуцца і падрыхтуюць выдатны вечар адпачынку; паедуць да шэфаў-воінаў і там пакажуць сябе з найлепшага боку; прыдзе час аспрэчваць на спаборніцтвах спартыўны гонар цэха — і камсамольцы аспрэчваюць яго горача, заўзята. Не дзіўна, што і людзі тут растуць на вачах. Году яшчэ няма, як Тамара Ціхановіч прышла ў цэх баязлівай, няўпэўненай у сваіх сілах дзяўчынкай. А зараз яна — актыўная камсамолка, групкамсорг, член камсамольскага бюро змены.

Камсамольская арганізацыя чацвёртага цэха на фабрыцы — не выключэнне. У кожнай цэхавай арганізацыі выхаванне ініцыятывы на першым плане.

Алеся Нямковіч — камсорг змены «Б» з сёмага цэха — унесла такую прапанову: у часе абедзеннага перапынку наладжваць гучныя чытанні. Чытае кожны па чарзе, і кожны павінен падумаць, знайсці ў газетах і часопісах цікавы, надзённы матэрыял. Так у змене з'явілася трыццаць восем няштатных агітатараў. Камсамольцы дзевятага цэха выступілі ініцыятарамі стварэння пастоў кантролю за якасцю прадукцыі. Ініцыятыву гэтую падтрымалі ўсе цэхі, і на фабрыцы ўзнік больш як тысячны атрад грамадскіх кантралёраў.

Камітэт камсамола фабрыкі, як той добры акумулятар, збірае ўсё новае, карыснае, што нараджаецца ў камсамольскіх арганізацыях цэхаў, змен, у групах. Тут збіраецца і адсюль зноў разыходзіцца па нізавых ячэйках усё тое, што заслугоўвае ўвагі, што павінна стаць здабыткам калектыву.

Быў час, калі камсамольская арганізацыя пятага цэха працавала слаба. Актывістаў з гэтай арганізацыі запрасілі на пасяджэнне камсамольскага камітэта фабрыкі, і тут лепшыя камсоргі і групоргі падзяліліся з імі вопытам сваёй работы, далі сябрам парады, выказалі жаданне дапамагчы ім. Урок гэты не прайшоў без следу — справы і ў моладзі пятага цэха пайшлі на лад.

У змене «Б» быў падрыхтаваны і праведзены цікавы камсамольскі сход: «Хвіліна гадзіну беражэ». Камсамольцы стварылі рэйдавую брыгаду, якая зрабіла шмат карысных спраў. У выніку павысіліся вытворчыя паказчыкі ў цэху.

Пахвальна, што камітэт камсамола фабрыкі нястомна шукае самых разнастайных і цікавых форм распаўсюджвання вопыту лепшых, выхоўвае ініцыятыву, згуртоўвае рабочы калектыў. Вучоба сакратароў цэхавых арганізацый і групоргаў, узаемная праверка работы, падтрымка камсамольскай ініцыятывы камандзірамі вытворчасці — усё гэта, нібы спадарожны вецер, дапамагае ісці наперад.

І, вядома, не выпадкова, што за мінулы год камсамольская сям'я фабрыкі павялічылася на сто чалавек.



Шмат каштоўнага, павучальнага можна знайсці ў рабоце камсамольскай арганізацыі фабрыкі імя Калініна. Але ёсць тут і свае недахопы. Вазьміце, скажам, тую ж практыку падрыхтоўкі вечароў адпачынку.

— Кожны раз, — расказвае Алеся Нямковіч, — «упаўнаважаны» нашага бюро выпраўляецца на пошукі зацейніка...

А ці трэба гэта? Ці не лепш даручыць падрыхтоўку вечароў кожнай групе па чарзе, аб'яўляючы своеасаблівае спаборніцтва? А на тыя грошы, што выплачваюцца зацейніку-спецыялісту, можна было б купіць лепшым спевакам, чытальнікам, танцорам білеты ў кіно або тэатр.

У камітэце камсамола фабрыкі можна пачуць скаргі: цяжка наладзіць добрую самадзейнасць ва ўсіх цэхах, бо на гэта адпускаецца мала сродкаў. А хіба нельга вырошчваць сваіх кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці? Можна. Трэба толькі больш упэўненасці ў сваіх сілах, трэба разбіць «пераконанні» тых, хто лічыць, што без «штатнікаў» і «прафесіяналаў» у клубе нічога не зробіш.

І яшчэ адна заўвага. Сярод абутнікоў шмат камсамольцаў, якія не маюць сярэдняй і нават сямігадовай адукацыі. Такіх жа, што вучацца, мала. Мусіць жа варта камітэту камсамола сур'ёзна падумаць пра гэта.

На фабрыцы працуе цэлая гвардыя камсамольцаў-актывістаў — гэта члены рэйдавых брыгад, камсоргі, піянерважатыя падшэфнай школы, агітатары, рэдактары сатырычных лі535ткоў і «маланак». Камітэт камсамола трымае курс на тое, каб кожны член вялікай фабрычнай камсамольскай сям'і стаў актывістам, ініцыятыўным змагаром за набліжэнне камуністычнай будучыні.

Правільны гэта курс!

**А. ШЧАРБАКОЎ.**

# ЗАЕДЗЬЦЕ ДА ВЕРЫ

Жыццё з маленства не песціла гэтую дзяўчыну. Яна была яшчэ падлеткам, калі памёр бацька. На руках у маці засталося двое малых. Вера паспявала і ўрокі падрыхтаваць, і дапамагчы маці.

Пасля сямі класаў сяброўкі пайшлі вучыцца далей, а Вера вырашыла застацца працаваць у родным калгасе.

Ідучы разам з жанчынамі на поле, Вера прыгадвала словы любімага настаўніка, які гаварыў: «Радзіма пачынаецца ад бярозкі, што расце ля акна, ад ручайка, што працякае ля твайго дому...» Цяпер, калі дзяўчына цвёрда рашыла, што яе месца ў родным калгасе, гэтыя словы гучалі для яе не як адказ на ўроку, а як цудоўная ява. Ад іх святлейшым рабілася сонца, што ўзыходзіць над хвойнікам, прыгажэйшымі — лугі і палі.

Ахвотна рабіла Вера ўсё, што ёй даручалі ў брыгадзе. Неяк аднаго разу яна выпадкова пачула размову паміж жанчынамі:

— Што карысці з тае птушкі? Ад птушкафермы адны страты...

— Які догляд, такі і прыбытак,— пярэчыла другая.— Дасі корму, дагледзіш курэй, то і прыбытак будзе!

«І праўда, усё залежыць ад догляду, ад працы,— падумала Вера.— Вунь і калгас наш быў небагаты, а зараз шэсць мільёнаў прыбытку мае. Можна і на птушкаферме дабіцца поспеху».

І можа таму, што справа гэтая — не з лёгкіх, дзяўчына цвёрда наважыла ўзяцца за яе. Яна расказала маці аб сваёй задуме. Лізавета Лявонаўна ўважліва выслухала дачку, потым сказала:

— Ці пад сілу табе гэта, дачушка? Вунь дарослыя не ўпраўляюцца, а дзе ўжо табе! А ўрэшце, сама глядзі...

І Вера вырашыла пайсці працаваць на птушкаферму.

— Яшчэ дзіця,— гаварылі суседзі, гледзячы на танклявую постаць дзяўчыны.

Вера памятае, як упершыню адчыніла дзверы птушніка. Куры чарадой кінуліся да яе. Яна злавіла адну, патрымала ў руках — лёгенькая, як верабей...

Вясною на інкубатары купілі куранят. Зірнуўшы на гэтыя кволыя жаўтаватыя камячкі, Вера падумала: «А з іх трэба ж выгадаваць курэй-нясушак». І ўспомнілася перасцярога маці... Але камсамолка не спалохалася. Калі чаго не разумела, ішла да заатэхніка ці старшыні калгаса, распытвала аб усім, у вольныя хвіліны чытала



Птушніца калгаса «17 верасня» Нясвіжскага раёна Вера Майсеня.



кнігі, брашуры па птушкагадоўлі. Прыслухоўваючыся да парад старэйшых, Вера і сама задумвалася над тым, як дабіцца большай прадуктыўнасці птушкі.

Заатэхнік дапамог скласці рацыён для курэй. Неяк дзіўна гучала гэтае слова — «рацыён». Раней курэй кармілі так: сыпнуць ім са жменю зерня, а пад'елі яны ці не — нікому няма клопату. Пры Веры ўстанавілі кругласутачнае дзяжурства, уцяплілі птушнік.

Час ішоў. Работа на птушніку наладзілася. Радавалася дзяўчына першым сваім поспехам: куры падрасталі, харашэлі. На пятым месяцы пачалі несціся. Жанчына, якая раней працавала на птушніку, аж пляснула ў далоні, калі зазірнула да Веры.

— Не верыцца, далібог!..— гаварыла яна.— Можа гэта парода іншая? Так рана пачалі несціся..

Увосень калгас «17 верасня» адвозіў свае экспанаты на раённую сельскагаспадарчую выстаўку ў Нясвіж. Звычайна, на такую выстаўку прыводзілі кароў, коней, свіней, а тут усе былі здзіўлены «курыным» павільёнам.

Вера расказвала аб сваёй рабоце. Наведвальнікі, часцей за ўсё жанчыны, перашэптваліся і здзіўлена пыталіся:

— Маладыя куры і нясуцца? Нешта тут не так... Ці ж мы не гадуем іх!..

Пажылы калгаснік, выняўшы з рота люльку, устаўляў сваё слова:

— Жанчыны, ну і дзівачкі ж вы! Як тут не паверыць, калі вунь ужо яечка на саломцы бялее!.. А калі вам і гэтага мала, то заедзьце ў калгас, паглядзіце...

...Заедзьце да Веры, калі каму будзе па дарозе. Да яе на ферму, між іншым, прыязджалі птушніцы з Капыльшчыны, з Дзяржынскага раёна, каб пераняць вопыт.

— Ну аб чым расказваць?— звычайна пытаецца Вера,— Глядзіце самі.

А потым раскажа пра тое, як выкарыстала параду аднаго часопіса аб падаўжэнні светлавога дня ў птушніку. Тады электрычнасці ў калгасе яшчэ не было, дык яна ў старшыні Уладзіміра Аляксеевіча Галушкі выпрасіла лямпы і запальвала іх, каб было светла.

Некаторыя смяяліся з яе: «Дзівачка, на курэй газу псаваць надумала!..»

А гэтыя кепікі цяпер — курам на смех. Такіх прыбыткаў, якія атрымоўвае калгас ад птушкафермы, раней ён ніколі не меў.

Па прапанове заатэхніка Вера робіць дражджаванне кармоў. Зімою дол у памяшканні ўсцілае сечкай або мякінай, і гэта дае вялікую карысць.

...Дыхнула вясна цяплом і святлом. Прыгрэла сонейка, і дзяўчына выпусціла на лужок свой статак: усё навокал белае-белае, нібы зіма пакінула на развітанне гурбы снегу, а вясна не здолела іх сагнаць вадою ў лагчыны. Але гэта не снег, гэта статак курэй, больш як 400 нясушак, якіх гадуе камсамолка Вера Майсеня.

У калгасную касу за год ад птушкафермы пакладзена 63 тысячы рублёў. Хто цяпер скажа, што птушкагадоўля — не прыбытковая галіна!?.

Працаўнікі калгаса «17 верасня» вырашылі свой сямігадовы план выканаць за чатыры гады. Ужо ў 1962 годзе на птушкаферме будзе 2 000 курэй.

— Заданне партыі выканаем!— з цвёрдай упэўненасцю гаворыць камсамолка Вера Майсеня, дэпутат сельскага Савета.

У дзяўчыны шмат сябровак. Будучы дэлегатам XIII з'езда ВЛКСМ, Вера пазнаёмілася з камсамольцамі братніх рэспублік. Завязалася перапіска. У вёску Вялікая Ліпа, дзе жыве і працуе знатная птушніца, з розных куткоў краіны ідуць пісьмы. Пішуць ёй з Азербайджана, з Украіны, з Прыбалтыкі. Той, хто жыве бліжэй, завітвае сам.

Цяпер, калі Вера прыгадвае, як выбірала шлях у жыцці, яна яшчэ раз пераконваецца, што зрабіла правільна.

**П. ПРАНУЗА.**

# ВЕЧАР У КУРАСОЎШЧЫНЕ

Курасоўшчына... Добрая шасейная дарога падзяляе гэтае сяло на дзве часткі: па адзін бок яшчэ стаяць драўляныя павільёны абласной сельскагаспадарчай выстаўкі, якая наладжвалася тут некалькі год запар, па другі — узвышаецца вялікі каменны будынак Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР. Калі пачынае змяркацца, цемра паступова ахутвае старыя збудаванні былой выстаўкі і толькі няясныя абрысы дахаў на фоне далёкага гарадскога зарыва гавораць аб іх існаванні. Па другі ж бок дарогі ўсё наадварот — і сам будынак акадэміі, і прыгожыя пад'езды да яго, і нават дапаможныя пабудовы весела зіхацяць электрычнымі агнямі.

...У той вечар да ярка асветленага будынка акадэміі спяшалася многа людзей. Яшчэ задоўга да канца рабочага дня сюды пачалі прыязджаць аўтобусы і грузавікі з прыгожа апранутымі юнакамі і дзяўчатамі — перадавікамі калгасаў Мінскага раёна. Ішлі маладыя навуковыя работнікі, аспіранты і лабаранты. Спяшаліся старыя акадэмікі.

Што ж прымусіла іх усіх сабрацца разам?

Ну, вядома ж, клопаты аб вялікім сямігадовым плане, які авалодаў думкамі мільёнаў і мільёнаў савецкіх людзей — будаўнікоў камунізма. А камсамол, моладзь ніколі не былі ў баку ад грандыёзных спраў народа нашай краіны! І цяпер, як указаў лютаўскі Пленум ЦК ВЛКСМ, адкрываецца велізарная прастора творчай ініцыятыве і самадзейнасці камсамольскіх арганізацый, моладзі, усе намаганні якіх павінны быць накіраваны на датэрміновае выкананне заданняў сямігодкі і перш за ўсё — плана 1959 года. Вось і вырашылі камсамольцы акадэміі і калгасаў Мінскага раёна сустрэцца і пагаварыць па шчырасці. А пагаварыць было аб чым. Сельскія працаўнікі рэспублікі абавязаліся ў гэтым годзе амаль падвоіць вытворчасць малака і мяса. Гэта не жарты!

Хваляванне моладзі перадалося і сталым дзеячам навукі: на сустрэчу прышлі акадэмікі.

Вечар пачаўся незвычайна.

Хтосьці з маладых гасцей звярнуўся да прэзідэнта Акадэміі навук Лупіновіча:

— Іван Сцяпанавіч, нам, хлебаробам, вядома з практыкі, што вапнаванне кіслай глебы павышае ўраджайнасць. Аднак праводзім мы яго далёка не па-навуковаму. Ці можна вызначаць дакладна кіслотнасць глебы проста ў полі?

Прэзідэнт, акінуўшы позіркам вялікую групу юнакоў і дзяўчат, сказаў:

— Каго цікавіць гэтае пытанне, прашу ісці за мной.



Акадэмік Андрэй Рыгоравіч Мядзведзеў расказаў моладзі шмат цікавага...
Фота А. Дзітлава.





— Сказала, значыць, надаю, — заявіла з трыбуны даярка калгаса імя Калініна Слава Булынка.

У лабараторыі масавых аналізаў глебаў маладых паляводаў з калгаса «Савецкая Беларусь», імя Калініна, «Новы быт», імя Ільіча сустрэў навуковы супрацоўнік Вадзім Сталяроў. Ён пазнаёміў іх з лёгкім, зручным апаратам, пры дапамозе якога вызначаецца кіслотнасць глебы ў любых умовах, і тут жа, на працягу пяці-сямі мінут, паказаў, як гэта робіцца.

— Як бачыце, — заключыў сваю «лекцыю» Сталяроў, — вельмі эканомна: і па часу, і па сродках.

— Добрая рэч, — згадзіліся маладыя хлебаробы.

А ля стэндаў з экспанатамі пастаяннай выстаўкі ішла тым часам ажыўленая гутарка паміж старымі знаёмымі.

— Трэба ўсіх юнакоў і дзяўчат уцягнуць у паход за далейшае павышэнне культуры моладзі, — горача гаварыў сакратар камітэта камсамола акадэміі Кандыба сваім сябрам з «Новага быту». — Калі спатрэбіцца дапамога, не саромцеся, звяртайцеся да нас. Дапаможам.

— У нас жа як-ні-як дзвесце сорак камсамольцаў! — падтрымаў Кандыбу супрацоўнік інстытута эканомікі Марат Каліноўскі. — А сярод іх і вашага брата — нядаўніх хлебаробаў — нямала. Так што знойдзем агульную мову. Праўда, дзяўчаты?

Ларыса Гвардзіян, Рая Гайдукевіч і Вера Каханоўская згодна кіўнулі галовамі.

— Знойдзем!

— Калі на тое пайшло, — уставіў слова новабытавец Вячаслаў Гарнашэвіч, — дык мы яе ўжо знайшлі, гэтую мову. Яшчэ тады, як вы да нас прыязджалі. Толькі часцей гэта трэба рабіць. Сістэматычна. Па плану.

— Па плану? — Каліноўскі штурхнуў Кандыбу ў бок. — Ён мае рацыю.

— Будзе план!

Частка моладзі зацікавілася бібліятэкай.

— Хочаце ведаць, што мы маем? — спяшалася адказаць на шматлікія пытанні бібліятэкар Валянціна Мурашка, жывая, кемлівая дзяўчына з чорнымі вачыма, уважлівы позірк якіх скіроўваўся то на аднаго, то на другога госця. — Пакуль — пятнаццаць тысяч тамоў. Сярод іх ёсць унікальныя выданні па розных галінах навукі. Ну, і, вядома, па сельскай гаспадарцы ў першую чаргу. Вы-



— Толькі мы хочам, — сказаў сакратар камсамольскай арганізацыі калгаса «Новы быт» Васіль Майсейчык, — каб вы часцей сустракаліся з намі.

пісваем каля двухсот часопісаў. Само сабою — газеты.

— Вас як завуць? — спытаў раптам камсамолец з «Новага быту» Яўген Грыб.

— Валя, Валянціна Міхайлаўна... — усміхнулася Мурашка. — А вас?

Хлопец назваў сябе.

— А вас? — звярнулася бібліятэкар да другога таварыша.

— Імя — Антон, прозвішча — Грыб. Выходзіць, Антон Грыб...

— Вы браты, ці што?

— Толькі сябры, — адказалі хлопцы, трохі збянтэжыўшыся.

— Ну, дык што ж вас яшчэ цікавіць, сябры Грыбы? — пажартавала Валя.

Тыя пераглянуліся.

— Хто карыстаецца ўсім гэтым багаццем? — спытаў Яўген.

— Ды ўсе: вучоныя, рабочыя, служачыя.

— Ну, а калі б мы звярнуліся да вас з якой-небудзь просьбай? — спытаў Антон.

Валя прыжмурыла вочы.

— Мы вядзем кнігаабмен з Кітаем, Венгрыяй, Чэхаславакіяй, Англіяй і нават — з Амерыкай, — пачала яна здалёку. — Словам, накопліваем, як вы кажаце, «багацці». І, вядома, не для таго, каб трымаць іх пад замком. Значыць, як супрацоўнікі акадэміі, так і вы, нашы сельскія сябры, можаце быць іх гаспадарамі. Спатрэбіцца што, калі ласка. Можаце прыязджаць, можаце пісаць лісты. Усё да вашых паслуг — і бібліятэка, і кнігі. З гэтай жа хвіліны. Заказвайце!

І Валя пачала прапаноўваць хлопцам кнігу за кнігай...

Потым усе сабраліся разам — і акадэмікі, і госці. Вялікая, светлая, па-святочнаму ўпрыгожаная канферэнц-зала ледзь змясціла ўсіх, хто пажадаў прыняць удзел у сустрэчы. Агульную гутарку пачаў прэзідэнт Іван Сцяпанавіч Лупіновіч.

— У 1923 годзе, мае маладыя сябры, — сказаў ён, — мне давялося весці па Мінску першы



**— Калі спатрэбіцца дапамога, не саромцеся... — гаворыць калгаснікам сакратар камітэта камсамола акадэміі Анатоль Кандыба** (крайні справа).



трактар. Як тады здзіўляліся гараджане, а яшчэ больш — сяляне, якія ўбачылі гэтую цуда-машыну. Шмат часу прайшло з тае пары. Цяпер на калгасных палях працуюць мільёны трактараў розных марак. Больш таго, створана машына, якая працуе без трактарыста і прычэпшчыка. У нашай краіне робіцца ўсё для таго, каб аблегчыць працу хлебароба і зрабіць яе высокапрадукцыйнай.

... У зале ціха-ціха. Моладзь вельмі ўважліва слухае старэйшага таварыша. І кожнае слова яго глыбока западае ў душу. Нядаўна Савецкая Беларусь узнагароджана другім ордэнам Леніна. Добра! Але ён выдадзены ёй, як сказаў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў, трошкі пад аванс. Значыць, каб апраўдаць высокае давер'е партыі і ўрада, трэба працаваць яшчэ больш напружана. Бліжэйшая задача хлебаробаў рэспублікі — давесці ўраджай збожжавых у сярэднім да шаснаццаці цэнтнераў з гектара. Як гэтага дасягнуць? На доследных участках акадэміі здымаюць і па сорак, і нават па семдзесят цэнтнераў! Значыць, трэба трымаць сувязь з вучонымі. Пераймаць іх навуку, вопыт. І заўсёды вучыцца, не спыняцца на дасягнутым.

— У вас, — звяртаючыся да гасцей, сказаў прэзідэнт, — завязваецца цесная дружба з камсамольцамі акадэміі. Гэта вельмі добра! Сябруйце, дзярзайце! Калі ж хто-небудзь з нашых камсамольцаў не здолее адказаць на якое-небудзь з вашых пытанняў, не бяда. На дапамогу прыдзе кожны акадэмік, кожны вучоны. Надалей будзем працаваць толькі так!

За прэзідэнтам выступіў акадэмік Андрэй Рыгоравіч Мядзведзеў. Ён расказаў моладзі шмат цікавага.

Камуністычная партыя, гаворыць Андрэй Рыгоравіч, імкнецца да таго, каб савецкія людзі былі забяспечаны ўсім — і адзеннем, і разнастайнымі прадуктамі харчавання. Сведчанне гэтага — велічныя заданні сямігодкі па сельскай



**Частка моладзі зацікавілася акадэмічнай бібліятэкай. Валя Мурашка прапаноўвала хлопцам кнігу за кнігай.**

гаспадарцы! За мяжой таксама часам спрабуюць «паклапаціцца» аб простых людзях. Але як? У Амерыцы, напрыклад, двое вучоных вынайшлі штучнае масла. Яны дэманстравалі яго ў спецыяльнай камісіі ААН. Але нічога з гэтага не выйшла.

— Па-першае, масла гэтае аказалася вельмі дарагім, — расказваў акадэмік Мядзведзеў пад агульны смех. — Правядзеш па ім пальцам, лізнеш гэты палец — плаці дзесяць долараў! Па-другое, вельмі «духмянай» аказалася прадукцыя. Уявіце сабе пратухлае яйка, ды павялічце яшчэ гэты пах у мільёны разоў... А цяпер паду-

майце, хто будзе ўжываць такі прадукт? Кажуць, і самі тыя «вучоныя» настолькі пратухліся, што іх і блізка не пускалі да грамадскіх месц... Савецкі Саюз не прымаў удзелу ў гэтай камісіі ААН. У нас, як паказаў XXI з'езд КПСС, больш высакародныя задачы. І ў нашай навукі — такасама. Цяпер у вялікай справе без навукі не ступіш і кроку. А ў нас з вамі вялікая справа: ствараць для працоўных багацце сельскагаспадарчых прадуктаў выдатнай якасці. Таму гаспадарку сваю мы павінны весці, абапіраючыся на дасягненні перадавой навукі. Смялей наперад, маладыя сябры!

Прэзідэнт спытаў у гасцей:

— Можа, хто з вас выступіць?

Паднялася Слава Булынка, даярка з калгаса імя Калініна. Акінула позіркам залу і збянтэжылася, зачырванелася макам.

— Смялей, смялей! — сказаў прэзідэнт.

— Правільна тут акадэмік Мядзведзеў наконт смеласці гаварыў, — пачала яна, ажывіўшыся. — Узяць, напрыклад, мяне. У 1956 годзе я скончыла дзесяцігодку. Куды ісці? Адны кажуць — у кантору, другія — на вытворчасць, гэта значыць, у поле ці на ферму. Пайшла даяркай. Замацавалі за мной семнаццаць кароў. Дала слова: надаю ад кожнай па тры тысячы літраў. Сёй-той смяяўся: вельмі спрытная. А я надаіла па 3 650 літраў! І смяялася апошняй! У гэтым годзе надаю ад кожнай каровы па чатыры тысячы. Камсамольскае слова!..

— Ох! — пачулася ў зале.

— І нічога не «ох!» Сказала, значыць, надаю,— зусім асмялела дзяўчына. — Мяне, можа, гэтая сустрэча вось як натхняе! І яшчэ: я ведаю, веру, што таварышы вучоныя дапамогуць.

Ёй доўга апладыравалі.

Сардэчна дзякаваў акадэмікам за сустрэчу сакратар камсамольскай арганізацыі калгаса «Новы быт» Васіль Майсейчык.

— Толькі мы хочам, — сказаў ён, — каб вы часцей сустракаліся з намі ў калгасах.

З цікавай прапановай выступіў акадэмік Сцяпан Мітрафанавіч Скарапанаў.

— У мяне сёння вялікі дзень, — сказаў ён. — Гэтая сустрэча зрабіла мяне зноў маладым. Яна, між іншым, вельмі сімвалічная. Вы, камсамольцы і моладзь, — крыніца бурнай энергіі. У нас жа — не малыя веды. Давайце на карысць агульнай справы злучым гэтыя выдатныя якасці — энергію з навукай!

Вечар, як звычайна ў моладзі, закончыўся вялікай весялосцю. Іграў духавы аркестр. У віхуры вальса кружыліся пары. Завязваліся новыя знаёмствы. Вяліся задушэўныя гутаркі. І хто ведае, магчыма ў гэтыя хвіліны маладыя сэрцы некаторых юнакоў і дзяўчат аб'ядналіся на вялікае і вернае жыццё.

У перапынках — задорныя гульні. Хто дужэйшы? Хто спрытнейшы? Хто больш кемлівы?

І, нарэшце, вясёлая латарэя. Нехта выйграў цукеркі і адразу частуе імі сяброў. Таму пашанцавала на духі: падыходзьце, дзяўчаты, — будзеце духмяней за веснавыя кветкі! А гэты — падумаць толькі! — выйграў «ЗІМ». Дзіцячы, вядома. Што ж, прыдзе час, будзе і сапраўдны! Да таго ідзём.

Наш камсамол, наша моладзь — на шляху ў вялікую, светлую будучыню. Вечар дружбы, наладжаны ў Акадэміі сельскагаспадарчых навук Беларускай ССР, добры доказ гэтаму. І ў нашай моладзі няма большага шчасця, як у поўную меру сваіх сіл працаваць на камунізм, на карысць горача любімай Савецкай Радзімы.

**В. ДАНІЛЕВІЧ.**



**І, нарэшце, вясёлая латарэя. Нехта выйграў цукеркі і адразу частуе імі сяброў.**

# Давайце пагаворым...

*„Якім вы ўяўляеце воблік маладога чалавека праз дзесяць год?“*

## Гэта таксама важна

Калі ідзе гутарка аб галоўных рысах маладога чалавека ў будучым, мне здаецца, нельга забываць і аб такіх якасцях, як ініцыятыўнасць, знаходлівасць, уменне быць арганізатарам. Думаецца, што гэта таксама вельмі важна. Практыка камсамольскай работы мяне пераканала ў гэтым. Часта даводзіцца сустракацца з камсамольцамі, якія выдатна працуюць, няспынна павышаюць сваю вытворчую кваліфікацыю, пашыраюць агульны кругагляд, шмат чытаюць. Усё гэта не можа не радаваць. Але даручыце ім хаця б невялічкае арганізацыйнае заданне, скажам, наладзіць на прадпрыемстве вечар на пэўную тэму — і яны пакажуць поўную бездапаможнасць. Як арганізаваць? З чаго пачынаць? Да каго звярнуцца за парадай? — пасыплюцца адно за другім пытанні.

Маўляў, што ж зробіш, калі няма арганізатарскіх здольнасцей? Такі довад звычайна прыводзяць у апраўданне. Я глыбока пераканаиы, што меркаванне, нібыта арганізацыйнымі здольнасцямі валодаюць толькі некаторыя, нямногія людзі, — памылковае. Кожны юнак, кожная дзяўчына могуць быць нядрэннымі арганізатарамі. А гэтыя якасці можна і трэба выхоўваць у моладзі і займацца гэтым павінны перш за ўсё камсамольскія арганізацыі. Трэба пераканаць камсамольцаў, што падзел на «пасіўных» і «актыўных» — гэта, па сутнасці, умоўнасць. Кожны можа стаць актыўным удзельнікам усіх грамадскіх мерапрыемстваў. Мне памятаецца такі выпадак. Заводскі камітэт камсамола рыхтаваў вечар адпачынку моладзі. Хацелася правесці яго як мага цікавей. Мы запрасілі ў камітэт аднаго камсамольца (удзельніка мастацкай самадзейнасці) і прапанавалі яму скласці праграму-сцэнарый вечара. Здавалася, хто, як не ён, мог лепш за ўсіх зрабіць гэта? Але дзіўная рэч: не паспеўшы да канца выслухаць мяне, таварыш замахаў рукамі і пачаў адмаўляцца ад прапановы. Асабліва спалохала яго слова «сцэнарый». Як жа так: сцэнарый можа стварыць толькі пісьменнік... Доўга прыйшлося даводзіць юнаку, што напісаць «сцэнарый» правядзення вечара — гэта не такая ўжо цяжкая справа, варта толькі сесці і добра падумаць... Прайшло некалькі дзён — і ў мяне на стале ляжала даволі цікавая і падрабязная праграма вечара. Аўтар сам выказаў жаданне ўдзельнічаць у ажыццяўленні свайго плана, у арганізацыі вечара. Зараз гэты таварыш — адзін з самых актыўных арганізатараў усіх культурных мерапрыемстваў, якія праводзяцца на заводзе.

Калі б мы больш клапаціліся пра выхаванне ў юнакоў і дзяўчат, як кажуць, арганізатарскай стрункі, менш было б суму, аднастайнасці і шэрасці на нашых маладзёжных вечарах, праграма якіх звычайна складаецца з лекцый і танцаў.

Мне ўяўляецца, што ў нашай светлай камуністычнай будучыні не знойдзецца месца для суму: маладыя людзі будуць з захапленнем працаваць і цікава адпачываць. Кожны юнак, кожная дзяўчына павінны быць вынаходлівымі, ініцыятыўнымі, энергічнымі.

**Г. ВОЛЬСКІ,**
**сакратар камітэта камсамола Мінскага радыёзавода.**



## Будучыня нараджаецца сёння

Пытанне, з якім звярнулася рэдакцыя часопіса «Маладосць» аб вобліку маладога чалавека ў камуністычнай будучыні, мяне вельмі зацікавіла. Гэтае пытанне хвалюе зараз не толькі нас, маладых, але і нашых старэйшых таварышаў, нашых бацькоў: у імя светлага заўтра яны ішлі на штурм старога свету ў семнаццатым годзе, будавалі новае жыццё ў гады пяцігодак, са зброяй у руках адстойвалі заваёвы сацыялізма ў дні Айчыннай вайны... На нашу долю выпала вялікае шчасце — завяршыць вялікую справу, пачатую імі.

І зусім натуральна, што чалавеку хочацца ўявіць тое, да чаго ён імкнецца, за што змагаецца, у імя чаго працуе. Свае меркаванні аб тым, як я ўяўляю маладога чалавека ў будучым, хочацца выказаць і мне. Магчыма, мае ўяўленні не зусім поўныя, а можа часам і памылковыя. Што ж, тады таварышы дапоўняць мяне.

...Забудзем на хвіліну, што мы жывём у 1959 годзе, перанясемся ў марах у невядомы 19... год і ўбачым маладога чалавека гэтага часу.

Ён уяўляецца мне стройным і зграбным, з распрастанымі плячыма, яснымі, разумнымі вачамі. Вось ён ідзе па вуліцы. Ён бачыць усё: для яго не застаецца незаўважанай нават маленькая паперка, выпадкова занесеная на вуліцу ветрам. Не саромечыся, ён падымае яе і кладзе ў урну. Ён падвязвае маленькае нахіленае дрэўца з такой любоўю і пяшчотай, нібыта завіхаецца каля роднага дзіцяці.

Ціха на вуліцы. Не чуваць гулу аўтобусаў: іх маторы — бясшумныя. Чалавек падыходзіць да прыпынку. Ён дапамагае старэнькай бабульцы сесці ў аўтобус. У гэтым аўтобусе няма кандуктара. Ды і шафёра не відаць: машына кіруецца аўтаматычна. На скрыжаванні вуліц рух рэгулюецца аўтаматычным рэгуліроўшчыкам.

Чалавек выходзіць з аўтобуса. Ён накіроўваецца ў кіно. Паспяшаем і мы за ім услед. У кінатэатры няма білетных кас, не стаіць ля ўваходу кантралёр. У глядзельнай зале не відаць экрана, героі фільма, здаецца, рухаюцца ў прасторы. У кожнага гледача такое адчуванне, нібыта ён сам знаходзіцца сярод персанажаў, якія дзейнічаюць у кінакарціне...

Можна было б прадоўжыць наша падарожжа ў будучыню, уявіць сабе і іншыя малюнкі сонечнага заўтра. Але вернемся да сапраўднасці. Будучыня нараджаецца сёння. Усё светлае, аб чым мы марым, што хочам бачыць у заўтрашнім дні, мы павінны наблізіць сваёй нястомнай працай. Хай жа ў гэтай працы натхняе нас наша вялікая, наша блізкая мэта, імя якой—камунізм.

**Ігар ПЕТРЫКОВІЧ,**
**студэнт Гомельскага педінстытута.**

## Пачуццё прыгожага трэба выхоўваць

Мне здаецца, што маладыя людзі ў будучым павінны ўмець надзвычай тонка адчуваць усё прыгожае ў жыцці і ў мастацтве, мець высокі эстэтычны густ.

Пройдзе сем год — і нашы велічныя планы станyць светлай явай — няэломнай воляй партыі, нястомнай працай савецкіх людзей краіна ператворыцца ў самую магутную ў свеце дзяржаву. Зусім натуральна, што пасля таго, як будзе дасягнуты высокі жыццёвы ўзровень народа, на першы план стане задача рознабаковага выхавання людзей. Пачэснае месца ў гэтым выхаванні зойме мастацкая адукацыя ўсіх членаў грамадства. Вельмі прыемна, што ўжо зараз эстэтычнаму выхаванню моладзі аддаецца ўсё больш увагі.

Хочацца верыць, што ў самым недалёкім будучым нідзе не змогуць знайсці сабе слухачоў безгустоўныя, а то і проста пошлыя песенькі, якія яшчэ даволі часта можна пачуць, накшталт вось такой:

«Я не поэт, и не брюнет,
И не герой, заявляю заранее.
Но буду ждать и тосковать,
Если ты не придёшь на свидание».

Больш бессэнсоўны і недарэчны набор слоў цяжка, бадай, і прыдумаць. Аднак, як ні дзіўна, гэты, з дазволу сказаць,

тэкст, аздоблены чуллівай мелодыйкай, можна амаль кожны дзень пачуць па радыё. Калі дадаць, што выконваецца песенька сіплаватым голасам, стане зразумелым, якія густы яна можа задаволіць. І самае крыўднае, што такое «мастацтва» знаходзіць сваіх прыхільнікаў. Варта толькі паявіцца афішы аб тым, што адбудзецца канцэрт эстраднай музыкі, як ля білетнай касы выстрайваецца вялізная чарга. У той жа час далёка не заўсёды бываюць поўнымі залы, у якіх наладжваюцца канцэрты сімфанічнай музыкі, выконваюцца лепшыя творы класікаў і сучасных кампазітараў.

Прыкра, што пошлым густам маладых аматараў «вострага і незвычайнага» часта патураюць людзі, якія ў той ці іншай меры нясуць адказнасць за мастацкае выхаванне моладзі. У Мінску ў Палацы культуры прафсаюзаў амаль кожны вечар праводзяцца вечары адпачынку. На адным з такіх вечароў мне давялося нядаўна пабываць. Тое, што я ўбачыла, мяне здзівіла і збянтэжыла. Аркестр зайграў фокстрот. Музыка спачатку гучала роўна і плаўна. Рытмічна рухаліся пары. Але вось музыканты сталі ўваходзіць, так сказаць, у творчы азарт. Пачуліся нечаканыя выбухі гукаў, пасля якіх наступіла хвілінная цішыня, а затым зала напаўнялася нейкім недарэчным бразгатаннем, нібыта нехта шараваў чым-небудзь па іржавай бляхе. У той жа час вылучылася некалькі пар, якія ў такт ігры аркестрантаў пачалі выраблаяць такія выкрутасы, што прыкра было глядзець. Кавалер рэзкім рухам адштурхоўваў сваю партнёршу і гэтак жа прыцягваў яе да сябе, пасля чаго, нібыта самлелыя, яны нерухома заміралі, а потым у ліхаманкавым рытме рухаліся на месцы, і зноў усё паўтаралася нанава... Як ні дзіўна, а ніхто з арганізатараў вечара не зрабіў гэтым «танцорам» заўвагі. Больш таго, калі скончыўся танец, у зале пачуліся воплескі: аматары «стылю» былі задаволены.

Можна было б спаслацца і на іншыя факты, якія пераконваюць у тым, што ў мастацкім выхаванні моладзі належыць зрабіць яшчэ вельмі шмат. Гэта трэба мець на ўвазе, клапоцячыся пра воблік маладога чалавека ў будучым.

**Святлана ПАПОВА,**
**зборшчыца Мінскага гадзіннікавага завода.**

# НАСУСТРАЧ VII ФЕСТЫВАЛЮ

Улетку 1959 года адбудзецца VII Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў. Маладое пакаленне ўсіх краін свету рыхтуецца да свайго традыцыйнага свята, якое на гэты раз будзе праходзіць у Вене.

Якія ж весткі даходзяць да нас аб новых праяўленнях палітычнай актыўнасці маладых барацьбітоў за мір? Чым жывуць напярэдадні фестывалю дзяўчаты і юнакі ўсіх кантынентаў?

Рэдакцыя «Маладосці» будзе паведамляць сваім чытачам пра найбольш цікавыя факты, узятыя з перыядычнага друку розных краін.

## Новая КОРЕЯ

Краінай Ранішняй Свежасці назваў сваю радзіму карэйскі народ. Моладзь Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі сваімі працоўнымі справамі робіць вялікі ўклад у агульную справу барацьбы за мір.

Ан Пха Ен на старонках часопіса «Новая Карэя» расказвае пра выдатны прыклад патрыятызму, праяўленага моладдзю павету Лівон. Па тэрыторыі гэтага павету працякае рака Мунанчэн. Гэты горны паток, які ўпадае ва Усходняе мора, заўсёды прыносіў шмат шкоды мясцовым сялянам. Больш шасцідзесяці маленькіх рэчак і ручаёў, якія выходзяць з цяснін, зліваюцца ў Мунанчэн. Варта было ў гарах прайсці вялікаму дажджу, як у даліне ракі пачыналася катастрафічная паводка. Раён гэты цярпеў не толькі ад паводак, але і ад нечаканых засух. Летась тут была такая засуха, якой не маглі прыгадаць 70-гадовыя старыя.

Цяпер чытачам будзе зразумелы той энтузіязм, з якім сельская моладзь павету Лівон адгукнулася на прапанову стварыць на рацэ Мунанчэн вялікае вадасховішча, якое з'явілася б не толькі сродкам затрымання паводкі, але і аховы палёў ад засухі. Вадасховішчу вырашана было прысвоіць назву «Маладзёжнае».

Цяпер гэтае будаўніцтва знаходзіцца ў стадыі завяршэння. Даліна ракі перагароджана дамбай, даўжыня якой больш 310 метраў, а вышыня — 25 метраў. У новым вадасховішчы будзе збірацца больш 4 мільярдаў кубічных метраў вады. Па шматлікіх тунелях і каналах вада з яго будзе падавацца для абваднення палёў і лясоў. Тут жа будзе пабудавана гідраэлектрастанцыя.

Грамадскасць Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі высока цэніць патрыятычны ўчынак моладзі павету Лівон. Ён з'яў-

ляецца часткай вялікага народнага руху за пераўтварэнне прыроды ўсходняга ўзбярэжжа Карэі.

## ЧЕХОСЛОВАКИЯ

Часопіс «Чэхаславакія» пад загалоўкам «Песняй да сэрца» публікуе расказ Е. Вейгельтавай пра тое, як 10 год таму назад нарадзіўся маладзёжны самадзейны калектыў, які хутка набыў усеагульнае прызнанне. У 1948 годзе 16 дзяўчат і юнакоў павінны былі пакінуць Дзісманаў дзіцячы хор пры радыёвяшчанні толькі таму, што яны выйшлі з дзіцячага ўзросту. Але яны былі аб'яднаны творчай дружбай і вырашылі стварыць новы ансамбль. На наступны ж год гэты калектыў прыняў удзел у конкурсе маладзёжнай самадзейнасці і выйшаў пераможцам. У праграме калектыву былі тады і савецкія песні — «Хороши весной в саду цветочки», «Зелеными просторами» и «Песня фронтового шофёра». Пасля гэтыя песні набылі ў Чэхаславакіі шырокую папулярнасць.

Ансамбль развіваўся. Ішлі пошукі форм выканання. Адны жанры ўступалі месца другім. Маладыя артысты набывалі вядомасць.

Лозунгам ансамбля былі словы народнага героя Юліуса Фучыка: «Жыў я дзеля радасці...», сказаныя ім незадоўга да смерці. І калі творчае аблічча калектыву ўжо дастаткова акрэслілася, маладыя выканаўцы звярнуліся ў ЦК Кампартыі Чэхаславакіі з просьбай прысвоіць ім ганаровую назву «Ансамбль Юліуса Фучыка АЗКГ (Аўтамабільныя заводы імя Клемента Готвальда) у Празе».

У 1950 годзе ансамбль прыняў удзел на ўрачыстасцях у Берліне. Там жа праз год ён выступаў на пляцоўках Фестывалю моладзі і студэнтаў. У 1952 годзе ансамбль ездзіў на Алімпійскія гульні ў Фінляндыю, затым у турнэ па ГДР.

«А вось наш самы лепшы ўспамін», — піша Е. Вейгельтава. — Вас магчыма здзівіць, што ён звязаны з нашай паездкай у Фінляндыю. Першыя дні нашага знаходжання там не былі радаснымі. Мы адчувалі недавер да сябе. Наша непасрэдная сувязь з насельніцтвам не заахвочвалася. Але вось адбылося наша выступленне. У часе канцэрта мы доўга не адчувалі кантакту са слухачамі. Але потым, у завяршэнне праграмы, мы заспявалі савецкую песню «Мы за мір». Вось тут і адбылося тое, пра што я хачу расказаць. Можаце верыць ці не верыць, але ў гэты момант усе прысутныя фіны, аддзеленыя ад нас кардонам, узняліся са сваіх месц, быццам для таго, каб праслухаць урачысты гімн. У гэты момант зніклі ўсе перашкоды паміж намі. Усе мы былі простымі людзьмі, якіх згуртавала песня міру».

Ансамбль імя Юліуса Фучыка рыхтуе ўсё новыя і новыя харавыя і танцавальныя нумары, мэта якіх усё тая ж: несці людзям радасць.

## ВСЕМИРНЫЕ СТУДЕНЧЕСКИЕ НОВОСТИ

«Студэнцтва Федэратыўнай Рэспублікі Германіі не раз справядліва крытыкавалі за тое, што яно баіцца займацца палітычнай дзейнасцю. Скаргі, якія выносіліся студэнтамі на суд грамадскасці, мелі часцей за ўсё непалітычны характар. Рэзалюцыі пратэсту студэнцкіх сходаў былі накіраваны супраць такіх недахопаў, як дрэнны або дарагі харч у сталовых, малая колькасць або невялікі памер стыпендый.

Аднак бонская палітыка атамнага ўзбраення прывяла да вынікаў, якіх наўрад ці хто чакаў...»



Так пачынае аспірант універсітэта ў г. Мюнстэры (Вестфалія) Петэр Майер свой артыкул у часопісе «Сусветныя студэнцкія навіны». Ён падрабязна перадае падзеі, што адбыліся ва ўніверсітэцкім горадзе, які лічыўся адным з апорных пунктаў кіруючай партыі — Хрысціянска-дэмакратычнага саюза. Студэнты мюнстэрскага ўніверсітэта, які доўгі час разглядаўся клікай Адэнаўэра як аплот кансерватыўнага духу, раптам актыўна ўключыліся ў барацьбу за Германію, вольную ад атамнага ўзбраення. Яны стварылі арганізацыю «Студэнцкая група», у якую ўвайшлі юрысты і філолагі, урачы і багасловы, фізікі і эканамісты для таго, каб, як гаворыць аўтар артыкула, «вывесці студэнтаў з стану палітычнай летаргіі і мабілізаваць на барацьбу супраць палітыкі, што вядзе да дымных руін і абгарэлых трупаў».

На першым адкрытым мітынгу распаўсюджваліся лістоўкі. Адзін з прафесароў выступіў з прамовай, дзе рэзка крытыкаваў урад Адэнаўэра. Следам за ім два студэнты заклікалі ўсіх 1500 удзельнікаў мітынгу прайсціся па гораду маршам маўчання. Людзі неслі плакаты: «Спыніць атамныя выпрабаванні!», «За ўзаемаразуменне!».

Члены «Студэнцкай групы» распаўсюджваюць сярод студэнтаў лістоўкі, якія называюцца «аргументамі». Нямала чытачоў «аргументаў» уключылася ў барацьбу супраць атамнай пагрозы.

Улетку быў арганізаваны збор подпісаў пад дэкларацыяй пратэсту. Яе падпісалі 550 чалавек — прафесары, выкладчыкі і студэнты ўніверсітэта, якія горача пратэстуюць супраць узбраення бундэсвера атамнай зброяй, супраць стварэння ў Заходняй Германіі ракетных баз і супраць вытворчасці ў ФРГ ядзернай зброі.

Была арганізавана таксама сімвалічная ахова плаката, устаноўленага ў цэнтры горада. Тры дні і тры ночы насельніцтва Мюнстэра магло чытаць словы плаката, які ахоўваўся «вартавымі»:

«Выкладчыкі і студэнты стаяць на варце Германіі, вольнай ад ядзернай зброі!»

Ля плаката ўзнікалі дыскусіі, і многія члены ХДС сталі сумнявацца ў правільнасці сваіх пераконанняў.

Амаль адначасова з падзеямі ў Мюнстэры магутная дэманстрацыя студэнтаў прайшла і ў г. Мюнхене. І тут моладзь адкрыта выказала сваю нязгоду з палітыкай атамнага ўзбраення ФРГ. Мюнхенскія студэнты арганізавалі дзяжурства з факеламі перад вялікім плакатам, на якім было напісана:

«Студэнты выступаюць супраць атамнага ўзбраення!»

# З блакнота падарожніка

**Аркадзь АСТРАМЕЦКІ,**
**лаўрэат Усесаюзнага конкурсу выканаўцаў на народных інструментах**

# У КРАІНЕ ЛЁДУ І АГНЮ

Неяк у чэрвені мінулага года я атрымаў тэлеграму з Масквы, у якой запрошвалі маю згоду на гастрольную паездку ў Ісландыю тэрмінам на месяц і прасілі выслаць рэпертуар.

Я добра разумеў, што выступленне гэта вельмі сур'ёзнае і адказнае. Трэба выступіць з такім рэпертуарам, каб як мага паўней пазнаёміць далёкіх ісландцаў з нашым беларускім савецкім мастацтвам.

Ісландыя... Па праўдзе сказаць, я меў аб ёй вельмі прыблізнае ўяўленне. Ды і распытаць не было ў каго, бо з нашых беларускіх акцёраў у Ісландыі ніхто яшчэ не бываў.

Узяў геаграфічную карту. Гляджу на невялікі востраў, які загубіўся дзесьці далёка ў водах Атлантычнага акіяна, аж пад самым палярным кругам, і думаю: далекавата ад Мінска, але пры сучаснай авіяцыі праз дзень або два можна апынуцца ў далёкай і невядомай пакуль мне краіне.

### У дарозе

12 верасня я быў ужо ў Маскве. У Доме культуры работнікаў рэдакцыі газеты «Праўда» адбыўся прагляд «на публіцы» ўсёй праграмы, з якой мы, савецкія артысты, павінны былі выступаць у Ісландыі на традыцыйным месячніку ісландска-савецкай дружбы. У нашу групу ўваходзілі прадстаўнікі як «класічнага жанра», так і выканаўцы на народных інструментах — баяне, балалайцы, цымбалах, бандурах. Нас папярэдзілі, што ісландцы вялікія знаўцы музыкі, але ігру на народных рускіх, украінскіх і беларускіх інструментах у сябе ў краіне яны будуць слухаць упершыню.

З некаторымі акцёрамі з нашай групы я сустракаўся на розных канцэртах у нас і за мяжою, іншых бачыў і слухаў першы раз.

Баяніста Юрыя Казакова, лаўрэата міжнароднага конкурсу, я слухаў на V Варшаўскім фестывалі моладзі і студэнтаў. Баян — пастаянны спадарожнік вясковых вяселляў і вечарынак, заліхвацкіх танцаў і прыпевак — у руках гэтага майстра-віртуоза ператвараўся то ў прыемны і прыгожы клавесін, то ў серабрыста-звонкую флейту, то ў шматкаляровы арган. Казакоў першы з айчынных музыкантаў прымусіў паверыць у сілу рускага баяна многіх зарубежных слухачоў. На міжнародным конкурсе V Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў у Варшаве баяністу быў прысуджаны дыплом першай ступені і



залаты медаль. Юры яшчэ зусім малады. Зараз ён вучыцца на пятым курсе Музычнага інстытута імя Гнесіных у Маскве.



Сталіца Ісландыі — Рэйк'явік уночы.

У нашу групу ўваходзілі таксама вядомая па выступленнях у Мінску грузінская скрыпачка Марынэ Яшвілі, піяністы — масквіч Міхаіл Банк і ленінградзец Аляксандр Іхараў, артыст Рыгор Несцераў (барытон), артыстка Латвійскага дзяржаўнага тэатра оперы і балету Вераніка Піланэ (каларатурнае сапрана), балалаечнік Яўген Блінаў — удзельнік Бухарэсцкага фестывалю моладзі і студэнтаў, і трыё бандурыстак з Кіева — Ніна Паўленка, Тамара Палішчук і Валянціна Трацякова. Дружныя воплескі прысутных на аглядзе слухачоў сведчылі аб тым, што і склад групы, і яе рэпертуар былі падабраны ўдала.

Назаўтра ў 7 гадзін раніцы мы — на Унукаўскім аэрадроме. Праводзіць нас у далёкі шлях, нягледзячы на ранні час, прыйшлі прадстаўнікі грамадскіх арганізацый Масквы, артысты, работнікі Міністэрства культуры СССР, журналісты. Апошнія развітальныя словы, моцныя поціскі рук... Па бляску вачэй, радасных усмешках мы бачым, што намі ганарацца, можа крыху зайздросцяць, але за нас спакойныя. І кожны з ад'язджаючых у душы даў сабе абяцанне: апраўдаць гэты давер.

Паблісківаючы на сонцы, стаяў велічны «ТУ-104». Па высокаму трапу адзін за другім мы падняліся ў самалёт. Не паспелі як след агледзецца, як адчулі, што самалёт набірае вышыню. Пад намі, літаральна на некалькі секунд, мільгнула Масква.

І вось мы ўжо на вышыні 6—7 тысяч метраў. Турбіны самалёта гудуць роўна, за акном цёмна-сіняя прастора. Незаўважна прайшлі дзве гадзіны, і мы былі ўжо над Балтыйскім морам. Над Капенгагенам густы туман, і таму самалёт зварочвае з намечанага курсу і накіроўваецца на Прагу. Але вось туман разышоўся, і самалёт зноў узяў курс на Капенгаген (у Капенгагене вельмі рызыкоўна прызямляцца ў дрэннае надвор'е, бо аэрадром знаходзіцца на самым краі мора). Наш савецкі лётчык прадэманстраваў высокае майстэрства. Самалёт плаўна прызямліўся ў аэрапорце сталіцы Даніі. Сцюардэса дала нам на развітанне па цукерцы — апошні дар роднай зямлі, і мы ступілі на дацкую зямлю. Капенгаген — гэта наш апошні пункт у Еўропе. Наперадзе — палёт праз Атлантычны акіян. Да адлёту заставалася сем гадзін, і мы вырашылі пахадзіць па вуліцах дацкай сталіцы. Мы селі ў таксі, бо ад аэрапорта да горада каля дзесяці кіламетраў. Па дарозе звярнулі ўвагу, што шафёр увесь час па мікрафону трымае сувязь са сваім дыспетчарам і паведамляе яму, як працуе матор, як адбываецца рэйс: усёбачнае вока дыспетчара ні на крок не выпускала з свайго поля зроку шафёра.

У Капенгагене адразу кідаецца ў вочы незлічонае мноства веласіпедаў. Яны стаяць ля тратуараў у

спецыяльна адведзеных клетках; на бруку для веласіпедыстаў намаляваны спецыяльныя дарожкі. Каго толькі не ўбачыш на веласіпедзе! Старыя і малыя, паліцэйскі і свяшчэннік... На веласіпедах сем'ямі едуць на працу, на прагулку.

Праязджаючы каля вакзала, мы ўбачылі каля сцяны мноства веласіпедаў.

— Што гэта? — спыталі мы ў шафёра. І ён растлумачыў нам, што гэта веласіпеды тых людзей, якія працуюць у прыгарадах. Яны даязджаюць да вакзала, пакідаюць іх тут, садзяцца ў цягнік, а там на месцы працы каля вакзала іх чакае другі веласіпед.

Веласіпед у Капенгагене амаль выцесніў аўтамашыну. Ён зрабіўся нейкім культам. Нават на сцяне пяціпавярховага дома «Бюро надвор'я» ў ясны сонечны дзень з'яўляецца фігура маладой дзяўчыны ў спартыўным касцюме на веласіпедзе. Калі ж чакаецца дрэннае надвор'е, гэту веласіпедыстку ўжо бачаць апранутай у паліто, з парасонам у руках. Магчыма, што вялікая колькасць веласіпедыстаў часткова тлумачыцца вялікім коштам праезду ў трамваі ці аўтобусе: 55 іорыкаў. Гэта больш паўкроны, а кіло цукру каштуе крону.

Міма мільгаюць шматпавярховыя будынкі. Нас, савецкіх акцёраў, у першую чаргу зацікавілі, вядома, будынкі, дзе адбываюцца тэатральныя прадстаўленні. Шафёр павярнуў направа ад цэнтральнай вуліцы, і хутка мы апынуліся ля невялікага дома з белакаменнымі калонамі, дзе тоўпіўся народ. Гэта быў каралеўскі тэатр. Шафёр растлумачыў, што «народ гэты — гультаі», якія прышлі падзівіцца на нарвежскага караля, што прыехаў у гэты дзень у Данію.

— Калі б ім давялося зарабляць кавалак хлеба, — закончыў ён, — то не тоўпіліся б тут.

Нягледзячы на такую знішчальную характарыстыку, мы ўсё ж папрасілі яго таксама прыпыніцца. Нас зацікавіла каралеўская варта ў ярка-чырвоных камзолах і высокіх мядзведжых папахах, насунутых на самыя вочы. Калі б не іх жывыя, чалавечыя вочы, можна было б падумаць, што гэта фігуры з воску або манекены, такія нерухомыя былі іх постаці...

Мы паехалі далей. Вуліцы тут не шырокія, нагадваюць вуліцы старога, даваеннага Мінска. Дамы ў асноўным 4- і 5-павярховыя, вельмі закураныя. Відаць, фасады іх тут рэдка абнаўляюцца. Ля аднаго такога дома з велізарнай рэкламай, на якой была намалявана амерыканская кіназорка з вялікімі вейкамі, мы спыніліся. Гэта быў кінатэатр. Ішоў фільм пад назвай «Вайна і мір» — па аднайменнаму раману Льва Мікалаевіча Талстога. Артыстка на рэкламе, з моднай ультрасучаснай прычоскай, у кароткай спадніцы, з вялікімі завушніцамі, — выканаўца ролі Наташы Растовай...

У вокнах кніжных магазінаў, у кіёсках раз-по-раз мільгаюць часопісы з аголенымі жанчынамі на вокладках, стусы тоненькіх ярка размаляваных кніжачак. На кожнай з іх нумар, бо яны выдаюцца серыямі. Гэта — амерыканскія «коміксы», якія атручваюць душу дзяцкіх дзяцей і моладзі. На кожнай вокладцы — малюнкі забойстваў, страляніны, панажоўшчыны з патокамі крыві...

Праз некалькі гадзін падарожжа па Капенгагену мы вярнуліся на аэрадром. Далейшы шлях у паветры мы павінны былі рабіць у чатырохматорным самалёце скандынаўскай авіякампаніі. Прадстаўнік савецкага пасольства, які прышоў праводзіць нас, ласкава ўсміхаецца, махае на развітанне рукой.

На круглым шкельцы паказальніка вышыні стрэлкі абазначалі тры тысячы метраў. Зараз мы былі ўжо не паміж небам і зямлёй, а паміж небам і вадой. Я зірнуў у акенца. Акрамя кропкі, што свяцілася на крыле самалёта, нічога не было бачна. Але вось за шклом





**Помнік першаму ісландскаму пасяленцу Інгальфуру Арнарсану.**

ілюмінатара *блакітная* пустыня стала хвалістай, шэрай. І ўжо засвяціўся зусім побач, рукой падаць, месяц. Сіняватыя прамені яго асвятлялі воблакі нейкім феерычным святлом. І мне падумалася, здалося, што дзесьці тут, побач, ляціць наш спадарожнік Зямлі, блізкі і дарагі, з чырвонай зоркай на барту...

Сцюардэса падыходзіць да кожнага і гаворыць, што трэба зашпіліць спражку шырокага пояса. Гэта на ўсякі выпадак. Тут жа яна растлумачвае, як трэба карыстацца коркавым нагруднікам на выпадак вымушанай пасадкі ў акіян. Мне ніколі не даводзілася лётаць над акіянам і, прызнацца, стала крыху не па сабе. Я паглядзеў на Юрыя Казакова, які сядзеў побач. Ён таксама быў крыху бледным. А блакітныя вочы сцюардэсы, яе прыгожы твар быў зусім спакойны. Да таго ж, цёмнасіняя форма і пілотка, заліхвацка надзетая набок, падкрэслівалі гэтае спакойства.

— Шведкі прыгожыя жанчыны, — заўважыў я незнарок Юрыю. Але ён нічога не адказаў: яму, відаць, было не да гэтага.

Воблакі крыху парадзелі, і скрозь іх віднелася зямля. Спачатку невялікія квадраты, асветленыя маленькімі кропкамі, затым квадраты сталі пашырацца, павялічвацца.

— Мы пралятаем Шатландыю, — растлумачыла дзяўчына.

Раптам усё зноў зацягнулася малаком і кудысьці знікла.

— Мы ляцім над Глазга. Тут вечны туман.

Пасля паўгадзіннага адпачынку ў аэрапорце Глазга, ляцім адразу на Рэйк'явік — сталіцу Ісландыі.

«Якімі ж вачамі нас там сустрэнуць? Яснымі, адкрытымі або недаверліва прыжмуранымі?» Гэтыя словы, некалі пачутыя па радыё аб паездцы па Англіі артыста Сяргея Абразцова, чамусьці зараз прыгадаліся мне. «Напэўна, будуць і тыя і другія. А якіх будзе больш?..»

— Падлятаем да Рэйк'явіка, — пачуўся знаёмы голас сцюардэсы. Усе мы прыпалі да вокнаў. Там, унізе, было, як кажуць, мора агню. І на душы ва ўсіх стала весялей. Як-ні-як — убачылі цвёрдую глебу пад сабой. Пасажыры загаманілі. Дванаццаць гадзін ночы па мясцоваму часу, а па маскоўскаму — тры. Мы ўсе пераводзім стрэлкі гадзіннікаў.

## Рэйк'явік

Самалёт рэзка пайшоў уніз. Два невялікія штуршкі — гэта мы дакрануліся да зямлі, а праз імгненне за акном ужо былі чутны галасы. Не паспелі мы ўсе сысці, як апынуліся ў абдымках невядомых нам людзей. Нягледзячы на позні час і дажджлівае надвор'е, нас прышло сустракаць шмат людзей. Тут былі прадстаўнікі савецкага пасольства, кіраўнікі праўлення таварыства дружбы «Ісландыя — СССР». Па шчасліваму супадзенню, па-ісландску скарочаная

назва таварыства складае слова «Мір».

Чувацы воклічы прывітанняў, гучаць навокал на рускай і ісландскай мовах: «Марынэ Яшвілі!», «Іхараў!», «Казакоў, дарагі Юры!»

Адкуль такая дасведчанасць? Аказваецца, за некалькі дзён да нашага прыезду ў газетах нас ужо шырока афішыравалі, змяшчалі фотаздымкі, кароткія біяграфіі. Штохвілінна пстрыкаюць фотаапараты, мільгаюць успышкі «бліцаў», хтосьці падносіць невялікія букецікі кветак. У першыя хвіліны мы не маглі як мае быць ацаніць гэты высокі дар — бо ў Ісландыі, на камяністай глебе, вельмі цяжка вырасціць цюльпаны або браткі.

Прыемным сюрпрызам для нас было і тое, што нам прапанавалі сесці ў савецкія аўтамашыны — «Пабеды» і «ЗІМы». Машыны крануліся. Начны Рэйк'явік выглядаў ціхім, невялікім гарадком. Дамы ў большасці — трохпавярховыя, каменныя. Не, гэта не Капенгаген з яго крыклівымі рэкламамі, светлавымі эфектамі, шумнымі вуліцамі. Хвілін праз дзесяць мы спыніліся каля чатырохпавярховага дома. Ля ўваходу вісеў надпіс «Атэль Борг». На тратуарах, на бруку ля гасцініцы стаяла шмат людзей. Як толькі мы пад'ехалі, яны сталі нас вітаць, раздаваліся галасы: «Масква», «Савьет». Было ясна, што жыхары прышлі ў гэты позні час вітаць нас не толькі як артыстаў, а як пасланцоў міралюбівага і дружалюбнага савецкага народа.

Мы зайшлі ў гасцініцу. І адразу ўбачылі прыкметы капіталістычнага «раю». Было ўжо за гадзіну ночы. Нягледзячы на такі позні час, ліфцёрамі ў гасцініцы працавалі 9—10-гадовыя дзеці: хлопчык у форменным касцюмчыку, у такім жа, у які быў апрануты швейцар ля ўваходу, і дзяўчынка з касічкамі, у якія быў заплецены чырвоны бант. Абодва яны ўразілі нас чырвонымі ад запалення вачыма і дзяжурнай усмешкай на вуснах.

На наступны дзень з самай раніцы мы накіраваліся на трох аўтамашынах знаёміцца з горадам і яго славутымі мясцінамі. Машынай, у якой я сядзеў, кіраваў архітэктар горада Іозефсан. Машына рухалася паволі, бо днём тут усё ж вялікі рух, і архітэктар, пры дапамозе перакладчыка, нам тлумачыў:

— Рэйк'явік — горад малады. Але нягледзячы на гэта, яго архітэктурны ансамбль строгі і велічны. Вуліцы і кварталы распланаваны правільна. Тут няма, як у многіх вялікіх гарадах, хаатычна пабудаваных дамоў. Шкада, вельмі шкада, што вы прыляцелі ноччу. Днём горад з вышыні мае прывабны выгляд. Калі вы заўважылі — у адным квартале ў нас толькі трохпавярховыя дамы з чырвонымі чарапічнымі дахамі, у другім — толькі чатырохпавярховыя з белымі дахамі. Гэта стварае своеасаблівую гаму фарбаў. А вось гэта... гэта...

Архітэктар на секунду спыніўся, паднёс запальніцу да трубкі, зацягнуўся і стаў працягваць:



**Нацыянальны тэатр у Рэйк'явіку.**



— Гэта — наша гордасць: нацыянальны тэатр, пабудаваны па праекту архітэктара Гуджона Самуэльса. Заўтра вы будзеце ў ім выступаць. Будавалі мы тэатр дваццаць год. Будавалі доўга. Гэта праўда. Але паглядзіце, якім ён выйшаў прыгажуном. У вас, я чуў, будуюць хутчэй. Гэта праўда?

Я яму расказаў, што наш родны Мінск фашысцкімі варварамі быў разбураны амаль на 85 працэнтаў. І вось за якія-небудзь 10—13 год мы яго поўнасцю адбудавалі. Зараз Мінск — адзін з прыгажэйшых гарадоў Савецкага Саюза. І мне вельмі шкада, — закончыў я, — што ў мяне няма з сабой здымкаў нашага горада.

— Я ведаю, — перапыніў мяне архітэктар, — ваш Мінск нядаўна быў ілюстраваны ў часопісе «Огонёк». Я бачыў гэты часопіс у нашым таварыстве «Мір». Так, гэта цудоўны горад.

Мы ехалі далей. Іозефсан не без гордасці паказаў мне універсітэт, інтэрнат студэнтаў і нацыянальны музей.

Цудоўнае месца для адпачынку гараджан — сад Т'ерні з яго сінявата-блакітнай сажалкай. Тут сапраўдны парад плаваючых птушак. Ёсць у горадзе і вельмі зручнае месца для купання: штучная купальня на адкрытым паветры. Дзякуючы таму, што вада абаграваецца падземнымі трубамі, у якіх працякае гарачая пара, тут купаюцца зімой і летам.

Дарэчы, пра пару і гарачыя крыніцы. У Ісландыі няма нафты і вугалю, але тут дамы, цяпліцы, прамысловыя прадпрыемствы абагравающца цеплавымі падземнымі крыніцамі. Рэйк'явік — адзіны горад у свеце без печаў, а значыць і без дыму.

Знаёміў нас архітэктар са сталіцай мімаходам, бо курс паездкі ён трымаў на Крысувік. Гэта ў 20 кіламетрах ад Рэйк'явіка. Месца вядома тым, што тут зімой і летам б'е з-пад зямлі пад вялікім напорам пара. Гэтая гарачая крыніца выкідае кожную гадзіну звыш 20 тон пары.

Ісландцы даўно навучыліся выкарыстоўваць дармавое цяпло. Недалёка ад Рэйк'явіка, у пасёлку Вераярку, што ў перакладзе азначае «Гарачыя крыніцы», велізарная аранжарэя. Глебу саграваюць тут пракладзеныя пад зямлёй трубы, па якіх цячэ гарачая вада з крыніц. Тут спеюць вінаград, бананы, цытрусы. Дзіўна, ці не праўда? Ля самага полюса — субтрапічныя расліны!

Такіх цяпліц у Ісландыі шмат. Яны поўнасцю задавальняюць патрэбы насельніцтва ў капусце, памідорах, гурках, бульбе.

Прырода тут вельмі шчодрая. Бясплатныя крыніцы даюць людзям ежу, цяпло, абаграваюць ваду ў купальнях. Але гэта яшчэ не ўсё. Крыніцы маюць лекавыя ўласцівасці, яны багатыя серавадародам.

Па дарозе з Крысувіка мы спыніліся ля возера Клейформатум, што ў перакладзе значыць «Мёртвае возера». Народ гэта месца ахрысціў так, таму што тут няма ніякай расліннасці, няма жыцця. Велізарная прастора вады ляжыць, быццам у вялікай каменнай чашы, і маўчыць. Ніводнага ўсплёску, на пясчаным беразе вы не знойдзеце ракавінак, лускі ад рыбы. А над возерам навісае велізарная застыўшая тысячагоддзі назад лава.

Прабыўшы 20 дзён у Ісландыі, мы ўвачавідкі пераканаліся, якія тут яркія прыродныя кантрасты. На поўначы краіны ніколі не тае снег, а ў Рэйк'явіку, дзякуючы цёплым атлантычным плыням, нават зімой тэмпература часта каля нуля. На велізарных прасторах краіны не сустрэнеш ніводнага чалавека, а ў бухтах гняздзяцца незлічоныя рыбацкія сялібы.

Холад і гарачыня. Нідзе агонь і лёд не знаходзяцца так блізка адзін ля аднаго, як тут. У краіне 140 дзеючых вулканаў. Іх кратары пакрыты леднікамі. Агонь і лёд жывуць побач цэлыя стагоддзі.

Вывяржэнні вулканаў тут частыя. У 1957 годзе было вывяржэнне аднаго з самых актыўных вулканаў свету — Геклы. Расказваюць, што над кратарам узняўся вогненны слуп вышынёю у 18 міль, а вулканічны попел заляцеў аж да ўзбярэжжа Шатландыі і Нарвегіі.

Вось якая шчодрая і ў той жа час суровая прырода ў гэтых краях. Нездарма мемарыяльная статуя першаму ісландскаму пасяленцу Інгальфуру Арнарсану ўстаноўлена на высокай стромкай скале. Ён стаіць, як воін, як змагар, у плашчы, са шпагай, увесь накіраваны ўперад. Але ў руках ён трымае сякеру — сімвал будаўніка. Так, тут у пастаяннай барацьбе з прыродай, трэба быць бясстрашным змагаром.

Акрамя змагання з прыродай, ісландцам на працягу вякоў даводзілася весці барацьбу за сваю незалежнасць. На гэтую зямлю кваліліся і нарвежскія, і дацкія, і англійскія каралі. Ісландыя і сёння не пазбавілася яшчэ ад няпрошаных заакіянскіх гасцей. Калі мы ехалі ў Крысувік, ззаду нас на «вілісе» імчаліся два амерыканскія салдаты...

Вечарам нам давялося пабачыць адзін з апошніх амерыканскіх баявікоў — кінафільм «Клас бандытаў». Галівуд са сваёй разбэшчанай ідэалогіяй пранікае і на ісландскі кінарынак. «Клас бандытаў» — жудасная карціна. На працягу двух гадзін апавядаецца пра клас, у якім усе да адзінага вучня сталі страшэннымі галаварэзамі. Яны задаліся мэтай чаго б там ні каштавала знішчыць свайго ненавіснага старога настаўніка. Кадр за кадрам дзеці забіваюць адзін аднаго то пры дапамозе бясшумнай агнястрэльнай зброі, то пры дапамозе нажа. А адзін вучань ухітрыўся пракалоць свайго аднакашніка вастрыём класнага сцяга. Урэшце, гіне і настаўнік. З цяжкім настроем пакінулі мы кіназалу.

Хочацца сказаць некалькі слоў аб арганізацыі паказу фільма. Кожныя 15 хвілін сеанс перапыняецца. У зале запальваецца электрычнае святло. Перапынак на 5 хвілін. Хто жадае — выходзіць у файэ пакурыць, ці ў буфет перакусіць. А на экране ў гэты час пры электрычным святле дэманструецца рэклама — «Купляйце Кока-кола», «Лепшыя на свеце нейлонавыя панчохі», «Жавальная гумка паляпшае працу органаў стрававання» і да іх падобныя. Рэкламы гэтыя суправаджаюцца ультрасучаснай амерыканскай музыкай. Спачатку нават цяжка разабрацца ў гэтай музыцы. Не, рытм усё ж тут ёсць. Але гэта вар'яцкі лямант медзі, тузанне струн, стук па нацягнутай скуры барабанаў. Часам здаецца, што лавіна камення падае вам на галаву.

Назаўтра раніцай у савецкім пасольстве з выпадку нашага прыезду адбылася прэс-канферэнцыя з ісландскімі журналістамі сацыялістычных і кансерватыўных газет і радыё. (Тэлебачання ў краіне



Скалы-дзівосы ля берагоў Ісландыі.



яшчэ няма.) Размова адбывалася галоўным чынам аб нашых канцэртах. Пыталіся, з якой праграмай выступім, колькі прабудзем у краіне. Мяне, у прыватнасці, спыталі, што гэта за інструмент цымбалы, ці доўга я вучыўся на іх, хто быў маім першым настаўнікам.

У той жа дзень запрасіў нас да сябе дадому на каву адзін з актыўнейшых членаў таварыства «Мір» юрыст Сігургейерсан. Па нашай звычцы, калі запрашаюць на кубак кавы, госці, звычайна, сядзяць за сталом, вядуць гутарку, а гаспадыня частуе. Тут жа нічога падобнага няма. У куце кватэры стаіць накрыты стол, побач, на тумбачцы, ляжаць невялікія драўляныя падносы. Кожны падыходзіць да стала, бярэ паднос, вілку, лыжачку, налівае сабе кавы, выбірае закуску. І вось так, з падносам, стоячы, падыходзяць да адной або другой групы людзей, гутараць. Па праўдзе кажучы, гэта крыху напомніла нам новы метад самаабслугоўвання ў сталовых, які ў апошні час стаў шырока практыкавацца.

Нельга не сказаць некалькі слоў аб ісландскай кухні. Да гэтага часу мы харчаваліся ў рэстаране атэля «Борг». Усе тры стравы — першая, другая і трэцяя — гатуюцца з салодкай прыправай. На першае падаецца чыстая салодкая вадзіца, у якой плавае штосьці падобнае на галоўку чароту, мусіць рэвень. Нам сказалі, што гэта вельмі каларыйная ежа. На другое — тушаная ялавічына і бульба. Але бульба пасыпана цукрам. І нам, якія прывыклі есці бульбу з вострай прыправай, напрыклад, селядцом ці гурком, не вельмі было гэта да спадобы. Потым ужо мы прасілі афіцыянта, каб нам падавалі бульбу непадсалоджаную. На трэцяе — марожанае з крэмам.

Ісландкі — цудоўныя гаспадыні. У кожным доме, куды нас запрашалі, рыхтавалі які-небудзь



Гейзер.

кулінарны сюрпрыз. Тварог, збіты з малаком, і цудоўная адвараная рыба сталі пазней і нашымі любімымі стравамі. А торты! Фантазія майстэрства ісландак у гэтай галіне невычэрпная.

На каве ў сям'і Сігургейерсан мы былі прыемна здзіўлены. Юрыст — аматар збіраць грампласцінкі. Тут сярод ісландскай, англійскай, французскай, шведскай музыкі мы знайшлі грамзапіс канцэрта Хачатурана і, на вялікую маю радасць, «Перапёлачку» ў выкананні Ларысы Пампееўны Александроўскай.

16 верасня ў Нацыянальным тэатры сталіцы адбыўся першы канцэрт. Трэба сказаць, што ўсе білеты на ўсе канцэрты былі распрададзены за некалькі дзён наперад. Каля будынка тэатра можна было бачыць натоўпы людзей, якія жадалі купіць за любую цану білет на канцэрт савецкіх артыстаў.

Зала, якая змяшчае 800 чалавек, была перапоўнена. Людзі сталі ў праходах, на балконах, за кулісамі. Нягледзячы на тое, што мне не раз ужо даводзілася выступаць за мяжой, я ўсё ж хваляваўся. Хваляваліся і мае калегі.

Роўна а 20 гадзіне паднялася заслона. На сцэну вышаў Аляксандр Іхараў, і зала «ўзарвалася», у літаральным сэнсе слова, ад буры воплескаў. Яны не змаўкалі некалькі хвілін. Я пачынаў праграму другога аддзялення. Акрамя асноўных нумароў праграмы, былі яшчэ выкананы на «біс» беларуская «Канцэртная полька» Пукста і паўторна «Танец з шаблямі» Хачатурана.

Назаўтра ва ўсіх газетах Рэйк'явіка пісалі аб нашым канцэрце. «Сотні людзей не дасталі білетаў!» — так адкрывалася першая паласа газеты «Цьодвільіні». Цікавую заметку напісаў у газеце «Моргунбладзіт» кампазітар Паутл Ізальфсан. Яна невялікая:

«Мне давялося бягом імчацца пасля канцэрта, які адбыўся ў кінатэатры «Ойстурбайярбіо», каб паспець у Нацыянальны тэатр, дзе ў 8 гадзін пачынаўся канцэрт 11 савецкіх артыстаў. Канцэрт працягваўся тры гадзіны, так што мне давялося ў той дзень беспераныпнна, на працягу амаль 5 гадзін, слухаць музыку. Аднак, нягледзячы на працягласць гэтага канцэрта, ён не мог надакучыць, бо праграма была вельмі разнастайная, артысты выдатна ігралі. Няма магчымасці апісаць кожны нумар праграмы, бо гэта заняло б вельмі шмат часу. Гэты памятны канцэрт закончыўся выдатна, і ўсе пайшлі дадому з цудоўным настроем. Публіка ўзнагародзіла выканаўцаў шчодрымі воплескамі, і артысты вымушаны былі спяваць і іграць па некалькі разоў звыш праграмы».

Прыблізна такія ж водгукі друкаваліся ў газетах «Цьодвільіні», «Ісләндзіргур» і іншых.

Наступны канцэрт у гэтым жа тэатры прайшоў таксама з вялікім поспехам. А пасля давялося задавольваць просьбы шматлікіх аматараў аўтографаў і пакідаць на праграмцы побач са сваёй фатаграфіяй уласнаручны подпіс.

### Па гарадах і пасёлках краіны

Пасля такога шумнага поспеху савецкіх артыстаў, праўленне таварыства дружбы «Ісландыя — СССР» проста разгубілася перад узнікшай праблемай — куды накіраваць нас у першую чаргу? Запрашэнні прыходзілі амаль з кожнага горада або пасёлка краіны... Усе просьбы, вядома, задаволіць было немагчыма.

Раніцай 19 верасня мы селі ў аўтобусы і накіраваліся за 380 кіламетраў ад Рэйк'явіка, у горад Сайдаркроукур. Гэты маленькі горад з насельніцтвам усяго толькі ў 1 100 чалавек знаходзіцца амаль каля самага палярнага круга.

Вось калі мы адчулі ўсю «асалоду» вандроўкі. Асфальтам пакрыта дарога ад Рэйк'явіка толькі кіламетраў на 3—5, затым пачынаецца бездараж. Ухабіны, ямы, вузкія сцежкі, што ідуць кудысьці высока-высока ў горы. Паглядзіш уніз з акна, і зажмурыш вочы ад страху. Пад намі, унізе, злавесна сінеюць воды фіёрдаў. Здавалася, варта шафёру крыху не так павярнуць «баранак», і паляціш у бездань. Але вадзіцель — сапраўдны артыст сваёй справы — і ў вус не дзьме. Ён адно насвістване нейкую мелодыю і робіць такія нечаканыя павароты, ажно дух займае. Каля нейкіх мудрагелістых пабудоў, што нагадваюць піраміды, мы спыніліся. Прадстаўнік таварыства «Мір» Сігурвін Осюрарсан, які нас суправаджаў, растлумачыў, што гэта пячоры старажытных ісландцаў, пабудаваныя з торфу, друзу і пяску яшчэ некалькі тысяч год назад. Месца гэта называецца «Гляумбаір», што азначае па-ісландску «Царства радасцей».

— Вось паглядзіце, — увайшоў у азарт наш сябар, задаволены тым, што яго разумеюць, хоць і гаварыў ён на ламанай рускай мове (ён вось ужо некалькі год старанна вывучае рускую мову). — Глядзіце — гэта купальні, а вось гэтыя дзверы вядуць з купальняў адразу ў пячору. Відаць,



адсюль і пайшоў гэты цудоўны пачатак: ванны ў кватэрах.

Зараз пячоры старажытных ісландцаў ахоўваюцца дзяржавай як гістарычныя помнікі.

Карціна вакол нас была цудоўная. Уявіце сабе на імгненне: вечар, дзесьці над вамі захад сонца афарбаваў у ружовы колер снежныя вяршыні гор, вы стаіце каля бездані, а ўнізе пад вамі шумяць фіёрды. Тут жа побач пячоры старажытных ісландцаў тысячагадовай даўнасці. Відаць, у гэтых месцах і ствараліся цудоўныя ісландскія сагі.

Мы едзем далей. Наперадзе — шырокая, шумлівая рака, а мастоў паблізу няма. Як жа нам пераадолець гэтую водную перашкоду? Няўжо ўплаў? Але шафёр нават і не думае спыняць машыну. Мы едзем проста ў раку. Аказваецца, на многіх ісландскіх рэках няма мастоў. Тут на дно ўкладваюцца камені-валуны, засыпаюцца гравіем і можна без усялякай рызыкі пераязджаць убрад.

Высока ў гарах пасвяцца вялікія статкі авечак. Каб праехаць тут, нават спрактыкаванаму шафёру даводзіцца замаруджваць ход, бо жывёла гэта даволі ўпартая і не саступае з дарогі. На маленькім коніку-поні сядзіць чабан і прыветна махае ўслед нам капелюшом.



Ісландская вёска.

Яшчэ некалькі дзесяткаў кіламетраў па бязлюдных сцежках. І раптам на дарозе — бітоны са свежым малаком і ніводнай жывой душы каля іх. Няўжо гэта хтосьці забыўся або згубіў на дарозе? Але не, бітоны гэтыя чакаюць, калі пройдзе аўтамашына ў горад, каб захапіць малако на продаж. Фермер добра ведае, хто будзе ехаць у горад і калі ён вернецца назад.

Шэсць гадзін вечара. Мы пад'язджаем да Сайдаркроукура. Гэта — рыбацкі пасёлак. Жывуць тут моцныя, вынослівыя, мужныя людзі. Зусім не так проста накіроўвацца далёка ў адкрытае мора на старэнькай вяслярнай лодачцы. У гэтым промысле — вялікая рызыка.

Пасёлак стаіць на самым беразе акіяна. Вакол на вяроўках, на шастках сушацца ўсяму свету вядомыя ісландскія селядцы, траска, камбала; луска ад рыбы шамаціць пад нагамі, як пясок.

Нас сустрэў урач Гудмундур Тордарсан — старшыня нядаўна створанага філіялу «Мір». Г. Тордарсан сказаў, што пасля прыезду савецкіх гасцей лік членаў філіялу напэўна падвоіцца. Упершыню за ўвесь час існавання пасёлка сюды прыехалі савецкія людзі. Вядома, што аб нашай краіне тут было самае цьмянае, часам нават не зусім правільнае ўяўленне.

Праз дзве гадзіны ў невялікім клубе мы ўжо давалі канцэрт. У зале сядзелі ў асноўным рыбакі, якія, магчыма, паўгадзіны таму назад вярнуліся з улову. Некаторыя з іх нават не паспелі пераапрануцца і сядзелі ў скураных штанах і куртках, зашмальцаваных рыбіным тлушчам. Яны моўчкі слухалі нас, курылі люлькі. Побач сядзелі іх жонкі, дзеці. Уважлівыя позіркі, абветраныя твары. Добра выступаць перад такой аўдыторыяй.

Пасля канцэрта члены таварыства «Мір» запра-

сілі нас на каву ў мясцовую гасцініцу. Вечар прайшоў вельмі цёпла. Весялосць працягвалася да позняга. Мы разам з ісландскімі рыбакамі спявалі рускія песні: «Вниз по матушке по Волге», «Эй, ухнем!». Гэтыя задушэўныя бурлацкія песні ім вельмі падабаюцца. Невядома адкуль рыбакі дасталі бутэльку «маскоўскай» і сталі нас ёю частаваць. Некалькі разоў раздавалася «Скаун!», што азначае на ісландскай мове — «Ваша здароўе!»

### «Кейру вінір!»

Пераначаваўшы ў Сайдаркроукуры, мы накіраваліся зноў у дарогу. Праз тры гадзіны былі ўжо каля варот горада Сіглуфордур. Гэта адзін з асноўных цэнтраў рыбнай прамысловасці Ісландыі.

Нас размясцілі па кватэрах. Мяне разам з піяністам Міхаілам Банкам пасялілі на кватэры ў сольшчыка рыбы. У сталовай, першае, што мы ўбачылі, — партрэт У. І. Леніна на сцяне. Гэта да глыбіні душы нас усхвалявала.

Сям'я сольшчыка была з трох чалавек: гаспадар, яго жонка і старая маці. Жанчыны апрануты ў нацыянальныя касцюмы: доўгая чорная спадніца, чорная кофта, падпяразаная шырокім металічным узорыстым поясам. Ва ўсіх жанчын — старых і маладых — у валасах бліскучыя металічныя трубачкі, якія вельмі нагадваюць нашы бігудзі. У ісландак гэта з'яўляецца ўпрыгожаннем. На нагах у іх «макасіны» — чаравікі, пашытыя з дубленай скуры і добра аздобленыя.

У гэты ж вечар у гарадскім кінатэатры адбыўся наш канцэрт. Зала не магла змясціць усіх, хто жадаў нас паслухаць, і адміністрацыя вымушана была раскрыць дзверы і вокны. Людзі слухалі нас на вуліцы. Пасля канцэрта кожнаму артысту былі паднесены букеты кветак і памятныя падарункі — лёгкія, як пух, адмыслова выробленыя авечыя футры з намаляваный на адвароце картай Ісландыі і напісаным іменем артыста.

З Сіглуфордура мы пераехалі ў гарадскі пасёлак Нейскуйбстадур. У гэтым пасёлку 1 400 жыхароў. Рэакцыйныя элементы называюць яго «гняздом чырвоных», або «маленькай Масквой». Справа ў тым, што тут у мясцовым муніцыпалітэце большасць дэпутатаў — сацыялісты. Сімпатыі ў насельніцтва да савецкага народа велізарныя. У пасёлку вельмі многія вывучаюць рускую мову.

Калі мы ад'язджалі, нас праводзіла шмат жыхароў. На перавале, высока ў гарах, мы развіталіся з ісландскімі сябрамі. Жанчыны, дзеці, старыя доўга паўтаралі завучаныя імі рускія словы — «до свидания!», «прощайте!».

Пабывалі мы яшчэ ў другім па велічыні горадзе Ісландыі — Акурэйры, у пасёлку Эскіфордуры, а перад самым ад'ездам з Ісландыі выступілі ў горадзе Акранесе. Гэта ўжо быў звышпланавы канцэрт. Усяго ў Ісландыі мы далі 15 канцэртаў.

Калі мы вярнуліся назад у Рэйк'явік, у гасцініцы Борг адбыўся вечар ісландска-савецкай дружбы. Тут мы выступалі разам з ісландскімі артыстамі. Гэта быў цудоўны вечар. Нельга было без хвалявання слухаць прамову кампазітара Аускетля Снарарсона, які, нягледзячы на свой старэчы ўзрост, ездзіў з намі з горада ў горад. Ён называў нас «пасланцамі міру і дружбы».

Амаль месяц мы правялі ў Ісландыі. За гэты час мы ўбачылі незвычайную прыгажосць прыроды, сустракаліся з людзьмі, якія належаць да розных сацыяльных пластоў, маюць розныя погляды. Усюды адчувалі мы, як расце імкненне простых людзей пазнаць праўду аб жыцці савецкага народа. Дзе б мы ні бывалі, нас сустракалі двума цудоўнымі ісландскімі словамі — «Кейру вінір!» І зараз, успамінаючы гэтую цудоўную паездку, хочацца паўтарыць «Кейру вінір!» — Дарагія сябры, да пабачэння!

## *На атэістычныя тэмы*

**А. ПРЫШЫВАЛКА**

# НЕЗВЫЧАЙНЫЯ З'ЯВЫ Ў ПРЫРОДЗЕ

З'явы, якія адбываюцца ў прыродзе, вельмі разнастайныя. Адны з іх мы наглядаем штодзённа, прывыклі да іх і лічым звычайнымі. Другія ж сустракаюцца даволі рэдка і часам здаюцца нечым незвычайным, звышнатуральным. З такімі з'явамі чалавек сустракаўся на кожным кроку яшчэ ў першабытныя часы. Не ведаючы прычын узнікнення гэтых з'яў, нярэдка адчуваючы страх перад імі, людзі лічылі іх праяўленнем боскай волі. Фантазія старажытных людзей насяліла свет мноствам добрых і злых багоў, духаў і дэманаў, якія быццам выклікалі тыя або іншыя з'явы прыроды.

Мяняліся матэрыяльныя ўмовы жыцця, мяняліся і рэлігійныя абрады, уяўленні, з'яўляліся новыя рэлігіі. Але кожная з іх сцвярджала, што бог кіруе ўсім на зямлі і на небе, робіць розныя цуды. Да ліку гэтых «цудаў» адносіліся і многія светавыя з'явы, якія адбываюцца ў атмасферы, як, напрыклад, вясёлкі, колцы і крыжы вакол Сонца або Месяца.

Царква заўсёды выступала супраць навуковага тлумачэння гэтых «сімвалаў» і праследавала вучоных, якія гэта рабілі. У XVII стагоддзі яна жорстка расправілася з італьянскім вучоным Дамінісам, які першы зрабіў спробу вытлумачыць, чаму ўзнікае вясёлка. Дамініс быў кінуты ў турму, і там памёр. Труп вучонага быў спалены разам з яго працамі.

Навука з самага пачатку свайго ўзнікнення вяла барацьбу з рэлігіяй. Выкрываючы міфы аб «цудах», яна паступова стварала навукова абгрунтаванае тлумачэнне прыроды, у тым ліку і светавых з'яў у атмасферы. Нашы веды аб гэтых з'явах увесь час папаўняюцца новымі нагляданнямі і няспынна ўдасканальваюцца. Вялікае значэнне ў гэтых адносінах мае Міжнародны геафізічны год. У выніку навуковых даследаванняў атрыманы шматлікія новыя звесткі аб нашай планеце і асабліва аб яе паветранай абалонцы — атмасферы. Выключна важную ролю ў вывучэнні гэтага пытання мае запуск трох савецкіх штучных спадарожнікаў Зямлі. Апрацоўка шматлікіх дадзеных, атрыманых пры дапамозе гэтых спадарожнікаў, дае шмат каштоўных матэрыялаў, якія яшчэ больш паглыб-

ляюць і пашыраюць нашы веды аб атмасферы і з'явах, што адбываюцца ў ёй.

Новым выдатным дасягненнем савецкай навукі і тэхнікі з'явіўся запуск касмічнай ракеты, ажыццёўлены 2 студзеня г. г. Палёт ракеты ў касмічнай прасторы дазволіў ажыццявіць цэлы комплекс важнейшых навуковых эксперыментаў па даследаванню міжпланетнага асяроддзя.

З даўніх часоў увагу людзей прыцягвала вясёлка — адна з найбольш распаўсюджаных і прыгожых з'яў у прыродзе. Мала каму цяпер прыходзіць у галаву лічыць яе «знаменнем», як гэта думалі людзі раней.

Вясёлка — з'ява складаная. Яна ўзнікае тады, калі на адной палавіне небакраю ідзе дождж, а на супрацьлеглай, чыстай ад хмар, свеціць сонца. Вясёлка і ўтвараецца ў выніку праламлення сонечных праменняў у кроплях дажджу.

Многія чытачы мабыць памятаюць просты школьны доследл, калі прамень святла, праходзячы праз шкляную прызму, раскладаецца на шэраг каляровых праменняў. Гэтыя промені, трапляючы на аркуш белай паперы, даюць шматкаляровую паласу, якая называецца спектрам. Белае святло — складанае. Яго прамень складаецца з некалькіх каляровых праменняў. Праходзячы праз шкляную прызму, яны праламляюцца неаднолькава. Мацней за ўсё праламляюцца фіялетавыя прамені, менш за ўсё — чырвоныя. Не заўсёды пры праламленні святла адбываецца раскладанне на спектр. Для гэтага патрэбны ўмовы, падобныя да тых, якія ўзнікаюць у шкляной прызме. Кроплі дажджу якраз і ствараюць такія ўмовы.

Прайшоўшы ўнутр кроплі, прамені адхіляюцца ад першапачатковага напрамку. На супрацьлеглай сценцы яны часткова адбіваюцца і, прайшоўшы праз кроплю яшчэ раз, зноў праламляюцца пры выхадзе з яе. Пры гэтым адбываецца раскладанне белага промня на асобныя каляровыя прамені, якія размешчаны пад вуглом адзін да другога. У выніку, ад кожнай кроплі наша вока ўспрымае толькі адзін прамень, напрыклад, чырвоны, ад другой кроплі — аранжавы і г. д. З прычыны таго, што ў паветры адначасова знаходзіцца шмат кропель, размешчаных аднолькава ў адносінах да сонца і чалавечага вока, мы бачым не асобныя прамені, а каляровыя палосы.

Вясёлка можа ўзнікнуць і пры святле Месяца. У такой вясёлцы звычайна бывае толькі тры колеры: чырвоны, жоўта-зялёны і блакітны.

Бадай ні адна з светавых з'яў не выклікала ў свой час столькі панікі, столькі змрочных і недарэчных прадказанняў аб канцы свету, крывавых войнах, як з'яўленне светавых колаў, крыжоў і мечаў вакол Сонца, утварэнне двайных і трайных сонцаў і іншыя падобныя з'явы.

Вадзяная пара, якая ўваходзіць у склад зямной атмасферы, можа знаходзіцца ў ёй як у выглядзе кропель вады, так і ў выглядзе найдрабнейшых часцінак ільду. Гэтыя часцінкі маюць форму правільных, але вельмі разнастайных крышталікаў. Адзначана звыш 10 тысяч розных форм крышталікаў. Некаторыя з іх, напрыклад, шасцігранныя прызматычныя і рамбічныя слупкі, здольны выклікаць утварэнне колаў, крыжоў і іншых светавых з'яў. Гэтыя крышталікі ўтвараюць так званыя пёрыстыя воблакі, якія плаваюць на вышыні 6—8 кіламетраў над паверхняй Зямлі.

Сярод велізарнай колькасці крышталікаў заўсёды ёсць шмат такіх, якія размешчаны нейкім пэўным чынам у адносінах да Сонца і наглядальніка. Калі прамені падаюць на бакавыя грані крышталікаў, размешчаных вертыкальна, дык, праламляючыся ў іх пад пэўным вуглом, яны ўтвараюць яркае светавое колца, так званае гала, з вуглавой адлегласцю ад Сонца ў 22 градусы. Такая з'ява даволі часта наглядаецца каля Сонца і яшчэ часцей — каля Месяца.



Пры праламленні і раскладанні светавога промня ў крышталіках ільду ўтвараюцца каляровыя колцы. Але з прычыны таго, што Сонца вельмі вялікае, дык кожны пункт яго дыска стварае «сваё» колца. У выніку накладання гэтых каляровых колцаў аднаго на другое адбываецца змешванне розных колераў. Таму звычайна мы бачым толькі ярка белаватае колца з чырванаватай каймой унутры і слабафіялетавай звонку.

Калі прамені падаюць на аснову крышталю, а выходзяць праз бакавую грань, дык утвараецца белаватае колца з вуглавой адлегласцю ад Сонца не ў 22 градусы, а ў 46 градусаў. Гэтая з'ява сустракаецца больш рэдка, часцей наглядаюцца колцы ў 22 і ў 46 градусаў адначасова.

Ледзяныя крышталікі, павернутыя сваёй асновай да наглядальніка, пры падзенні на Зямлю могуць вярцецца вакол вертыкальнай восі. У гэтым выпадку ўтвараецца светавое колца, размешчанае гарызантальна. Наша вока пры гэтым бачыць не колца, а гарызантальную паласу. Там, дзе паласа перасякаецца з вертыкальным колцам, узнікаюць яркія светлыя плямы. Іх называюць уяўнымі сонцамі. Могуць утварацца такія атмасферныя ўмовы, пры якіх бачны толькі колцы або толькі ўяўныя сонцы без колцаў. У апошнім выпадку на небе відаць тры сонцы: адно сапраўднае і два ўяўныя.

Часам на небе перад узыходам або заходам сонца з'яўляецца высокі светавы слуп. Такая з'ява, у прыватнасці, наглядалася перад заходам сонца ў пачатку снежня 1957 года ў Мінску. Гэтую ігру святла ўтвараюць ледзяныя шасцігранныя пласцінкі, якія плаваюць у атмасферы ў гарызантальным становішчы. Павольна апускаючыся на зямлю, яны робяць невялікія ваганні. Прамені Сонца, якое заходзіць за небакрай, падаюць на ніжнія грані гэтых пласцінак, адлюстроўваюцца, і іх успрымае тады наша вока. Калі такіх крышталікаў у паветры многа, паасобныя адлюстраванні ў іх Сонца або Месяца зліваюцца ў нашых вачах у адно. У выніку мы бачым расцягнутае, перайначанае да непазнавальнасці адлюстраванне Сонца або Месяца — на небе ўзнікае светлы слуп. Часта на фоне вячэрняй зары ён мае чырванаваты колер. Светлы слуп ідзе ўверх або ўніз ад Сонца ці Месяца, якія знаходзяцца невысока над небакраем.

Аналагічная з'ява наглядаецца на паверхні вады, зацягнутай рабаціннем, у выглядзе сонечнай або месячнай «дарожкі». Гэта такое ж перайначанае адлюстраванне Сонца або Месяца, толькі ролю люстэрка выконваюць тут не крышталікі ільду, а паверхня вады.

Калі ў паветры знаходзяцца і шасцігранныя пласцінкі і шасцігранныя слупкі, дык могуць утварыцца адначасова вертыкальны слуп і гарызантальная светавая паласа. Пры гэтым вакол Сонца ўтвараецца светавы крыж велізарных памераў. Гэтая рэдкая з'ява прыроды ў старыя часы разглядалася як сімвал «боскага гневу».

Калі светавы крыж узнікае пры нізкім Сонцы, дык частка ніжняга слупа ідзе пад небакрай і робіцца нябачнай. У гэтым выпадку на небе ўзнікае фігура, якая сваім выглядам нагадвае меч. Паколькі Сонца пры заходзе (або ўсходзе) афарбавана ў чырвоны колер, дык гэтая фігура таксама мае чырванаватае адценне. Ствараецца ўражанне акрываўленага меча. Аналагічныя з'явы можна наглядаць каля яркіх вулічных ліхтароў.

Рускі вучоны прафесар Броунаў даказаў, што ў летні час утварэнне пёрыстых воблакаў, якія абумоўліваюць з'яўленне гала, адбываецца з прыходам цёплага фронту цыклона. Атмасферны ціск пры гэтым паніжаецца, і ў той жа або ў наступны дзень звычайна ідзе дождж. Такім чынам, гала з'яўляецца папярэднікам дажджу.

У некаторых месцах можна наглядаць вельмі цікавую з'яву — міраж: бачны не толькі сам прадмет, але і яго адлюстраванне ў паветры. Часам прадмет знаходзіцца

за гарызонтам, а відаць толькі яго адлюстраванне. Калі адлюстраванне відаць над прадметам, дык з'ява называецца верхнім міражом, калі ніжэй прадмета, — ніжнім міражом.

Прычынай міражу з'яўляецца наяўнасць у атмасферы пластоў паветра рознай шчыльнасці. Прамень святла, праходзячы праз гэтыя пласты, адхіляецца ад першапачатковага напрамку. Трапляючы на паверхню пласта паветра малой шчыльнасці, ён набывае поўнасцю ўнутранае адлюстраванне, у выніку чаго можна бачыць прадметы, схаваныя за лініяй гарызонту. Верхні міраж асабліва часта наглядаецца ў палярных краінах. Ніжні міраж часцей бывае ў пустынях, у нашых паўднёва-ўсходніх стэпах, і звычайна раніцою. У гэты час, дзякуючы яснаму небу, ніжнія пласты паветра, якія прылягаюць да зямной паверхні, ужо нагрэліся і шчыльнасць іх малая, а вышэйшыя яшчэ халодныя і шчыльныя. Прамень святла, які ідзе ад прадмета, скрыўляецца, накіраваны выпукласцю да зямлі, і наглядальнік бачыць перавернутае адлюстраванне прадмета, размешчанае ніжэй яго сапраўднага становішча.

У атмасферы часам ствараюцца такія ўмовы, якія прыводзяць да адначасовага ўтварэння верхняга і ніжняга міражоў. Пласты паветра перад наглядальнікам адыгрываюць ролю павелічальных лінз, і прадмет прымае гіганцкія памеры, незвычайныя формы. З прычыны няўстойлівасці пластоў паветра і іх перамешвання, формы прадметаў увесь час мяняюцца. У выніку асобныя дамы, скалы могуць прымаць абрысы казачных палацаў, якія то з'яўляюцца, то знікаюць у паветры. Такія складаныя міражы атрымалі назву «фатамаргана», паводле імя феі, якая быццам выяўляла сваю магутнасць міражамі.

У нашых шыротах наглядаюцца з'явы, блізкія да міражоў, якія праяўляюцца ў перайначванні формы сонечнага дыска пры яго заходзе або ўсходзе. Круглы дыск Сонца пры набліжэнні да небакраю становіцца авальным, грыбападобным або цыліндрычным, пераходзячы паступова ад адной формы да другой. Гэтая з'ява бывае асабліва прыкметная вясною. У народзе ў такіх выпадках гавораць: «Сонца іграе».

Многія любяць наглядаць прыгожыя і разнастайныя каляровыя афарбоўкі неба. Старажытныя грэкі разглядалі ранішнюю і вячэрнюю зару, як прыход на зямлю цудоўнай багіні Аўроры.

Цудоўная разнастайнасць афарбовак неба тлумачыцца складаным спалучэннем з'яў рассейвання, праламлення і паглынання святла ў атмасферы. Гэтыя з'явы адбываюцца пры падзенні праменняў святла на часцінкі вады, пылу, малекулы газаў, якія ёсць у атмасферы. Асабліва важную ролю адыгрывае рассейванне святла.

З прычыны шарападобнай формы Зямлі, пры знаходжанні Сонца ля небакраю, промні яго праходзяць у атмасферы шлях у многа разоў большы, чым тады, калі яно знаходзіцца ў зеніце. Пры гэтым яны вельмі паслабляюцца, і на Сонца можна глядзець без аніякіх прылад. Сіне-фіялетавыя прамені рассейваюцца ў атмасферы значна меней, чым чырвоныя, і таму ў праменнях заходзячага Сонца становіцца ўсё больш чырвоных, аранжавых і жоўтых фарбаў, а сініх і блакітных усё менш. Сонца ля небакраю мы бачым не белым, а афарбаваным у чырванаваты або аранжавы колер. Неба, асветленае такімі праменнямі, таксама прымае адпаведную афарбоўку.

Разнастайная афарбоўка неба тлумачыцца тым, што сонечныя прамені пранізваюць пласты атмасферы, якія на розных вышынях маюць розную колькасць газаў, вадзяных часцінак і пылу. Часцінкі могуць мець розныя памеры, таму іх дзеянне на прамені таксама рознае. У выніку, пласты набываюць каляровую афарбоўку.

У заключэнне коратка спынімся на адной з найпрыгажэйшых з'яў прыроды — на палярных ззяннях. Гэтая з'ява звычайна наглядаецца



ў высокіх шыротах паўночнага і паўднёвага паўшар'я. У раёне Мурманска іх можна наглядаць 60—80 разоў у год. На шыраце Мінска яны бываюць даволі рэдка.

Палярныя ззянні выключна разнастайныя па форме і характару сваіх праяўленняў. Найбольш прыгожай з'яўляецца форма драпры. Гэта сапраўдныя светавыя заслоны, якія складаюцца з асобных пучкоў святла. Пучкі гэтыя вагаюцца, няспынна змяняюць колер і яркасць. Драпры, нібы пад уздзеяннем ветру, то скручваюцца, то раскручваюцца, то аддаляюцца, то набліжаюцца. Часам яны прымаюць выгляд прыгожай стужкі, якая нібы робіць хвалепадобныя рухі.

Другім відам палярных ззянняў з'яўляецца так званая карона. Пры гэтым наглядальнік нібы знаходзіцца ўнутры празрыстага шатра або кароны, якія свецяцца то чырвоным, то зялёным, то блакітным колерам. Шацёр або карона складаецца з асобных светлых палос. Наглядальніку здаецца, што ўсе яны сыходзяцца над галавою ў зеніце. Карона ўвесь час пульсуе і можа няспынна мяняць афарбоўку. Палярнае ззянне ў выглядзе кароны наглядалі жыхары г. Віцебска ў пачатку лістапада 1957 года.

Устаноўлена, што палярныя ззянні адбываюцца на вышыні ад 60 да 100 кіламетраў над зямлёю. Узнікненне найбольш яркіх і частых палярных ззянняў звязана са з'яўленнем на Сонцы так званых сонечных плямаў. Гэтая абставіна дазваляе знайсці ключ да правільнага разумення паходжання палярных ззянняў.

Палярныя ззянні ўяўляюць сабою свячэнне высокіх разраджаных пластоў атмасферы, якое адбываецца пад уздзеяннем патокаў электрычна зараджаных часцінак, крыніцай якіх з'яўляецца Сонца. Трапляючы ў магнітнае поле зямлі, гэтыя часцінкі адхіляюцца ад яе полюсаў, і з прычыны гэтага палярныя ззянні часцей за ўсё наглядаюцца ў высокіх шыротах. У сувязі з тым, што зараджаныя часцінкі не могуць пранікаць у больш шчыльныя пласты атмасферы, якія ляжаць ніжэй 90—80 кіламетраў над зямлёй, палярныя ззянні заўсёды адбываюцца на большай за гэтую вышыні.

Вывучэнне палярных ззянняў, як і іншых атмасферных з'яў, прадаўжаецца і цяпер. Асабліва вялікія даследаванні праводзяцца савецкімі вучонымі. Вельмі каштоўныя матэрыялы атрыманы ў выніку работ, якія вядуцца на нашых палярных дрэйфуючых станцыях, а таксама савецкімі вучонымі ў Антарктыдзе.

Вывучэнне і ўстанаўленне сувязей паміж рознымі прыроднымі з'явамі дапамагае чалавеку пранікаць у таямніцы прыроды.

*Навука і тэхніка*

# ПРАНІКАЮЧЫ Ў ТАЯМНІЦЫ РАСЛІН

Празвінеў званок, студэнты заспяшаліся на заняткі. У вучэбным корпусе запанавала цішыня. Занялі свае месцы і біёлагі. Сёння яны чакалі новага прафесара. І вось у аўдыторыю ўвайшоў сярэдніх год каранасты мужчына з пышнай шавялюрай, ледзь кранутай сівізною.

— Перш за ўсё, пазнаёмімся, — спакойна сказаў ён. — Турбін, Мікалай Васільевіч. Буду чытаць курс генетыкі.

Першая ж лекцыя новага прафесара захапіла студэнтаў. Праз некаторы час вялікая аўдыторыя не змяшчала ўжо ўсіх, хто жадаў слухаць прафесара Турбіна. Некаторыя педагогі здзіўлена паціскалі плячыма: генетыка, якую многія лічылі даволі сумным прадметам, раптам захапіла нечым не толькі студэнтаў-біёлагаў, але і хімікаў, фізікаў, матэматыкаў! Некаторыя з іх нават пачалі думаць аб пераходзе на біялагічны факультэт.

Хто не захапляўся залацістымі хвалямі бязмежных жытнёвых палеткаў, беллю вясновых садоў? Цудоўная квітнеючая зямля! Яе чароўнае хараство мастакі ўвасабляюць у сваіх палотнах, паэты ўслаўляюць у вершах.

Мікалая Турбіна яшчэ з дзіцячых год вабілі неабсяжныя прасторы роднай зямлі. З юнацкім запалам захапляўся ён жывапісам. Скончыўшы сямігодку, Мікалай паступае ў мастацкі тэхнікум, прагна імкнецца авалодаць майстэрствам жывапісу. Жаданне навучыцца не толькі маляваць прыроду, але і зразумець яе таямніцы, прымусіць зямлю яшчэ лепш служыць чалавеку, прывяло юнака ў сельскагаспадарчы інстытут. Гады ўпартай вучобы далі трывалыя, глыбокія веды. З дыпломам выдатніка Мікалай скончыў інстытут.

Вайна спыніла на некаторы час даследчую работу маладога вучонага. Але ўжо ў снежні 1942 года ў адным з інстытутаў можна было наглядаць незвычайную карціну. Перад масцітымі вучонымі, якія занялі месцы за вялікім пакрытым зялёным абрусам сталом, стаяў малады чалавек у салдацкай гімнасцёрцы і расказваў аб вегетацыйным расчапленні раслінных гібрыдаў. Гэта быў Мікалай Васільевіч Турбін. Вынікі яго даследаванняў атрымалі высокую ацэнку — у трыццаць гадоў неспакойны даследчык стаў доктарам біялагічных навук.

Турбін разам з навуковымі супрацоўнікамі, аспірантамі і студэнтамі Ленінградскага ўніверсітэта пачаў даследаваць пытанні апладнення раслін, якія ў той час цікавілі многіх прыродазнаўцаў.

— Вельмі цяжка ў некалькіх словах растлумачыць сутнасць складанейшых шматгадовых даследаванняў, — расказвае Мікалай Васільевіч. — Кожны, хто вывучаў у школе батаніку, памятае, што расліны падзяляюцца на самаапыляльныя і перакрыжавана-апыляльныя. Пшаніца, напрыклад, тыповая самаапыляльная расліна. Паспрабуем змясціць яе пад ізалятар, каб на рыльца не пападаў пылок з суседніх раслін. Здавалася б, апладненне і развіццё пшаніцы павінна быць вельмі інтэнсіўным. Але атрымліваецца адваротнае — горш завязваецца насенне, зніжаецца яго вага. І наадварот, калі ўжыць дадатковае перакрыжаванае апыленне, расліна развіваецца выдатна.

У чым жа тут справа? Для таго, каб адказаць на гэтае пытанне, Мікалай Васільевіч і яго супрацоўнікі тры гады на працягу круглых сутак сачылі за цвіценнем 70 тысяч раслін розных гатункаў пшаніцы. Удалося высветліць, што ад 60 да 90 працэнтаў усіх кветак цвітуць адкрыта, у пэўнай паслядоўнасці, калі можна так сказаць, у своеасаблівым рытме.



**Дырэктар Інстытута біялогіі Акадэміі навук БССР акадэмік М. В. Турбін у лабараторыі генетыкі.**

Шматлікія доследы з пшаніцай і кукурузай, жытам і таматамі, радыскаю і гарохам дазволілі зрабіць вывад, што падзяляць расліны на самаапыляльныя і перакрыжавана-апыляльныя трэба не па спосабу апылення, а па ступені ўдзелу свайго і чужога пылку ў працэсе апладнення.

Гэтае адкрыццё мае не толькі тэарэтычнае, але і практычнае значэнне. Так, на яго падставе пры дапамозе міжгатунковага апылення атрымліваецца абноўленае насенне пшаніцы. Цяпер адпала неабходнасць у вельмі працаёмкай аперацыі — выдаленні пыльнікаў з каласоў матчыных раслін. Зараз адзін чалавек можа апрацаваць ужо не 80—120, як раней, а 500—800 раслін. Затраты працы на атрыманне абноўленага насення акупляюцца ў сто разоў; сяўба імі дае значнае павелічэнне ўраджаю.

Мікалай Васільевіч распрацаваў новы метад, па якому можна атрымаць гібрыднае насенне таматаў без выдалення пыльнікаў з кветак матчыных раслін. Гэта дазволіла ў 3—4 разы павысіць прадукцыйнасць працы. Доследы, якія праводзіліся ў калгасах, паказалі, што пры сяўбе гэтым насеннем ураджай таматаў у паўтара раза большы, чым пры сяўбе насеннем звычайным. Да таго ж плады выспяваюць на 10 дзён раней.

Вывучаючы, як самыя розныя ўмовы ўплываюць на спадчыннасць і жыццёвасць патомства, Мікалай Васільевіч усё глыбей пранікаў у таямніцы развіцця раслін. Зараз у навуцы трывала ўстанавіўся новы, уведзены Турбіным тэрмін — «чужароднае даапыленне». Якая гэта была велізарная, руплівая і напружаная праца! Вучоны прарэферыраваў 700 прац на розных мовах, разам са сваімі супрацоўнікамі правёў вельмі многа доследаў. Так, жыта апылялася не толькі сваім, але і «чужым» пылком пшаніцы, аўса, цімафееўкі. Інтэнсіўнасць завязвання насення ўзрасла ў 10—14 разоў. Цікавым атрымалася і патомства. Расліны захавалі характэрную для жыта афарбоўку сцябла, але былі больш рослыя, ізумрудна-зялёныя. Нечаканы вынік! Злакі ж, ад якіх браўся пылок, хоць і належаць да адной сям'і, але не скрыжоўваліся з жытам. Нягледзячы на гэта, уплыў іх аказаўся значным.

Зноў пачаліся бясконцыя назіранні і доследы. Нарэшце, удалося ўстанавіць, што «чужы» пылок блізкіх па паходжанню відаў раслін выдзяляе асобнае рэчыва, стварае спрыяльныя ўмовы для прарастання пылку жыта, узмацняе яго апладняльную сілу. Гэты вывад праверылі на іншых раслінах, і адкрыццё пацвердзілася. Так, пшаніца, якая расла ў масіве квітнеючага жыта, дала больш высокі ўраджай, чым на асобным участку.

Доследы паказалі, што з дапамогай чужароднага даапылення можна ў 10 разоў павысіць пладавітасць патомства, а пры ўмове прымусовага самаапылення перакрыжавана-апыляльных раслін атрымаць больш жыццёвае, зімаўстойлівае і ўстойлівае супроць хвароб насенне. Працягваючы свае пошукі, вучоныя ўстанавілі, што пры апыленні расліны сумессю пылку ўзнікаюць гібрыды, якія атрымліваюць у спадчыну прызнакі некалькіх гатункаў самаапыліцеляў. Гібрыды, што атрымаліся ад скрыжавання аднаго і таго ж гатунку пры двух-, трохразовым апыленні, больш ураджайныя. Акрамя таго, ужыванне

новага метаду шматразовага апылення дазволіла дабіцца скрыжавання такіх далёкіх адзін ад другога відаў раслін, як кавун і агурок, дыня і гарбуз, і атрымаць іх гібрыднае насенне, хоць да апошняга часу гэта лічылася немагчымым.

Нельга не расказаць яшчэ аб адной, вельмі важнай і цікавай рабоце Турбіна, якая характарызуе яго непахіснае імкненне прынесці як мага больш карысці сваёй Радзіме.

— Беларусь не можа мець сваіх гатункаў кукурузы, гэтая культура тут не выспявае, — сцвярджалі некаторыя скептыкі.

Мікалай Васільевіч прытрымліваўся зусім іншай думкі.

Пяць год назад у інстытут пачалі паступаць невялікія пакецікі з насеннем кукурузы розных гатункаў. Дзвесце такіх пасылачак прыбыло ў Мінск з усіх канцоў краіны. У гэты час Турбіна можна было бачыць у калгасах, на доследных станцыях, у лабараторыях. Мікалай Васільевіч і яго таварышы па рабоце—А. Н. Палілава, Л. В. Кедрава-Зіхман, В. Е. Борматаў і іншыя — вывучалі вопыт працаўнікоў сельскагаспадарчай вытворчасці, раіліся з людзьмі.

Пасеяна насенне, дружна зазеляпелі ўсходы, і на доследным участку прагна пацягнуліся да сонца сцябліны кукурузы. Біёлагі ўважліва сачылі за кожнаю раслінай, старанна вывучалі асаблівасці цвіцення, утварэння пачаткаў. Пасля аналізу з двухсот адабралі каля дваццаці найбольш скараспелых, лепшых па гаспадарчых якасцях гатункаў. Цяпер вучоных хвалявала новае пытанне: як яны будуць рэагаваць пры скрыжаванні паміж сабой? Пачаўся новы этап работы. У калгасе «Рассвет камуны» Слуцкага раёна выпрабоўвалася 70 розных камбінацый. Тут вучоных чакала многа удач, але не менш і расчараванняў. Вялікія надзеі ўскладваліся на кукурузу «зубападобную». Гэты гатунак з кароткім вегетацыйным перыядам даў высокі ўраджай зялёнай масы і пачаткаў. Скрыжаванне яго з іншымі гатункамі ў розных камбінацыях давала нязначнае павышэнне ўраджаю.

Пасля шматлікіх камбінацый скрыжавалі «кічкаскую» кукурузу з «крамністай», «верхавінскую» з «мінусінскай», «крамністую» з «верхавінскай», і ўраджай пачаткаў аказаўся ў паўтара-два разы вышэйшы, чым у бацькоўскіх гатункаў. Доследы паказалі, што рознабаковую праверку вытрымалі восем з іх.

Так, у няспынных пошуках, упартай барацьбе здабываўся поспех. Але вучоныя не задаволіліся дасягнутым. На наступны год новыя гібрыды праверылі зноў, і хоць лета было халодным і дажджлівым, яны ўжо ў пачатку верасня далі да 60 працэнтаў пачаткаў васковай спеласці.

Новыя беларускія гібрыды праходзяць дзяржаўныя выпрабаванні, і няма сумнення, што лепшыя з іх хутка можна будзе сустрэць на калгасных палях.

Поспехамі беларускіх вучоных зацікавіліся ў братніх рэспубліках. Папрасіла прыслаць насенне новых гібрыдаў Шацілаўская доследная станцыя Арлоўскай вобласці. З такой жа просьбай звярнуўся да Турбіна Герой Савецкага Саюза Пётр Ляонцьевіч Кульбака, які зараз працуе ў Глухаўскім раёне Чарнігаўскай вобласці.

Атрыманне міжгатунковых гібрыдаў кукурузы не з'яўляецца канчатковай мэтай. Гэта толькі пачатак. Стаіць яшчэ больш важная і складаная задача: стварыць мясцовыя міжлінейныя гібрыды кукурузы. Ураджайнасць такіх гібрыдаў на 30—35 працэнтаў большая, чым у выходных гатункаў, а іх зернем, сабраным з гектара, можна засеяць плошчу ў 150—200 разоў большую, чым зернем звычайных гатункаў.

Вынікі доследаў акадэміка Турбіна прыцягнулі ўвагу шырокіх колаў навуковай грамадскасці. Мікалай Васільевіч з'яўляецца аўтарам першага ў краіне падручніка «Генетыка з асновамі селекцыі», перакладзенага і выдадзенага ў Польшчы, Венгрыі, Кітаі, Румыніі, Чэхаславакіі. Спасылкі на доследы вучонага можна сустрэць у самых розных падручніках і працах па біялогіі. Вось і паспрабуйце падлічыць, колькі вучняў у беларускага акадэміка! Мікалай Васільевіч выхаваў вялікі атрад маладых вучоных, ён падрыхтаваў 17 кандыдатаў навук. Дзе толькі не сустрэнеш яго выхаванцаў! Яны працуюць у шматлікіх навучальных установах краіны і нават за мяжой. Часта пішуць, раяцца з Турбіным яго былыя аспіранты — дацэнт Сафійскага ўніверсітэта О. Васілева, старшы навуковы супрацоўнік Чэхаславацкай Акадэміі навук Лудэк Ржыман, прафесар Белградскага ўніверсітэта Ружыца Главініч.

У розных краінах працуюць выхаванцы беларускага вучонага, на многіх мовах выдаюцца яго працы. Дзесяткі пісем прыходзяць да яго ў Мінск з усіх канцоў зямнога шара.



Англійскі прафесар Алан Мортан прыслаў Мікалаю Васільевічу сваю кнігу «Савецкая генетыка». Адзін з яе раздзелаў англійскі вучоны пабудаваў на матэрыяле доследаў Турбіна, «якія растлумачваюць і дапаўняюць,—як ён піша,—выкладанне мічурынскага погляду на апладненне».

На першай старонцы румынскай газеты «Паходня»—вялікі фотаздымак. На ім паказана сустрэча савецкай дэлегацыі дзеячоў навукі і культуры з румынскімі сябрамі. Ветліва ўсміхаючыся, Турбін трымае ў руках бохан хлеба з соллю. Цэлы месяц прабыў Мікалай Васільевіч у Румыніі. Ён пабываў у Бухарэсце, Плаешці, Клужы і іншых гарадах. Аб выніках сваіх навукова-даследчых прац Мікалай Васільевіч расказваў не толькі румынскім вучоным. Ён дакладваў аб іх на Міжнародным кангрэсе батанікаў у Швецыі, у лекцыях, якія чытаў у Чэхаславакіі.

Шырокае кола інтарэсаў вучонага. Яго можна сустрэць ля мікраскопа ў лабараторыі, на доследным участку, на кафедры ўніверсітэта, на трыбуне міжнароднага кангрэсу, на калгасным полі.

Многа неадкладных спраў і клопатаў у М. В. Турбіна—дырэктара Інстытута біялогіі, буйнейшай установы Беларускай Акадэміі навук. Тут вывучаецца флора і фауна рэспублікі, даследуецца будова і біясінтэз хларафілу, ствараюцца новыя відавыя формы і гатункі раслін, распрацоўваюцца мерапрыемствы па паляпшэнню лугоў і пашаў, вырашаецца шмат іншых навуковых праблем.

Савецкія вучоныя — паслядоўнікі Мічурына — смела пераўтвараюць прыроду. Свой пасільны ўклад у гэтую вялікую справу ўносіць чалавек з неспакойным, гарачым сэрцам — беларускі акадэмік Мікалай Васільевіч Турбін.

**Е. ГАЛКІН,**
**Я. РАЙХМАН.**

# ПАКАРЭННЕ МЕСЯЦА

Пайшоў другі год жыцця чалавецтва ў касмічнай эры, які пачаўся запускам савецкіх штучных спадарожнікаў Зямлі. Услед за касмічнымі следапытамі-спадарожнікамі ў неба ўзвілася першая ў свеце ракета і паляцела ў прасторы сонечнай сістэмы, каб стаць яе дзесятай планетай.

Наколькі змянілася за гэты кароткі час роля чалавека ў сусвеце! Свет зорак і планет стаў шмат бліжэй да нас, наведванне нашых бліжэйшых суседзяў-планет сонечнай сістэмы належыць цяпер ужо не толькі фантазіі пісьменнікаў. Дасягненні савецкай навукі і тэхнікі стварылі зусім рэальныя магчымасці для міжпланетных палётаў у бліжэйшым будучым. Першым на шляху авалодання космасам, вядома, будзе самае блізкае да нас нябеснае цела — Месяц.

* * *

Некалькі мільярдаў год разам з Зямлёй рухаецца ў прасторах сусвету вечны спадарожнік нашай планеты — Месяц. Месяц даўно прыцягвае да сябе ўвагу чалавека, шмат фантастычных легенд і шмат каштоўных навуковых адкрыццяў выклікалі назіранні за Месяцам.

Вывучэнне Месяца пачалі яшчэ старажытныя астраномы. Яму прысвечаны цэлы раздзел сучаснай астраноміі — селенаграфія. (Назва гэтая паходзіць ад грэчаскага слова с е л е н е, што азначае Месяц).

У даўнія часы лічылі, што Месяц, як і іншыя планеты, адыгрывае вялікую ролю ў жыцці людзей. Зацьменні Месяца летапісцы старажытнай Русі лічылі прадвеснікамі варожага нашэсця і іншых народных няшчасцяў. У народаў старажытнага Егіпта і Грэцыі Месяц стаў богам ночы і вядзьмярства. Рэлігійна-містычныя ўяўленні аб Месяцы перайшлі і ў хрысціянскія рэлігійныя забабоны.

Чалавечая фантазія насяляла Месяц разумнымі істотамі. У адной з легенд старажытнага Кітая расказваецца аб прылёце людзей на Зямлю з Месяца. Другая легенда расказвае аб тым, што на Месяц уцякла прыгажуня Чан Э, якая стала багіняй Месяца. У сярэднія вякі частка астрано-

маў лічыла, што Месяц насяляюць падобныя да людзей істоты — селяніты.

Прайшлі тысячагоддзі, і паступова навука развеяла легенды аб таямніцах Месяца. Назіранні за нашым спадарожнікам сталі крыніцай важных навуковых адкрыццяў. У канцы XVII стагоддзя даследаванне руху Месяца прывяло англійскага фізіка Ньютона да адкрыцця закону сусветнага прыцягнення. Найвялікшае адкрыццё Ньютона стала навуковым фундаментам для вырашэння праблемы касмічных палётаў. Ньютон адкрыў першую касмічную хуткасць —8 кіламетраў у секунду, пры якой цела становіцца штучным спадарожнікам Зямлі.

Паводле даных сучаснай навукі, Месяц робіць уплыў на жыццё Зямлі, але ўплыў гэты параўнаўча невялікі. Як усе планеты, Месяц адлюстроўвае сонечныя праменні: ён свеціць даволі ярка і ўначы добра асвятляе паверхню Зямлі, хоць яго святло прыблізна ў 440 разоў слабейшае за сонечнае. Месяц стварае на Зямлі велізарныя запасы энергіі «сіняга вугалю» — прыліваў і адліваў. Гэтая энергія выкарыстоўваецца для прывядзення ў рух генератараў электрычнага току. Пад уплывам прыцягнення Месяца водная абалонка Зямлі прымае форму, некалькі выцягнутую ў бок Месяца; вярчэнне Зямлі выклікае перамяшчэнне прыліўных выступаў удоўж зямной паверхні.

Марачы аб палётах у космас, людзі выбралі першай мэтай бліжэйшае да нас нябеснае цела — Месяц. Палёт на Месяц спачатку ажыццявілі пісьменнікі-фантасты. Яны стварылі шмат захапляючых аповесцей аб смелых вучоных і падарожніках, пакарыцелях Месяца.

Каля двух стагоддзяў таму назад першым пасылае свайго героя ў космас паэт Растан. Сірано дэ Бержарак накіроўваецца на Месяц у парахавой ракеце. У мінулым стагоддзі з'яўляюцца фантастычныя творы жыццерадаснага Жуль Верна: «З Зямлі на Месяц» і «Вакол Месяца». Адважныя астранаўты — героі яго твораў — робяць першае касмічнае падарожжа ў вялізным ядры, якое пры выстрале было выкінута з паверхні Зямлі. Гэты фантастычны палёт вельмі захапляў К. Э. Цыялкоўскага, калі ён яшчэ толькі пачынаў свае пошукі шляхоў палёту чалавека ў космас. Англійскі пісьменнік Герберт Уэлс апісвае першы палёт на Месяц у шары, зробленым яго героямі з цудоўнага рэчыва, свабоднага ад сіл прыцягнення.

У першыя гады сваёй навуковай дзейнасці малады Цыялкоўскі піша захапляючыя аповесці: «На Месяцы» і «Па-за Зямлёй». Перасяліўшы людзей на Месяц, дзе няма неабходнай для жыцця атмасферы, Цыялкоўскі як бы сцвярджаў, што розум чалавека здольны раскрываць самыя запаветныя таямніцы прыроды, чалавек можа пераадолець любыя цяжкасці, вырашыць самыя складаныя ў навуковых і тэхнічных адносінах задачы. Але ўсё гэта былі толькі смелыя чалавечыя мары.

Пачаўшы з фантазіі, Цыялкоўскі прывёў чалавецтва да смелага вырашэння задачы аб палёце ў космас з дапамогай ракет. Сёння палёт у космас — ужо не фантазія. На падставе прац Цыялкоўскага савецкія вучоныя накіравалі ў космас ракету, якая выйшла на арбіту вакол Сонца.

Цікава ўспомніць словы Цыялкоўскага: «Спачатку непазбежна ідуць: думка, фантазія, казка. За імі крочыць навуковы разлік. І ўжо нарэшце выкананне».

Цыялкоўскі адкрыў другую касмічную хуткасць — у 11,2 кіламетра ў секунду, якая вызваляе цела ад прыцягнення Зямлі.

Са старонак захапляючых раманаў праекты касмічных падарожжаў перайшлі ў складаныя матэматычныя формулы і разлікі вучоных. Іх выканалі кібернетычныя машыны. Яшчэ да запуску першых штучных спадарожнікаў Зямлі савецкія вучоныя стварылі і апублікавалі рашэнні задач аб палётах на Месяц з разлікам траекторый і хуткасцей спадарожнікаў, аблётаў вакол Месяца і нават аб умовах захопу Месяцам снарада, запушчанага з Зямлі.

Ажыццяўляючы першы палёт на пустынны цяпер Месяц, чалавек не трапіць у новы, невядомы яму свет. Навука сабрала шмат даных аб нашым штучным спадарожніку. Месяц знаходзіцца ад Зямлі на адлегласці 384 тысяч кіламетраў. Гэта не такая вялікая адлегласць — многія лётчыкі наляталі не меней на самалётах, многія чыгуначнікі і маракі зрабілі такі шлях па зямной паверхні. Пакінуўшы Зямлю з хуткасцю 11,2 кіламетра ў секунду, касмічны карабель дасягне Месяца менш чым за двое сутак.

Астраномы, назіраючы за Месяцам пры дапамозе тэлескопаў, разнастайных фізічных метадаў даследавання і радыёхваляў, могуць расказаць пра яго вельмі многае. Яны падрабязна вывучылі рэльеф паверхні Месяца — горы, скалы, раўніны, кратары і цыркі (так называюць круглыя ўтварэнні на яго паверхні).



Ленінградскім селянолагам Хабаковым закончана складанне падрабязнай карты часткі паверхні Месяца, якая павернута да Зямлі. На падставе шматгадовых назіранняў Пулкаўскай і Абастуманскай абсерваторый. падрабязна апісаны рэльеф паверхні Месяца. Наяўнасць такой карты аблегчыць выбар пляцовак для пасадкі на Месяцы першых караблёў будучай трасы «Зямля — Месяц».

На дыску Месяца, нават няўзброеным вокам, можна лёгка адрозніць цёмныя плямы нізін і больш светлы фон гор.

Ландшафт Месяца больш складаны і разнастайны ў параўнанні з зямной паверхняй. Каля двух трэціх паверхні Месяца займаюць горныя ланцугі, да 35 000 кольцападобных гор і кратараў налічваюць астраномы на бачнай нам частцы паверхні. Вялізныя круглыя раўніны, якія доўгі час лічыліся морамі, займаюць каля трэцяй часткі паверхні Месяца. Іх разразаюць шматлікія вялікія шчыліны шырынёй да 10 кіламетраў і глыбінёй да кіламетра.

Буйныя ўтварэнні на паверхні Месяца атрымалі ўмоўныя назвы, дробныя — на картах Месяца абазначаюцца літарамі і нумарамі. Іменамі лепшых людзей, якія праславілі гісторыю культуры чалавецтва на Зямлі, назвалі вучоныя дэталі рэльефу Месяца: горы Лейбніца, гіганцкі кратар Каперніка і інш. Прыгожыя назвы атрымалі і раўніны на Месяцы— «моры». Мора Багацця, мора Яснасці, мора Дажджоў, мора Нектара.

Рэльеф паверхні Месяца ўтварыўся ў асноўным пад уздзеяннем унутраных сіл — месяцатрасенняў — і вулканічнай дзейнасці. Удары шматлікіх метэарытаў, выпраменьванні Сонца і рэзкія ваганні тэмператур маглі змяніць толькі стан тонкага верхняга пласта паверхні Месяца.

Велізарную цікавасць у вучоных усіх краін выклікала паведамленне аб новым адкрыцці савецкага вучонага Козырава, які назіраў у канцы мінулага года вывяржэнне вялікага вулкана на Месяцы.

Адкрыццё савецкай навукі змяняе ўяўленне аб Месяцы, як аб мёртвым касмічным целе. Месяц не застылае каменнае цела, а ў яго нетрах ідзе вылучэнне цеплыні, якое выклікае вулканічную дзейнасць.

З глыбіняў часткі кратараў і трэшчын на Месяцы вылучаюцца таямнічыя белыя праменні, якія свабодна працінаюць горныя ланцугі і раўніны. Магчыма, што яны з'яўляюцца газападобным рэчывам, якое вылучаецца з нетраў гэтай планеты.

Яшчэ пасля першых назіранняў Месяца ў тэлескоп Галілеем астраномы зрабілі вывад аб адсутнасці на яго паверхні мораў і акіянаў, а таксама туманна-воблачнай атмасферы, падобнай на зямную. Адсутнасць атмасферы адкрывае паверхню Месяца для патокаў метэарытаў. З вялікімі хуткасцямі яны падаюць на паверхню Месяца. Кожны ўдар метэарыта ператвараецца ў выбух, які суправаджаецца разбурэннем кары гэтай планеты і вылучэннем цеплыні. Спакой на паверхні Месяца з'яўляецца зманлівым. Месяц, як і многія іншыя касмічныя целы, выпраменьвае радыёхвалі. Прыём адтуль радыёсігналаў дазволіў меркаваць аб тэмпературы на Месяцы. Днём, які прадаўжаецца там каля двух тыдняў, Сонца награвае Месяц да 120°, а за час доўгай месячнай ночы яго паверхня ахалоджваецца да 150° марозу.

Радыёхвалі не толькі расказалі аб рэзкіх ваганнях тэмпературы на Месяцы, але і аб тэмпературах верхніх пластоў яго кары, якая складаецца з рэчыва, што дрэнна прапускае цеплыню і пакрыта пластам пылу таўшчынёй каля сантыметра.

Першыя пасланцы Зямлі сустрэнуць на Месяцы суровыя ўмовы. Іх шлях будуць перагароджваць вялікія горы і трэшчыны. Яны павінны будуць пераносіць дзённую спякоту і люты холад уначы, вакол іх будуць узрывацца метэарыты.

Першыя людзі выйдуць з касмічных караблёў у спецыяльных гарнітурах з пластмас, скафандрах, падобных да тых, якімі карыстаюцца на Зямлі вадалазы. Скафандр надзейна захавае іх ад спякотных праменняў Сонца ўдзень і лютага холаду ўначы. Паветрам чалавек будзе забяспечваць сябе сам. У скафандрах спецыяльныя хімічныя рэчывы будуць вылучаць кіслarod і паглынаць лішкі вільгаці. Паветра скафандраў заўсёды будзе свежым і лёгкім для дыхання.

Спачатку жыллём для людзей на Месяцы будуць служыць касмічныя караблі і асобныя палаткі са звыштрывалай пластмасы. Пастаяннае жыллё чалавек створыць сабе пад паверхняй Месяца. Яно добра будзе захоўваць ад спякоты і холаду, а таксама ад уцечкі паветра і ўдараў метэарытаў. На будаўніцтва такіх падмесячных гарадоў не спатрэбіцца вялікіх затрат будаўнічых матэрыялаў.

Першы час усё неабходнае людзі будуць атрымліваць з Зямлі, яна будзе забяспечваць жыхароў Месяца вадой, паветрам і прадуктамі. Але паступова насельніцтва на Месяцы пяройдзе на самазабеспячэнне. Неабходны для дыхання кісларод яны здабудуць з глебы Месяца (наша ж зямная кара амаль напалову складаецца з кіслароду). Ваду давядзецца здабываць з розных мінералаў Месяца і метэарытаў. Магчыма, што на дне глыбокіх упадзін паверхні Месяца ўдасца знайсці нават лёд.

Жыхары Месяца змогуць атрымліваць электраэнергію, яны з дапамогай простых па будове паўправадніковых сонечных электрастанцый атрымаюць яе за кошт святла і цяпла сонечных праменняў.

Дастатак энергіі дазволіць пабудаваць на Месяцы заводы для перапрацоўкі залежаў карысных выкапняў, якіх багата назапасіла там прырода. Вырошчваць садавіну і гародніну можна будзе ў цяпліцах і аранжарэях.

Чалавек на Месяцы будзе надзвычай дужым і хуткім у бегу. Яго вага паменшыцца ў 6 разоў, а пры руху ён не сустрэне супраціўлення паветра. Цяжкія прадметы ён зможа падымаць без затраты энергіі. Звычайны крок ператворыцца ў вялікі скачок. Падаючы, чалавек не ўдарыцца аб паверхню Месяца. Чалавек будзе лёгка падымацца на высокія месячныя горы і вулканы.

Не пачуюць людзі і гукаў на Месяцы, бо на ім амаль няма паветра, якое перадае гук. Толькі ў сваім жыллі жыхары Месяца змогуць размаўляць між сабой. Усю сувязь яны будуць ажыццяўляць па радыё і тэлебачанню.

Вядома, спачатку чалавек не сам паляціць на Месяц, а пашле да яго ракеты і спадарожнікі з прыборамі. Першая касмічная ракета праляцела ўжо блізка каля Месяца і правяла ў космасе першыя навуковыя назіранні натуральнага спадарожніка.

За першымі ракетамі на Месяц паляцяць спадарожнікі — навуковыя лабараторыі. Такі спадарожнік, рухаючыся па вельмі выцягнутай арбіце, абмінаючы на сваім шляху Месяц, будзе затым набліжацца да Зямлі. Забяспечаны тэлевізарам і радыёперадатчыкам, спадарожнік абляціць Месяц з нябачнага нам боку і перадасць малюнак яго паверхні на Зямлю, тады вучоныя здолеюць уявіць сабе ўсю паверхню Месяца.

Пасля навуковых даследаванняў Месяца пачнецца яго асваенне чалавекам. Ён абудзіць змярцвелы свет на Месяцы пасля мільярдаў год яго глыбокага сну. Людзі прыляцяць на Месяц на кіруемых касмічных ракетах, магчыма, не з паверхні Зямлі, а з астрадромаў незвычайнага збудавання — вялікай заселенай па-за Зямлёй касмічнай станцыі. Аб такіх станцыях марыў яшчэ заснавальнік касмічнай астранаўтыкі К. Э. Цыялкоўскі.

Вялікія надзеі ўскладаюць на работу будучых навуковых цэнтраў на Месяцы вучоныя многіх спецыяльнасцей. Там у абсерваторыях і ў геалагічных экспедыцыях трэба будзе знайсці канчатковае вырашэнне пытанняў касмагоніі; палеантолагі даведаюцца аб мінулым Месяца, аб тым, ці было на ім жыццё.

Асаблівую цікавасць уяўляе вывучэнне будовы Месяца для геолагаў-разведчыкаў новых багаццяў зямных нетраў. Геолагі вырашэнне таямнічых глыбіняў зямнога шара пераносяць цяпер на паверхню Месяца.

З даўніх часоў хвалюе людзей таямніца паходжання сонечнай сістэмы, зорак і планет. Ці ўтварыліся наша Зямля і іншыя планеты з распаленай масы і затым паступова ахалоджваліся, ці, як аб гэтым гавораць сучасныя перадавыя касмаганічныя тэорыі, наша сонечная сістэма ўтварылася з воблака касмічнага пылу і газаў. Цэнтральны згустак касмічнага воблака стаў Сонцам, каля яго ўтварыліся колцы з разнастайнага па шчыльнасці рэчыва, якія затым нарадзілі Зямлю і ўсе іншыя планеты і іх спадарожнікаў.

З такіх уяўленняў аб паходжанні планет высоўваецца так званая паравая тэорыя будовы Зямлі. Паводле поглядаў прыхільнікаў паравой тэорыі, далёкае мінулае нашай Зямлі нагадвае сучасны стан Месяца.

Мільярды год таму назад Зямля была пазбаўлена воднага пакрыцця і атмасферы, падобна сучаснаму Месяцу. Затым праз поры зямной паверхні ўзняліся з глыбіняў зямнога шара газы і паступова ўтварылі водныя акіяны на яе паверхні і паветраны акіян, які ахутвае Зямлю.

Праверка паравой тэорыі на другім касмічным целе — Месяцы — будзе мець важнае значэнне для пацверджання касмічнай тэорыі Шмідта, Фесенкава, Амбарцумяна і шэрагу другіх вучоных матэрыялістаў. З паравой тэорыі выходзіць, што нафта на Зямлі і іншых планетах мае неарганічнае паходжанне, яна ўзнікла ў юны перыяд жыцця планет і знаходзіцца на вялікіх глыбінях зямнога



шара ў велізарных колькасцях. Месяц дапаможа чалавецтву правільна арганізаваць пошукі незлічоных багаццяў першай нафты на Зямлі.

На першай касмічнай ракеце ўстаноўлены адчувальны прыбор магнетометр для выяўлення існавання магнітнага поля каля Месяца. Яго паказанні, перададзеныя па радыё на Зямлю, дапамогуць вучоным вырашыць пытанне аб паходжанні зямнога магнітнага поля — таямніцу, якую яшчэ не здолела вырашыць поўнасцю навука нашых дзён. Адной з прычын утварэння зямнога магнетызму лічацца электрычныя токі ў верхніх, зараджаных пластах атмасферы Зямлі. Каля Месяца няма атмасферы, і калі будзе выяўлена магнітнае поле на Месяцы, то прычыны, якія ўтвараюць поле, відавочна трэба шукаць таксама і ў нетрах планет, а не толькі ў іх атмасферах.

Вялікія надзеі на Месяц ускладаюць сувязісты. Паспяхова ўдалося перадаваць на вялікія адлегласці фотатэлеграмы з дапамогай праменняў, адлюстраваных ад паверхні Месяца. Месяц дазволіць ажыццявіць сусветнае тэлебачанне — перадачу тэлевізійных праграм па ўсім зямным шары радыёхвалямі, рассеянымі паверхняй Месяца.

Але вельмі многага аб Месяцы мы яшчэ не ведаем. Застаецца невядомым, з якіх хімічных элементаў складаецца знешняе пакрыццё Месяца і яго нетры. Састаў Сонца, зорак і туманнасцей мы вывучаем па іх выпраменьванню. Месяц не выпраменьвае ўласнага святла, таму мы і не можам сказаць, з якіх рэчываў ён складаецца. Вывучэнне праменняў, адлюстраваных Месяцам, дазволіць вызначыць толькі склад пылу, які пакрывае яго паверхню. Некаторыя загадкі аб наяўнасці хімічных элементаў на Месяцы дазволяць зрабіць вывучэнне афарбоўкі яго рэльефу.

Даследаванні першай касмічнай ракеты павінны адказаць на пытанне аб наяўнасці на Месяцы радыёактыўных рэчываў.

Месяц не толькі аддасць чалавеку свае прыродныя багацці і дапаможа вырашыць многія таямніцы нашай Зямлі. Месяц адкрые чалавецтву новыя магчымасці на шляху пакарэння планет сонечнай сістэмы. Шлях на Марс, Венеру і іншыя планеты будзе значна лягчэйшым з паверхні Месяца, чым з нашай Зямлі. Вага касмічнага карабля на Месяцы паменшыцца ў шэсць разоў у параўнанні з зямной вагой. Дастаткова хуткасці толькі 2,4 кіламетра ў секунду, каб ён мог адарвацца ад Месяца і паляцець у сусветную прастору. Такімі хуткасцямі валодаюць вадкасныя ракеты і снарады, якія выкідваюцца звышдальнабойнымі гарматамі. Затрата энергіі пры ўзлёце з Месяца будзе ў 20 разоў меншай, чым пры ўзлёце ракеты з паверхні Зямлі.

Першая ў свеце касмічная ракета адкрыла шлях чалавецтву на Месяц і далей у прасторы сонечнай сістэмы. Для савецкіх людзей палёты на Месяц, Марс, Венеру сталі справай самай блізкай будучыні. Падрыхтоўка да палётаў на іншыя планеты прадугледжваецца агульным планам развіцця айчыннай навукі і тэхнікі ў гэтым сямігоддзі.

Выдатнымі дасягненнямі савецкай навукі і тэхнікі шлях на Месяц адкрыты. Чалавеку адчынены дзверы да вялікай, цяжкай, але невыказна захапляючай працы на Месяцы.

**С. БОБАЎ.**



М. В. Гогаль. З аўталітаграфіі А. Г. Венецыянава (1834 г.)

1 красавіка мінула 150 год з дня нараджэння вялікага рускага пісьменніка Мікалая Васільевіча Гогаля. У гісторыю сусветнай літаратуры Гогаль увайшоў як вялікі мастак-рэаліст, бязлітасны выкрывальнік несправядлівасцей і жахаў прыгоннага ладу ў Расіі. Гогаль ненавідзеў абывацеляў, і ён заклайміў іх знішчальнай мянушкай «існавальнікі», бо «яны задушылі карой сваёй земнасці, нікчэмнага самазадаволення высокае прызначэнне чалавека». М. В. Гогаль— адзін з самых любімых пісьменнікаў беларускага народа. Наш народны пясняр Якуб Колас так сказаў пра неўміручы геній Гогаля: «Праз шмат гадоў усё гэтак жа магутна будзе чуцён голас вялікага выкрывальніка, які горача ненавідзеў прыгонніцкі лад, што занявольваў народы. Гогаль блізкі нам і як высакародны летуценнік, які жыве надзеяй убачыць чалавека вольным, з распрастанымі плячыма, з гарачай любоўю да радзімы».

**І. С. БАС,**
**кандыдат філалагічных навук**

# ГОГАЛЬ І БЕЛАРУСЬ

### Да 150-годдзя з дня нараджэння М. В. ГОГАЛЯ

У дваццатых чыслах верасня 1839 года да таможнага пагранічнага пункту, што знаходзіўся на захад ад Гродна, пад'ехаў экіпаж. У ім сядзелі двое: М. Н. Пагодзін — гісторык і рэдактар славянафільскага часопіса «Масквіцянін» і Мікалай Васільевіч Гогаль, аб якім В. Р. Бялінскі ўжо тады пісаў, што ён «талент незвычайны», «паэт жыцця сапраўднага», паставіўшы Гогаля разам з Пушкіным на чале ўсёй перадавой рускай літаратуры.

Праверка дакументаў і багажу заняла многа часу. «Строгі агляд працягваўся больш гадзіны»,— запісаў у сваім дарожным дзённіку Пагодзін. * Дзіва што! Граніцу Расійскай імперыі пераязджаў сам аўтар камедыі «Рэвізор», якую ўвесь урадавы друк называў «паклёпам у пяці дзеях», а Мікалай І, які прысутнічаў на першым яе прадстаўленні, незадаволена заўважыў, што ў п'есе — «нясцерпная лаянка на дваран, чыноўнікаў і купцоў». Не выпадкова, зразумела, таможныя і паліцэйскія чыны так старанна і прыдзірліва правяралі рэчы Гогаля, асабліва кнігі і паперы, якія меліся пры ім.

«Ледзьве нас прапусцілі», — піша далей у сваім дзённіку Пагодзін. «Сяк-так мы адчапіліся... і дабраліся да Гродна».

У Гродна Гогаль спыніўся на пастаялым двары, дзе ў гэты час сабраўся «натоўп ямшчыкоў». Неўзабаве прышоў дырэктар мясцовай гімназіі Ястрабцаў.

Амаль тры гады пражыў на чужыне пісьменнік. З Расіі ён выехаў улетку 1836 года, ратуючыся ад удушлівай атмасферы мікалаеўскай рэакцыі, ад таго злоснага цкавання, якое было арганізавана вакол яго імя дваранскай і чыноўніцкай рэакцыяй. Знаходзячыся ў добраахвотным выгнанні, Гогаль працягвае працу над паэмай «Мёртвыя душы».

Гогаль жыве ў Германіі, Францыі, Швейцарыі і асабліва доўга — у Італіі. Але ўсё часцей і часцей пісьменніка пачынае агортваць сум па радзіме. «Я... бачу цудоўнае неба, свет, багаты мастацтвам і чалавекам,— гаворыць ён у адным з пісьмаў. — Але хіба пяро мае ўзялося апісваць прадметы, якія могуць здзівіць усякага? Ніводнага радка не мог прысвяціць я чужому. Непераадольным ланцугом прыкаваны я да свайго, і наша беднае няяркае святло наша, нашы курныя хаты, неабсяжныя прасторы палічыў я за лепшае неба, якое больш ветліва глядзела на мяне».

Гогаль вырашае вярнуцца на радзіму. Сустрэўшыся 19 верасня 1839 года ў Вене з Пагодзіным, ён садзіцца ў яго экіпаж,— і вось, нарэшце, руская граніца, беларускі горад Гродна. З адным ураджэнцам Гродзеншчыны — вялікім польскім паэтам Адамам Міцкевічам — Гогаль сустрэўся зімой 1836 года ў Парыжы.

У Гродна пісьменнік прабыў нядоўга. У той жа дзень, ці назаўтра, ён і Пагодзін пакінулі горад. Шлях Гогаля ляжаў праз Маладзечна, Мінск, Барысаў, Оршу. Да Маладзечна даехалі добра. Там агледзелі «цудоўнае вучылішча» (відаць, гімназію), а ў Барысаве любаваліся відамі Бярэзіны і «славутай пераправай», дзе ў 1812 годзе адступалі французскія войскі, якія праследавала армія Кутузава.

Беларусь Гогаль бачыў упершыню. Хоць колькі-небудзь прыкметнага следу ў творчай спадчыне пісьменніка гэта не пакінула, але ведаючы яго глыбокую цікавасць да «адгалінаванняў і пляменаў» рускага народа, і тое, што Гогаль выкарыстоўваў кожную магчымасць папоўніць свой запас ведаў аб народах, што жылі ў Расіі, трэба думаць, што і ў гэтым выпадку ён не мог не пазнаёміцца з прыродай Беларусі, яе геаграфічнымі асаблівасцямі, этнаграфіяй. Гэта тым больш верагодна, што Гогаль даўно задумаў напісаць кнігу аб Расіі, у якой хацеў «моцнай, жывой мовай» апісаць яе прыроду, быт, звычаі ўсіх народаў, якія ў ёй жывуць, у тым ліку, зразумела, і беларускага. З гэтай мэтай пісьменнік меркаваў паездзіць па краіне «і паглядзець на Русь у тых месцах», дзе ён «яе не ведае».

Гогаль старанна вывучае і канспектуе працы рускіх і замежных вучоных: «Падарожжа па розных правінцыях Расійскай дзяржавы» П. С. Паласа, «Падарожжа па Расіі» Гмеліна, «Запіскі Ляпёхіна па розных правінцыях Расіі». «Журнал падарожжа капітана Рычкова па розных правінцыях Расіі» і іншыя. Найбольш падрабязна пра Беларусь пісьменнік мог даведацца з «Запісак па Заходняй Расіі» акадэміка В. Севергіна.

У сувязі з задуманай кнігай Гогаль просіць сваіх сяброў і знаёмых, каб яны прысылалі яму работы па геаграфіі, этнаграфіі, гісторыі Расіі, паведамлялі свае асабістыя назіранні, перасылалі запісы фальклорных, статыстычных і этнаграфічных матэрыялаў. Паведамляючы ў адным з пісьмаў, што ён рашыў напісаць «жывую геаграфію Расіі», Гогаль указвае: «Кніга гэтая складала даўно прадмет маіх роздумаў. Яна спее разам з гэтай працай маёй (г. зн. з «Мёртвымі душамі» — **І. Б.**) і, магчыма, у адзін час з ёй будзе гатова».

Нажаль, такая кніга не была напісана Гогалем. Да нас дайшлі толькі некаторыя чарнавыя накіды і матэрыялы да яе. Неажыццёўленай засталася і задума пісьменніка — напісаць кнігу па геаграфіі Расіі для дзяцей (захаваўся «Урывак дзіцячай кнігі па геаграфіі» Гогаля). Але не выклікае сумнення тое, што калі б гэтыя кнігі былі напісаны, там былі б раздзелы і пра Беларусь.

Ускосна гэтае меркаванне пацвярджаецца і тым, што сярод кніг, якімі цікавіўся Гогаль у сувязі з яго

* М. Пагодзін. Год у чужых краях. Дарожны дзённік, ч. 4, М., 1844, стар. 225—227.

геаграфічнымі, этнаграфічнымі і гістарычнымі занняткамі, мы бачым і такія, якія маюць адносіны да Беларусі. Гэта — «Каралеўства Польскае і Вялікае княства Літоўскае» Бішынга (1775 г.), «Аб паходжанні, мове і літаратуры літоўскіх народаў» Пятра Кепена (1827 г.), «Польскія і рускія размовы» (Вільня, 1829 г.) і некаторыя іншыя.

Ці быў Гогаль знаёмы з беларускімі народнымі песнямі? І на гэтае пытанне можна, як нам здаецца, адказаць станоўча, хоць і ў дадзеным выпадку мы вымушаны выкарыстаць ускосны доказ. Справа ў тым, што Гогаль чытаў і шырока выкарыстоўваў у сваёй мастацкай практыцы збор песень Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага (сапраўднае яго імя—Адам Чарноцкі). Даленга-Хадакоўскі — ураджэнец Мінскай губерні, выхадзец з сям'і беларускага шляхціца (прозвішча маці Хадакоўскага было: Бародзіч).

Сабраныя Даленгам-Хадакоўскім песні ніколі не былі апублікаваны. Яны былі перасланы Гогалю вядомым фалькларыстам М. А. Максімовічам у красавіку 1834 года ў выглядзе двух тоўстых рукапісных кніг. З больш чым паўтары тысячы песень гэтага збору 128 прыпадае на долю беларускіх, прычым, усе яны раскіданы па розных старонках, перамешваюцца з песнямі рускімі, украінскімі і польскімі. Прыкладна 225 песень з гэтай кнігі Гогаль перапісаў сабе ў сшытак.

Гогаль высока ставіў Зарыяна Даленгу-Хадакоўскага, як фалькларыста, што таксама цікава. Маючы на ўвазе зборы яго песень, Гогаль пісаў: «У іх многа цудоўнага». Гэты рукапісны фальклорны зборнік застаўся ў пісьменніка звыш чатырох год.

«Накіды і матэрыялы па рускай гісторыі» М. В. Гогаля, апублікаваныя ў IX томе яго поўнага збору твораў, паказваюць, што вялікі рускі пісьменнік быў добра знаёмы з гісторыяй беларускага народа. Вядома, што ў 1833—1835 гадах Гогаль узмоцнена працаваў над кнігай па гісторыі Украіны. Гэтая работа ішла паралельна з заняткамі па рускай гісторыі. Гогаль задумаў напісаць таксама вялікі нарыс аб славянах. У сувязі з гэтым ён звярнуўся і да вывучэння матэрыялаў, звязаных з гісторыяй Беларусі.

У названых вышэй «Накідах» ёсць такія заметкі: «Дрыгавічы паміж Прыпяццю і Дзвіною. Палачане на Дзвіне ад упадаючай у Дзвіну ракі Палоты».

«Крывічы. Дзвінскія крывічы ад ракі Палоты, якая ўпадае ў Дзвіну, называліся палачанамі, удзельнічалі ў выбранні рускіх князёў... Дрыгавічы жылі паміж Прыпяццю і Заходняй Дзвіною».

«Яны... (літоўцы — **І. Б.**) занялі і ўмацавалі Ноўгарад, Гродна, Брэст і Драгічын... Паселішчы рускія вызваляліся з-пад татар і прачнуліся пад літоўскім панаваннем. Некаторыя супраціўленні і напады на іх былі няўдалымі. Полацк, які прадпрыняў гэта, быў пакораны. Неўзабаве паўсталі таксама Пінск і Тураў. Некаторыя з літоўскіх кіраўнікоў устанавілі сабе рэзідэнцыі, дзе і засталіся. У Полацку быў літоўскі князь Барыс, які... заснаваў на граніцы сваіх уладанняў на Бярэзіне горад Барысаў».

Гэтыя і іншыя канспектыўныя заметкі Гогаля — не выпіскі з гістарычных крыніц і кніг, а самастойныя накіды пісьменніка. У свой час яны мелі важнае, прынцыповае значэнне для гістарычнай навукі. Так, напрыклад, Гогаль запісвае ў раздзеле «Паступовае паяўленне гарадоў»:

«У Брэсце быў пляменнік Святаполка, Яраполкаў сын Яраслаў, якога ён у ланцугі закаваў. Значыцца, Брэст быў рускім і асобным горадам яшчэ ў пачатку 1101».

Гэты запіс Гогаля быў палемічна накіраваны супраць тых польскіх гісторыкаў (і не толькі польскіх), якія наперакор гістарычнай праўдзе імкнуліся даказаць, быццам Брэст заснаваны польскімі каталіцкімі манахамі.

Яшчэ раз прыходзіцца вельмі пашкадаваць, што гісторыка-даследчыя задумы Гогаля засталіся нязДзейсненымі. У задуманыя ім кнігі павінна было, мяркуючы па адных толькі канспектыўных накідах і заметках, увайсці многа цікавага і каштоўнага з гістарычнага мінулага беларускага народа. І гэта ў той час, калі царызм праследаваў усё беларускае, забараніў нават самую назву «Беларусь», замяніўшы яе «Заходнім краем».

Знаёмства Гогаля з фактамі гісторыі Беларусі павінна было лішні раз пераканаць пісьменніка ў невычарпальных магутных сілах народа, узмацніць яго веру ў непарыўнасць інтарэсаў, якімі звязаны былі беларускі народ з братнімі рускім і ўкраінскім народамі.



У полі зроку геніяльнага мастака слова была і сучасная яму Беларусь. Не які-небудзь адзін раён прыгоннай Расіі адлюстраваў Гогаль у сваіх «Мёртвых душах», а «ўсю Русь», намаляваўшы карціну эканамічнага, сацыяльнага і духоўнага крызісу дваранскага грамадства, даўшы глыбокую і бясстрашную крытыку самадзяржаўна-паліцэйскаму ладу.

Можна ўказаць на відавочны след выкарыстання беларускага матэрыялу ў другой частцы «Мёртвых душ», а іменна судовай справы аб злоўжываннях і кражах у Мазырскім павеце Мінскай губерні.

У пачатку 1849 года Гогаль просіць С. Ц. Аксакава дастаць яму 66-ы нумар «С.-Пецярбургскіх Сенацкіх ведамасцей» за 1848 год. Паводле слоў пісьменніка, у гэтым нумары надрукаваны патрэбны яму «артыкул».

Хоць назва артыкула і не ўказана Гогалем, але, як паказаў прафесар Дурылін *, пісьменнік несумненна меў на ўвазе змешчанае ў «Ведамасцях» паведамленне аб устанаўленні «Ваеннага суда над памешчыкамі Мінскай губерні, Мазырскага павету, за злоўжыванне і няправільныя дзеянні пры складанні ў 1843 г. планаў і статыстычных апісанняў незаселеных зямель, аддадзеных у залогі па піцейных водкупах і іншых падрадах з казны».

Справа гэтая сапраўды набыла вядомасць. Казнакрадства, хабарніцтва, ашуканства мазырскіх памешчыкаў дасягнулі такіх памераў, што ўлады вымушаны былі аддаць вінаватых ваеннаму суду. «Такая справа,— піша Дурылін,— што закранала ўсю брудную правінцыяльную гушчыню памешчыцкай спекуляцыі і чыноўніцкага казнакрадства, магла даць багаты матэрыял для адлюстравання тых найшырэйшых ашуканстваў і хітрых раскраданняў, якія пры ўдзеле Чычыкава, як павуціннем аблытваюць усю губерню ў канцы другога тома «Мёртвых душ».

У «Заключным раздзеле» паэмы расказваецца аб тым, як «завязалася справа памеру бязмежнага.., пайшлі ўзнікаць такія справы, якіх сонца не бачыла... Трэба было ўжыць прымусовыя меры». Генерал-губернатар сабраў сваіх чыноўнікаў і паведаміў ім:

«У нас завязалася справа вельмі спакушальная... Справа гэтая пацягнула за сабой адкрыццё і іншых не менш ганебных спраў, у якіх замяшаліся нават, нарэшце, і такія людзі, якіх я да гэтага часу лічыў сумленнымі. Вядома мне нават і патаемная мэта зблытаць такім чынам усё, каб аказалася поўная немагчымасць вырашыць фармальным парадкам... Але справа ў тым, што я намеран высочваць не фармальным следваннем па паперах, **а ваенным хуткім судом** (падкрэслена мною — **І. Б.**), як у ваенны час, і спадзяюся, што гасудар мне дасць гэтае права, калі я выкладу ўсю гэтую справу. У такім выпадку, калі няма магчымасці правесці справу грамадзянскім чынам, калі гараць шафы з паперамі і, нарэшце, лішкамі ілжывых пабочных паказанняў і ілжывымі даносамі стараюцца зацямніць і без таго даволі цёмную справу, я лічу ваенны суд адзіным сродкам».

У той час судовыя справы аб раскраданнях і махлярствах казнакрадаў належала разбіраць грамадзянскім, а не ваенным судом. Устанаўленне ваеннага суда над памешчыкамі Мазырскага павету з'яўлялася з'явай

* С. Дурылін. Гоголь і Аксакавы. «Звенні», т. 3—4, М.-Л., 1934, стар. 351.




**Выданні твораў М. В. Гогаля на беларускай мове.**

даволі рэдкай. Разбору «штацкага» суда належалі і Чычыкавы, Леніцыны і юрысконсульты. Але іх злоўжыванне было настолькі падобным да злоўжывання хабарнікаў і казнакрадаў з Мінскай губерні, што гогалеўскі генерал-губернатар рашыў і для іх папрасіць у гасудара ваенны суд.

Прамова генерал-губернатара перад чыноўнікамі пабудавана хутчэй за ўсё на паведамленні «С.-Пецярбургскіх Сенацкіх ведамасцей». Гэты факт, між іншым, яшчэ раз паказвае, наколькі глыбока рэалістычныя тыя старонкі другой часткі паэмы, дзе мастацкі вымысел не пярэчыць праўдзе жыцця і дзе пісьменнік трывала абапіраецца на сапраўдныя, жывыя факты.

* * *

Гогаль вымушаны быў на час пакінуць Расію, ратуючыся ад цкавання газетна-журнальнай «чэрні» і дваранскай рэакцыі. «Еду за мяжу, там разганю той сум, які наносяць мне штодзённа мае суайчыннікі, — пісаў Гогаль у маі 1836 года Пагодзіну. — Пісьменнік сучасны, пісьменнік камічны, пісьменнік нораваў павінен далей быць ад сваёй радзімы. Прароку няма славы ў айчыне».

Некаторыя сумненні трывожылі Гогаля і да прыезду яго ў Гродна, у Расію. Яму ўсё яшчэ здавалася, што супраць яго «ўсе». Але гэтае ўражанне Гогаля было памылковым. Уся перадавая, дэмакратычная Расія была за яго, за свайго вялікага пісьменніка-рэаліста. Супраць Гогаля былі толькі прыхільнікі прыгонных парадкаў, чыноўная і дваранская вярхушка грамадства.

Адлюстроўваючы думкі і настроі прагрэсіўных колаў краіны, В. Р. Бялінскі вітаў паяўленне Гогаля ў літаратуры. Вялікі крытык-рэвалюцыянер назваў «глыбокім, геніяльным творам» камедыю «Рэвізор». Веліч Гогаля, дэмакратычны характар яго творчасці адзначалі Герцан і Шчэпкін. Яны таксама абаранялі пісьменніка ад нападкаў Булгарына, Грэча, Сянкоўскага і іншых яго ворагаў.

У абарону Гогаля раздаўся ў той час і малады, бадзёры голас з Беларусі. Гэта быў невядомы пакуль аўтар парадыйна-сатырычнай паэмы «Тарас на Парнасе» — аднаго з першых твораў беларускай рэалістычнай літаратуры XIX стагоддзя.

У гэтай паэме, як вядома, адлюстравана ідэйная барацьба, якая адбывалася ў рускай літаратуры 1830—1840-х гг. Беларускі аўтар супрацьпастаўляе адзін другому два грамадска-літаратурныя лагеры: прагрэсіўны і рэакцыйны. На чале першага ён ставіць Пушкіна, Лермантава і Гогаля, якіх беспераашкодна прапускае на паэтычны Парнас вялікай рускай літаратуры.

З ліку «парнасцаў» аўтар паэмы ў нейкай меры вылучае імя Гогаля. І гэта зразумела. Творчасць Гогаля мела для таго часу, як гэта паказаў Бялінскі, асабліва важнае значэнне, бо знаменавала сабой новы, вышэйшы этап развіцця рускага крытычнага рэалізма. Ніхто да Гогаля так востра не раскрыў язвы самадзяржаўна-прыгонніцкага ладу, не паказаў так ярка ўсю глыбіню разлажэння агідных сваёй маральнай пачварнасцю «мёртвых душ». Нездарма рэакцыйная крытыка з асаблівай сілай накінулася на Гогаля, абвінавачваючы яго ў няведанні рускай мовы, называючы пісьменніка «жывапісцам дробных пошласцей».

І ў «Тарасе на Парнасе» Булгарын злоснічае супраць Гогаля. Рэдактар і выдавец прыхільнай да ўрада «Северной пчелы» пагражае «аблаяць на ўвесь свет», як ён ужо гэта зрабіў «у прошлым леце» ў адносінах да Гогаля, усякага, хто перашкодзіць яму прабрацца на літаратурны Алімп.

Зразумела, аўтар паэмы — на баку Гогаля, Пушкіна і Лермантава. Ён — прыхільнік гогалеўска-пушкінскага рэалізма. Аб гэтым сведчыць не толькі эпізод ля Парнаскай гары, але і ўвесь змест твора. Дастаткова ўказаць хоць бы на тое, што цэнтральным героем беларускай паэмы з'яўляецца «маленькі чалавек», чалавек з народа. У гэтым выявіўся бясспрэчны ўплыў творчасці Гогаля.

Выразныя сляды ўплыву Гогаля мы бачым у творчасці другога беларускага пісьменніка мінулага стагоддзя — Дуніна-Марцінкевіча. Сюжэтная аснова яго камедыі «Пінская шляхта», напрыклад, у многім нагадвае такі твор вялікага рускага драматурга, як «Аповесць аб тым, як пасварыўся Іван Іванавіч з Іванам Нікіфаравічам», а вобраз Сабковіча з камедыі «Залёты» носіць на сабе сляды творчага ўплыву гогалеўскіх «Жаніхоў».

Адзначым, што творы Гогаля Дунін-Марцінкевіч мог чытаць не толькі на рускай мове. У 1846 годзе, напрыклад, у Вільні быў выдадзены на польскай мове (у перакладзе Я. Хелмікоўскага) «Рэвізор». Праз шэсць гадоў камедыя была пастаўлена на віленскай сцэне. Як сцвярджае біб-



ліёграф Рамуальд Земкевіч, Дунін-Марцінкевіч прысутнічаў на адным з прадстаўленняў у Вільна геніяльнай камедыі Гогаля. Між іншым, «Рэвізор» ставіўся ў 50-х гадах і на Мінскай сцэне. Марцінкевіч мог бачыць камедыю Гогаля ў горадзе, дзе ён жыў і працаваў.

Гогалеўскія традыцыі зрабілі ўплыў і на творчасць беларускіх пісьменнікаў пазнейшага часу — Якуба Коласа, Змітрака Бядулі. Якуб Колас, напрыклад, пісаў у сваёй аўтабіяграфіі, што яшчэ ў маладыя гады ён захапляўся творамі Гогаля. Уплыў яго відаць ужо ў першым празаічным творы Коласа «Наша сяло, людзі і што робіцца ў сяле». Як і ў «Вечарах на хутары ля Дзіканькі» Гогаля, дзе апавяданне вядзецца ад імя пасечніка Рудога Панька, жыццё вёскі Мікалаеўшчыны перадаецца таксама праз селяніна Каруся Лапаця: «З чаго тут пачаць пісаць? Хоць бы паглядзець, як людзі пішуць. Ох, добра пісаў Гогаль (як 'шчэ хадзіў я ў школу, чытаў троха Гогаля). Вот хіба была галава! Як скажа што, усёроўна як наш муляр Мацюта глінаю ў сцяну ўлепіць. А я вот думаю і ніяк нічога не выходзіць».

Можна было б прывесці рад іншых прыкладаў, якія сведчаць аб творчай вучобе Я. Коласа, а таксама З. Бядулі ў Гогаля. Гэтая вучоба была для іх надзвычай карыснай і плённай, бо з самага пачатку літаратурнага шляху пісьменнікаў яна накіроўвала іх



**М. В. Гогаль. Малюнак А. С. Пушкіна (1833 г.)**



**А. С. Пушкін. Малюнак М. В. Гогаля (1833 г.)**

увагу да жыцця, да асноўных праблем сучаснасці.

Непаўторнае рэалістычнае майстэрства Гогаля, яго ўменне глыбока пранікнуць у самую тоўшчу жыцця, праўдзіва перадаць гэтае жыццё ў яго тыповых праяўленнях, найвышэйшая мастацкасць — усё гэта з'яўляецца невычэрпнай крыніцай узбагачэння творчасці беларускіх пісьменнікаў і ў нашы дні, крыніцай удасканалення іх літаратурнага майстэрства.

На беларускую мову асобныя творы Гогаля перакладаліся яшчэ ў дарэвалюцыйны час. Так у газеце «Наша ніва» (№ 9, 1909 г.) было апублікавана яго «Заварожанае месца». Адзначым і такі факт: у № 12 «Нашай нівы» за той жа год надрукаваны невялікі артыкул (без подпісу) пад назвай «Мікалай Гогаль». Артыкул напісаны ў сувязі са стагоддзем з дня нараджэння пісьменніка. У ім гаворыцца, што Гогаль «з вялікім талентам абрысаваў жыццё» народа, яго «змаганне за сваю свабоду». А далей коратка расказваецца біяграфія Гогаля, называюцца яго асноўныя творы.

Але па-сапраўднаму наш чытач пазнаёміўся з Гогалем на беларускай мове толькі ў савецкі час. За пасляваенныя гады паўторна выйшлі «Мёртвыя душы» (пераклад М. Машары), «Рэвізор» (пераклад К. Крапівы), «Тарас Бульба» (пераклад М. Пасляловіча і А. Бачылы), «Вечары на хутары ля Дзіканькі» (пераклад М. Лужаніна) і іншыя.

Творы геніяльнага мастака слова, аб якім М. І. Калінін сказаў, што

«наўрад ці знойдзецца ў свеце чалавек, які здолеў бы ўявіць у такім непрыглядным выглядзе грамадства, у якім ён жыў», любімыя і дарагія беларускаму народу.

* * *

... Праехаўшы 23-га верасня Смаленск, Гогаль праз тры дні быў ужо ў Маскве, спыніўшыся ў доме Пагодзіна. Праз некаторы час ён двойчы сустракаецца з Вісарыёнам Рыгоравічам Бялінскім, чытае ў сваіх знаёмых — Аксакавых і І. В. Кірэеўскага — першыя раздзелы прывезенай ім з Італіі паэмы «Мёртвыя душы». 9 мая 1840 года Гогаль адзначыў дзень сваіх імянін, наладзіўшы абед. Сярод гасцей быў Лермантаў, які чытаў Гогалю ўрыўкі з яшчэ не надрукаванай паэмы «Мцыры».

Дрэннае здароўе і некаторыя іншыя прычыны прымусілі Гогаля на час зноў паехаць у Італію. Шостага красавіка 1840 года у дадатку да № 28 «Маскоўскіх ведамасцей» ён змясціў наступную аб'яву: «Нехта, не маючы ўласнага экіпажа, шукае спадарожніка да Вены, які мае ўласны экіпаж, на палавінных выдатках».

Падарожнік неўзабаве знайшоўся. Гэта быў В. А. Панаў. Разам з ім 18 мая Гогаль выязджае з Масквы па Смаленскай дарозе, у бок Варшавы. Зноў шлях пісьменніка ляжаў праз беларускую зямлю. Зноў праязджаў ён Оршу, Барысаў, Мінск... У пачатку чэрвеня Гогаль піша з Варшавы С. Ц. Аксакаву: «Мы даехалі да Варшавы добра... Нідзе, ні на адной станцыі не было ніякай затрымкі, словам, лепш даехаць немагчыма. Нават надвор'е было добрае: у пару дождж, у пару сонца».

Магчыма, што ў неапублікаваных пісьмах і дзённіку Панава ёсць звесткі аб гэтай другой паездцы Гогаля праз Беларусь. Яны могуць быць і ў іншых рукапісных і друкаваных крыніцах сучаснікаў вялікага пісьменніка. Усё гэта не можа не зацікавіць нашых літаратуразнаўцаў, якія працуюць у галіне даследавання руска-беларускіх літаратурных і культурных сувязей.

*Размова аб майстэрстве*

Алесь АДАМОВІЧ

# ПРАБЛЕМА ТВОРЧАЙ ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦІ

Надпіс на адным з павільёнаў Сусветнай выстаўкі ў Брусселі абяцаў: «50 год сучаснага мастацтва». Нечаканае адчуванне ахоплівала савецкага чалавека, калі ён пападаў у гэты будынак. Да гэтага ён, вядома, пабыў у павільёне навукі, падымаўся ў люстраныя шары атоміума, больш, як каля іншых экспанатаў, затрымаўся каля свайго «земляка» — спадарожніка Зямлі, дзе заўсёды было «завозна», агледзеў цудоўны палац Чэхаславакіі, наштурхаўся і накруціўся да болю ў шыі ў амерыканскай цыркараме (кругавое кіно), падзівіўся смеласці і экстравагантнасці французскіх спецыялістаў, якія ўраўнаважылі свой вялізны, падобны на экскаватар павільён на адным пункце апоры... Пры ўсёй рознасці і супярэчлівасці ўражанняў наведвальнік не мог не згадзіцца, што выстаўка ў цэлым апраўдвала свой дэвіз: «Чалавек і прагрэс» і нават у большай ступені адпавядала яму, чым гэтага, мабыць, хацелася некаторым з яе арганізатараў.

Праўда, на адным з павільёнаў, які нагадваў пячору, — над павільёнам Ватыкана, — папераджальна ўздымаўся той самы крыж, якім бласлаўляліся цемрашальскія расправы над Джардана Бруна ранейшых вякоў. Але ж наведвальнік бачыў, што сімвалам выстаўкі XX стагоддзя быў не гэты пячорны крыж, а атоміум.

Праўда, наведвальніку выстаўкі назойліва прапаноўвалася паверыць у тое, што калонія ў наш час можа быць не вулканам, а мірнай букалічнай плантацыяй. Але вакол крыклівага рэкламнага павільёна Бельгійскага Конга цесна было ад павільёнаў тых краін, якія ўчора яшчэ таксама былі «мірнымі» калоніямі.

І хіба не аб здзіўляючым прагрэсе чалавецтва сведчыла тое, што каля дзесяці павільёнаў Сусветнай выстаўкі дэманстравалі дасягненні сацыялістычных краін. Стоячы каля макета савецкага спадарожніка Зямлі, наведвальнік адчуваў: чалавеку ёсць з чым ляцець да зорак!

І вось калі пасля ўсяго гэтага наведвальнік выстаўкі трапляў туды, дзе дэманстраваліся ўзоры мадэрнісцкага мастацтва за 50 год, ён не мог не разгубіцца на нейкі час. Быццам прывялі яго да крывога, якое скажае аблічча, люстра і сказалі: «А ўсё ж вось хто ты, чалавек, нягледзячы на тое, што ты пранік і ў атам і ў космас. Вось які адзінокі і бездапаможны ты ў тым свеце, які ты спрабуеш перарабіць, падпарадкаваць свайму розуму, і вось наколькі бездапаможны розум твой, чалавек, перад безданню падсвядомага».

Здавалася, што некаму вельмі не хацелася, каб чалавек, убачыўшы плён свайго генія, яшчэ больш паверыў у сябе, камусьці вельмі патрэбна было, каб усумніўся чалавек у тым, што варта імкнуцца наперад, ісці наперад.

Больш чым што іншае здзіўляла свежага чалавека, які пападаў на выстаўку найбольш характэрных твораў буржуазнага мастацтва, аднастайнасць гэтых твораў. Так, іменна аднастайнасць. Аказваецца, якраз таго бога, у ахвяру якому абстракцыяністы прынеслі ўсё, што чалавеку дорага, — якраз разнастайнасці, індывідуальнасці і не было на гэтай выстаўцы. Здавалася, звар'яцелая фабрыка пачала раптам штампаваць аднолькавыя скажоныя безгаловыя фігуры людзей, брудныя палотны, і вось ужо паўстагоддзя прадаўжае гэтую механічную аперацыю. Аказваецца, на дзіва невынаходлівыя гэтыя паны сучасныя мадэрністы пры ўсёй іх гатоўнасці ўсё паставіць з ног на галаву

ў імя арыгінальнасці, «суб'ектыўнасці». Ды гэта і зразумела. Скажыце чалавеку, што ён можа маляваць што хоча і як хоча, але толькі не павінен узнаўляць, паўтараць якасныя формы таго свету, які акружае яго — ці надоўга хопіць фантазіі ў чалавека? А мадэрністы вось ужо паўстагоддзя таўкуцца ў гэтай «непрыроднай» цёмнай пустаце. Як тут не напаўзаць палатну на палатно, як не паўтарацца?

Адзін з відных нямецкіх паэтаў Люіс Фюрнберг, аўтар яркай лірыка-філасофскай паэмы «Брат безымянны», які некаторы час сам захапляўся мадэрнісцкай паэтыкай, выдатна раскрыў трагедыю адарванага ад народа мастака. Такі мастак, вельмі многа клапоцячыся аб арыгінальнасці сваіх твораў і вельмі мала — аб жыцці, што акружае яго, перш за ўсё губляе іменна сваё творчае аблічча.

Так я сотни масок примерял;
Отражались в зеркале гримасы,
Но **своё** лицо я потерял.

(«Брат безымянны», пераклад з нямецкай мовы Л. Гінзбурга.)

У павільёне «50 год сучаснага мастацтва» невялічкая зала была адведзена для твораў савецкага мастацтва. Тут экспанаваліся творы толькі некалькіх майстроў: А. Дэйнэкі («Абарона Петраграда»), І. Бродскага («У. І. Ленін у Смольным»), С. Канёнкава («Селянін»), А. Лакціёнава («Пісьмо з фронта») і інш. Радасна было бачыць, як святлелі твары ў наведвальнікаў, калі яны заходзілі ў залу, дзе карціны і скульптуры вярталі чалавека да чалавека, да грамадства, да прыроды ва ўсіх яе фарбах і формах. І пасля таго, як прайшоў скрозь строй штампаваных хворай фантазіяй абстракцыянісцкіх тварэнняў, пачынаеш асабліва заўважаць, які шырокі дыяпазон творчых пошукаў у лепшых мастакоў сацыялістычнага рэалізма, як багата праяўляецца творчая індывідуальнасць мастакоў, якія не паддаліся буржуазнай модзе XX стагоддзя, якія зберaглі здаровую і непасрэдную цікаўнасць да чалавека і да таго свету, у якім чалавек жыве і які ён імкнецца лепш абсталяваць для шчасця.

Гаворачы аб гэтым, як аб факце радасным, усё ж задумваешся: а ці дастаткова мы ўмеем цаніць вартасці і перавагі савецкага мастацтва (у прыватнасці літаратуры) і ці заўсёды дастаткова сур'ёзна мы імкнемся да таго, каб гэтыя вартасці і перавагі рэалізаваныя былі ў поўную сілу? Крытыкі часта дэкларыруюць, што сацыялістычны рэалізм не толькі дапускае, але патрабуе багацця творчых індывідуальнасцей, разнастайнасці жанраў і стыляў, але вельмі рэдка мы напаўняем гэтыя дэкларацыі канкрэтным зместам. Чытаючы некаторыя артыкулы, у якіх закранаецца гэтае пытанне, міжволі задумваешся: а ці не зводзіць наша крытыка мастацкую разнастайнасць да знешніх і хутчэй пабочных, як кажуць, «вытворных», якасцей стылю. Некаторыя крытыкі вельмі гучна і «шчодра» дазваляюць пісьменнікам: «Пішыце ў любым жанры, у любой моўна-стылявой манеры», і ўсур'ёз лічаць, што жанрам і моўнай манерай поўнасцю вычэрпваецца мастацкая разнастайнасць пісьменнікаў сацыялістычнага рэалізма. На шчасце, гэта зусім не так. Вось мы чытаем Шолахава, а потым Ляонава, Маякоўскага, а потым Твардоўскага, Танка, а потым Панчанку і адчуваем, што розніца паміж іх творамі не толькі ў жанры ці моўнай манеры, а ў нечым большым. Тое, што ўсе гэта пісьменнікі адной ідэалогіі — камуністычнай, зусім не перашкаджае ім быць вельмі рознымі ў думках аб жыцці, у складзе пачуццяў. Кожны з гэтых мастакоў — першаадкрывальнік нейкай зусім новай сферы ў жыцці грамадства, першаадкрывальнік новых сацыяльна-псіхалагічных тыпаў. Ворагі марксізма і савецкай літаратуры сцвярджаюць, што дыялектычны метад абмяжоўвае думку і талент мастака, тады як на самай справе марксізм надзвычай абвастрае погляд мастака, дазваляе яму пранікаць у такія глыбіні грамадскага жыцця, чалавечай псіхалогіі, дзе ніхто яшчэ «не пабываў». Вось чаму савецкая літаратура ёсць і павінна быць (задача крытыкі змагацца за гэта) літаратурай першаадкрыццяў.

Выдатны марксісцкі крытык А. В. Луначарскі пісаў:

«Дрэнны той мастак, які сваімі творамі ілюструе ўжо выпрацаваныя палажэнні нашай праграмы. Мастак каштоўны якраз тым, што ён узнімае цаліну, што ён усёй інтуіцыяй пранікае ў галіну, у якую звычайна цяжка пранікнуць статыстыцы і логіцы».

Такім чынам, мастацкае багацце літаратуры нельга вымерваць толькі разнастайнасцю і арыгінальнасцю жанраў ці моўных манер. Багацце моўных манер і жанравая разнастайнасць — усё гэта незвычайна важна, калі звязана з багаццем самога зместу літаратуры. Але хіба не даводзіцца нам чытаць раманы быццам бы і розныя па моўна-стылявой ма-



неры (адны з іх напісаны «паэтычнай» прозай, другія — падкрэслена «эпічнай») і ўсё ж аднолькава ардынарныя па думках, неарыгінальныя па змесце, неглыбокія па пачуццю.

Толькі мастак, які адкрывае нешта новае ў жыцці, у чалавеку, варты таго, каб яго называць творчай індывідуальнасцю. Ілюстрацыйная літаратура, у якім бы пышным моўным ці жанравым адзенні яна ні была, заўсёды застаецца аднастайнай у мастацкіх адносінах. Вось чаму змаганне за мастацкае багацце нашай літаратуры — гэта змаганне за літаратуру першаадкрыццяў, супраць шэрай ілюстрацыйнасці.

«Ён у нас арыгінальны, бо мысліць», — сказаў Пушкін пра паэта Баратынскага, бачачы арыгінальнасць і здольнасць мастака мець аб усім сваё меркаванне, асабістыя адносіны да ўсяго.

Леў Талстой пісаў: «Па сутнасці, калі мы чытаем ці сузіраем мастацкі твор новага аўтара, галоўнае пытанне, якое ўзнікае ў нашай душы, заўсёды такое: «Ну-ка, што ты за чалавек? І чым адрозніваешся ад усіх людзей, якіх я ведаю, і што можаш мне сказаць новага аб тым, як патрэбна глядзець на наша жыццё?» Што б ні адлюстроўваў мастак: святых, бандытаў, цароў, слуг,— мы шукаем і бачым толькі душу самога мастака. Калі ж гэта стары, ужо знаёмы пісьменнік, то пытанне ўжо не ў тым, хто ты такі, а «ну-ка, што можаш ты сказаць мне яшчэ новае? З якога новага боку цяпер ты асветліш жыццё?» І таму пісьменнік, які не мае выразнага, пэўнага і новага погляду на свет, і тым больш той, які лічыць, што гэта нават не патрэбна, не можа даць мастацкага твора. Ён можа многа і прыгожа пісаць, але мастацкага твора не будзе».

Сярод новых твораў усесаюзнай літаратуры, у прыватнасці тых, што прысвечаны рэвалюцыйнай гісторыі савецкага народа, што вяртаюць нас да часоў грамадзянскай вайны і да першых гадоў станаўлення савецкай улады, вылучаюцца, сталі падзеяй у нашым грамадскім і літаратурным жыцці творы, у якіх няновая ў савецкай літаратуры тэма раскрываецца ўдумліва, страсна, сапраўды па-новаму. Развіваючы лепшыя гуманістычныя традыцыі савецкай літаратуры ва ўмовах, калі капіталізм і яго натуральны «спадарожнік» вайна пагражаюць самому існаванню чалавека на зямлі, і калі сацыялізм, камунізм стаў сінонімам жыцця і будучыні для мільёнаў людзей, у гэтых умовах найбольш чулыя да подыху сучаснасці пісьменнікі раскрываюць іменна гуманістычны змест і сэнс Ленінскага Кастрычніка, гуманістычны, жыццёва важны для лёсу чалавецтва сэнс дзейнасці Камуністычнай партыі.

Якраз такое па-сучаснаму абвостранае адчуванне і разуменне гуманістычнасці ідэй, мэт і спраў рэвалюцыйнага народа з'яўляецца пафасам рамана М. Стэльмаха «Кроў людская — не вадзіца», складае яго «філасофію».

Гэта раман аб чалавечым і народным змесце сацыялістычнай рэвалюцыі. Працоўны народ узняўся супраць векавой несправядлівасці, вярнуў сабе тое, што павінна належаць яму па праву: мір, волю, зямлю. Але буржуазія ўсіх краін паспрабавала адабраць усё гэта зноў: і тады ракою палілася «кроў людская». «А яна, кроў людская — не бязродная вадзіца, тая бывае і на воблачку, і на траўцы, і ў возеры, і ў калодзежы, а кроў ёсць толькі на зямлі, яна — жыццё бацькоў і дзяцей, пяшчотны дзявочы румянец і смелы бляск юнацкіх вачэй, яна — подзвіг воіна і пяшчотная ўсмешка дзіцяці».

Героі рамана «Кроў людская — не вадзіца» Мірашнічэнка, Цімафій Гарыцвіт — людзі працоўнай маралі, народнага светаадчування, іх ап'яняе пах зямлі, рабочага поту. Людзі гэтыя жорстка, не на жыццё, а на смерць, змагаюцца з крывавай пятлюраўшчынай, з кулакамі, але пры гэтым яны застаюцца глыбока чалавечнымі, справядлівымі, бо такой з'яўляецца «іх» рэвалюцыя. Вельмі чужым і шкодна непатрэбным выглядае сярод гэтых сапраўдных «байцоў рэвалюцыі» Кульніцкі — старшыня Новабугаўскага камбеда. Кульніцкі — кар'ерыст і пазёр, «увесь, як у панцыр, заціснуты ў чорную скуру» («Вось такім і малююць ворагі камуністаў» — думае пра яго Мірашнічэнка). Кульніцкі ігнаруе інтарэсы «чалавека з масы», скажае сапраўдную волю, народны, гуманістычны сэнс сацыялістычнай рэвалюцыі — і ўсё гэта прыкрываючыся гучнымі фразамі аб яе «вышэйшых інтарэсах», быццам бы не зразумелых простым людзям.

Вось так жа па-новаму, з улікам усяго перажытага і зробленага за апошнія дзесяцігоддзі, расказвае і Павел Нілін у аповесці «Жорсткасць» аб дваццатых гадах. На матэрыяле гістарычным Нілін уздымае маральна-этычныя праблемы сённяшняга дня,

якія па сапраўднаму хвалююць самога пісьменніка.

Першыя гады нэпа. У вельмі будзённых абставінах маленькага сібірскага гарадка працуюць работнікі крымінальнага вышуку — героі аповесці «Жорсткасць». Барацьба ідзе не толькі з узброенымі бандамі, але і з прадажнасцю, спекуляцыяй, з самім «маральным кодэксам» буржуазнага свету. У гэтых умовах і сфармаваўся малады работнік крымінальнага вышуку Венька Малышаў, асноўная рыса характару якога — незвычайная душэўная чысціня, бескампрамісная сумленнасць і прынцыповасць. Герой аповесці — сапраўдны рыцар рэвалюцыйнай законнасці, салдат Дзяржынскага. Гэты чалавек адчувае сябе прадстаўніком вышэйшай маралі — рэвалюцыйнай, вышэйшай справядлівасці — рэвалюцыйнай; таму ў ім столькі непрымірымасці да маральных кампрамісаў, да чэрстваcці, кар'ерызму, да ўсяго, што можа кінуць цень на святую справу, якой ён служыць. Выключную душэўную сумленнасць Венькі Малышава адчуў нават бандыт Лазар Баукін, адчуў і пацягнуўся, як на агеньчык, да Венькі, якога перад гэтым ледзь не забіў. Абуджаючы ў Баукіну чалавека, працаўніка, дапамагаючы яму адчуць справядлівасць той справы, супраць якой цёмны сібірак з такой тупой заўзятасцю змагаўся, Венька Малышаў паступова ператварае Лазара Баукіна з ворага ў саюзніка, вельмі патрэбнага для справы. З дапамогай Лазара Баукіна ўдаецца знішчыць банду. Але калі ўсё ўжо было зроблена, чалавек, якому трэба было поспех справы прыпісаць сабе, расстраляў і Лазара Баукіна як «бандыта». Як і Кульніцкі ў рамане М. Стэльмаха, кар'ерыст гэты прыкрывае сваю несумленнасць мерканнямі «вышэйшай» палітыкі, быццам бы незразумелай Веньку Малышаву. Але Венька добра разумее, што рэвалюцыйная справа, якой ён служыць, патрабуе чысціні матываў, а тут матывы былі эгаістычныя, кар'ерысцкія. На Веньку, на яго сумленне лёг нязносны цяжар: што пра яго падумаў Лазар Баукін у свае апошнія хвіліны, мабыць, палічыў, што з ім толькі гулялі ў чалавечнасць, справядлівасць? Той агеньчык веры ў рэвалюцыйную справу, які з такой цяжкасцю распальваў Венька ў гэтым чалавеку, груба растаптала нага дэмагога. А тут яшчэ пашляк Узялкоў («паляўнічы за рамантыкай») умяшаўся ў інтымныя адносіны Венькі з каханай дзяўчынай. Венька Малышаў страляецца.

Нягледзячы на трагічную развязку, пафас аповесці аптымістычны, сцвярджальны. Усім творам пісьменнік як бы гаворыць: такіх светлых душой, сумленных людзей, як Венька Малышаў, фарміруе толькі высокая, народная, святая справа. У гэтым чалавеку, як сонца ў кроплі вады, адлюстравалася чалавечнасць і чысціня самой рэвалюцыі. Праўда, герой аповесці не знайшоў у сабе сілы працягваць барацьбу, але рэвалюцыя, якой ён служыў, пойдзе далей, сцвярджаючы праз новых і новых Малышавых сваю сілу, сваю праўду, сваю чысціню.

Праўдзіва, без усякай мадэрнізацыі апавядаючы аб дваццатых гадах, аўтар аповесці «Жорсткасць» застаецца ў сваім творы чалавекам 50-х гадоў. Пісьменніка востра хвалюе тое, чым жыве яго сучаснік, сама сучаснасць падказала чуламу да яе мастаку новы кут гледжання на ўжо няновы для нашай літаратуры жыццёвы матэрыял. Іменна такія і толькі такія творы, у якіх ёсць *пафас першаадкрыцця*, па сапраўднаму ўзбагачаюць савецкую мастацкую культуру.

Спрэчкі вакол рамана М. Шолахава «Ціхі Дон», якія зноў успыхнулі ў апошні час (гл. «Вопросы литературы», № 12 за 1958 г.), лішні раз сведчаць, што творы, у якіх жыццё адлюстравана ва ўсёй яго складанасці і супярэчлівасці, у якіх мастак выступае як першаадкрывальнік, а не ілюстратар, такія творы ніколі не перастаюць хваляваць чытача. Чым паўней выяўляецца, раскрываецца для мільёнаў людзей гуманістычны змест і агульначалавечае значэнне сацыялістычнай рэвалюцыі, тым больш раскрываецца незвычайна глыбокі жыццёвы змест рамана М. Шолахава.

Але думаецца, што наша літаратуразнаўства ўсё яшчэ па-сапраўднаму не адчувае, не заўважае ўсю глыбіню шолахаўскага пранікнення ў гуманістычны сэнс рэвалюцыі. Даследчыкі рамана «Ціхі Дон» вельмі часта глядзяць на падзеі рэвалюцыі вачыма асобных герояў М. Шолахава: Штокмана, Міхаіла Кашавога.

А між тым, погляд самога аўтара рамана ахоплівае гарызонты намнога шырэйшыя, чым тыя, што адкрываліся героям яго твора, уцягнутым у бурлівы вір падзей. Міхаілу Кашавому было не да таго, каб узважваць усе «за» ці «супраць», калі паўставала пытанне аб такіх «контрыках», як Грыгорый Мелехаў. У аўтара ёсць магчымасць рабіць гэта, у гэтым яго і задача, як мастака. І аўтар умее зразумець і пашкадаваць сумленнага і шматпакутнага Грыгорыя там, дзе Мішка Кашавой гатовы адштурхнуць яго, «адлучыць» ад усяго, што завязвана ў крывавай рубцы з такімі, як ён, Грыгорый Мелехаў. М. Шолахаў зусім не абсалютызуе тую, магчыма, неабходную ў канкрэтных умовах жорсткасць, з якой паставіўся да Грыгорыя Мелехава Міхаіл Кашавой пры апошняй сустрэчы, калі Грыгорый думаў толькі аб адным: «зажыць, як усе». Самі абставіны, умовы нябывала жорсткай класавай барацьбы рабілі Кашавога непрымірымым у адносінах да Грыгорыя Мелехава. І гэта разумее і паказвае аўтар рамана. Але ён пакідае за сабой права разумець і Грыгорыя Мелехава, яго трагедыю, бо ён ведае, што самая чалавечная з рэвалюцый рабілася і ў імя такіх, як Грыгорый Мелехаў, нягледзячы на ўсе яго заблуджэнні і нават злачынствы перад рэвалюцыяй.

Іменна дзякуючы такому шырокаму гуманістычнаму пафасу раман «Ціхі Дон» сёння гучыць, здаецца, нават больш надзённа, чым у час яго напісання. І думаецца, што раман гэты будзе тым больш сугучны часу, нашаму погляду на чалавека, чым далей пройдзе чалавецтва па шляху да камунізма.

Што ж робіць пісьменніка сапраўднай творчай індывідуальнасцю, першаадкрывальнікам новых канфліктаў і тыпаў, першаадкрывальнікам новай моўнай стыхіі (бо сапраўдны мастак як бы адкрывае нанава і самую мову, дакладней, ён раскрывае яшчэ нікім не выяўленыя магчымасці роднай мовы)? Без таленту, без прыродных задаткаў сапраўднага мастака, вядома, не будзе. Але справа не толькі ў прыродных дадзеных. Талент не раскрываецца ў поўную сілу, пакуль пісьменнік не адчуе патрэбы ўмяшацца сваім словам у жыццё, пісьменнік становіцца творчай індывідуальнасцю не раней, чым ён адчуе сябе грамадзянінам. Толькі ў тым выпадку, калі ў чалавеку абуджаецца вострае пачуццё **асабістай** адказнасці за ўсё, што адбываецца навокал, у жыцці, толькі тады проста таленавітая асоба ператвараецца ў сапраўды творчую індывідуальнасць: у мастака паяўляецца свой, змястоўны погляд на свет, узнікаюць свае адносіны да жыцця, а тым самым і свой стыль.

Леў Талстой пісаў, думаючы ні больш, ні менш, як аб выратаванні чалавецтва. І няхай ён памыляўся ў вызначэнні шляхоў і сродкаў гэтага «выратавання», але іменна з такой вялікай і толькі з такой вялікай **асабістай задачы** магла вырасці творчасць, якая з'явілася крокам наперад у мастацкім развіцці ўсяго чалавецтва.

Марксісцка-ленінскі светапогляд садзейнічае ўзмацненню ў мастаку гэтага плённага пачуцця асабістай адказнасці за развіццё падзей у свеце, за лёс людзей, таму што марксізм нараджае навуковую пераконанасць у магчымасці пераўтварэння грамадства. Хіба не на гэтых страсных, асабістых, бескампрамісных адносінах да жыцця, да ўсяго, што рабілася ў свеце, трымаецца паэзія Маякоўскага? І хіба нават вядомых нашых пісьменнікаў не насцігала ілюстрацыйная немач тады, калі асабістыя адносіны да рэчаіснасці падмяняліся пасіўным прыняццём фактаў і з'яў жыцця, калі знікала ці аслаблялася пачуццё партыйнай адказнасці ў пісьменнікаў. Па-сапраўднаму партыйным з'яўляецца толькі тое мастацтва, якое вырастае са страснай камуністычнай перакананасці мастака, з яго гатоўнасці не на словах, а на справе ахвяраваць усім у імя перамогі ідэалаў новага грамадства.

«Для такога мастака, — гаварыў М. С. Хрушчоў у выступленні перад пісьменнікамі, — пытанне аб падыходзе да з'яў рэчаіснасці не выклікае сумнення, яму не патрэбна прыстасоўвацца, прымушаць сябе, праўдзівае асвятленне жыцця з пазіцый камуністычнай партыйнасці з'яўляецца патрэбнасцю яго душы...»

Вось на якіх **асабістых** адносінах да рэчаіснасці асноўваецца партыйнасць нашага мастацтва. Калі мы чытаем раманы «Кроў людская — не вадзіца» М. Стэльмаха ці «Бітва ў дарозе» Г. Нікалаевай, «Грозную пушчу» А. Куляшова ці замежныя цыклы вершаў М. Танка, мы адчуваем: партыйнасць тут сапраўды — голас сэрца. Іменна з такога актыўнага, асабістага стаўлення да жыцця і вырастае мастак са сваім творчым абліччам, пісьменнік са сваім стылем, бо стыль — гэта не толькі своеасаблівасць мовы пісьменніка, але і пафас яго ідэйных і маральных перакананняў, глыбіня думкі, сіла пачуцця.

XX з'езд КПСС падкрэсліў, што літаратура наша павінна быць вядучай і па мастацкаму багаццю. Барацьба за мастацкае багацце, за мастацка-стылявую яркасць нашай літаратуры пачынаецца з барацьбы за глыбока асабістыя, страсна партыйныя, грамадзянскія адносіны кожнага пісьменніка да жыцця.

А ці заўсёды ёсць гэтыя свае, актыўныя адносіны, партыйнае стаўленне да жыцця ў нашай літаратуры?

Нават у творах аб сучаснасці далёка не заўсёды. Хіба не ў гэтым адна з прычын таго, што шмат яшчэ ў нас паяўляецца твораў халодна ілюстрацыйных, анемічных па стылю?

Часам бывае так, што мы ўжо ведаем пісьменніка як даволі яркую творчую індывідуальнасць, а вось чытаем новы твор яго і заўважаем, што індывідуальнасць пісьменніка як бы выцвіла, пачала губляцца. І мы не памылімся, калі прычыну гэтаму пачнем шукаць у тым, што не загарэўся пісьменнік страснай грамадзянскай думкай, пішучы свой твор. Часам мы і мастацкую тэхніку адчуваем у такім творы, добрую рыфму, бачым асобныя ўдалыя знаходкі, але мастацкага твора не бачым, бо грамадзяніна, чалавека ў ім няма. А між тым «без чалавека (калі ў аўтару няма «чалавека») вершы — толькі пара»,— адзначаў яшчэ А. Блок.

Калі мы чытаем «Рэха ў гарах», «Сяброўства» — першыя пасляваенныя раманы Т. Хадкевіча, у якіх апавядаецца аб барацьбе і інтэрнацыянальным братэрстве ўцекачоў з фашысцкай няволі, мы бачым усяго Хадкевіча, бо ён піша аб тым, што закранула вельмі многія струны яго чалавечай істоты. Гэтага не скажаш пра яго апошні раман «Даль палявая». У гэтым творы вельмі поўна выявіліся недахопы, характэрныя і для некаторых другіх нашых твораў аб сучаснасці.

Само жыццё зрабіла вельмі суровую праверку, экзамен раману «Даль палявая». Не паспеў аўтар надрукаваць часопісны варыянт рамана аб справах і людзях МТС і калгасаў, як паявіліся вядомыя рашэнні партыі, у якіх былі ўскрыты сур'ёзныя супярэчнасці ў гэтых галінах гаспадаркі і жыцця. Вядома, зусім недарэчна, калі б хто-небудзь пачаў разважаць так: ліквідавалі МТС — устарэў і твор аб людзях, якія там працавалі. Аб'ект літаратуры — перш за ўсё людзі, і калі мастак здолеў паказаць людзей, намаляваць рэальныя чалавечыя характары, здолеў узняць цаліну, убачыць рэальныя жыццёвыя канфлікты, твор не ўстарэе. У адносінах да рамана «Даль палявая» пытанне паўстае так: а наколькі глыбока пранік аўтар у жыццё, душы, пачуцці людзей, аб якіх ён некалькі год пісаў вялікі твор, ці заўважыў ён тыя супярэчнасці і працэсы, што вызначыліся ў жыцці калгаснай вёскі і МТС?

На гэта можна адказаць: «аўтар пісаў перш за ўсё аб людзях, а потым ужо аб гаспадарчых справах». Але ж сам Т. Хадкевіч не аддзяляе людзей ад іх спраў — і зусім правільна. Бяда ў тым, аднак, што ён не заўважыў **галоўных** глыбінных канфліктаў, якія вызначалі і гаспадарчыя справы і «душэўную гаспадарку» людзей МТС і калгаса, а сканцэнтраваў увагу на тым, што ляжала на паверхні.

З дапамогай сваёй камбінацыі не вельмі яркіх вобразаў, адабраных па адзнаках прафесіі і пасады (трактарыст, дырэктар МТС, парторг, кадравы рабочы, журналіст і г. д.), пісьменнік праілюстраваў гатовы тэзіс аб неабходнасці ўмацавання МТС, не зрабіўшы ніякіх намаганняў глыбей пранікнуць у патрэбы жыцця, у душы, сумненні, патрэбы людзей, аб якіх ён узяўся пісаць. Пісьменнік не стаў па сапраўднаму блізка да людзей, аб якіх ён захацеў расказаць, іх справы, клопаты, думы не зрабіліся яго справамі і думамі — вось чаму халодная ілюстратыўная апісальнасць пануе ў гэтым творы.

Велізарнае шчасце для літаратуры мець ідэал такі блізкі да свайго здзяйснення, як наш ідэал — камуністычны. Часам гэтага шчасця — мець ідэал — людзі не заўважаюць, як не заўважаюць яны, што дыхаюць паветрам, пакуль паветра хапае. Але тыя, у каго гэтага «паветра» няма, добра гэта адчуваюць. Адзін галандскі буржуазны журналіст шчыра пазайздросціў у сваёй газеце інданезійцам, на жабрацтве якіх багацела галандская буржуазія. Мы, пісаў гэты журналіст, думаем аб тым, як купіць новы тэлевізар ці машыну, інданезійцы аб тым, як накарміць дзяцей. Але яны шчаслівейшыя за нас: у іх ёсць ідэя, што аб'ядноўвае іх, асвятляе ім заўтрашні дзень. Праўда, журналіст гэты не хацеў сказаць, што і ў Галандыі ёсць людзі, у якіх ёсць ідэя і вера ў заўтрашні дзень (свядомы пралетарыят). Але настроі і светаадчуванне свайго, буржуазнага асяроддзя ён выказаў вельмі дакладна.

Мы не збіраемся адвяргаць матэрыяльныя даброты, у нас іх будзе больш, чым у любой капіталістычнай краіне, але ў нас ёсць тое, чаго ніколі ўжо не будзе ў таго грамадства, якое з'яўляецца ўчарашнім днём гісторыі: ідэала, веры ў будучыню.

Літаратура, у якой ёсць такі велічны, такі народны, такі гуманістычны ідэал, якім з'яўляецца ідэал камуністычны, павінна быць і не можа не быць літаратурай яркіх грамадскіх страсцей, высокага партыйнага, гуманістычнага накалу, а тым самым і літаратурай найбольш багатай і ў мастацкіх адносінах.

*Крытыка і бібліяграфія*

# АБ ПЕРШЫХ ВЕРШАХ

У жыцці заўсёды ёсць месца подзвігу — такі дэвіз нашага маладога пакалення. У жыцці заўсёды ёсць месца песні, таму што яна і вядзе на подзвіг і нараджаецца ў ім. Наш час — час самых вялікіх подзвігаў і здзяйсненняў. І таму не дзіва, што сотні юнакоў і дзяўчат, якія працуюць на будоўлі або ў калгасе, бяруцца за пяро, каб у простых, шчырых радках расказаць аб гэтых вялікіх подзвігах і здзяйсненнях.

Мы не памылімся, калі скажам, што сёння ў кожным калгасе, у інстытуце, у школе або на заводзе ёсць свае паэты. Многія з іх з'яўляюцца членамі гурткоў і літаратурных аб'яднанняў, друкуюць свае вершы ў насценных, раённых, абласных і рэспубліканскіх газетах.

Маладыя паэты прысвячаюць свае першыя творы роднай Беларусі, Камуністычнай партыі, жыццю камсамола і моладзі. У вершах на гэтыя тэмы яны імкнуцца выказаць радасць і захапленне савецкіх людзей поспехамі, якіх дасягнула наша Радзіма, паказаць вобразы камуністаў — тых, хто заўсёды з'яўляецца прыкладам у барацьбе і працы. Проста і шчыра піша аб гэтым пачынаючы паэт Васіль Лаўрыновіч у вершы «Слова пра камуністаў»:

«Камуніст!  
Слова ў свеце няма даражэй.  
Ад гэтага слова —  
на сэрцы цяплей.  
Ён хлебаробам ідзе на галі,  
Сее зярняты па мяккай раллі.  
Ён з першаю ранішняй  
песняй гудка  
Рабочым спяшаецца  
у цэх да станка».

З вершамі Васіля Лаўрыновіча пераклікаюцца вершы Кастуся Хруцкага. Праз паказ гераічных спраў нашага народа малады паэт імкнецца паказаць еднасць савецкага народа з партыяй камуністаў-ленінцаў:

«Слова камуністаў — гэта слова  
сэрца.  
Мы не хочам іншых чужых  
слухаць слоў.  
Заклік камуністаў — родная нам  
мова,  
Думкі камуністаў даражэй за ўсё».

Малады паэт з Віцебшчыны Павел Воранаў таксама прысвяціў свае вершы Камуністычнай партыі. Гаворачы аб велічы і непераможнасці камуністычных ідэй, аўтар называе партыю ленінцаў «сонцам народа». Аб гатоўнасці маладога пакалення выканаць усе задачы, пастаўленыя перад нашым народам, аб адданасці савецкай моладзі ідэям камунізма піша пачынаючы паэт.

Толькі ў самаадданай працы, у імкненні наперад — у заўтрашні дзень бачыць савецкая моладзь сваё прызванне. І прыемна адзначыць, што маладыя аўтары пішуць аб гэтым у сваіх творах. Пішуць яны і аб тых выпрабаваннях, якія выпалі на долю беларускага народа ў мінулай вайне. Цёплыя і прачулыя радкі прысвяціў гэтай тэме Кастусь Хруцкі ў вершы «Беларусь»:

«Калі смага агнём табе вусны  
сушыла,  
Цябе ранне паіла настоем расы.  
Над табою вятры-лекары  
варушылі  
Пах мядовы, духмяны,  
што далі верасы.»

Прыведзеныя прыклады сведчаць аб тым, што маладыя паэты шукаюць сваіх уласных слоў і вобразаў для перадачы тых пачуццяў, якія іх хвалююць, для выражэння запаветных думак.

Але навучыцца выказваць свае пачуцці, думкі — справа не простая. Ад паэта ж патрабуецца, каб яго ўласныя думкі былі думкамі яго сучаснікаў. У сэрцы чытача знойдзе водгук толькі такі верш, які будзе сугучны яго думкам, яго перажываннем. Адсюль вынікае першае па-

трабаванне да кожнага, хто бярэцца за пісьменніцкую справу, — гэта веданне жыцця, веданне чалавечай душы.

Па-другое, нельга быць добрым слесарам, будаўніком, трактарыстам, не авалодаўшы тэхнікай сваёй справы. Вось такая, свая тэхніка ёсць і ў пісьменніка. Не авалодаўшы гэтай тэхнікай, цяжка напісаць добры верш.

У рэдакцыю часопіса «Маладосць» пішуць розныя па прафесіі, па жыццёваму вопыту і ўзросту аўтары: Іван Мельнічук, Уладзімір Бабраўнічы, Мікалай Воранаў, Уладзімір Верамейчык, Анатоль Грачанікаў, Эрнст Ялугін, Васіль Клімянкоў, Аляксей Дземідовіч, Уладзімір Правасуд, Уладзімір Матора і многія іншыя.

Знаёмства з нашай рэдакцыйнай поштай дае права сцвярджаць, што іменна ведання тэхнікі вершаскладання і нехапае абсалютнай большасці нашых маладых паэтаў. У іх, як правіла, вельмі дрэнныя рыфмы, хоць самі па сабе добра зарыфмаваныя радкі не заўсёды можна назваць паэтычнымі. Часта маладыя паэты слаба адчуваюць рытм: пачаўшы верш у адным рытмічным гучанні, заканчваюць яго ў другім. Амаль ва ўсіх маладых аўтараў вельмі бедная, невыразная мова.

Студэнт Брэсцкага педінстытута Іван Мельнічук даслаў у рэдакцыю падборку сваіх твораў пад назвай «Цаліннае». Малады паэт піша пра тое, што сам бачыў і перажыў: пра растанне з роднай Брэсчынай, пра красу шырокіх стэпаў, пра дружбу і каханне. Але ўсе яго вершы маюць адзін агульны недахоп — апісальнасць, расцягнутасць, недастатковую выразнасць думкі. Возьмем для прыкладу верш «Цаліна». Ён пачынаецца наступнымі радкамі:

«Дык вось ён, край пад назвай
цаліна,
Без меж-граніц шырокае
прыволле,
Дзе збажына навальная у полі,
А ў стэпе травы, быццам збажына.»

Чалавеку, які ніколі не бачыў цалінных стэпаў, наўрад ці ўдасца ўявіць іх па такому агульнаму апісанню, таму што «без меж-граніц шырокае прыволле» — гэта можа быць і самае звычайнае калгаснае поле.

Не знайшоў паэт яркіх і переканаўчых слоў для паказу працы савецкай моладзі, якая перайначыла адвечны стэп. Радкі «ды робіць цуды творца-чалавек; нясецца песня трактарных матораў, як творчы гімн» дрэнныя ўжо адным тым, што мы іх чулі дзесяткі разоў. Невыразная і канцоўка верша. Апошнія радкі яго не пераконваюць чытача ў сіле савецкіх людзей, хоць аўтар і піша:

«І ў вышыні замёр арол-стэпняк,
Тэхнічнай веліччу людзей
зачараваны».

Тут яўна не да месца слова «тэхнічнай».

Такія ж самыя агульныя радкі сустракаюцца і ў вершы «На таку». У ім гаворыцца аб спаборніцтве моладзі. Калі ў першай страфе яшчэ ёсць нейкая цеплыня, вобразнасць, то другая палавіна верша зусім слабая. Наўрад ці запомняцца каму такія радкі:

«Тут сябры мае, брэсцкая
моладзь,
Юнакі камсамольскага складу,
У спаборніцтве скора **адоляць**
Гаркаўчан працавітых брыгаду».

Дарэчы, тут слова «адоляць» ужыта толькі дзеля рыфмы і прытым у няправільнай форме. Трэба было б сказаць: **адолеюць.**

У вершы «Сенавозы» побач з некаторымі ўдалымі радкамі сустракаюцца зноў такія ж агульна-апісальныя. Напрыклад:

«... Ды ў нас да спраў не вяне
інтарэс.
Мы сенавозы бліжняга саўгаса
Сюды чарговы сёння робім рэйс».

Гэты верш наогул залішне расцягнуты, не кажучы пра яго непісьменнасць.

На шмат якіх вобразах з вершаў маладога паэта ляжыць адбітак пошукаў. Праўда, пошукі гэтыя не заўсёды даводзяцца да канца. Калі мы чытаем: «Калёсы грукаюць-гамоняць, матаюць рупна вызначаны шлях» або — «Зямля Радзімы песціць у падоле нязмерны скарб дабра і харaства», то за нязграбнасцю гэтых вобразаў усё ж адчуваецца нейкая свежасць успрыняцця жыцця, нейкія свае паэтычныя асацыяцыі. У далейшым, калі малады паэт будзе шмат і настойліва працаваць над павышэннем свайго майстэрства, нязграбнасць гэтая можа саступіць месца яснасці вобраза, выразнасці думкі.

Хочацца зрабіць заўвагу наконт тэхнічнага боку вершаў пачынаючага паэта, і ў прыватнасці наконт рыфмаў. Яны ў яго вельмі слабыя, прыблізныя. Вось, калі ласка: «спета — нешта», «знаходзім — адыходзіць» («Разлука»), «цаліна — збажына», «касой — бядой», «палях — стэпняк» («Цаліна»), «аўтамабіль — кавыль» («Сенавозы») і інш. Хіба ж гэта рыфма? Такою рыфмаю не змацуеш радок з радком.

Пачынаючы паэт з Гомельшчыны Уладзімір Бабраўнічы даслаў у рэдакцыю свае вершы, напісаныя ў час практыкі на будаўніцтве Днепрадзяржынскай ГЭС. Гэтак жа, як і Мельнічук, Бабраўнічы піша аб тым, што ён бачыў, што сам непасрэдна перажыў. У цэнтры ўвагі пачынаючага паэта — праца, услаўленне працоўнага чалавека і яго спраў. Аб гэтым сведчаць такія яго вершы, як «Гонар працы» і «Мантажнікі». Пранікненне ў жыццё, павага да людзей, якія сваімі рукамі ствараюць матэрыяльныя каштоўнасці — гэта станоўчыя якасці твораў маладога аўтара. Бяда ў тым, што яны недасканалыя ў паэтычных адносінах.

Вось верш «У Днепрадзяржынску». У ім аўтар апісвае — іменна апісвае, а не паказвае мастацкімі сродкамі — «як тут з Сталінграда, Масквы, Беларусі разгрузку у портах вядуць параходы», «як там, на Дняпры на шырокім, узнімаюцца грудзі магутнай плаціны». Некалькі лепшымі атрымаліся вершы «Узрыў» і «У сценах шлюза». Тут ёсць спроба паэтычнага асэнсавання мірнай працы савецкіх людзей.

Побач з гэтым у Бабраўнічага ёсць вершы, ад якіх павявае альбомшчынай, дробязнасцю пачуццяў («Із-за лесу...», «На Дняпры»).

Пачынаючаму паэту трэба звярнуць асаблівую ўвагу на мову сваіх твораў, каб не сустракаліся больш непісьменныя радкі, накшталт: «любавацца шугаючым **светам»**, «крук цапляў» і г. д.

І яшчэ адна заўвага. Датычыць яна не толькі аднаго Бабраўнічага. Амаль усе маладыя паэты, пабыўшы на цаліне ці на якой будоўлі, імкнуцца «нанізаць» не менш як па дзесятку вершаў. А ўражанняў назбірана не так ужо багата. Адсюль і бярэ пачатак разрэджанасць мастацкай тканіны. Было б больш карысці, каб маладыя аўтары, добра абдумаўшы і асэнсаваўшы свае ўражанні, замест нізак напісалі па аднаму— два вершы, але затое добрыя.

Свае вершы даслаў у рэдакцыю Мікола Воранаў з Віцебшчыны. Ён піша не першы год, аднак дасланыя творы не сведчаць аб росце яго паэтычнага майстэрства. Калі вершам першых двух аўтараў уласціва расцягнутасць, апісальніцтва, то вершы Міколы Воранава больш скандэнсаваныя, выразнейшыя па задуме. Справа ў іншым — у Воранава сустракаюцца даўно знаёмыя матывы і паэтычныя дэталі. Напрыклад, «гойдаецца воблака ў вядзерцы», якое нясе дзяўчына («Сапраўдная вясна»), «Звон! — Бы струны хтось крануў рукою» («На пасецы»), а верш «Экскаватар» па сваёй задуме і канцоўцы нагадвае аналагічны верш Кастуся Цвіркі, змешчаны ў друку гады тры назад. Вось страфа з верша Воранава:

«Крочыць (экскаватар. — **У. Н.**)
У дрыгву, зарослую травой.
Пэўна, узяць за чуб
Яе ўраз хоча
І узняць пакорна над зямлёй».

А вось як пра гэта сказана ў Цвіркі:

«А ён бярэ за чуб травяны
Рукою дол — балотаў гладзь.
Напэўна гэты край тýманаў
Да сонца вырашыў падняць».

Мы не абвінавачваем маладога паэта ў плагіяце. Толькі Воранаву трэба імкнуцца знаходзіць нешта сваё, яшчэ нікім не сказанае.

Калі паэт (пачынаючы ён ці сталы) садзіцца пісаць верш, яму неабходна дакладна ведаць, што ён збіраецца сказаць сваім вершам, якія мастацкія дэталі і вобразы выкарыстаць для раскрыцця сваёй думкі. Калі ж паэт садзіцца за стол з нявыношанай задумай верша, з намерам напісаць яго **з ходу**, тады сапраўднага мастацкага твора не атрымаецца. Так, відаць, здарылася з Анатолем Грачанікавым. У яго вершах «Не шуміце, сосны і бярозы», «Рабочы» і «Рабочыя рукі» цяжка вызначыць якую-небудзь пэўную думку. У вершы «Не шуміце, сосны і бярозы» Анатоль Грачанікаў расказвае аб тым, што недзе памірае юнак і сябры пабеглі «цераз пушчу ў вёску за ўрачом». Невядома, дзеля чаго і каму аўтар кідае незаслужаны папрок: «Можа ў тую самую хвіліну ты дзяўчыну недзе цалаваў». У вершы шмат недакладнасцей такога роду — хвароба, напрыклад: «у грудзі несціхана скасцянелым стукала плячом».

Незразумела таксама, супраць каго накіроўвае Грачанікаў першыя радкі верша «Рабочы», дзе гаворыцца:

«Не мне радыёлу круціць да віна,
Хваліцца сябрам мазалямі,
Не мне раставарацца ў бакалах
віна
І дрыгаць пад джазы нагамі».

Трэба дакладна назваць таго, каму

адрасуюцца гэтыя радкі, тады яны дасягнуць сваёй мэты. Ды і, шчыра кажучы, нічога страшнага няма ў тым, калі рабочы завядзе радыёлу або пакажа сябрам мазалі...

Больш акрэсленым атрымаўся верш «Рабочыя рукі», але ў ім залішне празаізмаў і павучальнасці. Нейкай бяздумнасцю павявае ад верша «Сон», дзе акрамя таго, што «сон цягучы і ліпкі, *як мёд*», *больш* нічога не сказана. Не выходзяць за рамкі суб'ектыўных адчуванняў і два лірычныя вершы пачынаючага паэта, у якіх гаворыцца аб расстанні з каханай дзяўчынай.

Слабы верш «Маё пакаленне» даслаў у рэдакцыю супрацоўнік Лельчыцкай райгазеты Уладзімір Правасуд. Захапіўшыся агульнымі разважаннямі, пачынаючы паэт не здолеў праз паэтычныя дэталі расказаць чытачам аб геаічных подзвігах сваіх аднагодкаў у час Айчыннай вайны і ў пасляваенныя гады. Больш таго, ствараецца ўражанне, што аўтар не вельмі клапоціцца пра яснасць сваёй думкі. Ён піша, напрыклад:

«Сваім сэрцам ў баях засланяла
Пакаленне маё кулямёты».

Сказана якраз адваротнае таму, што аўтар думаў.

У Правасуда заўважаецца імкненне да гучнай фразы. Такая фраза звычайна бывае пустацелай:

«...Гэта праца маіх аднагодак,
Што хрыбет паламалі цалінны.»

Цяжка сабе ўявіць, як гэта можна ламаць «хрыбет цаліны» і, наогул, ці існуе ён?

Такія ж недахопы ўласцівы і вершам супрацоўніка Мсціслаўскай райгазеты Эрнста Ялугіна. У пачынаючага паэта няма пачуцця рытму. Так верш «Я вярнуўся» напісаны рознымі памерамі. Гэта заўважыў бы і сам аўтар, калі б ён параўнаў, скажам, два першыя радкі з першай страфы з першымі радкамі трэцяй:

«Зноў стаю на гэтым жа пероне,
На якім вось так стаяў я колечы.
. . . . . . . .
Ды не можна павярнуць гады,
Не прыдзе яна — хоць колькі
ты ні клікай...»

Тэме жыцця нашых савецкіх воінаў прысвяцілі свае творы, дасланыя ў рэдакцыю, маладыя паэты Уладзімір Верамейчык, Васіль Клімянкоў і Аляксей Дземідовіч. Вершы Уладзіміра Верамейчыка напісаны пра каханне. У гэтым не было б нічога благога, каб у іх была ясная аўтарская думка. А то дзяўчына прыходзіць на вакзал праводзіць свайго каханага і паводзіць сябе неяк дзіўна:

...«Не мне грузінка памахала,
А табе, салдацкі эшалон.»

Што меў на мэце аўтар — аднаму яму вядома.

У двух невялікіх вершах Васіля Клімянкова няма глыбокай паэтычнай думкі. Параўнанне дрэўцаў з салдатамі, якія «на штурм гары ідуць, ідуць», недастаткова абгрунтаванае, яно не выцякае з папярэдніх радкоў («У каўказскіх гарах»). У тым жа вершы правільна было б сказаць: «Гара сваёй вяршыняй вострай кранае белыя аблокі», а не «кранае белых аблакоў».

У пачатку верша «У навагоднюю ноч» аўтар піша: «Я іду заснежанай сцяжынкай», а праз некалькі радкоў забывае гэта і сцвярджае:

«І зусім не адчуваю стомы,
Хоць **на пояс** залацісты снег.»

Такім чынам, губляецца лагічная сувязь паміж дзвюма строфамі. А ў вершы патрэбна, каб кожны радок лагічна выцякаў з папярэдняга, узмацняў яго.

Пачынаючы паэт Уладзімір Матора спрабуе свае сілы ў байках. Такую з'яву трэба вітаць, таму што не так многа сярод літаратурнай моладзі ёсць байкапісцаў. Напісаць добрую байку — справа нялёгкая. Але Уладзімір Матора, відаць, не ўяўляе асаблівасцей гэтага жанру. Байкі яго многаслоўныя, ім нехапае вастрыні, — той якасці, без якой не існуе і сам жанр. Пачынаючаму аўтару хочацца параіць чытаць *больш* твораў, напісаных нашымі беларускімі байкапісцамі, удумліва падыходзіць да падбору персанажаў, імкнуцца да лаканічнасці, звярнуць увагу на дыялаг.

Пачынаючым паэтам хочацца пажадаць больш уважліва ставіцца да выбару тэм, каб яны сугучны былі багатаму і разнастайнаму жыццю савецкага чалавека. Нельга забываць, што важным элементам у вершы з'яўляецца мастацкая дэталь, вобраз, без якіх твор будзе апісальным, халодным, нецікавым. Настойліва і ўдумліва працаваць над кожным вершаваным радком — вось, бадай, адзіная парада, якую хочацца даць пачынаючым паэтам.

**Ул. НЯДЗВЕДСКІ.**



# СЛОВА КРЫТЫКА

Першая кніга Рыгора Шкрабы «Сіла слова»*, выпушчаная Дзяржаўным выдавецтвам БССР, гэта зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў і рэцэнзій, якія ў свой час друкаваліся ў рэспубліканскіх часопісах і газетах, артыкулаў вельмі розных па тэмах і жанрах. Тут і крытыка-біяграфічны нарыс («Паэзія жыццёвай праўды»), і праблемны артыкул («Характар у апавяданні»), і рэцэнзія («Заўсёды ў дарозе»), і нават каляндарныя заметкі («Леся Украінка», «Юліус Фучык»).

Рыгор Шкраба імкнецца пісаць пра такія справы літаратуры, куды вельмі рэдка заглядае наша крытыка. Добрае сведчанне таго — яго артыкулы аб стане выкладання літаратуры ў школе, аб літаратуры для дзяцей, аб якасцях мастацкага перакладу.

Сам у мінулым педагог, Рыгор Шкраба добра ведае жыццё школы, практыку і методыку выкладання роднай мовы і літаратуры. І нельга не згадзіцца з аўтарам артыкула, калі ён гаворыць, што вельмі часта літаратура ператвараецца з самастойнага вучэбнага прадмета ў ілюстрацыю да гісторыі. У нас яшчэ няма дасканалых падручнікаў па роднай літаратуры. Адным з самых распаўсюджаных недахопаў у выкладанні літаратуры ў школе з'яўляецца недастаткова распрацаваная методыка выкладання яе. Аўтар сур'ёзна крытыкуе кнігу Е. Гарачун і А. Панамаровай «Метадычныя распрацоўкі да хрэстаматыі «Родная літаратура» для 7-га класа», паказваючы на пераканаўчых прыкладах тыя прымітыўныя сродкі, якімі аўтары кнігі карыстаюцца пры разглядзе таго ці іншага мастацкага твора, а таксама іх прыхільнасць да шаблону і схемы. Такая «методыка» ў канечным выніку прыводзіць да таго, што вучні губляюць жывы інтарэс да мастацкіх адзнак твора.

Такой жа сур'ёзнай размовай з'яўляецца артыкул «Малому чытачу — вялікую літаратуру». У ім аўтар імкнецца сказаць сваё добразычлівае, патрабавальнае слова пісьменнікам, якія пішуць для дзяцей.

У сваім выступленні на трэцім з'ездзе пісьменнікаў Беларусі народны паэт рэспублікі Якуб Колас, звяртаючыся да крытыкаў, гаварыў: «Трымайцеся меры і захоўвайце такт у сваіх крытычных выказваннях да тых, чые творы вы разбіраеце».

Іменна гэтым і кіруецца Р. Шкраба, калі па-гаспадарску, аб'ектыўна разглядае аповесці М. Гамолкі «Добры дзень, школа!», А. Шашкова «Белы камень» і В. Зуба «Таямнічы надпіс».

Адзначыўшы той факт, што кніга М. Гамолкі не пазбаўлена жыццёвай асновы, крытык у той жа час на канкрэтных прыкладах пераканаўча паказвае прыхільнасць аўтара да схемы, недастатковае веданне ім школьнага жыцця.

Разглядаючы аповесць В. Зуба «Таямнічы надпіс», напісаную таксама ў прыгодніцкім жанры, аўтар артыкула піша: «Там, дзе трэба было паказаць унутраны свет героя, пісьменнік абмяжаваўся павярхоўнай інфармацыяй або літаратурнымі штампамі. Пасля прачытання кнігі ў памяці вельмі мала застаецца і пра доктара Долатава, і пра партызанскага сувязнога Сцёпу Казімірава, і пра старога калгасніка Івана, не гаворачы ўжо пра вобразы дзяцей, якія часцей за ўсё можна адрозніць адзін ад другога толькі па імёнах. ...У ёй немагчыма знайсці з натхненнем напісаны мастацкі пейзаж, хвалюючае лірычнае адступленне, хоць дзеянне адбываецца ў пушчы і ў аўтара ў гэтым сэнсе былі вялікія магчымасці».

Здавалася б, усё зразумела, але раптам з'яўляецца зусім нечаканы вывад. «І ўсё ж, нягледзячы на гэтыя істотныя недахопы, аповесць В. Зуба каштоўная тым, што яна **хоць у нейкай меры** (падкрэслена намі.— **У. Л.**) задавальняе попыт чытача на прыгодніцкія творы, напісаныя на сучасным матэрыяле».

Ці не пераходзіць у дадзеным выпадку добразычлівасць крытыка ў нікому непатрэбную даравальнасць? Ці не садзейнічае падобны погляд літаратурнай крытыкі з'яўленню слабых, бездапаможных у мастацкіх адносінах кніг?

Цікава, свежа і, мы б сказалі, пасвойму, напісаны літаратурна-крытычны артыкул «Цудоўная кветка паэзіі» прысвечаны найвялікшаму тварэнню славянскай літаратуры — «Слову аб палку Ігаравым» Ал^ нам думаецца, што дадзены артыкул меў бы яшчэ большую вартасць, калі б

* Рыгор Шкраба. Сіла слова. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1958

аўтар заняўся канкрэтным разглядам пытання, як уздзейнічала «Слова аб палку Ігаравым» на развіццё беларускай літаратуры, ці выбраў, скажам, для даследавання такое пытанне, як высокамастацкія купалаўскія пераклады «Слова» вершам і прозай, якія далі магчымасць беларускаму чытачу пазнаёміцца з паэмай на сваёй роднай мове.

Аб тым, што такая работа аўтару пад сілу, пераканаўча сведчыць яго артыкул «Яўгені Анегін» на беларускай мове», аб перакладзе гэтага шэдэўра сусветнай паэзіі Аркадзем Куляшовым.

Дарэчы, у нас яшчэ вельмі мала работ па праблемах мастацкага перакладу, амаль не існуе крытыкі перакладчыцкай работы. Артыкул Р. Шкрабы з'яўляецца ўдалай спробай запоўніць гэты прабел.

Падкрэсліваючы той бясспрэчны факт, што пераклад мастацкай літаратуры — работа творчая, аўтар артыкула ставіць пытанне «...ці мае права перакладчык ствараць свае вобразы, каб замяніць імі вобразы арыгінала, зразумела адпаведныя па духу і сэнсу?» Іншымі словамі ставіцца пытанне аб дакладнасці перакладу і аб меры дапусцімых адступленняў ад арыгінала.

Адным са спрэчных момантаў у рабоце над крытычным артыкулам з'яўляецца пераказ зместу твора. Рыгор Шкраба піша: «У многіх выпадках аўтары, спрабуючы даць чытачу ўяўленне пра той ці іншы твор, робяць пераказ яго зместу. Мы не збіраемся катэгарычна пярэчыць супраць гэтага: пераказу не заўсёды можна ўнікнуць, больш таго, іншы раз ён неабходны. Аднак заўсёды належыць мець на ўвазе, што пераказ, якім бы падрабязным ён ні быў, ніколі не зможа даць чытачу ўяўленне пра мастацкую дасканаласць твора».

Паглядзім, як жа сам Шкраба карыстаецца гэтым важным момантам у сваёй рэцэнзіі «На розным узроўні» на кнігу апавяданняў М. Лупсякова «Паядынак».

Пераказ зместу апавядання «Міхалапіха» зроблены ім так, што гэта цікава і чытачу, які не ведае апавядання, і таму, хто яго прачытаў. Аднак, не папракаючы рэцэнзента ў празмернай прыхільнасці да падрабязнага пераказу зместу апавядання, трэба ўсё ж адзначыць, што разгляд твора ў асноўным гэтым і абмежаваўся. Такім чынам, аўтар даў уяўленне аб змесце твора, але амаль нічога не сказаў аб яго мастацкіх вартасцях.

Зусім інакш разглядаецца апавяданне «Грабскі хутар». Пераказаўшы з яго зместу толькі тое, што было неабходна, аўтар рэцэнзіі пераходзіць да ацэнкі твора, яго мастацкіх асаблівасцей. Сціслая размова пра гэта апавяданне наглядна сведчыць аб уменні крытыка дабівацца адзінства ідэйна-мастацкага аналізу.

Крытычна-біяграфічныя нарысы, прысвечаныя выдатным прадстаўнікам беларускай літаратуры Ф. Багушэвічу і М. Багдановічу, нягледзячы на тое, што яны напісаны ў агульным плане, маюць нямала пазнавальнага матэрыялу, цікавыя па сваіх вывадах. Гістарызм у разуменні літаратурнага працэсу дазволіў аўтару даць правільную ацэнку ролі і месца Ф. Багушэвіча і М. Багдановіча ў беларускай літаратуры.

Раздзел кнігі «З літаратурнага календара» прываблівае ўвагу ўдалай спробай аўтара намаляваць літаратурны партрэт паэта-рэвалюцыянера Валянціна Таўлая.

Жанр літаратурнага партрэта цяжкі, але вельмі патрэбны. Стварыць галерэю літаратурных партрэтаў беларускіх пісьменнікаў — пачэсная задача нашых літаратуразнаўцаў і крытыкаў. У гэтым напрамку Р. Шкраба зрабіў толькі першы крок. Таму хацелася б пажадаць крытыку працягваць работу ў гэтым жанры.

Ва ўменні глыбока прааналізаваць твор у яго ідэйна-мастацкім адзінстве, у добразычлівасці і чуласці, патрабавальнасці і аб'ектыўнасці заключаецца сіла крытычнага слова.

Іменна з такою думкаю і закрываеш кнігу крытычных артыкулаў Рыгора Шкрабы.

**У. ЛАЎРОЎ.**

# *Хроніка нашых дзён*

## Фрэзероўшчык стаў інжынерам

Зазвінеў тэлефон. Начальнік зняў трубку.

— Інструментальны цэх слухае.

У трубцы пачулася асцярожнае пакашліванне, а затым глухі басок спытаў:

— Ці працуе ў вас Голуб?

— Голуб?

— Так... фрэзероўшчык... Міхаіл...

Аказалася, званілі з суседняга завода. Там быў атрыманы навейшы складаны капіравальна-фрэзерны станок. Кіраванне ім грунтавалася на электроніцы. І ніхто на гэтым заводзе не браўся за яго наладку.

Начальнік інструментальнага цэха, адразу ж зразумеўшы, у чым справа, задаволена ўсміхнуўся.

— Значыць, адкамандзіраваць да вас Голуба?.. Мы тут параімся.

Яго, вядома, адкамандзіравалі. Праўда, на кароткі тэрмін, таму што вопытны фрэзероўшчык Міхаіл Голуб быў вельмі патрэбны і на сваім заводзе. Але трэба ж і суседу дапамагчы! Тым больш, што такая дапамога была гонарам не толькі самога камсамольца-фрэзероўшчыка.

У інструментальным цэху Мінскага завода аўтаматычных ліній ведалі, што Голуб вечарамі вучыцца ў політэхнічным інстытуце.

— Значыць, вучэнне ідзе яму на карысць, калі яго, нібы прафесара, запрашаць сталі, — гаварылі сябры.

Прайшлі гады.

Цяпер Міхаіл Голуб ужо на пятым курсе, рыхтуецца да абароны дыплома. У цэху, дзе ён пачынаў свой працоўны шлях, яму даручана адказная работа — старшага тэхніка-тэхнолага.

Малады тэхнолаг карыстаецца асаблівай павагай з боку маладых рабочых. Ведаючы, якім шляхам крочыць па жыцці «без пяці хвілін інжынер» Голуб, хлопцы з адкрытай душою звяртаюцца да яго за парадамі. Ён стараецца быць уважлівым з кожным. І слесар, і токар заўсёды атрымаюць ад Голуба практычную дапамогу. Але асабліва ўважліва ён адносіцца... (ну, вядома ж!) да фрэзероўшчыкаў.

Вось за адным з фрэзерных станкоў працуе камсамолец Саша Шышпар. У мінулым годзе ён паступіў у цэх вучнем. Голуб не выпускаў яго з поля зроку, прыходзячы на дапамогу нават і без просьбы Шышпара. Хутка фрэзероўшчык атрымаў разрад. Цяпер самастойна выконвае складаныя заданні.

Яго спыталі:

— Якія твае асабістыя планы, Саша, на бліжэйшы час?

Шышпар цвёрда, па матроскай звычцы, адказаў:

— Рыхтуюся паступіць у тэхнікум.

**Д. АЛАЎ.**



На здымку: **старшы тэхнік-тэхнолаг Міхаіл Голуб** (справа) **яшчэ раз пераконваецца, што Саша Шышпар навучыўся фрэзераваць дакладна па чарцяжу.**

(Фота аўтара).

## Мелодыі клічуць

...Страшней за ўсё было перайсці доўгі драўляны мост цераз Бярэзіну. Прытаіўшыся за сцяной разбуранага дома, хлопцы ўжо з паўгадзіны назіралі за двума цыбатымі фашыстамі, якія павольна хадзілі ўздоўж маста, абшуквалі фурманкі і пешаходаў, што здаваліся ім падазронымі.

— Так мы да ночы прастаім... — не вытрымаў урэшце старэйшы з хлапцоў. — Пайшлі! Толькі трымайцеся весялей і не палохайцеся, калі ў кошыкі палезуць: скажам, што рыбу глушыць збіраліся.

Праз хвіліну група юнакоў, ажыўлена перагаворваючыся, ужо была на мосце. Немцы, акінуўшы позіркам іх падранае адзенне, босыя ногі, вудачкі і кошыкі з травой, абыякава адвярнуліся. Хлопцы перайшлі на другі бок рэчкі і зніклі ў прыбярэжным хмызняку.

Непадалёк ад дарогі іх ужо чакаў чалавек у простым сялянскім адзенні і, коратка прывітаўшыся, адразу запытаў:

— Чаму так доўга?
— Ля маста затрымаліся...
— Прынеслі?
— А як жа!

І хлопцы пачалі выцягваць з кошыкаў схаваныя пад травой толавыя шашкі, дэтанатары, шнур.

— Малайцы гвардзейцы! — задаволена прамовіў чалавек. — А табе, Валеры, прывітанне ад бацькі і маці.

— Дзякуй, дзядзька Міхась! — адказаў юнак. — Як вы там жывяцё ў атрадзе?

— Нішто сабе, ворага б'ём ды хлеб жуём, — засмяяўся дзядзька. — Дарэчы, вось і вам хлеб, ды яшчэ з салам, а то немцы, відаць, не надта смачна тут кормяць.

— Яны накормяць... — адказаў Валеры, і вочы яго бліснулі нянавісцю. — На ўсё жыццё сыты будзеш!

Валеры Глушакоў скончыў толькі сем класаў сярэдняй школы, калі пачалася вайна. У першыя ж дні загінула старэйшая яго сястра, якую немцы расстралялі, як жонку камуніста. А калі сям'я бабруйскага рабочага-мэблёўшчыка Ігната Глушакова апынулася ў IX Кіраўскай партызанскай брыгадзе, яе зноў напаткала гора: загінула ў гестапа другая сястра Валерыя. Бязлітасна помсціў за смерць сваіх блізкіх, за сваю зняважаную родную зямлю Валеры Глушакоў.



**У Беларускім тэатры оперы і балету ідзе «Вертэр» Маснэ. Валеры Глушакоў перад выхадам на сцэну.**
Фота А. Дзітлава

Яшчэ знаходзячыся ў захопленым ворагам Бабруйску, ён разам са сваімі таварышамі выпадкова натрапіў на склад боепрыпасаў, які знаходзіўся ў адным з сутарэнняў зруйнаванай крэпасці. Перамагаючы страх, падбадзёрваючы адзін аднаго, хлопцы пракапалі вузкую шчыліну і праз некалькі дзён дабраліся да склада. Набраўшы толу, яны чакалі прыезду сувязнога, каб перадаць яму свае «трафеі» і атрымаць узамен газеты, адозвы і зводкі Савінфармбюро.

Так пачалася першая самастойная «работа» Валерыя Глушакова.

Калі фашысцкія акупанты былі выкінуты з Беларусі, малады партызан апрануў шынель салдата Савецкай Арміі. Служба ў арміі і з'явілася тым «жыццёвым універсітэтам», які вызначыў увесь яго далейшы лёс. З першых дзён Валеры захапляецца армейскай мастацкай самадзейнасцю, спявае ў хоры. Маючы выдатныя вакальныя здольнасці, ён становіцца не толькі салістам ансамбля, але і яго кіраўніком. Цяжка было, не ведаючы нот, кіраваць ансамблем. І калі перад дэмабілізацыяй сябры параілі Валерыю падумаць аб музычнай адукацыі, ён згадзіўся з імі.

Неўзабаве дэмабілізаваны салдат быў ужо студэнтам падрыхтоўчага курса Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.

Нялёгка прыйшлося маладому спеваку, якому на працягу аднаго года трэба было атрымаць сярэднюю музычную адукацыю. Але ён яе атрымаў, і праз год паспяхова вытрымаў прыёмныя экзамены ў кансерваторыю.

І пачалося звычайнае студэнцкае жыццё: заняткі, наведванне опернага класа, першыя выступленні ў канцэртах... А калі надышоў апошні выпускны вечар, у Валерыя было ўжо больш трох год працоўнага стажу: ён вучыўся і працаваў салістам Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

Але Валерыя Глушакова ўсё ж вабіла сцэна опернага тэатра. Ён праходзіць па конкурсу і залічваецца ў стажорскую групу салістаў Вялікага тэатра Саюза ССР. Аднак не захацелася Валерыю пакідаць сваю рэспубліку, дзе ён нарадзіўся, дзе столькі перажыў, дзе атрымаў пуцёўку ў вялікае мастацтва. І Беларускі тэатр оперы і балету гасцінна расчыніў дзверы перад маладым спеваком. Уладзімір Ігаравіч у оперы Барадзіна «Князь Ігар», Лыкаў у «Царскай нявесце» і індзійскі госць у «Садко» Рымскага-Корсакава, Фауст у аднайменнай оперы Гуно, Надзір у «Шукальніках жэмчугу» Бізэ, Марцін у «Міхасі Падгорным» Цікоцкага, Вронэк у «Ясным світанні» Туранкова... Усе гэтыя вобразы створаны маладым спеваком толькі за два гады работы ў тэатры. І вось прышоў першы сапраўды вялікі поспех. У ролі Дэ Грые з оперы Маснэ «Манон» В. Глушакоў найбольш ярка раскрыў свае здольнасці. Роўнае гучанне голасу ва ўсім дыяпазоне, шырокае спявацкае дыханне, глыбокае пранікненне ў вобраз — вось тыя якасці, якія прадэманстраваў саліст у гэтай оперы.

Вялікім творчым дасягненнем саліста па праву лічыцца і стварэнне ім вобраза Вертэра ў нядаўняй прэм'еры тэатра — оперы Маснэ «Вертэр». Валеры Глушакоў бездакорна вядзе вакальную партыю. Ён здолеў пазбавіцца сентыментальнасці і позы, якія часаміназіраліся ў іншых выканаўцаў гэтай ролі.

Талент В. Глушакова развіваецца літаральна ад партыі да партыі, а рэпертуар няспынна пашыраецца. Толькі ўчора праспявана апошняя новая партыя, а сягоння ўжо гатова другая — Герцаг у оперы Вердзі «Рыгалета». Рыхтуецца адначасова трэцяя — партыя Хуан Шы з оперы Карчмарова «Сівая дзяўчына». Малады артыст марыць выступіць у ролі Альмавівы ў оперы «Севільскі цырульнік» Расіні, Альфрэда ў «Травіяце» Вердзі, Ленскага ў «Яўгеніі Анегіне» Чайкоўскага і ў цэлым радзе другіх опер, клавіры якіх высокім стусам ляжаць у яго на фартэпіяна. Вялікая, напоўненая цікавым зместам і творчай радасцю праца чакае маладога саліста наперадзе.

**Д. ЖУРАЎЛЁЎ.**



## На выстаўцы — шкло і фарфор

Далёка ад зялёных берагоў Нёмана да Асака. Але жыхары гэтага буйнага японскага горада добра ведаюць майстроў з беларускага шклозавода. Мастацкія вырабы са шкла, якія выпускае завод «Нёман», таксама як і прадукцыя барысаўскага завода імя Дзяржынскага пабывалі за два апошнія гады на некалькіх міжнародных выстаўках: у Японіі, у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы, у Бельгіі. Журы Сусветнай выстаўкі ў Бруселі прысудзіла заводу «Нёман» бронзавы медаль за цудоўна зробленую вазу для кветак, каляровы туалетны прыбор і дэкаратыўную вазачку.

Стваральнікамі ўсіх найбольш цікавых работ з'яўляецца моладзь: мастакі, скульптары, майстры-алмазнікі. Прэміраваныя ў Бруселі вырабы выкананы па эскізах і пры ўдзеле мастака Г. Ісаевіч — выхаванкі Мінскага мастацкага вучылішча. Алмазныя грані на іх наносілі маладыя майст-



**Адзін са стэндаў выстаўкі ў Доме навукова-тэхнічнай прапаганды ў Мінску.**
Фота аўтара.

ры А. Аўраменка і Н. Чэлека. Там жа на «Нёмане» з вялікім поспехам працуе малады жывапісец Е. Гладкоў.

На барысаўскім заводзе сярод творчых работнікаў таксама шмат моладзі. Майстар-алмазнік С. Грахоўскі, жывапісец В. Кірыкава і іншыя знаходзяць тут шырокі прастор для выяўлення свайго таленту.

Вытворчасць мастацкіх вырабаў са шкла — адна з маладых галін беларускай прамысловасці. Яшчэ больш маладым, але блізкім да гэтай вытворчасці з'яўляецца выпуск фарфоравых вырабаў. У пасляваенныя гады на Мінскім фарфора-фаянсавым заводзе развіўся выраб прыгожых статуэтак, вазаў і іншых прадметаў, якія ўпрыгожваюць нашы кватэры. У дні святкавання 40-гадовага юбілею нашай рэспублікі на выстаўцы мастацкіх вырабаў усеагульнае захапленне выклікала велізарная фарфоравая ваза, створаная маладым мастаком В. Кірыленкам. Вялікую папулярнасць набылі фарфоравыя статуэткі «Дзяўчына з вянком» (мастак А. Саломка), «Па шчупаковаму загаду» (мастак А. Аксючыц) і шмат іншых, якія экспанаваліся на нядаўняй выстаўцы ў Рэспубліканскім Доме навукова-тэхнічнай прапаганды.

Мастацкае шкло і фарфор, ледзь паспеўшы ўвайсці ў пералік тавараў, што выпускае беларуская прамысловасць, адразу ж звярнулі на сябе ўвагу. Несумненна, што наступныя крокі гэтай маладой галіны, прынясуць шмат новых радасцей.

**А. ПІРАГОЎ.**

## Дуэт слесараў

Калі праходзіў першы Усебеларускі фестываль моладзі, маладыя мінчане Георгі Філіпаў і Дзмітры Зыль былі далёка ад роднага горада. Абодва ў той час служылі ў арміі. Але і там яны не забывалі свайго ранейшага захаплення мастацкай самадзейнасцю. Высокі тэнар салдата Філіпава і прыемны барытон радавога Зыля часта былі чутны ў палкавым клубе, на прывалах, на маршы.

І вось, закончыўшы службу, абодва вярнуліся ў Мінск. Філіпаў паступіў слесарам-вадаправодчыкам на тонкасуконны камбінат. Зыль зацікавіўся станкабудаваннем і стаў працаваць слесарам-зборшчыкам на заводзе аўтаматычных ліній. І хоць працавалі яны на розных прадпрыемствах, але працягвалі сябраваць.

Каля трыццаці прадзільшчыц і ткачых тонкасуконнага камбіната, абмяркоўваючы планы падрыхтоўкі да другога Усебеларускага фестывалю, прапанавалі стварыць у Доме культуры жаночы хор. Сказана — зроблена. Не прайшло і тыдня пасля адкрыцця Дома культуры, як у ім загучалі вясёлыя частушкі, народныя песні... Пасля адной з рэпетыцый да кіраўніка хору Уладзіміра Сямёнавіча Лінкевіча падышлі двое хлопцаў і завялі асцярожную гутарку:

— Чаму ў вас толькі жаночыя галасы... З мужчынамі хор гучаў бы цікавей...

Хлопцаў запрасілі на сцэну. Загучалі ўступныя акорды, а следам за імі, спачатку не вельмі рашуча, а потым усё больш звонка палілася песня. Верныя салдацкім традыцыям, Георгі Філіпаў і Дзмітры Зыль (а гэта яны і былі) праспявалі «Песню баявых сяброў». Дзяўчаты, якія ўважліва слухалі спевы, заапладыравалі. Так у жаночы калектыў прышло мужчынскае папаўненне. Паспяхова выступае з хорам і «дуэт слесараў», як жартам празвалі тэкстыльшчыцы сваіх салістаў.

**А. ДЗІТЛАЎ.**



**Камсамольцы Г. Філіпаў** (злева) **і Д. Зыль на занятках хору.**
Фота аўтара.

# *Спорт*



(Злева направа): **Л. Ліхалап, З. Скарабагатава і В. Славута.**

## СЯБРОЎКІ

Снавальшчыца Люда Ліхалап з ткацкай арцелі «Прагрэс» ды фангоўшчыцы Зіна Скарабагатава і Валя Славута з арцелі імя Крупскай—неразлучныя сяброўкі. Такімі іх зрабіў спорт.

Па рознаму пачыналіся спартыўныя біяграфіі дзяўчат.

Люда нарадзілася і жыла ў вёсцы Забалаць на Любаншчыне. Як і многія яе равесніцы, любіла бегаць, гуляць у валейбол. А калі прыспеў час хадзіць у школу, што знаходзілася за сем кіламетраў у суседняй вёсцы, Люда садзілася на веласіпед, і тады нават вясковыя хлапчукі не заўсёды маглі дагнаць яе. І не дзіўна, што іменна яна потым абараняла спартыўны гонар школы на раённых спаборніцтвах па велаcпорту.

Гэта было першае выступленне юнай спартсменкі. Люда і не думала тады, што праз тры гады стане сур'ёзна займацца спортам, будзе адной з мацнейшых веласіпедыстак рэспублікі. Не думала яна і аб тым, што ў дваццаць год стане майстрам спорту.

Поспех спадарожнічаў дзяўчыне. Фізічна развітая, яна даволі лёгка дабівалася перамогі на раённых спаборніцтвах. Але калі ў 1956 годзе прышлося выступаць на першынстве вобласці, як ні старалася Людміла, бліжэй пятага месца заняць не здолела.

З таго часу і дома, і на вучэбных зборах мацнейшых гоншчыкаў вобласці дзяўчына трэніравалася з асаблівай настойлівасцю, імкнулася пераняць усё новае, што было ў тэхніцы і тактыцы веласіпеднага спорту.

Ішлі месяцы, гады. Расло спартыўнае майстэрства Людмілы Ліхалап. Скончыўшы школу, яна паступіла вучаніцай-снавальшчыцай у мінскую ткацкую арцель «Прагрэс» і па-ранейшаму працягвала сур'ёзна займацца любімым відам спорту. Так у секцыі таварыства «Спартак» Люда і пазнаёмілася з Зінай Скарабагатавай.

Калі Люда яшчэ з дзяцінства марыла аб веласіпедзе, дык Зіна ніколі і не думала, што зможа праехаць на ім хаця б дзесятак метраў. Яна была добрай лыжніцай і лічыла, што гэта самы лепшы від спорту. З лыж усё і пачалося.

Інструктар фізкультуры арцелі імя Крупскай Роза Сцішко неяк прапана-

вала Зіне Скарабагатавай запісацца ў лыжную секцыю. Гэтую прапанову дзяўчына прыняла ахвотна. Яна не прапускала ніводных заняткаў, неадназова выступала на спаборніцтвах. Але вось зіма прайшла, і трэнер Таісія Уладзіміраўна Капусцік параіла ёй заняцца веласпортам. Так Зіна ўпершыню села на веласіпед.

— Цяжка цяпер сказаць, што прымусіла мяне палюбіць гэты від спорту, — успамінае Скарабагатава.— Ці то таму, што гэта быў новы для мяне занятак, ці то — не хацелася расставацца з любімым трэнерам (Таісія Уладзіміраўна добра катаецца на веласіпедзе і ходзіць на лыжах). Нагул, я стала гоншчыцай. За год выканала нарматывы другога разраду, — неўзабаве стала першаразраднiцай.

У гэты час у цэх, дзе працавала Зіна, прышла новая вучаніца — Валя Славута. Дзяўчаты хутка пасябравалі. Зіна многа расказвала сваёй новай сяброўцы аб трэніроўках, а скончылася гэта тым, што і Валя прышла ў спартыўную залу.

— Ты толькі паспрабуй сесці на машыну,— пераконвала Зіна сяброўку.— Гэта нічога, што веласіпед стаіць на станку. Пакруціш педалі, і ўражанне такое, быццам ты імчышся па шашы...

З таго часу Зіна і Валя сталі неразлучнымі. Побач працавалі яны за фангавымі станкамі, рыхтуючы трыкатаж для будучых світараў, шапачак, пальчатак, разам хадзілі на трэніроўкі, у кіно, разам чыталі кнігі. Зіна, як старэйшая і больш вопытная, ва ўсім дапамагала сяброўцы, уважліва сачыла за яе спартыўнымі дасягненнямі, радавалася кожнаму яе поспеху. Усё больш упэўнена адчувала Валя сябе ў час спаборніцтваў і неўзабаве стала адной з мацнейшых веласіпедыстак «Спартака» — першаразрадніцай. У 1957 годзе абедзве дзяўчыны ўпершыню былі ўключаны ў склад зборнай каманды рэспублікі па веласіпеднаму спорту.

І ўжо неяк само па сабе так атрымалася, што калі на заняткі ў секцыю «Спартак» упершыню прышла Люда Ліхалап, з ёю адразу пасябравалі Зіна і Валя.

Спорт дапамог ім стаць сапраўднымі сябрамі. І калі ў чэрвені мінулага года ў час спаборніцтваў на першынство горада Валя Славута нечакана атрымала траўму, дзяўчаты рабілі ўсё магчымае, каб падбадзёрыць яе, падтрымаць. Вяртаючыся з трэніровак, сяброўкі падрабязна расказвалі Валянціне аб усіх навінах. Радасна было ўсім, што Валя хутка паправілася і зноў прыступіла да заняткаў. Неўзабаве яна выйшла на старт спаборніцтваў у складзе зборнай каманды Мінска. На першынстве БССР па веласіпеднаму спорту мінчанкам удалося ўстанавіць новы рэкорд рэспублікі, прайшоўшы 25-кіламетровую дыстанцыю за 39 мінут 45 секунд.

Усё больш рэальнай станавілася мара дзяўчат — дабіцца высокага звання майстра спорту. Часам толькі некалькі секунд аддзялялі іх ад запаветнай мэты. А як цяжка бывае «скінуць» гэтыя секунды!.. Колькі вялікай працы за гэтымі малымі лічбамі...

... Надоўга запомняць дзяўчаты цёплы вераснёўскі дзень 1958 года. Праходзілі рэспубліканскія спаборніцтвы каманд вытворчых калектываў фізкультуры. Памерацца сіламі выйшлі мацнейшыя спартсменкі Беларусі, сярод іх былі і Валя Славута, Люда Ліхалап, Зіна Скарабагатава. Ім трэба было прайсці 50 кіламетраў. Са старту адразу ўперад выйшла некалькі гоншчыц. Яны развілі высокую скорасць, усё больш і больш павялічваючы дыстанцыю паміж сабою і астатнімі ўдзельніцамі. Здавалася, кіламетрам не будзе і канца, але вось фініш. Сем удзельніц выканалі нарматыў майстра спорту! Сярод гэтых новых майстроў былі Зіна Скарабагатава і Люда Ліхалап.



**Л. Ліхалап, В. Славута і З. Скарабагатава на трэніроўцы.**



Першай павіншавала сяброўак з перамогай Валя Славута. Ёй, між іншым, на гэты раз не пашанцавала. Няўдача напаткала яе на старце. Аказалася, што ў яе дрэнна быў зацснуты туфлікс, і ў момант штуршку нага саскочыла з педалі. Пакуль бавілася з туфліксам, ішлі секунды, мінуты, і дагнаць лідэраў было ўжо немагчыма. Няўдача спачатку засмуціла дзяўчыну. Але сяброўкі супакоілі яе: «Ты яшчэ сябе, Валя, пакажаш!»

Пяты год працуе Валя ў арцелі, план заўсёды перавыконвае, выпускае прадукцыю толькі добрай якасці. Нездарма ж яе партрэт красуецца на Дошцы гонару! І вядома,— побач партрэт сяброўкі Зіны Скарабагатавай.

— Ну, а як справы з нормай майстра спорту?— пацікавіліся мы.

Усміхнуўшыся, Валя адказала:

— Летні сезон пакажа...

Няма сумнення, што дзяўчына даб'ецца свайго.

Новых поспехаў вам, сяброўкі, у працы і спорце!

**Н. ЕЎСЦІГНЕЕВА.**

## Дасягненне сусветнага класа



**Выступленне Арнольда Хальфіна на пабіццё рэкорду.**

Арнольд Хальфін і Чэнь Цзінькай...

Імёны гэтых штангістаў усё часцей і часцей паяўляюцца разам. Абодва яны, спартсмены лягчэйшай вагі, прымалі ўдзел у III сяброўскіх спартыўных гульнях у дні VI Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў у Маскве. Кітайскі сілач, якому належыць званне чэмпіёна і рэкардсмена свету, заняў тады ў сваёй катэгорыі першае месца. Хальфін адстаў ад яго на 2,5 кілаграма і вымушаны быў задаволіцца другім месцам. Хоць такі вынік і быў бясспрэчным поспехам беларускага атлета, у Хальфіна ён выклікаў гарачае жаданне зноў сустрэцца на спартыўнай арэне з чэмпіёнам свету.

У Маскве Арнольд пасябраваў з кітайскім спартсменам. З таго часу яны перапісваюцца, дзеляцца вопытам трэніровак, планамі на будучае.

Час, які прайшоў пасля маскоўскага фестывалю, быў насычаны трэніроўкамі, упартым удасканаленнем майстэрства. Генеральнай рэпетыцыяй перад новай маскоўскай сустрэчай быў для Хальфіна ўдзел у нядаўна праведзеным рэспубліканскім конкурсе маладых цяжкаатлетаў. Ён выступіў у гэтым спаборніцтве па-за конкурсам і дамогся бліскучых вынікаў, устанавіўшы чатыры новых рэкорды.

У жыме ён паказаў 105,5 кілаграма (на 1 кілаграм вышэй ранейшага рэкорду БССР і на 0,5 кілаграма вышэй усесаюзнага рэкорду ДСТ «Спартак»); у рыўку падняў 95 кілаграмаў і ў штуршку 125 кілаграмаў. Чацвёртым рэкордам атрымалася сума трохбор'я — 325 кілаграмаў. Гэта на 2,5 кілаграма вышэй выніку, які паказаў Чэнь Цзінь-кай у 1957 годзе ў Маскве. 325 кілаграмаў у трохбор'і — трэці вынік у Савецкім Саюзе, дасягненне сусветнага класа!

**В. БАРАНОЎСКІ.**

Фота аўтара.

## ЗМЕСТ



### Гары, камсамольскі аганёк!



### З блакнота падарожніка



### На атэістычныя тэмы



### Навука і тэхніка



### Да 150-годдзя з дня нараджэння М. В. Гогаля.



### Размова аб майстэрстве



### Крытыка і бібліяграфія



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак у дапамогу мастацкай самадзейнасці «А гармонік грае, грае...»**





**Рэспубліканская станцыя юных натуралістаў трымае сувязь з Батанічным садам Акадэміі навук БССР. Наведваючы навуковыя аранжарэі, школьнікі не толькі наглядаюць за работай даследчыкаў, але і дапамагаюць ім.** На здымку (злева направа): **работніца аранжарэі трапічных культур, завочніца БДУ Рыма Грыгор, вучаніца 49 школы, дыпламаваная ўдзельніца Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі Тамара Палякова і кіраўнік гуртка станцыі юннатаў камсамолка Наталля Рымзейка.**

Фота А. Дзітлава.